УДК 821.161. 3
ББК 84 (4 Беі)
П12

*Аўтар удзячны натхніцелям і дарадцам гэтага твора –
кандыдату сельскагаспадарчых навук Валерыю Паўлавічу Трыбісу,
участковаму інспектару міліцыі Аляксандру Іванавічу Пілінкевічу,
бібліятэкарцы вёскі Цеснавая Марыі Пятроўне Чуйко,
а таксама добразычлівым жыхарам вёскі Кляцішча Стаўбцоўскага раёна*

**Патапенка**, Віктар
П12 Загадкі пушчанскай патапечы: а*повесць, кароткія апавяданні, міні-п'еса для дарослых* /Віктар Патапенка. – Мінск., В.Хурсік, 2015. – 150с.
ISBN 978-985-7025-47-3

У аснове новай кнігі Віктара Патапенкі – аповесць "Загадкі пушчанскай патапечы". Гэты твор пра незвычайныя прыгоды жыхароў Стаўбцоўшчыны, якія жывуць у забалочаных мясцінах Налібоцкай пушчы, асэнсаванне імі часу і свайго месца ў ім, іх грамадзянская адказнасць перад мінулым і будучым. Кароткія апавяданні і міні-п'еса для дарослых "Гульня з маўклівай праўдай" напісаны з успамінаў падчас службы ў міліцыі.

**УДК 821.161. 3**
**ББК 84 (4 Беі)**



ISBN 978-985-7025-47-3



*Светлай*
*памяці паштальёна*
*Ройкі Вікенція Сцяпанавіча.*

# Частка I
# ЖЫЦЦЁ

–1 –

Зіма ў той год запазнілася. Яшчэ, здаецца, учора цёплы студзеньскі вецер калашмаціў на дварышчы хутара парыжэлае лісце бяроз, перагортваў з яміны ў яміну медны шыльнік сасонніка, гнаў усё, што было яму пад сілу, з ляснога ўзгорка ўніз, да вусця рэк Усы і Шуры, і раптам, праз ноч, двор змяніўся: хата, хлеў, склеп апрануліся ў бялюткую пушыстую вопратку. Снег не пераставаў ісці і раніцай, калі Марыя выглянула з-за фіранкі на брэх сабакі. Нікога не заўважыўшы, падумала пра звера ці птушку, якія часцяком былі на двары. Ім не ўкажаш, куды можна прыходзіць, а куды – нельга. Закон пушчы дае ім вольную волечку. Якіх толькі выпадкаў не было – шмат чаго давялося пераважыць Марыі за дваццаць пяць гадоў у лесе. Пушчанскія звяры не пужлівыя. Яны па-гаспадарску паводзяць сябе пры сустрэчы з чалавекам: пастаяць, прыгледзяцца і, толькі адчуўшы вядомую ім адным нябачную небяспеку, раптоўна знікаюць.

Сабачы брэх не сціхаў. Надта не хацелася вылазіць з-пад цёплай коўдры, але Марыя перасіліла сябе, сунула ногі ў валёнкі, адхінула паркалёвую фіранку на акне і спужалася: каля вугла хлява стаялі тры мужчыны. Сэрца неяк балюча варухнулася, трывожна запульсавала ў жылах кроў. Жанчына апранула ватоўку, накінула на галаву хустку, шчыльна абвязала яе вакол шыі і выйшла з хаты.

– Што, хлопцы, патрэбна? – крыкнула яна.

– Мы тут, цётка, на суседнім хутары... працуем... – адазваўся адзін з іх. – Паклікала б ты Пятровіча, а...

Марыя змоўчала. Прызнацца, што Юзіка няма, значыць, трэба зачыняць дзверы на засовы, рыхтаваць стрэльбу. Так было не ўпершыню. Дзякуй богу, што ніколі не даводзілася страляць. "Можа, і сёння абыдзецца, – падумала яна і перапытала ў незнаёмцаў: – Навошта ён вам?"

– Вінны мы яму... не хочам застацца ў даўгу... – пачуўся ўсё той жа глухавата-басавіты голас.

Двухсэнсоўнасць пачутага напужала жанчыну. Яна прыкрыкнула на Рыжыка, які рваўся з ланцуга. Падумала: сказаць незнаёмым, што Юзік дома, але яна не хоча, каб ён выходзіў да іх, – не скажаш, неяк па-дзіцячы атрымліваецца. Другое, што, маўляў, ён сам не хоча з імі мець ніякіх спраў, таксама нікуды не варта. Выходзіць адно – сказаць як ёсць на самай справе. Марыя ступіла некалькі крокаў па ганку, угледзелася ў постаці, каб запомніць вопратку ды іншыя прыкметы, зноўку крыкнула:

– Юзіка няма ў хаце... Ідзіце, хлопцы, з богам...

Як ні дзіўна, але незнаёмцы рушылі з двара. Марыя бачыла іх чорныя постаці на фоне заснежанага лесу, пакуль тыя не зніклі між дрэў. Жанчына скаланулася ад холаду. Увайшла ў хату, зазірнула ў спальню: унучка спала салодкім сном. "Добра, што не прачнулася, – падумала Марыя, – хай дзіцятка паспіць". Яна чыркнула запалкай, падпаліла ў печы дровы, пакладзеныя яшчэ звечара. Агонь павольна лізнуў бярозавыя плашкі, слізгануў сіне-белым полымем па сухой бяросце, умомант абхапіў складзеныя домікам цуркі. Марыя падсунула бліжэй да агню чыгуны з вадой, прысела каля стала. За гады адзінокага, можна сказаць, пушчанскага жыцця яна навучылася спраўляцца з гаспадаркай без асаблівых цяжкасцей. Калі жыла з мужыком, палёгкі ад гэтага ў хатніх справах не адчувала. Леснікcovы клопаты аднімалі другі раз і яе час. Колькі папрацавала яна разам з мужам, нарыхтоўваючы насенне алешыны і сасны.

Вязалі бярозавыя венікі, збіралі дзікі лубін, садзілі дрэвы. За дзень нацягаешся з каштурам так, што ні рук, ні ног не адчуваеш: тры рады бяроз, тры сасен... і гэтак доўгія прасекі. А дома – гаспадарка: тры парсюкі, карова, конь, куры і гусі, сабака з катом. Трэба было жыць, гадаваць дзяцей. Сёння ў іх свае сем'і: сын застаўся ў вёсцы, займаецца лесніковай справай, як некалі бацька, а дачка з'ехала ў Мінск.

Марыя зноў прыадчыніла дзверы ў спальню, глянула на ўнучку: "Вылітая дачка..." Пачуццё замілавання пранікла ў яе душу, напоўніла радаснымі слязьмі, і разам з тым адчула горыч. "Не даў бог дачакацца, каб глянуць на сваё роднае, блізкае", – разважала яна пра мужа, які рана пайшоў з жыцця.

На дварышчы пачуўся шоргат палазоў, працяжна заскуголіў сабака. Марыя зразумела, што прыехаў Юзік. Ён заўсёды так прыязджаў, знянацку, бо не пакідаў сваю гаспадарку ў Заменцы, чым мог дапамагаў ёй. Усё ж, што б ні гаварылі, але жыць адной жанчыне на хутары сярод лесу страшнавата. Пераязджаць да Юзіка не хацелася: ужо не тыя гады, калі можна было наладжваць сумеснае жыццё. Знайшлі згоду паміж сабой, таму ні ён, ні яна ніколі не закраналі гэту праблему. Яе проста не існавала. Юзік даглядаў скаціну – у хляве быў конь, карова, парсюк, пара курэй – і прыязджаў да яе. Тут, на хутары, рабілі асноўныя справы: апрацоўвалі агарод, нарыхтоўвалі сена для жывёлы, збіралі грыбы і ягады. Тут часам Юзік гнаў жытнёвую самагонку. Без яе іншым разам, як кажуць, ні туды і ні сюды: ногі хворыя заныюць так, што хоць ты ўтапіся ў рэчцы, але ж возьмеш крыху гаючага настою на шабельніку, натрэш балючае месца, глядзіш, раніцай хваробы як і не было. Колькі вунь бутэлечак настою стаіць у сенях: тут табе і палыновая, і са святаяннікам, і з дубовай карой – супраць усіх хвароб.

На парозе пачуліся крокі. Марыя выйшла з-за стала, адчыніла дзверы.

– Днём замыкаешся, – незадаволена падкалупнуў Юзік, заносячы з сабою ў хату марознае паветра, – гэта ж не ноч, баяцца няма каго.

– Раней не баялася, – адказала Марыя, – можа, з-за таго, што была маладзейшая, а зараз...

– А зараз што, састарэла? – Юзік па-маладзецку абхапіў гаспадыню, прытуліў да сябе.

– Не дуры, Юзік, – заўважыла Марыя, – дзіця спіць... разбудзіш...

– Самы здаровы сон – гэта раніцай, – не зважаў на яе заўвагі Юзік і прыпіраў да канапы. – Давай і мы з табой успомнім маладосць...

– Здурнеў мужык, блёкату наеўся, ці што... – Марыя ўпёрлася ў грудзі здаравеннага, пад два метры ростам, Юзіка, – знайшоў час бавіцца. Вунь нейкія незнаёмыя ходзяць за хлявом...

– Дзе незнаёмыя? – Юзік адпусціў гаспадыню.

– Раніцай былі. Пыталіся Пятровіча. Не ведаю, чаму цябе так называюць.

– Паважаюць, значыць, калі ведаюць, як мяне зваць па-бацьку. Але што яны хацелі?

– Быццам нечым табе абавязаны. Не хочуць застацца ў даўгу.

Юзік захваляваўся, захадзіў па хаце, уголас разважаючы:

– Мо гэна пятрылавіцкія мужыкі? Я ім некалі добрую справу зрабіў.

– Не ведаю, – Марыя перавязала хустку на галаве, адышла да печы. – Мужыкоў з Пятрылавіч я пазнала б. Не мясцовыя яны, гаворка іншая. Казалі, што быццам на хутары ў Пятрова працуюць.

– Падман гэта. У Казіка на хутары няма чаго рабіць. Там усё ў парадку, – Юзік не міргаючы глядзеў на гаспадыню, раздумваючы пра тое, хто і чаго хацеў ад яго. – Хутчэй за ўсё гэта ахвотнікі на свежыну.

– Хто яны? – хвалюючыся, запытала Марыя.

– Ты толькі не нервуйся, – супакоіў яе

Юзік, – пыталіся ў мяне некалі пра ўрочышча Бруднае балота, што за Рудняй Налібоцкай. Я толькі глянуў на іх машыну, здаровы такі МАЗ з кузавам пад тэнтам, адразу скумекаў, навошта ім гэтая мясціна. Яны, напэўна, скупляюць жывёлу без ліцэнзіі. Урочышча – добрае месца для свежавання. Не трэба табе ніякіх дазволаў чыноўнікаў, ніякіх памяшканняў. Вантробы выклаў пасярод лесу – і праз якую гадзіну звяры ачысцяць месца. Выйгрышна, разумееш?

– Што ж тут не разумець, – адказала гаспадыня, дастаючы з печы чыгун з вадой, – толькі вось на каго спісваць тады крадзеж жывёлы? Нячыста тут, як мне здаецца. Не хадзіў бы ты да іх, а?

– Хадзіў, не хадзіў... Заладзіла, – Юзік сцепануўся, падаўся да акна.

Абодва змоўклі. Кожны разумеў, што далейшая гаворка можа выліцца ў эмоцыі. Ці не лепш абдумаць, што ды як рабіць. Са спальні выйшла ўнучка. Выціраючы вочы рукавом кашулькі, дзяўчынка басанож патэпала па падлозе да печы, дзе стаяла Марыя.

– Ай, божачка ж ты маё, – гаспадыня падхапіла ўнучку на рукі, пасадзіла на калені. – Альжбетка мая, сонейка маё...

Дзяўчынка прыціхла пад бабулінай рукой, высунула галоўку, глянула на Юзіка, які сядзеў на лаве каля акна, потым на Марыю, запыталася:

– А ці страшнае гэта Бруднае балота?

– Не, дзіцятка, не страшнае, – адказала гаспадыня і панесла ўнучку ў ложак. – Вось прыедзе маці, дык мы тады сходзім да яго, каб ты не баялася. На ім шмат жабянят улетку, скачуць з купіны на купіну. Konікаў цэлая процьма, розных мошак ды камарыкаў. Можа, паспіш яшчэ, а?

Дзяўчынка ўсміхнулася і крутнула галавой.

– Тады апранайся, будзем гарбатку брусьнічную піць.

– 2 –

На ўчастку маёра міліцыі Аляксандра Кацярыніча, у вёсцы Зеневічы, здарылася бяда. Не прыйшоў дадому Вікенцій Ройка, паштальён. Апошні раз яго бачылі на дарозе паміж вёскамі Цеснавая і Пятрылавічы, якраз каля прытока Усы – Замянкі, з ранейшай назвай Тартак. Цясноўцы, якія ехалі на калгасным УАЗіку, заўважылі і легкавушку, што стаяла ўпоперак да рэчкі, але не надалі гэтаму значэння. Толькі калі пачалі шукаць Вікенція Ройку, яны ўспомнілі колер "Масквіча", а жанчына з Пятрылавіч прыгадала нават першыя лічбы дзяржаўнага нумара.

Нягледзячы на завіруху, з-за якой, як кажуць, свету белага не было відаць, бо на полі і па ўзлесках вецер раскручваў слупы снегу на вышыню трохпавярховага дома, пошукі зніклага паштальёна пачаліся жыхарамі вёскі Зеневічы. Жонка Вікенція, Юзэфа Міхайлаўна, з сынам Анатолем як толькі сказалі, што бацька не прыйшоў дадому, адразу адчулі ад суседзяў і аднавяскоўцаў не толькі спачуванне, але і канкрэтную дапамогу. Прапанавалі машыны, у каго яны былі, але ж куды на іх у той дзень можна было выехаць, і коней, запрэжаных у сані. Некалькі павозак з мясцовымі жыхарамі раз'ехаліся ў розныя бакі, каб высветліць, ці бачыў хто Вікенція Ройку.

Позна ўвечары атрымаў заяву аб знікненні паштальёна і ўчастковы інспектар. Кацярыніч дэталёва распытаў у жонкі зніклага пра здарэнне, папрасіў не хвалявацца, маўляў, у жыцці розныя выпадкі бываюць. Сказаў гэта дзеля таго, каб супакоіць жанчыну, сам жа, маючы вялікі вопыт работы ў міліцыі, ведаў, што праца паштальёна – адна з самых небяспечных. Таму адразу пачаў гартаць свой службовы сшытак, каб узгадаць тых, чые прозвішчы былі занатаваны ў графе асуджаных. Спецыялізацыя аднаго з іх, што некаторы час

жыў у вёсцы Пятрылавічы, а потым з’ехаў са Стаўбцоўшчыны на Валожыншчыну, надта ж лагічна падыходзіла да здарэння. Кацярыніч падняў усе службовыя запісы на раней асуджанага Мішку Канавала і адчуў, што, калі не ён здзейсніў злачынства, то, магчыма, стаў інфарматарам. Пра гэта інспектар і расказаў начальніку крымінальнага вышуку райаддзела Баляславу Туру ў наступную раніцу.

– Вось што, Аляксандр Іванавіч, – звярнуўся Тур да Кацярыніча, – пакуль я раскідаю іншыя аператыўныя справы, ты едзь дадому, а па дарозе забяры з Аколава вучонага, ён спецыялізуецца па балотазнаўстве. Ведаеш, што ад гэтага мястэчка аж да вашага Кляцішча цягнецца радовішча балотнай руды. У Аколава працуюць геолагі, а вучоны-балотазнавец хоча папрацаваць ва ўрочышчы Бруднае балота. Ты зразумеў?

– Чаму ж не...

– Маўчыш нешта, быццам гаючай вады ў рот набраў.

– Даўно ўжо, Баляслаў Аляксеевіч, не даводзілася выпіваць, – усміхнуўся Кацярыніч, – можа, сёння вечарам... а?

– Паглядзім, – неяк неакрэслена адказаў Тур і зняў тэлефонную трубку. – Сустрэнемся каля вёскі Заменка ў адзінаццаць гадзін, там, дзе стаяла легкавушка і апошні раз бачылі Ройку.

Кацярыніч зайшоў у сакрэтную часць, забраў стос заяў, у асноўным з дробнымі скаргамі суседзяў, пагутарыў крыху з дзяжурным і ўжо праз пятнаццаць хвілін быў у Аколаве. Ён ведаў пра радовішча балотнай руды на Стаўбцоўшчыне. Цікавасць да прыроды і ўсяго жывога, працавітасць і ўмельства ў яго былі ад дзеда, гераічнага, як лічыў Аляксандр Іванавіч, дзеда – Васіля Іванавіча Кацярыніча. Так здарылася, што ў Першую сусветную вайну дзед трапіў у нямецкі палон. Няўрымслівы і знаходлівы, Васіль Іванавіч збег ад аховы і ўжо амаль дайшоў да мяжы, як адчуў, што яго пакідаюць

сілы. На свой страх і рызыку папрасіў прытулак у замку графа. Гаспадар не кінуўся здаваць ваеннапалоннага ўладам, вылечыў Кацярыніча, прапанаваў працу ў сваіх уладаннях. Васіль Іванавіч, вядома, згадзіўся. Працаваў садоўнікам, займаўся пчалярствам, рабіў усё па гаспадарцы так адмыслова і дасканала, што нямецкі пан павялічыў жалаванне ўдвая, каб толькі ён не ехаў дадому. Але Кацярыніча чакала сям'я, і добра, што гэта разумеў і граф. Ён зрабіў быламу палоннаму пашпарт, даў шмат грошай і адправіў у дарогу з надзеяй, што той прыедзе з сям'ёй жыць на нямецкую зямлю.

Кацярыніч, вядома, не прыехаў. Затое тыя падыходы да працы і жыцця, якія давялося засвоіць на Нямеччыне, ён ажыццявіў на Піншчыне. Узяў у арэнду зямлю, пабудаваў два ветраныя млыны (дарэчы, будавалі сыны графа), павёў гаспадарку так, што хапала на жыццё сабе, родным, блізкім і сялянам. Але ж такая праца, такі падыход да сялянскай справы не ўхваляліся ўладай. У трыццаць дзявятым годзе яго з братам павезлі ў Сібір. Праўда, на станцыі чыноўнікі, якія крыху дбалі пра будучыню, параілі адказным работнікам пакінуць аднаго з Кацярынічаў на радзіме. Хто, калі не адзін з іх, можа працаваць на ветраным млыне. Нямецкая інжынерная канструкцыя патрабавала гаспадара, а не крыкуна. Такім чынам Васіль Іванавіч і застаўся дома, толькі працаваць усё астатняе жыццё яму давялося ўжо на калгасным млыне.

Аляксандр Кацярыніч часта ўспамінаў свайго дзеда, асабліва ў цяжкую хвіліну, і амаль заўсёды гэтыя ўспаміны дапамагалі яму справіцца са складанымі задачамі.

Зараз, едучы ў Аколава, прыгадаў Мішку Канавала. "Трэба даведацца, дзе ён, – падумаў Кацярыніч. – Пэўна, хто-небудзь з пятрылаўскіх знае ў якім месцы Валожыншчыны згубіўся".

Два вагончыкі за ваколіцай вёскі Кацярыніч

прыкмеціў адразу. Пакінуўшы машыну на дарозе, участковы ступіў на пратаптаную сцяжыну. У адным з вагончыкаў свяцілася лямпачка, і Кацярыніч пастукаў.

– Заходзьце, калі ласка, – насустрач Кацярынічу з-за стала выйшаў сярэдняга росту мужчына з чорнай барадой. – Нас ужо папярэдзілі, што вы прыедзеце. Будзем знаёмы, – барадаты працягнуў руку. – Галоўны геолаг Пятро Хоміч. А гэта, – ён кіўнуў у бок высокага, плячыстага мужчыны, апранутага ў кажух, – вучоны-балотазнавец Генадзь Рыгоравіч Дубавец.

Кацярыніч павітаўся з імі за руку, прысеў на лаўку.

– Зараз, таварыш маёр, – зноў звярнуўся геолаг да Кацярыніча. – Я толькі дам калегу інфармацыю пра радовішча. Дык вось, калі зыходзіць з папярэдніх даных разведкі, то Аколаўскае радовішча мае прыкладна сто пяцьдзясят мільёнаў тон жалезнай руды. Па складу яно падобна на руды Курскай магнітнай анамаліі, але адрозніваецца больш нізкім утрыманнем жалеза. Зараз на радовішчы аж да Кляцішча, куды вы паедзеце, вядуцца геолагаразведачныя работы і, як толькі нашы спецыялісты ўпэўняцца ў эфектыўнасці яго распрацоўкі, пачнецца дэталёвая разведка. Так што не хвалюйцеся: балотам, якія вы вывучаеце і, вядома, ахоўваеце, гэта не нашкодзіць і ніякай страты балотазнаўства як навука не панясе.

– Сёння за балоты я не хвалююся, – адказаў яму вучоны, – а заўтра, калі радовішча пачнуць распрацоўваць? Што тады? Чым будзе дыхаць Налібоцкая пушча?

Хоміч задумаўся. Падняў вочы на Дубаўца:

– У перспектыве, Генадзь Рыгоравіч, на радовішчы можна весці здабычу руды шахтавым спосабам. Будаўніцтва аднаго рудніка будзе каштаваць дзяржаве не менш як пяцьсот мільёнаў амерыканскіх долараў, паколькі апрача шахт неабходны драбільная фабрыка, цэх па

камякаванню руды і іншыя аб'екты перапрацоўкі руднага канцэнтрату. Так што і пра здабычу, і пра ахову балот у Налібоцкай пушчы будзе весціся размова, я лічу, ужо на дзяржаўным узроўні. Як вырашыць кіраўніцтва...

"...Вырашыць кіраўніцтва, – абураўся Дубавец, седзячы ў легкавушцы каля Кацярыніча. – Каб кіраўніцтва ўмела слухаць вучоных. Яны больш слухаюць тых, хто бачыць пад балотам залатую жылу. Дык яе, вядома, можна дастаць, прадаць і з'есці. А далей... Далей, як вядома, хоць трава не расці".

Кацярыніч разумеў і адчуваў боль вучонага. Яму таксама было горка таму, што асушылі балоты, калі выраўноўвалі рэчышча Усы ад Кляцішча і аж да хутара Шубіна. Гэта рабілася дзеля таго, каб здабыць капейку. З гісторыі вёскі ён ведаў, што ў другой палове дзевятнаццатага стагоддзя князі Вітгенштэйны, уласнасць якіх распаўсюджвалася на Кляцішча і Налібакі, мелі чыгуналіцейны і жалезаапрацоўчы заводы, і гадавы даход іх даходзіў да сарака чатырох тысяч сярэбраных рублёў. Менавіта для збыту прадукцыі і было выраўнавана рэчышча Усы аж да самага Нёмана, утварыліся Жоўтанёманскі і Шубінскі каналы, па якіх на плытах сплаўляліся жалезныя зліткі і вырабы.

Вынік гэтай працы Кацярыніч заўважыў, калі хадзіў па Усе на байдарцы. Светлая, празрыстая, як сляза, (можа падацца, што вада мае жоўтае адценне з-за пясчанага, жвірыстага дна), вірлівая рэчка якая бярэ свой разбег ад валожынскай вёскі Забалаць (мяжуе са стаўбцоўскай суседкай Судзевічы), за Кляцішчамі пераходзіць у такое мелкаводдзе, што на асобных участках патрабуе спецыяльных работ па ачыстцы. Таму, слухаючы вучонага і адразу распазнаўшы ў ім смелага і адчайнага абаронцу прыроды, Кацярыніч падтрымаў субяседніка, выказаў свой боль наконт Усы.

– Прыемна, што вы, прадстаўнік улады,

думаеце інакш, – прызнаўся вучоны, – але ж у розных інстанцыях мне даводзіцца даказваць, што хопіць карміць прыроду меліярацыйнымі эксперыментамі. Сям-там прыслухоўваюцца, а ў большасці – робяць, як уздумаецца. Асушаюць, у некаторых месцах робяць дрэнаж, капаюць адкрытыя каналы, якія адводзяць лішнюю ваду, атрымліваюць прастор для розных сельскагаспадарчых работ. Старшыні калгасаў пляскаюць у далоні. У іх ёсць магчымасць развярнуцца з тэхнікай, паказаць, на што здатныя. Каб жа ж так было... На самай справе зусім не так. Усюдыісныя мікраарганізмы паступова заваёўваюць новыя месцы: з'яўляюцца мікробныя слізі, жэлеўтвараючыя пробкі закрываюць поры, адбываецца ператварэнне закісных спалучэнняў металаў у вокісныя. І што атрымліваецца? Шматкі гідравокісі жалеза часта цалкам забіваюць дрэнажныя трубы. Бывае, што на працягу двух-трох гадоў дрэнаж цэлай сістэмы выходзіць са строю. Заўважце яшчэ, – хвалюючыся працягваў Дубавец: – звычайныя адкрытыя каналы таксама не вечныя. Яны засяляюцца воднай раслiннасцю. Рагоз, раска, аер, водарасці, калі прыжываюцца ў канале, утвараюць сваімі карэннямі, сцёбламі, лістотай густую сетку, якая затрымлівае рух вады, быццам імкнучыся ўзяць рэванш, утрымаць зніклае балота, нарадзіць яго зноў. Разумееце?

– Вядома, – згодна кіўнуў галавой Кацярыніч, – прыроду не падманеш... Яна сваё возьме.

– І я гэта імкнуся ўбіць чыноўніку ў галаву, а яму, як гарохам аб сценку. Вы ж чалавек іншага складу, – Дубавец лацвей усеўся на сядзенні, – цікава з вамі было б яшчэ сустрэцца.

– Сустрэнемся. Колькі дзён вы прабудзеце ў Кляцішчы?

– Два-тры. Мне трэба абследаваць урочышча Бруднае балота.

– А дзе спыніцеся?

– У лясніцтве.

– Зразумела, – сказаў Кацярыніч. – Калі не сёння вечарам, бо ў мяне на ўчастку знік паштальён, то заўтра я абавязкова да вас заеду.

Дубавец заціх. Адчувалася, што яму было хораша з Кацярынічам. Ён разумеў яго, спачуваў і падзяляў погляды на праблему дзейнасці чалавека ў прыродзе.

Маўчаў і Кацярыніч. Перад яго вачамі ўсплыла карцінка, як штогод каля Ніўнага, дзе цячэ Шура, стоячы па калена ў вадзе ў меліярацыйных каналах з віламі і косамі, мужчыны і жанчыны выграбалі, выкошвалі з гразкага грунту тоны гэтых раслін – вестуноў балот. Прырода, што ні кажы, бярэ сваё.

– 3 –

Памяшканне Кляцішчанскага лясніцтва рыхтавалі да прыезду вучонага. Натуральна, што ўсю работу па належным, як было даведзена начальствам раёна, прыёме павінен быў узяць на сябе ляснічы Казімір Падзёлка – малады, перспектыўны работнік. Але Казімір Іосіфавіч, як яго называлі ў вёсках, бо ад яго залежала многае, што тычылася лесу, дроў, тэхнікі, якая мелася ў лясніцтве, пераклаў увесь клопат па прыёму госця на жанчын з бухгалтэрыі. Трое жанчын увіхаліся каля стала, пастаўленага ў прыбудове, а сам Казімір Іосіфавіч, узяўшы ў рукі дакументы і карту лясніцтва, хадзіў вакол іх і вывучаў, як ім здавалася, маршрут, па якім трэба будзе правесці вучонага-балотазнаўца. На самай справе ляснічы кідаў позірк з адной кабеты на другую, разглядаў у дэталях кожную. Не па яго густу былі жанчыны пад сорак. Сядзячая праца ў бухгалтэрыі, абыякавасць да таго, каб трымаць сябе, як кажуць, у форме, разбэсціла іх: яны раздабрэлі, сталі падобнымі да сейфа, які стаяў у кутку кабінета ляснічага.

Падзёлку хацелася бачыць жанчыну, падобную на маладую бярозку: тоненькую, пруткую, да якой так і хочацца дакрануцца, адчуць яе

характар. Такіх маладзіц у вёсцы вельмі мала. Яшчэ ў першыя гады сямейнага жыцця, да нараджэння дзіцяці, жанчына трымаецца, свеціцца, а пасля, як кажуць, хоць трава не расці – аддаецца на волю часу, які, вядома, зацягвае ў гаспадарку ды цяжкую сялянскую працу. Выйсці з гэтага пекла прыгожай і стройнай удаецца адзінкам. І такой адзінкай на прыкмеце ў Падзёлкі была бібліятэкарка Арына Сянтоцкая, якую ў вёсцы празвалі Рыбанькай. Яна якраз адпавядала ідэалам ляснічага.

Агледзеўшы яшчэ раз сваіх падапечных з бухгалтэрыі, Падзёлка нечакана ўзрадаваўся. Не, ён не знайшоў нічога прываблівага ў бухгалтарках, яму захацелася бачыць тут Арыну Святоцкую. І падстава для гэтага ў яго ёсць. Галоўнае, разумна ўсё паднесці. Ён сеў за стол, застаўлены вяндлінай, рыбай, грыбамі, мёдам, трыма бутэлькамі пушчанскай самаробнай хлебнай гарэлкі, і сказаў, гледзячы ў столь:

– Добра, дзяўчаткі, зрабілі... прыгожа... нічога не скажаш. Але ж... Захочацца, напрыклад, нашаму вучонаму запытацца пра кветкі, якія растуць у пушчы. І хто з нас талкова скажа… Хто? – Падзёлка пільна ўглядаўся ў вочы жанчын.

– Я адразу скажу, – прызналася Анця Бандаровіч, – пра лічбы, ды яшчэ сёе-тое пра дрэвы я ведаю, што сказаць. А вось пра расліны – нічагусенькі.

– Я таксама мала разбіраюся ў кветках, – амаль што на адным дыханні выпаліла Стася Чыбук, – яшчэ на кветках хатніх ды тых, што растуць пад акном, знаюся. А пра лясныя – ні-ні.

Падзёлка глянуў на Ядвігу Вараксу. Тая ні слова не сказала, толькі крутнула галавой.

– Зразумела, – падвёў рысу пад размовай Падзёлка, – значыць, мы правалім гэтую справу, значыць, раённае начальства нас па галоўцы не пагладзіць. Вядома, будуць разбірацца, пойдуць

розныя непрыемныя размовы, парэжуць, як ні горка, прэмію.

Ляснічы зноў змерыў вокам жанчын, якія стаялі перад ім, хацеў страшыць далей, але яго намеры перапыніла Анця Бандаровіч.

– Казімір Іосіфавіч, я прыдумала... прыдумала... – закрычала яна і, схіліўшыся над сталом, выпаліла: – Давайце папросім нашу бібліятэкарку Арынку. Свянтоцкая ведае ўсе расліны, занесеныя ў Чырвоную кнігу. Разумееце, які будзе фурор!

Падзёлка, вядома, узрадаваўся прапанове, якую выказала Бандаровіч, але сваім выглядам гэтага не паказаў. Як ні парадаксальна, але ён не ведаў Бандаровіч, не ведаў Чыбук і Вараксу, хаця ўжо другі год, як працуе з імі ў лясніцтве. Можа, яны ўжо ўведалі ўсё, можа, ужо абгаворваюць, як ён часта забягае ў бібліятэку быццам па літаратуру. Жанчыны ў яго хітраватыя, не кажуць тое, што думаюць. Усё часцей прыветліва ўсміхаюцца ды ледзь не паклоны адбіваюць. “Каб не прагарэць тут...” – падумаў ляснічы. Схіліўшы галаву, сказаў:

– А што, можна паспрабаваць. Усё ж вучылася дзеўка ў тэхнікуме.

Анця Бандаровіч хітравата ўсміхнулася, пачала завязваць хустку на галаве.

– Я зараз яе паклічу, – сказала яна і выйшла за дзверы. Але ў тую ж хвіліну зноў паказалася на парозе: – Казімір Іосіфавіч, – устрывожана выкрыкнула, – госць на двары.

Ляснічы выскачыў з прыбудовы як ашалелы. Ад машыны разам з участковым ішоў незнаёмы з вялікім партфелем. “Вядома ж ён, хто ж можа быць яшчэ”, – падумаў Падзёлка і пабег насустрач. Хацеў папрасіць прабачэння, што не сустрэлі як належыць, але ўчастковы апярэдзіў:

– Прымай, Іосіфавіч, госця. Да нас з навуковымі турботамі сам Генадзь Рыгоравіч Дубавец, вучоны-балотазнавец.

Ляснічы ветліва ўсміхнуўся, з годнасцю

паціснуў працягнутую руку вучонага, запрасіў агледзець сядзібу лясніцтва. Жанчыны таксама ўсміхаліся вучонаму, а калі той падышоў да іх бліжэй і пацалаваў рукі абедзьвум, то ледзь не пусцілі слязу ад такой увагі. Яны не ведалі, што рабіць, таму шыбавалі ўслед за ляснічым і госцем, пакуль вучоны не спыніўся і не прапанаваў жанчынам ісці побач з імі. Падзёлка, сцяўшы губы, падаў ім знак, крутнуўшы галавой, каб не згаджаліся. Жанчыны свайго начальніка зразумелі. Яны падзякавалі вучонаму і зніклі за дзвярыма прыбудовы.

– Вось што значыць вучоны! – захоплена выказалася Стася Чыбук, – пацалаваў руку мне, вясковай жанчыне. Ды так пяшчотна, так ласкава... Шчаслівыя жонкі такіх мужоў, а, Ядвіга?

– Не кажы, – згодна заківала галавой Варакса. – Не тое, што нашы мужыкі. Ні ўвагі табе, ні пацалунка, слова добрага ніколі не пачуеш. А яшчэ хвасты задзіраюць, быццам нешта могуць зрабіць.

– Яны адно маглі раней. А зараз нават і гэтага не могуць. Прапілі мазгі, таму і хвасты адвіслі.

Напэўна, жанчыны працягвалі б свае прызнанні, ды ў прыбудову ўвайшлі Анця Бандаровіч з бібліятэкаркай.

– Ну што, як сустрэлі? – залапатала з парога Бандаровіч. – Расказвайце.

– А што расказваць, – задумліва адказала Стася, – адукаваны, выхаваны мужчына, якога так хочацца мець каля сябе... Лепш самой быць пры ім.

– Ты што, Стася, з глузду з’ехала? – накрычала на яе Ядвіга Варакса. – Такое глупства… Ён інтэлігентны чалавек – вось што яшчэ можна сказаць пра незнаёмага.

Анця скінула з плеч паліто, павяла бібліятэкарку да шафы.

– Распранайся, Арынка, – сказала, – будзь як дома.

Святоцкая моўчкі павесіла пуховую

куртачку, прычасалася каля люстэрка. Раптам заўважыла, як Варакса падавала нейкія знакі Чыбук. "Ужо, пэўна, дагаворваюцца, каб адвесці мяне ад вучонага, – падумала, – але ж перавагу ён аддасць мне. Мужчыны на такіх таўстух не звяртаюць увагі. Так што можаце шаптацца, паказваць адна адной розныя знакі, яны не падзейнічаюць на мяне. Каля маіх ног будуць абодва мужчыны: вучоны і ляснічы".

Падзёлка з Дубаўцом увайшлі ў прыбудову ў той час, калі жанчыны стаялі каля стала і аб нечым вялі гаворку.

– Ай, як шыкоўна ў вас, – прызнаўся Дубавец, – хоць ты заставайся тут жыць.

– А чаму б і не? – нібы запыталася, нібы сцвердзіла Стася Чыбук.

Госць не чакаў такой прапановы, таму здзівіўся і не знайшоў, што адказаць жанчыне. Дапамог Падзёлка. Ён падвёў Дубаўца да бібліятэкаркі, прадставіў яе: "Знаёмцеся, наша інтэлектуалка Арына Свянтоцкая. А гэта, – ляснічы падвёў госця да Анці, – высакакласны спецыяліст бухгалтар Ганна Бандаровіч". Вучоны павітаўся з жанчынамі, таксама пацалаваў ім рукі, пачаў горача прамаўляць:

– За ўсё жыццё я не сустракаў такіх простых і ў той жа час такіх шчырых і ўдзячных людзей, як на Стаўбцоўшчыне. Ці на Стаўпеччыне, не ведаю, як правільна. Дзень давялося пабыць з геолагамі ў Аколаве, а колькі сустрэч, колькі энергіі і цеплыні адчуў ад вяскоўцаў! – госць раскінуў рукі.

– Наш люд шляхетны, – адазваўся ляснічы і прапанаваў госцю сесці за стол. Той не згаджаўся, пакуль не селі жанчыны, затым уладкаваўся паміж Стасяй Чыбук і Ядвігай Вараксай.

Падзёлка сеў насупраць, паміж бібліятэкаркай і Анцяй Бандаровіч. Пакуль ляснічы разліваў гарэлку ў чаркі-стограмоўкі, усталявалася цішыня. Падзёлка сказаў тост, ухваліўшы справу, якой займаецца вучоны, прапанаваў выпіць.

Дубавец падзякаваў. Раней ён спрабаваў самагонку, і яна яму не спадабалася. Крыху скрывіўшыся, глытнуў, адчуў, што гэтая гарэлка не падобная на тую, што даводзілася піць на Віцебшчыне. Яна пахла хлебам. Глытнуў астатняе, выдыхнуў.

– Як наша хлебная? – пацікавіўся ляснічы. – Можна выпіваць?

– Я б сказаў, не тое што можна, а нават патрэбна, – быццам доктар, пацвердзіў вучоны. – Дадаць вось у гэты крышталь, – Дубавец трасянуў бутэльку з гарэлкай, – адну-дзве лекавыя кветкі – і атрымаеш такі настой, што на ўсё астатняе жыццё забудзеш пра таблеткі.

– Таблеткі – гэта наркотыкі, – дапоўніла вучонага бібліятэкарка. – Я чытала ў энцыклапедыі пра звычайны дзьмухавец, які расце ў нас на дварышчы і ў ваколіцы. Дык вось, адвар з каранёў выкарыстоўваюць пры захворваннях печані, жоўцекамянёвай і ырачнакамянёвай хваробах, скурных захворваннях. Настой з кветак п'юць пры рэўматызме, а калі адварыць кветкі, то гэта лепшы сродак ад бяссонніцы.

– Правільна заўважылі, – Дубавец пільна прыгледзеўся да бібліятэкаркі. – Вас, здаецца, Арынай завуць?

– Так, так, – падтакнуў ляснічы.

– Дык вось, свежае лісце гэтай расліны яшчэ ўжываюць у салатах. Асабліва вясной хочацца вітамінаў. Нарэжаш маладой крапівы, трыпутніку, лісце дзьмухаўцу, зальеш халоднай вадой, каб выйшла гарката, і смакуеш.

– Ці вось свідзіна, – вучоны глядзеў на Святоцкую, паказваючы, што і ён ведае лекавыя расліны, – калі заліць гарэлкай ды даць выстаяцца сорак дзён, то падтрымка вашаму сэрцу будзе забяспечана на працяглы час.

Дубавец гаварыў бы яшчэ доўга пра лекавыя расліны, але Падзёлка спыніў, даў слова бібліятэкарцы. Святоцкая свяцілася ад той пашаны, якую ёй выказаў ляснічы, прапанавала

выпіць за мужчын, якім можна даверыцца, з якімі не страшна апынуцца ў любых абставінах.

– Адчуваеце, – дадаў Падзёлка, звяртаючыся да вучонага, – якую адзнаку мы заслугоўваем! Таму мне хочацца дадаць да Арынінай прапановы: “За мужчын, з якімі і ў пушчу ісці не страшна”.

Усе засмяяліся, а Свянтоцкая крыху сумелася. Ляснічы гэта адчуў, седзячы плячо ў плячо, але не разабраўся з-за чаго. Таму адразу, як толькі выпілі па другой, зазначыў:

– Ведаеце, Генадзь Рыгоравіч, наша Арынка – гэта энцыклапедыст. На ўсю акругу, а можа, нават на ўвесь стаўпецкі куток не знойдзецца чалавека, які так добра ведае раслінны свет Налібоцкай пушчы. Асабліва на балотах...

Дубавец уважліва слухаў ляснічага, але думаў зусім іншае. Яму не спадабалася гэтая дзяўчына адразу, як толькі ўбачыў яе. У ёй было падабенства з яго жонкай: фанабэрыстая, ганарлівая, больш паказнога, чым натуральнага, маўляў, я нешта ведаю. Ён адчуў да яе ўнутраны халадок. “Хударлява-пляскатая, драўляная шчэпка, – разглядаў ён Арынку, – ні грудзей, ні таго месца, на чым сядзіць, – ну, поўная копія яго жонкі, а самахвальства – цераз край”.

Іншая справа – жанчыны побач. Ёсць што паказаць, ёсць за што патрымацца, аж дух займае. І гэта адчуваеш, калі толькі сядзіш каля іх. А калі б легчы?..

– Дык вось пра балоты, – Дубавец адчуў, як хораша і цёпла стала ўнутры. – Вы ведаеце, чаму за вашай вёскай, маю на ўвазе Кляцішчы, адно з урочышчаў называецца Бруднае балота?

– Таму што на гэтым месцы ў канцы васямнаццатага – пачатку дзевятнаццатага стагоддзяў выбралі касу жалезнай руды, – выказалася Свянтоцкая, – месца забалоцілася, і вада да цяперашняга часу рудога колеру.

– Малайчына, – вымушаны быў пры ўсіх пахваліць бібліятэкарку вучоны-балотазнавец.

– Увогуле, назвы балот на Беларусі вельмі цікавыя... Вось, напрыклад, адны назвы трывожныя: Страшны Мох, Чорны Вір, Заклятаўка, а другія – Ясная Горка, Ягаднае, Смятанка. Заўважаеце адрозненні?..

– Заўважаем, Генадзь Рыгоравіч, – адказаў ляснічы, – трэці тост прамаўляць вам.

Дубавец падняўся. Гаварыў коратка, але ёміста: пра любоў да прыроды, да зямлі, да родных, блізкіх і ўвогуле да людзей, пра любоў да жанчыны. Трэцяя чарка хлебнай дазволіла глянуць яму на некаторыя ўмоўнасці больш дэмакратычна, таму ён смела дакранаўся да рук Стасі і Ядвігі, жартаваў з імі, нават прыціскаў да сябе. Жанчыны не супраціўляліся, наадварот, гарнуліся да яго. Ну, а калі ляснічы сышоў некуды з бібліятэкаркай, то Дубавец увогуле стаў сваім для жанчын. Тыя тармасілі яго, бо кожная хацела, каб выслухаў менавіта яе, падпіхвалі ў плечы, ну а Стася Чыбук, калі заўважыла, што ён можа сп’янець, нават ушчыкнула. Дубавец зразумеў гэты знак па-свойму. Ён пацягнуў Стасю на другую палову прыбудовы. Чыбук не пярэчыла, нават калі вучоны прыціснуў да сябе, а калі пачаў танцаваць, то ўвогуле заплакала.

Хлебная гарэлка захмяліла, ускружыла, як завея, і яму галаву, растрывожыла душу. “Чаму мне не дасталася адна з такіх жанчын, чаму лёс кінуў на выпрабаванне худой як гліст і злой як гадзюка жанчыне? ” – пытаўся ён сам у сябе і не знаходзіў адказу. Пачуў, як Стася, шапнуўшы на вуха, прапанавала пайсці ў пакой, які выдзелілі яму для адпачынку. Дубавец не сказаў “не”.

Анця Бандаровіч і Ядвіга Варакса не заўважылі, як Стася павяла вучонага адпачываць, але, калі апошняя зноў вярнулася, уся чырвоная, зразумелі, што адбылося паміж ёй і вучоным.

– Жанкі, як хочаце мяне абзывайце, – прызналася Стася, – што хочаце кажыце, але такога я яшчэ не адчувала. Такая сіла, такая энергія

– не магу ачуняць, трасе ўсю... – Чыбук села за стол, адхінулася на спінку крэсла.

– Ну і што будзем рабіць далей? – устрывожана запыталася Варакса.

– А ты, Ядвіська, не пытайся, – адказала Стася, – лепш скажы, калі апошні раз адчула мужчынскую ласку?

– Не памятаю, – прызналася Ядвіга. – Мужык тыднямі робіць у лесе, а калі прыедзе на выхадныя, дык п’е не прасыхаючы.

– Ну і што? – Чыбук утаропілася ў калегу па працы.

– Што, што?

– Ідзі, не бойся, – Стася паказала на пакой, дзе быў вучоны, – ідзі туды, паспытай. Не думай, быццам гэта грэх, гэта наша бабскае шчасце. Яно мімалётнае... Вось я толькі што яго адчула... Яшчэ, можа, калі надарыцца, а можа, і не... Ідзі з богам...

Варакса хуткім крокам падышла да дзвярэй, затрымалася. Нешта спыняла яе. Ручка дзвярэй націскалася некалькі разоў, пакуль не пачулася: “Ат, колькі таго жыцця! Яго, і праўда, не было...”

Доўгія хвіліны чакання сталі для Анці Бандаровіч сапраўдным выпрабаваннем. Прызнацца, яна ўжо неаднойчы падумвала, асабліва ў час сваркі з мужам, здрадзіць яму ды наставіць такім чынам Вячаславу рогі. Добра ведала, што той пагульвае, не цураецца, як казалі ў вёсцы, ні сваіх, вясковых, ні чужых. Іншы раз было вельмі балюча слухаць брудныя гісторыі пра мужавы прыгоды, аднак прыняць канкрэтнае рашэнне – разысціся – не магла. Не хапала духу.

Анця глянула на Стасю, якая, закінуўшы галаву на спінку крэсла, нешта напявала, запыталася:

– А ў яго ёсць... ну... інтымныя штуковіны?..

– Ёсць у яго, Анечка, і штуковіны, ёсць і штуковіна...

– 4 –

Заснежаная дарога да Пятрылавіч ледзь праглядалася. Каб не высокія бярозы, якія аблюбавалі ўскрайкі пушчанскіх дарог, і не кучаравы прысадзісты ядловец, дык зарыентавацца, знайсці каляіну было б вельмі не проста. Але Кацярыніч, нягледзячы на цяжкасці, спяшаўся. Да сустрэчы з начальнікам крымінальнага вышуку Баляславам Турам заставалася паўгадзіны, а патрэба пабачыцца з Марыяй Іванаўнай Шуцька была пільнай. Напярэдадні тая папрасіла яго прыехаць на хутар. “Можа, яна што ведае пра паштальёна, – падумаў участковы, – а можа, іншая праблема”.

За нядоўгі час сваёй службы ўчастковым у Налібоцкай пушчы Кацярыніч пазнаёміўся з кожнай сям’ёй, з кожным дваром на ўчастку. Такі педантызм застаўся ў яго ад работы ў міліцыі ў раённым горадзе Рэзекнэ Латвійскай Рэспублікі. Латышы, як і немцы, акуратныя ў любой працы. Усё робяць талкова, не на адзін дзень.

Кацярыніч пакінуў машыну на пляцоўцы сядзібы Дзяржынава, а сам напрасткі пакрочыў на хутар. Снегу ў лесе было менш, чым на дарозе. Высачэзныя сосны затрымлівалі яго на сваіх верхавінах, таму крочыць па пушыстым шыльніку было лёгка і прыемна.

Хвілін праз пятнаццаць Кацярыніч перайшоў вусце Усы з Шурай па кладцы-мастку і апынуўся перад лясным узгоркам – хутарам, дзе жыла Марыя Іванаўна. Тут ён быў неаднойчы, бо праведаць жанчыну, якая жыла адна, калі не лічыць таго, што да яе сяды-тады прыязджаў Іосіф Галаўко з Заменкі, было неабходна не толькі з-за службовых абавязках, але і па сумленню.

Участковы грукнуў у дзверы, але ніхто не адазваўся. Ступіў у сені, зноў бразнуў клямкай. Стаяла цішыня. Тады Кацярыніч увайшоў у хату і, на велізарнае здзіўленне, убачыў

дзяўчынку. Малеча сядзела сярод раскіданых па падлозе цацак, цікавала сваімі вішнёвымі вочкамі.

– Я дзядзя Саша, – участковы прысеў, загаварыў з ёй. – А як завуць цябе?

– Альжбетка, – адказала дзяўчынка і ўзяла ляльку. – А гэта Наста... Ёсць у мяне і мядзведзь... Мішкай завуць...

– Добра, малеча, гуляй, – Кацярыніч устаў, выпрастаўся. – Мо скажаш, дзе твая бабуля?

Дзяўчынка паказала рукой на акно: “Там... з парсюком...”

Кацярыніч выйшаў на двор. Каля хлява заўважыў прымяты снег, запэцканы крывёю. Падобны малюнак застаўся ў памяці ўчасткавага з даўніх часоў. Тады ён сустрэўся сам-насам з забойцам. Малады высокі хлопец пасек сякерай маці і айчыма, авечку, сабаку. Каб затрымаць забойцу, узяць яго жывым, бо застрэліць не было ніякай цяжкасці, Кацярыніч пайшоў на хітрасць. Ён вывеў злачынцу ў двор. І толькі калі ў руках участковага апынулася падпорка з-пад яблыні, спрытна выбіў з рук забойцы сякеру. Скруціць нягодніка ўдалося за лічаныя хвіліны. У тыя гады ён, кандыдат у майстры спорту па вольнай барацьбе, не баяўся ніякіх хуліганаў, спадзяваўся на сваю вывучку і лоўкасць.

Заўважыўшы за хлявом дымок, здагадаўся: Марыя Іванаўна распраўлялася з жывёлінай.

Парсюка дасмальваў Іосіф Галаўко. Гаспадыня стаяла побач, трымаючы ў руках вядро з гарачай вадой. Галаўко выцер рукі аб штаніну, павітаўшыся, жартаўліва сказаў:

– Участковы ведае, калі трэба прыходзіць да грамадзян... І, вядома ж, па справе...

– Твая праўда, Пятровіч, – адказаў Кацярыніч, – нюх, дзякуй богу, ёсць. Сам бачыш.

– Бачу... і ведаю... Людзі расказваюць.

– І што ты цікавае пачуў ад іх?

– Усялякае, – Галаўко выцягнуў цыгарэты з кішэні, прапанаваў Кацярынічу.

– Не слухайце вы яго, Аляксандр Іванавіч, – умяшалася ў размову Марыя, – гаворыць Юзік абы-што.

– Няпраўда, – выкрыкнуў Галаўко, гледзячы на гаспадыню, – я ведаю, што гавару... Так, ці не, таварыш маёр? – Іосіф чакаў пацвярджэння сваіх слоў, бо аднойчы дапамог участковаму раскрыць злачынства.

– Так, так, – згадзіўся Кацярыніч толькі дзеля таго, каб не пачалася сварка. Але ў паводзінах Іосіфа адчуў, што той хоча паказаць яму сваю значнасць перад Марыяй. – Чаму тэлефанавалі мне, Марыя Іванаўна? Што здарылася?

– Не было чаго бабе рабіць, – буркнуў Галаўко і прыкурыў.

Марыя прамаўчала. Доўгім позіркам глядзела на Іосіфа, пакуль той не зацягнуўся цыгарэтай, потым сказала:

– Учора ранкам былі тут у мяне няпрошаныя госці. Трое. Стаялі за вуглом. Вунь яшчэ сляды ад ботаў засталіся. Не ведаю, хто яны, чаго хацелі... Але пыталіся пра яго... – Марыя паказала рукой на Іосіфа.

– І што ім трэба было? – запытаўся Кацярыніч у Галаўко.

– Ат, – махнуў рукой Іосіф, – выдумала жанчына праблему на пустым месцы.

– Не згодзен я з табой, Пятровіч, – прызнаўся Кацярыніч, – Марыя Іванаўна правільна зрабіла, што сказала мне пра гэты выпадак. Вы ведаеце, што ўчора знік Вікенцій Ройка, ваш паштальён?

– Не, – затрос галавой Іосіф.

– Не прыйшоў дадому? – перапытала Марыя.

– Няма... шукаем...

– Дык, можа, гэтыя... што былі тут на хутары?

– Не выдумляй абы-чаго, – выкрыкнуў Галаўко. – Гэта былі хлопцы з Івянца, – Іосіф падышоў бліжэй да Кацярыніча, прысеў каля яго і, узяўшы ў руку бярозавую галінку, пачаў маляваць кругі на снезе. – За Кляцішчам, калі

прайсці Рудню Налібоцкую, крыху воддаль пачынаецца ўрочышча Бруднае балота. Пад'ездаў туды амаль няма, але калі крыху збочыць ды ўзяць бліжэй да суседняга ўрочышча Лысыя горы, то ад яго ёсць сцяжына... і не благая... Вось хлопцы і пыталіся некалі ў мяне пра яе. У іх МАЗ, – Галаўко не міргаючы глядзеў на ўчастковага, – таму здагадайся, навошта ім глухое месца.

– Што тут здагадвацца, – прызнаўся Кацярыніч, – па ўсім раёне скупляецца жывёла. Улады ніяк не могуць наладзіць гэтую справу, таму камерсанты і асобныя групы без дазволу на прадпрымальніцкую дзейнасць актыўна забіраюць у людзей жывёлу.

Кацярыніч глянуў на гадзіннік, заспяшаўся. Паціснуў руку Іосіфу, падзякаваў Марыі, папрасіў:

– Калі што заўважыце падазронае – тэлефануйце.

Участковы подбегам кінуўся з двара. Час, у які ён павінен быў сустрэцца з Турам, мінуў. "Пяць-дзесяць хвілін пачакае, яны не вырашаюць праблемы, – думаў, – а тое, што пачуў ад Іосіфа, вельмі важна". Ён ужо неаднаразова намерваўся пабываць ва ўрочышчы Бруднае балота, але адкладаў гэты паход, іншыя, больш важныя справы адбіралі час.

Да рэчкі Замянкі, якая пераразае дарогу Цеснавая – Пятрылавічы, Кацярыніч пад'ехаў у тую хвіліну, калі службовы УАЗ Тура яшчэ толькі каціўся з горкі. Участковы падышоў да машыны, як толькі тая спынілася, жартаўліва заўважыў:

– Няхораша спазняцца, таварыш падпалкоўнік... Не годна афіцэра...

– Я прызнаюся, што непрыгожа, – адказаў Тур, – таму з мяне здымаецца грэх. Але ж і табе непрыгожа падманваць начальніка. Я ўжо другі раз прыязджаю сюды. Не дачакаешся цябе аніяк.

Кацярыніч кіславата ўсміхнуўся і ўжо на поўным сур’ёзе папрасіў прабачэння:

– У Марыі на хутары быў.

– Бачу, – згадзіўся Тур, – вунь калашыны ўсе ў снезе. Страсяні наледзь, а то ногі будуць мокрыя.

Кацярыніч прысеў, пачаў рукой збіваць снег, падумаў: “Яшчэ адзін-два такія няўдалыя жарты, і я магу згубіць давер і сяброўства. Трэба больш сур’ёзна, служба ўсё-такі”.

Тур падышоў да вузенькага ручва рэчкі, дзелавіта сказаў:

– Я ўжо агледзеў месца, дзе нібы стаяла машына. Бачыш, тут пасля снегападу ніякага следу не бачна. Толькі вось калі далонню дакранешся, то адчуваеш, што прыбітая каляіна быццам ёсць.

– Але ж след пратэктараў немагчыма разгледзець.

– У тым якраз і справа, – зазначыў падпалкоўнік міліцыі. – Можа, праедзем у Пятрылавічы... Мо там хто бачыў гэтую машыну.

Пятрылаўцы ўжо ведалі пра знікненне паштальёна, таму, як толькі УАЗ спыніўся на скрыжаванні дарог Цеснавая – Пятрылавічы – Камень, людзі прыйшлі расказаць не толькі тое, што бачылі, але і што гаварылі іншыя. Адна з жанчын нават успомніла тры лічбы нумара на “Масквічы”, што сустрэўся ёй на дарозе, якраз перад Вадзічанькай, прытокам Усы.

Работнікі міліцыі засталіся ўдзячныя пятрылаўцам і ўжо праз нейкія пяць-дзесяць хвілін пад’язджалі да таго месца, пра якое расказвала жанчына. Перад рэчкай, ручво якой ляжала ў лясной нізіне, Тур прытармазіў. Выцягнуў з-пад сядзення бінокль, глянуў праз лабавое шкло.

– Там машына, – сказаў, – на ўзгорку злева, якраз за рэчкай. Паглядзі ты.

Кацярыніч прыгледзеўся. У сасонніку стаяў, як кажуць, “бусік” – мікрааўтобус. Спачатку

ўчастковаму падалося, а потым, калі больш пільна прыгледзеўся, упэўніўся, што машына чамусьці гойдалася на месцы.

– Там нешта адбываецца, – сказаў ён Туру, – машына, быццам на арэлях, калыхаецца.

– Не выдумляй, – адказаў Тур і паехаў наперад, да рэчкі.

Каля самай трубы, праз якую цякла вада, яны спыніліся, заглушылі рухавік. Хоць снегу і намяло за ноч, але адметная мясціна, некім утаптаная, засталася пад свежым покрывам.

– Тое самае, што і каля Замянкі, – сказаў Тур. – Усё сапсаваў снег.

– Можа, злазіць у трубу? – запытаўся Кацярыніч.

– Яшчэ чаго... Было б бачна, калі што... – Яны абодва падышлі да машыны і ўжо простым вокам, без бінокля, глянулі туды, дзе стаяў мікрааўтобус. Ён па-ранейшаму гойдаўся.

– Што ж там такое? – зацікавіўся Тур і першым рушыў наперад. За ім крыху на адлегласці, як і належыць у такіх абставінах, ішоў Кацярыніч. Чым бліжэй ён падыходзіў да мікрааўтобуса, тым больш усё, што адбывалася, пераставала для яго быць загадкай. Кацярыніч пазнаў машыну лясніцтва, зразумеў, чаму яна раскалыхваецца. Аператыўнікі былі ўжо ля машыны, як яна перастала рыпець і калыхацца. Пачуліся незразумелыя гукі, потым размова. Зазірнуць унутр не было магчымасці – мала таго, што вокны шчыльна запяты фіранкамі, дык яны яшчэ і зацемненыя. Ды і, напэўна, няёмка было б глядзець у вочы адно аднаму: як тым, хто ў машыне, так і тым, хто каля яе. Але Тур, адчуваючы сябе пры выкананні абавязкаў, усё ж пастукаў у дзверы. Галасы ў машыне раптоўна сціхлі. Потым падняўся такі пярэпалах, што аператыўнікам стала не па сабе. Яшчэ праз хвіліну-другую на месца за рулём бухнуўся мужчына. Кацярыніч разгледзеў у ім ляснічага Падзёлку. Той таксама, хоць і быў у стане

перажывання найвышэйшай ступені страху, пазнаў участковага, адкрыў дзверы машыны, прамямліў:

– Аляксандр Іванавіч... гэта вы?..

– Вядома, – коратка, але спакойна адказаў Кацярыніч. Потым дадаў: – Не хвалюйцеся, усё ў парадку. Выходзьце з машыны.

– Зараз... хвіліну... – адказаў Падзёлка і скокнуў на зямлю.

Выгляд у яго быў несамавіты: валасы стаялі тарчма, нібы стрэлы, світар быў апрануты навыварат, а ногі без шкарпэтак свяціліся ў расшнураваных ботах.

Было бачна, што Тур не хацеў даваць час Падзёлку ачуцца ад сполаху, адчуць, што нічога страшнага ён не зрабіў. “Ну, быў з жанчынай у блізкіх адносінах, – мог сказаць Падзёлка, – ну і што? Якая да гэтага справа міліцыі? Гэта не злачынства”. Але ляснічага турбавала другое: заспелі яго з жанчынай, а не з жонкай, якая яшчэ і не здагадваецца пра яго геройства, да таго ж ён быў п’яным. Тур гэта ўжо заўважыў. Запатрабаваў дакументы, пасля дадаў:

– Перш чым лезці ў машыну, зашпіліце гузікі ў штанах.

Падзёлка корпаючыся ў прарэху, стаў прасіцца ў Тура:

– Я ж ляснічы... Во, Аляксандр Іванавіч ведае...

– Парадку трэба прытрымлівацца, – настойліва дадаў Тур.

– Аляксандр Іванавіч... Аляксандр Іванавіч, – бы за саломінку чапляўся Падзёлка, шукаючы паратунак у Кацярыніча.

– Не хвалюйцеся, Казімір Іосіфавіч, – пачаў гаварыць участковы, – тут учора здарэнне адбылося, паштальён знік, таму начальнік крымінальнага вышуку Баляслаў Аляксеевіч Тур хоча ўпэўніцца, што вы да гэтага магчымага злачынства не маеце ніякіх адносін.

– Не, не… ніякага... – залапатаў той, – нікога не бачылі... ні ўчора, ні сёння...

– А што, вы і ўчора былі тут? – перапытаў Тур.

– Не, не... мы толькі зараз... нядаўна...

Кацярыніч не вытрымаў, усміхнуўся, але тут жа ўзяў сябе ў рукі, пасур'ёзнеў. Падзёлка поркаўся ў адсеку машыны, дзе ляжалі розныя рэчы, ніяк не мог знайсці дакументы. Тур стаяў побач, цікаваў з-за яго пляча, хто ж там у салоне. Нарэшце дакументы знайшліся, і Тур, перш чым пазнаёміцца з імі, папрасіў вывесці з салона таго, хто хаваецца на заднім сядзенні.

– А можа, не трэба, – пачаў упрошваць ляснічы. – Ёй няёмка.

– Парадак, Казімір Іосіфавіч, перш за ўсё. Разумееце?..

– Так, так... – адказаў ляснічы і палез у салон машыны.

Кацярыніч здагадваўся, што тая шэрая мышка, якая хавалася ў салоне машыны, больш за ўсё баялася паказацца яму на вочы. Адна справа, калі здагадваешся, а другая – калі бачыш сваімі вачыма. Падзёлка ўжо засвяціўся, як кажуць, спёкся. Ён, вядома, будзе прасіць участковага, каб маўчаў, будзе прапаноўваць палёгку з будаўнічай драўнінай, каб толькі навіна не разляцелася па вёсцы, не дайшла да жонкі. Інакш – сям'я разваліцца, на працы праблемы пачнуцца.

Кацярыніч адышоў ад машыны, закурыў. Тур некаторы час аб нечым гаварыў з ляснічым, высвятляў, пакуль з салона не выйшла яна. Гэта была Свянтоцкая. Накінуўшы капюшон пуховай куртачкі на галаву і схаваўшы рукі ў кішэні, яна, нібы школьніца, стаяла перад Турам і нешта гаварыла, апраўдвалася. Ёй таксама было чаго баяцца, таксама выпіўшая, з чужым мужам сярод лесу ды сярод рабочага дня. Толькі падай гэтыя даныя ў раённыя інстанцыі, і ніхто з імі не будзе размаўляць, выслухоўваць прычыны.

Хаця па-чалавечы, то чаму б Свянтоцкай і не адчуць таго жаночага, хаця і ўкрадзенага, але ж шчасця. Сёння яно было нядоўгае, а заўтра ўвогуле можа не быць.

Парадокс жыцця. Здавалася б, у Падзёлкі ўсё ёсць для таго, каб жыць прыпяваючы: дом, сям'я, дачка. Ды жанатага Падзёлку пацягнула да незамужняй, ганарлівай, кукішам носа не дастанеш, Арыны Свянтоцкай. Чагосьці не хапае жонцы, што не пабаяўся шукаць і ўжо знайшоў у Свянтоцкай. З ёй добра нават у зімовым лесе на пятнаццаціградусным марозе. Каб не цягнуліся адно да аднаго, наўрад ці прыехалі б сюды. Нейкае ж пачуццё іх магніціць, вяжа ў вузельчык.

Кацярыніч дакурыў цыгарэту, кінуў яе ў снег, прытаптаў падэшвай акурак. Падышоў бліжэй да машыны, глянуў на Свянтоцкую. Схіліўшы галаву, яна, апранутая ў белую куртачку, альбо ад холаду, альбо ад перажытага страху пераступала з нагі на нагу, раўнамерна трамбуючы снег чырвонымі блішчастымі боцікамі.

Баляслаў Тур, як і здагадваўся Кацярыніч, не афармляў ніякіх пратаколаў, падвёў размову да той высновы, што ўсё, што здараецца з чалавекам, гэта быццам да лепшага, маўляў, чалавек заўсёды робіць тое, чаго яму хочацца. Падзёлка кіславата ўсміхнуўся, пачаў дзякаваць Туру, але той спыніў яго, сказаў Кацярынічу:

– Аляксандр Іванавіч, вы сядзьце за руль мікрааўтобуса, бо Казімір Іосіфавіч у нецвярозым стане, а ў Пятрылавічах вырашыце, якую машыну пакінуць у вёсцы, а на якой ехаць дахаты. Я ж па прамой у Стоўбцы.

Кацярыніч строга па статуту ўскінуў руку да галавы, заспяшаўся выконваць загад, але Тур узяў яго за локаць, адвёў ад машыны, сцішаным голасам сказаў:

– Пастарайся, каб пра гэты выпадак ніхто з вяскоўцаў не ўведаў. Я гэтага ляснічага вазьму на асобы ўлік.

– Пытанняў няма, – сцепануў плячыма Кацярыніч і пацiснуў працягнутую руку. – У райаддзел я заўтра не прыеду, буду працаваць па пошуку паштальёна і заявах грамадзян.

Тур кіўнуў галавой і пайшоў да службовага УАЗіка, а Кацярыніч апусціўся ў крэсла белага мікрааўтобуса. Да Пятрылавіч ехалі моўчкі. Калі ўбачылі пакінутыя Кацярынічам каля Дзяржынава “Жыгулі”, Падзёлка папрасіў ехаць у Кляцішча на мікрааўтобусе. Участковы пагадзіўся, хаця яму гэта было не на руку.

– 5 –

Пушча гудзела. Верхавіны высокіх сосен над дахамі кляцішчанскіх хат раскалыхваліся пад парывамі ўзбунтаванага ветру, размолвалі снег у драбнюткую пудру і вухкалі ў паднябессі.

Віктар Чыбук, высокі, мажны мужчына, апрануты ў спяцоўку, выйшаў з майстэрні леспрамгаса, закурыў. Тут, пад страхой будыніны, заўсёды збіраліся лесарубы, каб перакінуцца словам-другім, адсюль яны ад’язджалі ў лес амаль на цэлыя тыдні.

У прачыненых варотцах механізаванага двара паказаліся прысадзістыя фігуры мужчын. Гэта былі Вячаслаў Бандаровіч і Аляксей Варакса. Яны парукаліся з Чыбуком, кінулі пад сцяну заплечнікі з харчам і цёплымі рэчамі, запстрыкалі запальнічкамі.

Бандаровіч выпусціўшы з грудзей клуб дыму, сказаў:

– Анця мая сёння выхвалялася, быццам з намі ў пушчу паедзе нейкі вучоны, спецыяліст па балотах. Праўда гэта?

– Не ведаю, – адказаў Чыбук, – учора доўгі час важдаўся з электрасхемай, ніяк не мог давесці яе да ладу, дык лёг спаць пад раніцу.

– А я два дні душу чорту аддаваў, – прызнаўся Варакса, – як заліў пазаўчора ў страўнік хлебнай, дык толькі вось сёння раніцай стрымаўся. Пабаяўся бензапілы. З ёй, праклятай, патрэбна

працаваць. А то кульнуў бы стограмоўку і сёння, бо галава трашчыць.

Размова заціхла. Кожны думаў пра сваё, пакуль Бандаровіч зноў не запытаўся:

– Дык мы чакаем, як я зразумеў, Акурка і вучонага?

– Вунь ён, Лявон, – Варакса рукой паказаў на дарогу, – зноў да сваёй Фёдараўны тэлевізар на санках прэ.

Мужчыны заўсміхаліся, бо ведалі вандроўнае жыццё Лявона Вадамцэвіча па мянушцы Акурак, трактарыста-тралёўшчыка. У першыя дні зарплаты ён бавіўся з незамужняй Верай Ямелька. Жыла яна за кошт дробнай гаспадаркі і продажу самаробнай гарэлкі. Перабівалася, як кажуць, з хлеба на квас: былі грошы – балявала, заставалася капейка – садзілася на галодны паёк. Таму і Вадамцэвіча трымала каля сябе, пакуль той не патраціць сваю заработную плату, а як толькі сродкі вычэрпваліся, праганяла яго да маці.

Неўзабаве да мехдвара падбег Вадамцэвіч. Змахнуў з доўгіх мулявінскіх вусоў снегавую пудру, папрасіў прабачэння, што затрымаўся:

– Ад Фёдараўны ледзь адарваўся, не адпускала ад сябе. Прыліпла як сасновая смала, усё шчабятала ды шчабятала на вуха, каб заставаўся, не ехаў у пушчу. Знудзілася жанчына...

Мужчыны заўсміхаліся. Вячаслаў Бандаровіч кінуў цыгарэту ў снег, цвыркнуў слінай, запытаўся ў Вадамцэвіча:

– Лявон, ты сапраўды лічыш, што яна засумавала па табе?

– А што тут такога, – адказаў Вадамцэвіч, – яна ж жанчына, тонкая натура.

– А ты не здагадваешся, што гэтая тонкая натура можа і з другім мужыком гульнуць.

– Не, не. Такога не можа быць, – за Вадамцэвіча заступіўся Аляксей Варакса. – Вунь глянь якую торбу – паболей, чым нашы – Фёдараўна нагрузіла яму ў дарогу.

– Дык і я кажу, – згадзіўся з Вараксай Лявон Вадамцэвіч, – мая Фёдараўна разбіраецца, каму даваць.

Мужыкі зарагаталі, адзін Бандаровіч настойліва імкнуўся даказаць, што ён таксама ведае Веру Ямелька.

– Нядаўна, мо тыдзень таму, – пачаў расказваць Бандаровіч, – прыходзіць да нас твая Верачка і просіць мяне пры жонцы, бо яна вельмі раўнівая, каб я пачысціў комін у печы. А каб мая Анця не падумала чаго дрэннага, запрасіла да сябе і яе, маўляў, прыйдзі, пагаворым, адвядзём душу. Мая жонка згадзілася, і ўжо праз нейкія пятнаццаць-дваццаць хвілін я сядзеў на даху і ганяў прывязаную да жэрдкі елку па чорнай сажы коміна. Злез я з даха, увесь брудны, пытаюся ў жонкі, якая ўвіхалася каля газавай пліты, дзе памыць рукі, твар. Кажа: у хаце каля печы стаіць вядро з гарачай вадой. Заходжу ў хату, а каля прыпечка шчыруе Фёдараўна, – Бандаровіч скіраваў позірк на Лявона Вадамцэвіча. – Гляджу, палова Веркі ў печы, выграбае попел у збанок, а другая палова, здагадваецеся якая, перада мной. Ну, думаю, было не было, знарок і дакрануўся да гэтай паловы. На маё здзіўленне, ніякай адмоўнай рэакцыі. Я тут і разышоўся: нагой у вядро грукнуў разы са два, каб Анця чула, што я сажу змываю, а сам давай сваю справу рабіць. Прызнаюся, хлопцы, было страшна, але страх перабіваўся пачуццём, што я сваю Анцю так лёгка падманваю. Яна ж мне праходу не дае.

– А далей што было? – запытаўся Аляксей Варакса.

– Далей, – Бандаровіч зноў змерыў вокам Вадамцэвіча, – далей мая Анця ўсё сапсавала. Паклікала Верку ў сенцы. Мне нічога не заставалася, як упарадкаваць Фёдараўне спадніцу, бо ў яе рукі былі ў сажы, а самому збегчы на другую палову хаты.

– Ну ты і брахун, – выказаўся Аляксей Варакса, – напэўна, і свет не бачыў такога.

– І я лічу, што ты хлус, – павесялеў крыху заклапочаны Лявон Вадамцэвіч. – Я ведаю Фёдараўну. На такое яна не здольная.

– Не здольная, кажаш, – не здаваўся Бандаровіч, – тады раскажу другі выпадак. Праўда, вунь ляснічы, напэўна, вучонага да нас вязе.

На мехдвор сапраўды ўехаў белы мікрааўтобус. З яго выйшаў Падзёлка і высокі, дзябёлы, як дуб, мужчына, апрануты ў кажух.

– Знаёмцеся, хлопцы, – павітаўшыся з усімі, сказаў Падзёлка, – вучоны-балотазнавец Генадзь Рыгоравіч Дубавец. Ён даедзе з вамі да ўрочышча Бруднае балота, туды машына з геолагамі пад'едзе. Так што, калі ласка, Генадзь Рыгоравіч, – ён павярнуўся да Дубаўца, – прывыкайце да нашага асяроддзя, можа, спадабаецца, дык яшчэ прыедзеце. Будзем рады...

Дубавец моцна пацiснуў руку Падзёлку, абхапіў таго за плечы, крыху патрос:

– Яшчэ раз прызнаюся: незвычайныя вы, стаўпецкія... Так і праглядаецца сярод вас даўно забытая людзьмі шляхетнасць. Дзякуй вам.

Ляснічы сеў у машыну, ліха крутануў яе на пятачку перад майстэрняй. Хлопцы таксама пачалі збірацца. Маўклівы Віктар Чыбук, які курыў разам з усімі перад майстэрняй, не чуў гісторый Бандаровіча, ён амаль увесь час думаў пра электрасхему пыласоса. Не падабаўся яму "Буран", не адпавядаў ён сваёй назве, наспела патрэба палепшыць яго якасці. Віктар сцепануў плячыма, бы адганяючы ад сябе холад, і пакрочыў у майстэрню да свайго такарнага станка.

Аляксей Варакса сеў у кабіну трактара да Лявона Вадамцэвіча, а Генадзя Дубаўца запрасіў да сябе ў лесавоз Вячаслаў Бандаровіч. Пасля таго, як трактар з прычапным самаробным вагонам-цяплушкай выехаў з механічнага

двара леспрамгаса, Бандаровіч націснуў педаль газу свайго ваеннага “Урала” і гучным голасам, каб перабіць грукат рухавіка, звярнуўся да вучонага:

– Кажаце, што вам спадабалася ў нас... А мы вось звыклыя... Здаецца, нічога такога адметнага няма.

– Тут усё адметнае, – Дубавец нахіліўся да шафёра, пачаў гаварыць і дыхаць перагарам каля самага вуха, – адметная зямля, адметная прырода, адметныя людзі...

Бандаровіч не выпадкова запрасіў да сябе ў кабіну вучонага, знарок пачаў гаворку пра людзей тутэйшых. Ён упершыню за сваё жыццё адчуў трывогу ў душы. І, здавалася б, нічога такога незвычайнага не адбылося: Анця яго вельмі ж прыхільна ставілася да гэтага вучонага. Учора ён цэлы дзень вывучаў у лясніцтве засушаныя расліны з тутэйшых балот і толькі вечарам дазволіў сабе крыху пасядзець за сталом з кіраўнікамі лясніцтва. Анця сказала, што і яна была запрошана на сустрэчу, але Вячаслаў не паверыў ёй. “Яшчэ Стасю Чыбук як галоўнага бухгалтара, можа, Падзёлка і запрасіў, – падумаў ён, – а каб маю... ды за стол...”

Не паверыў замілаваным жончыным успамінам. Аднак на душы заскрэбла, як толькі ўбачыў гэтага чалавека-асілка. “Відаць па ўсім, – зноў падумаў Бандаровіч пра вучонага, які сядзеў каля яго і расказваў пра балоты, – што ён задурыць галаву кожнай, якая сустрэнецца на шляху. Можа, і маёй учора пасаладзіў сэрца?.. Але ж наўрад ці здольная мая Анця вось так проста з вучоным чалавекам памілавацца. Вядома ж, не. Яна вельмі таўстаскурая, каб адчуць у інтымнай справе асалоду. Ды і яму, вучонаму, пасля гарадскіх жанчын – а іх, мабыць, ён мае, дасведчаных не толькі ў розных галінах вытворчасці, але і ў ложку, наўрад ці захочацца пэцкацца. Ён, відаць, здаволіўся імі, бо пра балоты мне расказвае”.

– Дык вось я хачу ў вас запытацца, – зноў нахіліўся Дубавец да Бандаровіча, – ці чулі вы калі-небудзь добрыя, прыгожыя словы пра балоты?

– Не, – катэгарычна адказаў Вячаслаў.

– Правільна, – працягваў гаворку вучоны, – большасць людзей адносіцца да балота адмоўна. Яны звязваюць яго з чарцямі, цёмнымі сіламі, рознымі вобразамі змрочных духаў. А вось людзі з вобразным, літаратурным бачаннем свету заўважаюць незвычайнае і нават прыгожае ў самым, як бы тут сказаць, звычайным і не заўсёды прывабным. Напрыклад, Гі дэ Мапасан. Чыталі што-небудзь з яго твораў? – Дубавец замоўк, чакаючы адказу Бандаровіча. Той адмоўна кіўнуў галавой. – Ай, не важна. Яшчэ пачытаеце. Дык вось услухайцеся. Я гэты ўрывак запомніў яшчэ са студэнцкіх гадоў: “Балота – гэта асаблівы свет на зямлі, тут сваё быццё, тут свае аселыя і вандроўныя насельнікі, свае галасы і шоргаты, а галоўнае – свая таямніца. Нішто так не хвалюе, не трывожыць і не палохае часам, як балота. Адкуль гэты страх, што лунае над нізінамі, пакрытымі вадой? Магчыма яго спараджае смутны шоргат трыснёга, фантастычныя вандроўныя агні, глыбокае бязмоўе, якое пануе там у ціхія ночы, або мудрагелісты туман, які, нібы саван, ахінае чарот, або, быць можа, няўлоўны плёскат, пяшчотны і лёгкі, які часам страшыць больш, чым грукат гармат і нябесны гром, – гэта ён ператварае балоты ў казачную, небяспечную краіну, якая утойвае грозную, невядомую загадку”.

Згадзіцеся са мной: як ёміста сказана!

– Тут я з вамі цалкам згодзен, – выказаўся Бандаровіч, ашаломлены ведамі вучонага, – тут я толькі за...

– А ў мяне, між іншым, – працягваў Дубавец, – скажу вам шчыра, ёсць падазрэнне: ці не ўплывае на характар беларуса, яго памяркоўнасць гэтая патапеча? Пра гэта я пытаюся ў розных

людзей: вучоных, рабочых, студэнтаў... А вы як лічыце?

– Прызнаюся, цяжка адказаць на ваша пытанне, – сумеўся Бандаровіч, – мне падавай тэму больш простую, тады і я на нешта буду здатны. Вось, напрыклад, жанчыны. Спадабаліся яны вам?

– Жанчыны? – перапытаў вучоны. – Жанчыны-беларускі таксама жывуць на балоце. І гэта крыўдна. Балюча. Іншы раз плакаць хочацца, калі бачыш яе, на якую трэба маліцца, бо яна кожнаму з нас дала жыццё, яе трэба шанаваць і любіць, бо зноў жа яна выгадавала, вывучыла, у свет выправіла. А мы? Што ўзамен? Замест павагі, замест любові, замест добрага слова паказваем сваю мужчынскую існасць, заснаваную на эгаізме, выхваляемся і нават тады-сяды грукаем кулаком па стале, маўляў, маўчы. І яна маўчыць. Ужо колькі стагоддзяў нясе ў сабе цярплівасць і мудрасць, увесь час думаючы: “Вось мужчынка пасталее, разумнейшым стане”. Ведаеце, Вячаслаў, так, здаецца, вас завуць, – Бандаровіч кіўнуў галавой, абы толькі не глянуць вучонаму у вочы, надта ж брыдка было за сябе, за свае паводзіны, якія так яскрава, як у люстэрку, зараз паказаў Дубавец, – я знаю адну гісторыю, сапраўдную, якая вельмі мяне ўразіла. Уявіце сабе малюнак, калі п’яны сын б’е маці, а яна галосіць не ад болю, а ад таго, што сын рукі разаб’е, яму балюча будзе. Уяўляеце!.. Дзе, сярод якіх светаў можна знайсці яшчэ такую жывую істоту? А як жа мы, пытаюся, Яе Вялікасці Маці, Жанчыне, Дзяўчыне аддзячылі? Вядома чым. Надзялілі іх правамі, роўнымі з мужчынамі, каб працавалі нароўні з мужчынамі, каб трымалі гаспадарку, гадавалі дзяцей, кармілі і даглядалі п’яных мужыкоў. Вясковая жанчына ператварылася ў цяглавую, непрыгожа параўноўваць, але ж конскую сілу. На яе плячах трымаецца ўсё і ўсе – ад нараджэння і аж да скону.

“Напэўна, гэтымі словамі вучоны праняў маю Анцю, – падумаў Бандаровіч, – вось што паўздзейнічала на яе ўчора, бо сёння раніцай яна была такая радасная, ружовашчокая, скакала ад печы да стала, бы маладзіца”.

Бандаровіч праехаў мост цераз Усу, скіраваў машыну на дарогу ва ўрочышча. Як толькі колы машыны зачапіліся за друзавы насціл, пераключыў хуткасную перадачу, запытаўся ў Дубаўца:

– Вы колькі дзён яшчэ будзеце ў пушчы?

– Сёння з’еду з вашым участковым... Кацярынічам, здаецца... А вы нешта хацелі?..

– Нічога такога... Проста вы цікавы субяседнік. Можаце ўздзейнічаць на людзей.

– Скажыце, я нават і не здагадваўся!

– Вы вельмі разумны чалавек, не будзеце мяне ганьбіць, таму і прызнаюся: я гніда... Ніколі ў жыцці не думаў так пра жанчыну. А вы ж маеце рацыю, ды яшчэ якую! Вельмі б хацелася паслухаць вашы разважанні на іншыя тэмы. Можа, прыйдзеце да нас на абед. А? Вельмі будзем рады.

Дубавец падзякаваў Бандаровічу, а сам падумаў: “Разважаць можна гадзінамі, язык не забаліць, а як навучыцца таму чалавеку, які вучыць іншых, прытрымлівацца сказанага? Як? Колькі разоў даваў сабе зарок не выпіваць лішняга. Учарашні дзень – гэта ганьба. Так напіцца, што не пазнаў жанчын, думаў, што з адной баўлюся. А на самай справе...”

– 6 –

Для Казіміра Падзёлкі мінулы тыдзень быў цяжкім. З таго часу, як Кацярыніч прывёз яго са Свянтоцкай у Кляцішча (з Арынай ён развітаўся перад тым, як заехаць у вёску), не ўдалося зазірнуць у бібліятэку. А вельмі хацелася. Не прымаючы ніякіх мер перасцярогі, спыніў машыну каля бібліятэкі, ускочыў на ганак. На шчасце, у памяшканні нікога з чытачоў не было. Свянтоцкая сядзела за рабочым сталом

панурая. Звычайна радасная, прыветлівая, калі прыязджаў Падзёлка, яна выбягала з-за стала і кідалася ў яго абдымкі. На гэты раз усё было інакш. Нават не ўзняла вачэй, каб паглядзець, хто ўвайшоў у бібліятэку, быццам ёй было ўсё роўна.

Падзёлка падышоў да бар'ера, за якім знаходзіўся рабочы стол бібліятэкаркі, і, нахіліўшыся над Свянтоцкай, сыпануў поўную жменю лясных арэхаў на стол.

– Прывітанне работнікам культуры, – галасна сказаў ляснічы і ўсміхнуўся. Жарт не падзейнічаў на дзяўчыну, наадварот, Свянтоцкая неяк рэзка плюхнула галаву на стол і заплакала. Падзёлка спужаўся і першыя хвіліны не ведаў, што рабіць. Па чарзе кідаў позірк на Свянтоцкую і праз акно, на сцежку ад дарогі, на якой стаяла яго машына. Вельмі не хацелася, каб у такую хвіліну іх нехта бачыў разам. Нарэшце супакоіўся, сабраўся з думкамі, папрасіў:

– Арынка, рыбанька мая, перастань. Не ўсё так дрэнна, каб гэтак нудзіцца.

– Ты так лічыш? – Свянтоцкая падняла галаву, пранізліва паглядзела на ляснічага. – Як гэта можна не бачыцца тыдзень і ведаць, што ў мяне ўсё нармальна? Можа, участковы табе дакладвае пра маё асабістае жыццё ці яшчэ хто?..

– Ну што ты нясеш... – Падзёлка памкнуўся дакрануцца да яе галавы праз дашчаны бар'ер, але Свянтоцкая адхінулася. – Ніякіх плётак аб нашым няўдалым падарожжы ў пушчу ў вёсцы не чуваць. Тур і Кацярыніч свае слова стрымалі. Яны сур'ёзныя людзі. Так што дарэмна ты так на ўчастковага...

– Пры чым тут участковы! – Свянтоцкая перастала хлюпаць носам. – Я пра цябе кажу. Разумееш, п-ра ця-бе... Ты, хто, прызнаваўся мне ў каханні, хто не мог і хвіліны пражыць без думкі пра мяне, ты цэлы тыдзень не азваўся. Ты баязлівец, спужаўся міліцыянераў, спужаўся сам сябе!..

– Не кажы так, – Падзёлка загаварыў грамчэй, ужо не звяртаючы ўвагі на акно, – гэтыя дні я пераажываў за цябе яшчэ больш, чым раней. Проста мне хацелася ўпэўніцца, што пра нашы ўзаемаадносіны па-ранейшаму ніхто не здагадваецца. Апрача, вядома, міліцыі.

– Дык ты толькі гэтага баяўся, толькі з-за гэтага і не прыйшоў да мяне, нават вестку ніякую не даслаў?

– Так, – згадзіўся Падзёлка.

– А зараз, калі ўпэўніўся, што ў нашых адносінах нічога не змянілася, ты без боязі стаіш тут.

– Вядома.

– Каб зноў, як і раней, хаваючыся ад людзей, сустракацца са мной.

– Ну не трэба гэтак, Арынка. Я ж з чыстай душой да цябе.

– Паглядзім, Казімір Іосіфавіч, – Святоцкая ўстала з-за стала, выйшла ў залу. Падзёлка пацягнуўся абняць яе за плечы, але яна ўнікла, падышла да акна. – Тады слухай, якія ў нас праблемы. Па-першае, у мяне нешта з арганізмам, збіўся, разумееш... Павінен быў працаваць рытмічна, як раней, а пасля нашай апошняй сустрэчы ён збіўся... Можа, гэта ад хвалявання?.. Ну два... тры дні можа зацягнуцца паўза, рознае бывае ў жаночым арганізме, але каб тыдзень, гэта ўжо занадта. Другое. Ты не знаходзіў у машыне мае стрынгі?

– А што гэта такое? – выпаліў Падзёлка.

– Калі здымаў іх з мяне ў машыне, то не пытаўся, што для чаго. А зараз невуцтва паказваеш?

Падзёлка пакрыўся халодным потам. Думкі блыталіся ў галаве, ніяк не мог супакоіцца. Нарэшце сціснуў кулакі, скрыгануў зубамі. Тое, што ў яе зацягнуліся дні пераходу арганізма ў нармальны стан, гэта яшчэ не бяда. Ён добра гэта ведае па жончыных, часцей, дарэмных перажываннях. А вось пра стрынгі, тут ён папаўся.

Выпадкова бачыў такую рэч у сваёй дарослай дачкі. На табе, так падставіцца! Дзе яны маглі падзецца?

– Што маўчыш, Казік? – абудзіла яго ад успамінаў-трызненняў Святоцкая. – Ты іх некуды сунуў, бо я, пакуль ты з міліцыянерамі гаварыў, дарэмна іх шукала. Ты праверыў машыну... пасля таго, як?..

– Не...

– Дык ідзі... глядзі... Сам разумееш, калі хто-небудзь знойдзе іх.

Падзёлка кінуўся да выхаду і ўжо праз хвіліну заглядаў пад кожнае крэсла мікрааўтобуса. Не было нічога з рэчаў і пад заднімі сядзеннямі, на якіх яны бавіліся ў лесе. Ляснічы сеў, ліхаманкава думаў, што яму рабіць далей. Вырашыў спачатку зноў зайсці да Святоцкай, каб сказаць... што сказаць?.. Сказаць, што ў машыне нічога не знайшоў, што паедзе ў лясніцтва, паглядзіць дыпламат, які валяўся ў машыне і невядома, хаця вядома, па якой прычыне ён у той вечар перанёс яго ў службовы кабінет.

Выскачыў з машыны і, думаючы пра сваё, увайшоў у бібліятэку. Каля бар'ера стаялі дзве дзяўчынкі. Яны павіталіся, на што Падзёлка кінуў "добры дзень" і, не падыходзячы да Святоцкай, гучна сказаў:

– Я, Арына Мечыславаўна, прывязу прачытаныя кніжкі іншым разам. Тады і новыя вазьму. Добра?

Святоцкая кіўнула галавой, нешта пачала гаварыць дзяўчаткам. Ляснічы пайшоў да машыны. Дзіўнымі цяпер падаліся толькі што сказаныя ім словы: "Прывязу прачытаныя кніжкі... новыя вазьму..." Быццам Святоцкая не дазволіла б яму ўзяць новыя кніжкі. Смех адзін, а не канспірацыя.

Прыехаўшы ў лясніцтва, Падзёлка шукаў вачыма дыпламат, які некалі кінуў у машыну на ўсялякі выпадак. Нарэшце заўважыў. Ён стаяў у куце каля пальмы. Хуценька адкрыў

яго, здаецца, нічога падазронага не заўважыў. Толькі крыху пакамечаны ручнік ды зубная паста, шчотка, нажнічкі... “А гэта што? – ляснічы прыгледзеўся да круглячка, – нейчы гузік... Чаму нейчы? Вядома, чый. Значыць, калі гузік апынуўся ў дыпламаце, тады ён для нейкіх мэт адкрываўся. А хто адкрываў – я ці Арына? Трэба ехаць да яе”.

На парозе Падзёлка ледзь не збіў з ног Стасю Чыбук. Тая нешта хацела сказаць, але ён кінуў на хаду, што заняты і разбярэцца з праблемамі пазней. Сам выскачыў з лясніцтва і ўжо праз колькі хвілін спыніўся каля бібліятэкі. Думаючы пра свае праблемы, не заўважыўшы на дзвярах замка, тарганyў дзверы.

– Няма бібліятэкаркі, Казімір Іосіфавіч, – пачуў жаночы голас з суседскага двара. Заўважыў бабульку, але прыгадаць яе імя, не тое што па бацьку, не змог. Падзякаваў, пайшоў да машыны.

– Яна толькі што сышла, Іосіфавіч. Можа, у сельскі Савет выклікалі, – далятаi да яго словы бабулькі. Падзёлка павярнуўся да яе, зноў падзякаваў і паехаў у лясніцтва.

У службовым кабінеце сеў за рабочы стол, супакоіўся. Дзе там супакоіўся. Толькі загадаў сабе суняцца і раскласці ўсе праблемы па палічках. У кабінет увайшла Стася Чыбук.

– Рабочы дзень скончыўся, Станіслава Баляславаўна, – загадным тонам, бы не жадаючы бачыць яе, сказаў ляснічы, чакаючы, што жанчына зачыніць дзверы. Але галоўны бухгалтар стаяла на парозе.

– Ну што, што здарылася? – ужо злосліва запытаўся Падзёлка.

Анямелая Стася Чыбук не магла вымавіць ніводнага слова, не хапала сіл ступіць нават крок наперад. Стоячы каля дзвярэй, яна не ведала, з чаго пачаць гаворку. Можа б, і знайшла слова, каб не радражнёнасць ляснічага. Праўда,

пасля таго, як Падзёлка пачаў прыдзірліва прыглядацца да яе, сказала:

– Казімір Іосіфавіч... мы з вамі...

– Хто мы? – перапытаў ляснічы.

– Прабачце, – Стася ўзяла сябе ў рукі, – паміж вамі і мной заўсёды было паразуменне. Вы ніколі мяне не крыўдзілі, нават не павышалі голас. Я цаню вас як кіраўніка і, вядома, як чалавека. Таму хачу гаварыць адкрыта. Надоечы падумала і вырашыла: што будзе, тое і будзе.

Падзёлка скумекаў адразу: вестка пра адносіны са Свянтоцкай усё ж прасачылася і зараз яна будзе гучаць з вуснаў галоўнага бухгалтара. Ляснічы запрасіў яе да стала. Падняўся, падставіў Чыбук стул, сам сеў збоч.

Стася падзякавала, пачала гаворку з таго, што папрасіла прабачэння за сваю правіннасць перад ім. Ляснічы заёрзаў на стуле, хацеў спыніць гаворку без канкрэтных фактаў, але Чыбук нарэшце выказалася:

– Я тут тыдзень таму зайшла ў ваш кабінет па службовых справах. Вас не было на месцы, і я ўжо стала выходзіць з кабінета, як раптам вока ўхапіла знаёмую рэч, якая тырчала з вашага дыпламата. Прызнаюся, не ўтрымалася, падышла бліжэй і ўпэўнілася, што гэта тая рэч, якую я адразу пазнала. Я выйшла з кабінета, падумала, што, можа, жонка ці дачка збірала дыпламат і незнарок гэтая рэч прыціснулася вечкам дыпламата. Казімір Іосіфавіч, – Стася праглынула сухую сліну, – паверце, я б і не дакранулася да гэтай рэчы, каб не заўважыла праз акно леснікоў. Яны ішлі да вас. Я вырвала стрынгі – прабачце мне, Іосіфавіч, пабаялася адчыняць дыпламат – і запіхнула іх сярод папер вунь у тую шафу, – Чыбук рукой паказала на мэблю.

Падзёлка слухаў, здавалася, уважліва. На самай справе яго ўнутры трэсла. Каб не паказаць сваю занепакоенасць, ён падняўся са стула,

прайшоўся па кабінеце і прымусіў сябе рассмяяцца. Потым, аддыхаўшыся, сказаў:

– А я думаю, чаго гэта жонка кожны дзень пытаецца ў мяне, ці не сустракалася мне адна цікавая інтымная рэч!

– Ну вось як усё атрымалася, – Стася паднялася, заўсміхалася, пачала развітвацца.

– Добра, калі ўсё добра заканчваецца, – падсумаваў размову ляснічы. – Я не крыўдую на вас, Станіслава Баляславаўна. Наадварот, дзякую. Раскажу сёння жонцы, не паверыць...

Чыбук выскачыла за дзверы, быццам сто пудоў скінула з сябе. Каля першай ад лясніцтва хаты яе чакалі Анця Бандаровіч і Ядвіга Варакса.

– Ну што? – разам запыталіся яны ў Стасі, як толькі тая наблізілася да іх.

– Усё ў парадку, – на выдыху вымавіла Чыбук. – Размову падвяла да таго, што, маўляў, жонка паспешліва сунула стрынгі ў дыпламат, а ён быццам і не заўважыў іх.

– Карацей кажучы, – не стрымалася Анця Бандаровіч, – вы абодва разыгралі сцэну, у сюжэт якой ніхто з вас не паверыў.

– І дзе ты толькі такіх слоў набралася? – здзіўлена запыталася Ядвіга Варакса.

– Сапраўды, нешта новенькае мы чуем, – падтрымала яе Стася Чыбук.

– Ды ўсё проста, – Бандаровіч падскочыла некалькі разоў, быццам танчыла, прызналася: – Пасля таго, як у лясніцтве... ну, вы ведаеце, што... закарцела мне прывесці сябе ў парадак. Пачала займацца перад тэлевізарам шэйпінгам, ну, а ў вольную часіну чытаць мастацкую літаратуру. Паверце, як хораша!..

Чыбук і Варакса абнялі Анцю з двух бакоў, пачалі гудзець і крычаць, каб выказаць сваю ўхвалу сяброўцы.

– 7 –

Мінулы тыдзень Аляксандр Кацярыніч

працаваў па заявах грамадзян. Прымірыў Скуратавых з Шыдлоўскімі, яны варагавалі з-за калодзежа (Скуратавы адбівалі наледзь, пасыпалі сцежку пяском з соллю, а Шыдлоўскія толькі карысталіся калодзежам), даў час абдумаць свае паводзіны сем'ям Ярашэвічаў і Сабалеўскіх. Добрыя суседскія адносіны змяніліся злосцю і абразамі пасля таго, як Ярашэвічы пракапалі роў перад сваім агародам, каб не сцякала з дарогі вада і не несла з сабою пясок і жвір. Вада, вядома, знайшла сабе сцёк па агародзе Сабалеўскіх. Замест таго, каб знайсці нейкае выйсце, да прыкладу выкапаць роў паўз агарод Сабалеўскіх і пусціць ваду па мяжы ўніз да ручая, суседзі дайшлі да пагроз. Кацярыніч разумеў абедзве сям'і, стараўся і, здаецца, яму ўдалося прывесці іх да згоды.

Засталося разгледзець заяву на Антося Юльянавіча Прыёмку. Гэты дзед, дзесьці пад шэсцьдзясят гадоў, гнаў і прадаваў самагонку. У заяве, аўтарам якой быў Альберт Мазанік (Кацярыніч яго добра ведаў, бо той быў на ўліку як былы асуджаны), значылася: "Антось Прыёмка прадае хлебную самагонку па цане, большай за крамную гарэлку. Цану апраўдвае тым, што быццам яго гарэлка чыстая, зробленая з прарошчанага жыта без кроплі цукру".

Знайсці Прыёмку можна было толькі вечарам. Рухавы дзядок, дарэчы адзіны ў вёсцы, хто трымаў пчол, абходзіў са сваім веласіпедам двары, прапаноўваў купіць мёду і, калі дазвалялі абставіны, паказваў купцу пяршак, пярцоўку, медавуху, палыновую...

Пра незвычайны занятак Антося Юльянавіча Прыёмкі ўчастковы ведаў яшчэ з першых дзён сваёй службы. Як ведаў і тое, што стары жыў адзін, трымаў гаспадарку, ніколі яго не бачылі п'яным. Гнаў гарэлку пераважна для сябе. Настойваў яе на розных лекавых раслінах і націраў ногі, лячыў спіну. Гэта ўжо апошнім часам, калі вакол завіхурылася прадпрымальніцкая

дзейнасць, Прыёмка, відаць, захацеў адчуць сябе камерсантам. Трэба прызнацца, што яму гэта ўдавалася, бо гарэлку куплялі не толькі ў Кляцішчы, але і ў навакольных вёсках. Аднойчы нават Кацярынічу давялося спакусіцца на дзедаў пяршак, праўда, праз трэція рукі, бо гэты лекавы настой вельмі патрэбен быў жонцы.

Бралася на вечар. Участковы ішоў па вытаптанай сцежцы, сям-там раскідваючы чаравікамі камякі снегу на ўскраек. З галавы не выходзіла думка пра знікненне паштальёна. Што з ім здарылася, дзе шукаць, Кацярыніч не ведаў. Здаецца, праверыў усіх, хто мог прычыніцца да гэтай чорнай справы, аднак выбраць некалькі падазроных так і не змог. Адзіным, пра месцазнаходжанне якога Кацярыніч не ведаў, бо не прыйшлі весткі з Валожыншчыны, заставаўся Мішка Канавал. Апошнім часам, мабыць, пад уздзеяннем таго, што пастаянна думаў пра выпадак з паштальёнам, ён усё часцей і часцей узгадваў Канавала. Так і карцела прыехаць да яго туды, дзе пасяліўся, і ўважліва прыгледзецца. А раптам...

Раптам Кацярыніч пачуў крыкі, лаянку. Яны несліся ад магазіна. Участковы пайшоў хутчэй. Каля ўвахода ў магазін было шмат людзей. Яны, перабіваючы адно аднаго, нешта горача абмяркоўвалі. Як толькі нехта заўважыў участковага, адразу ж сціхлі, утаропіліся вачамі ў яго.

– Аляксандр Іванавіч, Аляксандр Іванавіч... – пачулася з натоўпу, калі Кацярыніч падышоў да магазіна, – што ж гэта такое!.. Калі ж на яе знойдзецца ўправа... сама па сабе, што хоча, тое і робіць...

Участковы зразумеў, на каго абураюцца людзі. Пра Галіну Кутас яму аднойчы распавёў старшыня сельсавета Вацлаў Канстанцінавіч Гарніцкі. З таго аповеду Кацярыніч зразумеў: калі спатрэбяцца звесткі пра жанчын, якія любяць гульнуць, то лепшага інфарматара, чым Гарніцкі, не знойдзеш. Закаранелы халасцяк

ведаў, як здагадаўся ўчастковы, амаль кожную маладзіцу, якая жыла на тэрыторыі сельсавета. З асобай асалодай прыпамінаў жанчын, ахвотна расказваў не толькі пра тое, якімі духамі карыстаюцца, але і ў якой вопратцы яны ходзяць, якой бялізне аддаюць перавагу. Мог распавесці і пра больш інтымныя падрабязнасці.

Дык вось пра Галіну Кутас ён сказаў так: "Жанчына, якая проста так нікому нічога не дае". Кацярыніч у гэтым упэўніўся адразу ж, як толькі прыступіў да службы ўчастковым. Помніцца, што на ўсе яго пытанні, не толькі службовыя, у яе заўсёды быў адказ: "Што мне да гэтага... не бачыла... не ведаю..." Спачатку Кацярыніч думаў, што яна толькі з ім так, але потым заўважыў, што і ў адносінах да іншых прытрымліваецца такой жа манеры. Хаця, з іншага боку, калі ёй быў патрэбен чалавек, а яна вадзілася пераважна з тымі, ад каго можна было што-небудзь узяць, то тут у яе праяўлялася хітрасць лісы і абаяльнасць кошкі.

Слухаючы людзей каля магазіна, Кацярыніч зразумеў, што Галіна Кутас, якая больш за гадзіну прымае прадукты з машыны, наўмысна зацягвае час да закрыцця магазіна. А з заўтрашняга дня быццам цана прадуктаў павялічыцца. Пра рост цэн Кацярыніч сам чуў па радыё, але ж яны апошнім часам настолькі скачуць, што ўгнацца не хапае ні сродкаў, ні часу. Тым не менш, ведаючы нізкі даход вясковага люду, Кацярыніч абышоў памяшканне магазіна і на рагу, дзе стаяла закрытая прадуктовая машына, з кабіны пачуў глухі Галінін голас. Разабраць гаворку з шафёрам не ўдалося. Ды і не для гэтага сюды ішоў. Пастукаў у кабіну, павітаўся з шафёрам, глянуў на Кутас, потым сказаў: "Галіна Францаўна, вас людзі чакаюць..." Прадаўшчыца разгублена глядзела на ўчастковага. Пасля адказала: "Вы ж бачыце, я афармляю дакументы на тавар".

– У дваіх у цёмнай кабіне машыны... – дадаў

Кацярыніч. – Ну, ну... афармляй... потым я аформлю...

Участковы вяртаўся да людзей, якія па-ранейшаму чакалі, калі адчыніцца магазін, каб сказаць, што прадавец зараз пачне працаваць, як унутры памяшкання нешта бразнула, пакацілася па падлозе. Здагадаўся, што гэта Кутас ускочыла ў магазін са службовага ўвахода і нешта там робіць. Нарэшце дзверы будыніны расчыніліся, і натоўп рынуўся.

Кацярыніч застаўся стаяць на парозе. З магазіна былі чуваць урыўкі фраз: “Каб не ўчастковы... дзякуй Аляксандру Іванавічу...” Кацярыніч адчуў няёмкасць і нырнуў у цемру.

Неўзабаве ён быў каля варот двара, на якім стаяла дагледжаная, пафарбаваная ў блакітна-жоўты колер, з трыма вокнамі на вуліцу хата Антося Юльянавіча Прыёмкі. Участковы піхнуў варотцы, і яны расчыніліся. Калі ступіў на парог, грукнуў у дзверы. “Заходзь, Сашка”, – пачулася з хаты. Кацярыніч крутануў галавой, не зразумеўшы, якім чынам дзед здагадаўся пра яго, увайшоў у сені. Стары ў кладоўцы наліваў гарэлку ў бутэльку.

– Добры вечар, Антось Юльянавіч, – гучна павітаўся Кацярыніч.

Прыёмка не адгукнуўся. Ад нечаканай сустрэчы з участковым ён толькі выпрастаўся, бо згінаўся, каб зачэрпнуць з бідона гарэлку, і, трымаючы ў правай руцэ кубак, а ў левай – бутэльку, змярцвеў. Ніводная частка яго цела не рухалася, нават кроў, здавалася, і тая застыла ў жылах.

Кацярыніч зразумеў: каб старому выйсці са стану збянтэжанасці, не дай бог яшчэ што здарыцца, яму не трэба надаваць значэння таму, што бачыць, а адцягнуць увагу на іншае. Ступіў да дзвярэй, што вялі ў хату, сказаў:

– Я, Юльянавіч, па справе. Можа, у хату пройдзем?.. – не чакаючы згоды, зняў клямку з кручка, таргануў на сябе дзверы.

У пакоі было цёпла і светла. На прыпечку стаяў чыгунок з паранай бульбай, на патэльні блішчалі сонечныя круглякі яешні з салам. Кацярыніч падышоў да стала, прысеў на ўслончык. Задумаўся, як выйсці яму, ды і старому з гэтай нечакана сур'ёзнай справы. Слушнай гаворкі па заяве не атрымаецца. Вырашыў, што лепш заўтра сустрэцца. Падняўся з-за стала, хацеў выйсці з хаты, але ў пакой увайшоў незнаёмы мужчына з поліэтыленавым пакетам у руцэ. Ён павітаўся з Кацярынічам, прычым назваў яго па-бацьку, запытаўся:

– А куды ж падзеўся імяніннік?

– Вы маеце на ўвазе Антося Юльянавіча? – перапытаў яго ўчастковы.

– Так, так... – заківаў галавой мужчына.

– Ён зараз прыйдзе. А вы не мясцовы будзеце?

– Не-е-е... – працяжна адказаў той. Я ў Цеснавой жыву. Вы ў нас на механізаваным двары выступалі. Запомніў...

– І захацелася вам адмахаць трыццаць кіламетраў, каб павіншаваць старога?

– Ведаеце, Аляксандр Іванавіч, справа ў тым, што мы абодва пчаляры. Даўно адзін другога ведаем, сябруем. Таму ніякая адлегласць, тым больш што я на ўласнай машыне, нам не перашкода.

– Дарэчы, – Кацярыніч пацiснуў руку незнаёмцу, – як вас завуць?

– Аляксандр Ліпніцкі.

– Прыемна было пазнаёміцца, – участковы нацягнуў на галаву шапку, узяў папку з дакументамі, зразумеў, якога Сашку чакаў Прыёмка. – Перадайце Юльянавічу мае віншаванні. Відаць, не дачакаюся яго, а мне трэба бегчы па другой справе.

На парозе Кацярыніч спыніўся, прыслухаўся. З-за хлява пачуўся шоргат валёнак па снезе, слабы кашаль. "Дзякуй богу, ачуняў стары", – усміхнуўся ўчастковы. Ён выйшаў на вуліцу і скіраваў да Альберта Мазаніка. Трэба было

выведаць прычыну, з-за якой былы асуджаны адважыўся напісаць заяву. Звычайна той, хто аднойчы пабываў за кратамі, падобным метадам не карыстаецца, лічыць яго подлым, а тут усё якраз наадварот.

У хаце Мазаніка ўчастковы быў неаднойчы. Дом яму застаўся пасля раптоўнай смерці маці. Пра бацьку Альберт нічога не ведаў. Людзі казалі, што яго трэба шукаць сярод лесарубаў, якія некалі стаялі ў іх хаце. Але ж хто гэтым будзе займацца? Ды і Альберт ніколі не цікавіўся, бо такіх дзяцей, як ён, у вёсцы было шмат. І амаль кожны з іх, калі пыталіся пра бацьку, адказваў, што, маўляў, сабакам сена косіць. Гэта была показка, прыдуманая жанчынамі-адзіночкамі, каб усцешыць зацікаўленасць асоб, якім надта ж хацелася выведаць у дзіцяці яго паходжанне.

Вучыўся Альберт дрэнна, пасля службы ў арміі застаўся ў вёсцы, працаваў у леспрамгасе. Праўда, праца яго была нядоўгай. Пасля таго як ён аднойчы ноччу схапіў без дазволу чужы лесавоз, каб з’ездзіць у Кляцішча купіць гарэлкі, і загубіў машыну ў Брудным балоце, яго асудзілі. У няволі дабавілі яшчэ адзін тэрмін, а калі заставаліся апошнія дні перад вызваленнем, зноў вярнуўся ў калонію. Якім чынам яму ўдалося стрымацца і не наламаць дроў яшчэ – невядома, але вярнуўся Мазанік дадому тым жа, якім і быў, – няўклюдным выхвалякам. Маці, вядома чаму раптоўна аддала богу душу, хата паступова запускалася. Альберт вёў разгульнае жыццё.

Участковы адчуў гэту спустошанасць, як толькі зрабіў некалькі крокаў па неагароджаным двары. Промні электрычнага святла высвецілі ржавы плуг, збоч стаяў уторкнуты ручкай уніз сахор, пад снежнай шапкай была відаць самаробная тачка. Іншыя рэчы пад сумётамі немагчыма было пазнаць.

Дзвярэй у сені не было. Кацярыніч намацаў клямку, увайшоў у хату. Павітаўся і запытаў, ці ёсць хто дома.

У хаце нікога не было. Участковаму падалося, што ўсе прадметы зморшчыліся ад холаду. Брудныя і сіратлівыя, яны быццам прасілі аб дапамозе. Кацярыніч зноў выйшаў на двор, прыслухаўся. За хатай, падалося, нешта бразнула. Ён абышоў будыніну, прыкмеціў у лазні цьмяныя водбліскі агню. Праз нядбайна завешанае акно заўважыў падпітага Мазаніка і жанчыну, якая сядзела спінай да акна. Альберт стаяў у поўны рост з чаркай, нешта гаварыў. Кацярыніч асцярожна адчыніў дзверы ў прымыльнік, ступіў на падлогу. Каб не рыпелі масніцы, зняў чаравікі. Прытуліўшы рукі да вушака, каб не выдаць сябе нязначным гукам, паціху пацягнуў дзверы на сябе. Калі прасунуў галаву ў мыйку, сустрэўся вачыма з жанчынай. Яна трасянула галавой, не міргаючы глядзела на яго. Участковы прыклаў палец да вуснаў, папярэдзіўшы такім чынам яе, каб маўчала, а сам ціха стаў за спінай Мазаніка. Дзіўна, але Альберт нічога не пачуў, працягваў гаворку, якую Кацярыніч слухаў яшчэ ў прымыльніку.

– ...Мне ўсё да лямпачкі. Я тут гаспадар... улада... Так што, Тэрэска, хутка зажывём...

Па выразу твару жанчыны было відаць, што яна зараз закрычыць, ды і слухаць лухту участковаму больш не хацелася, хаця любое слова Мазаніка цанілася Кацярынічам на вагу золата. Звычайна ў такой сітуацыі чалавек гаворыць тое, што думае. Але трэба было ведаць Мазаніка. Участковы паляпаў яго ззаду па плячы. Альберт змоўк. Адчувалася, што глядзеў на сяброўку, быццам хацеў прачытаць на яе твары нейкую падказку, але тая не рэагавала. Тады ён, перасільваючы сябе, павярнуўся. Кацярыніч не варухнуўся, даваў магчымасць п'янаму чалавеку пастунова, без рэзкіх рухаў узважыць убачанае, зразумець, што з ім адбылося. Пацверажэнне наступіла адразу. Пад чаравікамі Мазаніка пачала ўтварацца мокрая лужына.

– Слухай, Альберт, – пачаў гаворку Кацярыніч,

– я зараз нічога не буду рабіць. Дамовімся так: ты да ранку разбярэш усё гэтае абсталяванне, – участковы паказаў на самагонны апарат, – і акуратна складзеш яго ў прымыльніку. А я заўтра, як толькі пачне світаць, буду ў цябе. Дамовіліся?

Адказу не было. Маўчанне як знак згоды дало магчымасць Кацярынічу выйсці на двор, глытнуць свежага паветра. “Ну і вечарок”, – пакруціў ён галавой і знік у цемры.

– 8 –

Не разлічвалі лесарубы, што Новы год ім давядзецца сустракаць у пушчы. Ехалі ў лес на тыдзень, а давялося застацца яшчэ на месяц. Распрацоўвалі дзялянку, каб у хуткім часе з’явілася дарога да Бруднага балота. Гэта рашэнне было прынята адразу, як толькі з’ехалі з лесу геолагі і вучоны-балотазнавец. Лепрамгасаўскае начальства, якое не хацела цягацца па лесе, прысутнічала ў гэтыя дні амаль кругласутачна. Меліярацыйныя работы па асушэнню ўрочышча Бруднае балота павінны распачацца вясной, таму высекчы лес і падрыхтаваць паласу для ўкладкі дарогі патрэбна было зараз, не губляючы ні дня. Праўда, хлопцы з брыгады Вячаслава Бандаровіча не надта верылі, што да ўрочышча будзе пракладзена дарога. Па той размове паміж галоўным геолагам Пятром Хомічам і вучоным-балотазнаўцам Генадзем Дубаўцом, якую давялося ім пачуць, яны зразумелі, што іх работа можа пайсці, як кажуць, кату пад хвост.

– Вы ведаеце, што ў Рэспубліканскім навукова-даследчым інстытуце меліярацыі і воднай гаспадаркі, – даказваў Пятро Хоміч вучонамубалотазнаўцу, – нарадзілася ідэя стварэння найбольш дасканалай, гібкай і ўніверсальнай меліярацыйнай сістэмы. Чым яна цікавая? А тым, што сетка меліярацыйных каналаў выкапана не ў выглядзе доўгіх, пад лінейку, каналаў, а ў выглядзе тупіковых каналаў, злучаных

паміж сабой помпавай станцыяй і падземнымі трубаправодамі, якія маюць засланкі і сістэму рэгуліроўкі. Аўтар-вынаходца называе сваё дзіця “асушальна-вільгацеўстойлівай сістэмай перыядычнага дзеяння з дыскрэтна-праваднай сеткай”.

– Я, Пётр Васільевіч, – даказваў свой пункт гледжання Генадзь Дубавец, – не буду аспрэчваць вучонага, пастараюся выказаць сваю думку кароценька, але ёміста. Вы ведаеце, што ў кожнай канструкцыі ці сістэме, як у складаных аб’ектах, ёсць рухомыя дэталі. Маю на ўвазе засланкі, засаўкі, помпу і гэтак далей. У кожнай канструкцыі павінна быць сваё кіраванне, скажам так, свой мозг. Трэба ведаць, калі і з якой сілай націснуць на той ці іншы рычаг, каб правільна кіраваць аб’ектам. Гэта ўжо, згадзіцеся, кібернетыка. Таму для таго, каб упраўляцца з новай сістэмай, пра якую вы кажаце, найлепшым чынам, трэба распрацаваць матэматычны апарат, у якім бы ўлічваліся многія важныя дэталі. Напрыклад, размеркаванне карэння па глыбіні глебы, вільгацеправоднасць грунту, выпарэнне раслінамі вады, іх стан, утрыманне элементаў харчу ў глебе, тэмпература, узровень грунтавых вод і іншыя. Гэтая скрупулёзная праца патрабуе выдаткаў. Ведаеце якіх. А ці ёсць яны?

Пра выдаткі можна было і не гаварыць. Нават лесарубы, далёкія ад вырашэння дзяржаўных праблем, зразумелі, што на сённяшнім жывёлагадоўчым комплексе даводзіцца выграбаць гной уручную, бо, каб зрабіць аўтаматычную лінію, не хапае ні ідэй, ні выдаткаў. Таму хлопцы з брыгады Вячаслава Бандаровіча не верылі ў будаўніцтва дарогі і меліярацыю ўрочышча, лічылі, што працуюць марна, сумавалі па дому. Харчу і вопраткі было дастаткова, начальства арганізавала нават выязную лазню. Спецыяльная машына вайсковай часці раз у тыдзень прыязджала ва ўрочышча. Не хапала

толькі пітва і, вядома, жанчын. Асабліва цяжкімі гэтыя дні паказаліся брыгадзіру. Апошнія дні нудзіўся, праўда, вечарам, калі збіраліся адпачываць, стараўся закрануць самалюбства Лявона Вадамцэвіча: расказваў пра свае інтымныя гульні з яго Фёдараўнай – Верай Ямелька. Вадамцэвіч многаму не верыў, але ж некаторыя дэталі яго ўразілі. Ён запомніў іх і меўся па прыездзе выведаць у жанчыны, так гэта было ці Вячаслаў брэша, выдумляе гісторыі, каб пасмяяцца з яго.

Вечарам, напярэдадні Новага года, калі брыгада сабралася ў вагончыку, Бандаровіч сказаў Вадамцэвічу і Вараксу, што збегае дадому і прынясе гарэлкі.

– Ну што за свята, калі не будзе чаго выпіць, – дзеля большай пераканаўчасці сказаў ён хлопцам, – за ноч упраўлюся. На Кляцішча выйду напрасткі.

Варакса пакруціў галавой, засумняваўся:

– За ноч... Туды і назад... Цяжкавата. Трэба абыходзіць Бруднае балота левым берагам, трымацца правага берага Усы, каб выйсці на мост. Раптам, перайшоўшы рэчку, выйдзеш у другім месцы?

– Быццам не ведаеш, дзе Уса мелкаводная. Каля вёскі выйду, там дзе яе выраўнавалі.

– Але ж толькі не абыходзь урочышча з правага боку. Можаш апынуцца пад Бакштамі.

Сказаць праўду, чаму так пацягнула яго дадому, брыгадзір не адважыўся. Шчымлівае пачуццё рэўнасці, якое нарадзілася з прыездам вучонага-балотазнаўца, не давала спакою. Праўда, пасля таго, як паслухаў яго ў дарозе, яно крыху адышло, падалося, што такі чалавек, як Дубавец, не стане займацца тым, чаго заўсёды шукаў ён, Бандаровіч. Але ж з’ехаў вучоны, і нутро зноў заскрэбла, іншым разам так млосна, што хоць воўкам вый. Да ўсяго і прадукты, якія перадавала яму Анцяя, змяніліся. Раней акрамя кавалка сала, цыбуліны і агурка з хлебам больш

нічога не чакаў. А тут ужо ў першую перадачу атрымаў некалькі бляшанак тушонкі, крабавыя палачкі, дзве бутэлькі піва і цэлы кілаграм апельсінаў. Здавалася, што гэта не Анця збірала паёк, быццам іншая жанчына пасялілася ў яго хаце. Можа, прывык быў да гэтых, незвычайных для Бандаровіча адносін жонкі, каб аднойчы за вячэрай Варакса не звярнуў увагу на прадукты, заўважыўшы:

– Нешта ж робіцца з Анцяй. Бачыш, як турбуецца пра тваё здароўе. Столькі прадуктаў перадала... Ды якіх!...

Гаворку тут жа падхапіў, хітравата ўсміхнуўшыся, Лявон Вадамцэвіч:

– Анця разбіраецца, каму даваць...

Мужчынскі рогат, здавалася, раздзіраў вагонцяплушку на дробныя кавалкі. Смяяўся з удалага жарту і Бандаровіч. Але ўжо праз нейкую хвіліну чарвяк сумнення ў вернасці Анці зноў раз’ядаў яму душу. І толькі калі выйшаў з вагона і пакрочыў па начной пушчы да Кляцішча, крыху супакоіўся. Патрэбна было глядзець на поўню, у якую ўтыркаліся вершаліны хвой, ды пад ногі, каб не трапіць на якую-небудзь рагаціну. Вячаслаў трымаў у левай руцэ ліхтарык, а ў правай – нож, так, на ўсялякі выпадак.

Урочышча Бруднае балота, як і гаварыў хлопцам, стаў абыходзіць злева. Роўнай сцежкі вакол мокрай, сям-там падмерзлай, мабыць, пад пяцьдзясят гектараў патапечы, вядома, што не было. Як толькі нага правальвалася ў снежную кашу ды з-пад ботаў цвыркала рудая, як шакалад, вада, браў лявей, пакуль зноў не сыходзіў у правы бок. Ён быў арыенцірам, які павінен вывесці да рэчышча Усы. А там... Там усё знаёмае з дзяцінства: і гульня з хлопцамі ў “вайнушкі”, і лоўля рыбы на Усе, і збіранне грыбоў з ягадамі, і... Бандаровіч пашкадаваў, што ўспомніў Анцю. “Зноў прыклеілася, – усміхнуўся ён, – што гэта такое?..” Успомніў хутар, дзе жыла Анця, згадаў, як бег з Кляцішча калі па дарозе,

а калі і напрасткі ў Рудню Налібоцкую. Іх хата стаяла на дугападобным, бы падкова, участку рэчкі. Вакол берага, аж да самага звужэння, раслі высокія кучаравыя ліпы. Іх некалі пасадзіў Анцін дзед-пчаляр. Пчалярства ў пушчы вялося здаўна. Мёд цаніўся ўсюды, куды б яго ні прывозілі прадаваць. Купцы ведалі, што ў гэтым мёдзе нават лыжкі цукру не знойдзеш. Гаспадар пакідаў пчолам мёду больш, чым яны яго з'ядалі. Паміж ліпамі, каля самай плыні светла-празрыстай, як сляза, Усы, Анця частавала яго мёдам. Саладосць адчувалася не толькі ў мядовым смаку, але і ў пацалунках – доўгіх, як зімовыя ночы. "Каб жа мая Анця засталася такой, як тады, тоненькай, што пруткі дубчык лазы, – пашкадаваў Бандаровіч, – можа б, я і не глядзеў на іншых. А то вымахла ўшыркі – ні абняць, ні падняць".

Думкі Бандаровіча разбіліся, як лёд пад ботам, калі далёка наперадзе заўважыў святло. Яно не міргала, не гойдалася, як святло машыны. Ды і адкуль тут, у патапечы, машына? Чалавеку цяжка прайсці, але... Чым бліжэй Бандаровіч падыходзіў да яго, тым больш упэўніваўся ў адваротным.

Траіх мужчын, што разбіралі ў святле фар машыны тушы жывёл, падвешаныя на жэрдках, ён разгледзеў, калі апынуўся на адносна небяспечнай адлегласці. Незнаёмцы ўмела і хутка арудавалі нажамі, скідвалі апрацаваныя кавалкі мяса ў шырокія ваннаачкі.

Стаяць і назіраць за працай незнаёмых – калі б гэта былі мясцовыя, то Бандаровіч пазнаў бы – было непажадана. Мала што ім магло падацца, гэтыя не пакінулі б яго жывым. Ім, бачна па сітуацыі, сведкі не патрэбны былі. Вячаслаў узяў намнога лявей, каб не трапіць у промні святла і не выдаць сябе, паддаў ходу. Праз некалькі хвілін выскачыў на прагаліну. Адчуў пад нагамі ўтрамбаваны машынны след. "Вось табе і на, – здзіўлена падумаў Бандаровіч, – некалькі

брыгад ужо месяц працуюць, каб зрабіць пад'езд да балота, а тут на велікагрузнай машыне трое мужыкоў наладзілі поўную вытворчасць. Дзіва, ды і толькі...” Ён бег па каляіне, спадзеючыся, што абабітая лясная дарога выведзе яго хутчэй да рэчкі, бо пераехаць яе акрамя як праз мост, што каля Рудні Налібоцкай, немагчыма. Сапраўды, праз некалькі кіламетраў Бандаровіч выйшаў на заснежаны цалік. Не спяшаючыся, агледзеўся. Быццам знаёмая мясцовасць. Правільна. Калі пайсці далей па каляіне, ад цаліку налева, то апынешся на Валожыншчыне, у Камені, а калі направа, то пяройдзеш мост цераз Усу, а там рукой падаць да роднага Кляцішча.

Бандаровіч высвеціў цыферблат гадзінніка: распачыналася дзясятая гадзіна вечара. Пакрочыў па снегавой роўнядзі, і яшчэ не наступіла поўнач, як наблізіўся да свайго двара з боку агарода. Сэрца трывожна забілася, калі ў шчыльна запятых вокнах, асабліва ў тым, каля якога стаяў ложак, заўважыў святло электрычнай лямпачкі. Добра памятаў, што святло ў іх хаце было ад адной лямпачкі, якая вісела на электрычным провадзе пасярод столі. А тут нешта незразумелае. Вячаслаў наблізіўся да акна. Стрымліваючы дрыжыкі, запыніў дыханне, прыслухаўся. Пачулася гаворка. Здаецца, голас Анці. “З кім жа яна так можа гутарыць? – пранеслася ў думках. – Няўжо з мужчынам?..” Адчуваў, што сэрцу не хапала марознага паветра, здавалася, што яно выскачыць з-пад вопраткі і разарвецца. Не раздумваючы, энергічна ўзышоў на ганак, ірвануў на сябе дзверы. Яны не паддаліся, бо былі зачынены знутры. Грукнуў моцна, рашуча. Пачуліся крокі, затым голас Анці. “Адчыняй!” – патрабавальна выгукнуў. Дзверы расчыніліся, і Бандаровіч, ашаломлены сваімі здагадкамі, уляцеў у хату. Агледзеўшы шалёнымі вачамі ложак з усіх бакоў і печ, ускочыў на другую палову хаты. У вочы кінулася тумбачка з настольнай лямпай,

рэчы, якіх раней не было, скамечаны ложак. Не гледзячы на Анцю, выкрыкнуў: “Дзе ён?” Не пачуўшы адказу, ачмурэлы, зазірнуў пад ложак. Збоч пачуў Анцін голас:

– Слава, ку-ку. Я тут. Уставай, подлы трус!

“Ах, ты яшчэ і здзекуешся з мяне, – мільганула злосная думка ў Бандаровіча, – зараз я табе...” Ён падняўся з падлогі, павярнуў галаву да Анці і ледзь не самлеў. Ад той жонкі, якую бачыў перад ад’ездам у пушчу, застаўся адзін успамін. Перад ім стаяла стройная чужая маладзіца ў шыкоўным атласным халаціку. У адной руцэ яна трымала кніжку, другой адкідвала са схуднелага твару пафарбаваныя ў каштанавы колер валасы.

– Ну ты і... – гэта ўсё, што мог вымавіць Бандаровіч.

Яна ўсміхнулася, падскочыла некалькі разоў на адным месцы, прапела:

– Сла-ва, а-у-у...

Бандаровіч не мог уцяміць, што адбылося з яго жонкай. Усяго за адзін каляндарны месяц – такі кароткі прамежак часу – скінуць усё лішняе, непатрэбнае, здавалася, не пад сілу жанчыне, асабліва яго Анці. Гэта ўсё роўна, што яму ўручную зрабіць брус з бервяна за паўгадзіны. Ніколі не здолеў бы. А тут глядзі і не вер сваім вачам.

– Як гэта разумець? – усё яшчэ стоячы перад жонкай на адным і тым жа месцы, запытаўся Вячаслаў.

– Надакучыла, Слава, тое жыццё, як горкая рэдзька, – адказала Анця і падышла бліжэй да яго, – распранайся, ты ў сваім доме.

Дапамагла яму сцягнуць з ног боты, паставіла іх каля цёплай грубкі, павесіла кажух на жэрдку.

Вячаслаў падняўся з услончыка, падышоў да жонкі, абняў яе. Зазначыў, што змяшчаецца пад адну руку.

Анця не супраціўлялася. Прытуліла свае

маленькія кулачкі да грудзей, паклала галаву яму на плячо. Суцішылася, бы чакаючы нечага.

Вячаслаў не знаходзіў слоў. Збянтэжана, бы хлопец, шукаў выйсце. У вочы кінулася кніжка. "Яна чытала, а я падумаў што з кімсьці размаўляе. Але навошта чытаць уголас? Можа, запытацца? Не, няёмка. Трэба самому дапяць".

– 9 –

Кляцішча рыхтавалася да сустрэчы Новага года. У хатах сям-там, дзе былі дзеці, гарэлі агні на ёлках, блішчалі развешаныя пад столлю самаробныя папяровыя гармонікі вохрыстага колеру.

Па-святочнаму выглядала ў гэтыя дні і лясніцтва. Ля ўвахода ў службовы будынак устанавілі ёлку, паабвязвалі яе самаробнымі сцяжкамі, фанцікамі, уздоўж расцягнулі бліскучую мішуру. Гэтую прыгажосць зрабілі жанчыны з бухгалтэрыі. Яны папрасілі ляснічага прывезці ёлку ў двор. Ідэю жанчын Падзёлка спачатку не ўхваліў, маўляў, на першым плане больш сур'ёзныя задачы, якія трэба вырашаць, аднак у той жа дзень леснікі даставілі прыгажуню з дзялянкі, абазначанай пад высечку дрэў для продажу гараджанам.

– Гляджу я, бабы, на гэтую прыгажосць, – прызналася Стася Чыбук, седзячы каля акна, у якім красавалася ёлка, – і думаю: стаяла дрэўца сярод падобных, расло, здаецца, нічым не вылучалася сярод іншых, пакуль яго не паставілі на месца, на якое нельга не зірнуць, апранулі, падмалявалі, і – хоць замуж аддавай. Так хочацца змен, абрыдла ўсё.

– Ну навошта ты так, Стася, – пашкадавала яе Ядвіга Варакса, – мне горш, чым табе, але не плачу. Твой хоць не выпівае, ды і ўвогуле крыўдаваць на Віктара нельга. Каб мне такога, зразумей мяне правільна, дык я б, як кажуць, і ў вус не дзьмула.

– Я разумею цябе. Ведаю, што добры,

цягавіты да працы, але яму не хапае ўважлівасці. Не цікавіцца жыццём сына, як ён там, у Стоўбцах, не заўважае мяне. Бачыць толькі свой любімы занятак. Сам у сабе, разумееш, пасяліўся і жыве. Я яму непатрэбна. А так хочацца быць запатрабаванай, як гэта ёлачка, каб...

Стася не дагаварыла. У бухгалтэрыю ўскочыла Анця Бандаровіч і з парога выкрыкнула:

– Дзеўкі, навіна! – хуценька крутнула шалік, абвязаны вакол шыі, расшпіліла гузікі паліто. Толькі перш, чым раскажу, – працягвала Анця, – давайце дамовімся, што гэта сакрэт.

Жанчыны заківалі галовамі.

– Маўчанне – знак згоды, – зазначыла Бандаровіч, – тады слухайце. Я толькі што з бібліятэкі. Святоцкая пераняла па дарозе, запрасіла да сябе. Спачатку размова пайшла пра ўсё і ні пра што, а потым Арына канкрэтна пацікавілася тымі практычнымі заняткамі, якія дазволілі мне скінуць вагу. Я пачала расказваць, а потым задумалася: навошта Святоцкай з вытачанай фігурай спатрэбіліся практыкаванні па шэйпінгу. Не паверыце, расказваю ёй, што ды як, яна нешта занатоўвае з маёй размовы ў сшытак, а я гляджу на яе твар і бачу, што яна... цяжарная яна...

– А мы, дурніцы, – ляпнула далонню па стале Чыбук, – раздумваем, чаму гэта Падзёлка пасур'ёзнеў... Ну і што ж гэта будзе?..

– А тое і будзе, што будзе, – зазначыла Бандаровіч. – Гледзячы на ляснічага, здаецца, што разводу яму не мінуць. Святоцкая, як мне падалося, выпытвала ў мяне пра заняткі, каб захаваць дзіця здаровым.

– Правільна, – падхапіла Варакса, – каб захацела пазбавіцца дзіцяці, тады б распытвала мяне. Ёсць вопыт.

Жанчыны пераглянуліся.

– Мне яшчэ падалося, – працягвала гаворку Бандаровіч, – што Святоцкая быццам шукае са мной больш блізкіх адносін.

– Не трэба нам такіх сябровак, – сказала як адрэзала Варакса. – Абыдземся і без такіх фіф.

– Дарэмна ты так пра Арыну, – заступілася Стася Чыбук. – Прызнацца, я таксама баялася, што яна распусціць плёткі пра нас з вучоным, таму і выцягнула з дыпламата Падзёлкі яе трусікі, каб можна было потым тыцнуць у морду. Але ж бачыце, да сёння ніхто не гаворыць і нават не здагадваецца, што мы нарабілі ў той дзень.

– Нічога мы дрэннага не нарабілі, – прызналася Бандаровіч. – Каб не было таго дня, – Анця крыху памаўчала, потым працягнула гаворку, – не было б і мяне вось такой, сённяшняй, – яна крутнулася на адной назе, зрабіла некалькі танцавальных рухаў.

Варакса не зводзіла з яе вачэй, любавалася. Не вытрымала, прызналася:

– Зайздрошчу я табе, Анця. Гэта ж трэба мець такую сілу волі, каб перайначыць сябе... Можа, мне паспрабаваць?

– Твая праўда, – пацвердзіла Бандаровіч, – вечарам усе прыходзьце да мяне. Крыху пазаймаемся практыкаваннямі, а потым і Новы год разам сустрэнем. Што скажаце?

Жанчыны думалі над прапановай Анці. Яна тым часам зноў падскочыла на месцы, пляснула ў далоні, прызналася:

– Яшчэ ж адна навіна. Зусім галаву згубіла. Учора апоўначы мой мужычок з'явіўся дадому. Бачылі б вы, як ён на мяне глядзеў, як дагаджаў. Быццам вярнуліся назад замужнія гады.

– Цікава, – здзівілася Варакса, – а мой не прыйшоў. Напэўна, там хапае гарэлкі.

– Якраз усё наадварот, – даказвала Бандаровіч. – Гарэлкі ў іх няма і кроплі. Начальства кружыцца вакол іх штохвілінна, там днююць яны і начуюць. Выразаюць лесасеку пад дарогу. Мой праз гадзіну зноў сышоў у пушчу.

– Дык Вячаслаў за гарэлкай прыбягаў? – пацікавілася Стася Чыбук.

– Я таксама адразу так падумала, а потым... не паверыце... Ляжу вечарам у ложку і чытаю ўслых кнігу, такім чынам трэнірую памяць. А ён пад акном падслухоўвае. Ускоквае, ашалелы, у хату і дзесяць хвілін шукае майго палюбоўніка. Бачу, так узяла яго рэўнасць, што мне боязна стала. Быццам тыя пачуцці, якія былі ў мяне, калі ён цягаўся за чужымі спадніцамі, зараз перайшлі да яго.

– Так і ёсць, – згадзілася Чыбук з Анцінымі думкамі і пацвердзіла, – ты раптоўна для яго змяніла сваё жыццё, змянілася сама, праявіла самастойнасць і незалежнасць. Вось яго і ахапіў страх.

У дзверы бухгалтэрыі пастукалі, і Стася замоўкла. Хацела крыкнуць: “Уваходзьце!”, але яе апярэдзіла Ядвіга Варакса. У кабінет увайшоў старшыня сельсавета Вацлаў Гарніцкі. Зняў шапку з галавы, павітаўся, потым спытаў пра Падзёлку.

– Толькі што быў тут, – ускочыла з месца Стася і, прапаноўваючы старшыні сесці, дадала: – Я зараз гляну, калі рэчы засталіся ў кабінеце, значыць, недзе блізка тут.

Гарніцкі падзякаваў Стасі, кінуў на яе ўважлівы позірк, прайшоў да акна. Яму спадабалася манера жанчыны, якая не стала размазваць пра тое, дзе можа быць ляснічы, а ўскочыла з-за стала, бы птушка, і паляцела. “Гэта рэдкасць для жанчыны, – падумаў Гарніцкі, – трэба прыглядзецца да яе, ацаніць”. Ён распытаў жанчын, як будуць сустракаць Новы год, хацеў расказаць цікаўнай Ядвізе Вараксе пра асабістыя планы на навагодні вечар, але ў кабінет вярнулася Стася Чыбук. Яна спецыяльна не села за свой рабочы стол, падышла да Гарніцкага і з жалем сказала, што Падзёлкі, хутчэй за ўсё, сёння ў лясніцтве не будзе.

Старшыня сельсавета не зводзіў з яе вачэй. Нутром адчуваў, што ў гэтай жанчыне ёсць нешта такое, чаго ён раней не заўважаў.

Падкупілі пачуцці, якія так выразна чыталіся ў яе зялёных вачах, пявучым голасе і выразнай міміцы на прыгожым твары.

Гарніцкі шчыра падзякаваў Чыбук, сказаў, быццам адказваў на пытанне Вараксы:

– Еду дадому ў Налібакі. Там і сустрэну Новы год.

Дапытлівай Ядвізе цікава было ведаць, як мясцовы начальнік – яшчэ больш займала яго халасцякоўства – весяліцца на такіх святах. Але надта хуткая Стася Чыбук апярэдзіла і пацікавілася, ці можа Гарніцкі забраць яе ў Налібакі, маўляў, захацелася перад святам праведаць маці, павіншаваць.

– З задавальненнем падвязу. Колькі вам патрэбна часу падрыхтавацца?

– Пяць хвілін, – адказала Стася, адчуваючы, як выступіў пот на лбе і шчаках.

Гарніцкі развітаўся з жанчынамі, выйшаў на двор. Чыбук схапіла паліто, пачала апранацца. Дзве пары вачэй цікавалі за кожным яе рухам. Стася зразумела маўклівае пытанне сябровак, не спяшалася з адказам. Нарэшце нацягнула на галаву футравую шапку, сказала:

– Паеду. Сапраўды трэба маці праведаць.

– А навагодні вечар? – запыталася Бандаровіч.
– Дамаўляліся, што разам сустрэнем.

І Варакса пачала ўпрошваць Стасю, каб не ехала з Гарніцкім.

– Ты ж ведаеш, што пра яго расказваюць. Бабнік – свет такога не бачыў. Апамятайся, Стася. Заўважаць людзі, што скажа твой Віктар.

– А я, можа, і хачу, каб мой, а можа, і не мой Віктар ведаў пра гэта. Можа, як і Анцін Вячаслаў, заўважыць, што ў яго ёсць жанчына. Так што бывайце, – яна абняла Анцю, потым Ядвігу, шчыльна зачыніла за сабою дзверы.

Бандаровіч і Варакса правялі яе позіркам да самай машыны, пакуль тая не зрушыла з месца.

– Паехала наша Стася ў новае жыццё, – заначыла Анця.

– Хай ёй бог памагае, – перахрысцілася Ядвіга.

– 10 –

Тэрмін вяртання лесарубаў дамоў зноў адцягнуўся. Спачатку казалі, што застануцца на тыдзень, потым – на другі, а калі на дзялянку прыехала начальства з Мінска, лесарубы зразумелі, што давядзецца працаваць да той пары, пакуль не будзе цалкам расчышчана месца пад пракладку дарогі. Высокае начальства прыехала не выпадкова. У міністэрства звярнуліся некаторыя жонкі лесарубаў са скаргамі, што, маўляў, ва ўласных гаспадарках узнікла шмат праблем, якія без мужчынскіх рук рашыць немагчыма, ды і дзеці плачуць, хочуць пабачыцца з бацькамі. Спыняць працу, ставіць тэхніку на прыкол ды развозіць брыгады па навакольных вёсках начальству было, як кажуць, не на руку. Арганізаваць такую паездку дамоў на дзень-другі можна было, іншая справа – сабраць потым людзей ды прывезці іх у пушчу. Таму і было на высокім узроўні прынята рашэнне, якое дазваляла не спыняць работу і супакоіць сем'і. Начальства прыехала з бухгалтарам, які гатовы быў выдаць зарплату і навагоднія падарункі кожнаму. Перад выдачай грошай выступіў старшыня сельсавета Вацлаў Гарніцкі. Ён прапанаваў лесарубам не атрымліваць самім зарплату – не будзе ж кожны цэлы месяц насіць грошы ў кішэні, у лесе ўсялякае бывае, – а даверыць выдаць яе жонкам ці родным.

Большасць лесарубаў прынялі прапанову старшыні сельсавета, пагадзіўшыся, што яна слушная, і напісалі распіскі. Знайшліся аднак і тыя, хто не хацеў аддаваць грошы ў сем'і. Сярод іх быў і Аляксей Варакса. Пакуль таварышы па працы давалі распіскі, ён раздумваў, як і дзе схаваць грошы, каб выкарыстаць іх самому, а не прасіць потым у Ядвігі. Жонка можа даць грошай на адну-дзве пляшкі гарэлкі, а яму

патрэбна іх пяць-дзесяць. Таму і не паслухаў Бандаровіча з Вадамцэвічам, якія адмовіліся ад зарплаты, а атрымаў грошы ў рукі. Навагодні падарунак з цукеркамі адаслаў дамоў, а грошы склаў у поліэтыленавы пакет. Трымаючы ў руках ладны стос вагой з паўкілаграма, Варакса пашкадаваў, што не папрасіў бухгалтара, каб той выдаў банкноты большай вартасці. Не здагадваўся, што менавіта пра такіх, як ён, і "паклапаціўся" Гарніцкі: папрасіў бухгалтара выдаваць зарплату дробнымі грашамі.

Першая думка, якая прыйшла Аляксею ў галаву – закапаць грошы пад які-небудзь корч. Але паразважаўшы, адмовіўся ад яе. Пакласці Бандаровічу ў лесавоз ці Вадамцэвічу ў тралёвачны трактар таксама нельга. Яны і самі не рызыкнуць узяць. У вагончыку не пакінеш. Заставалася адно: насіць пры сабе. Але як, якім чынам раскласці пачкі купюр, каб яны не згубіліся? Можа, зашыць у ватоўку? Ідэя добрая, але патрэбен час. Ён якраз і змушаў Вараксу ўжо ісці на дзялянку, бо ўсе даўно разышліся па сваіх рабочых месцах. Аляксей, доўга не думаючы, перавязаў пакет доўгай стужкай, і, павесіўшы яго на шыю, апусціў у штаны. "Калі і павывальваюцца пачкі, дык усё роўна застануцца ў калашынах", – падумаў.

Дарожка на лесасеку ішла паўз два вагончыкі – кухню і медпункт. Вячаслаў ужо мінуў першы вагончык, як з другога да яго выйшлі кухарка Альберта Калкоўская і фельчарка Яніна Вялічка. Глянула на Вараксу кухарка і пытаецца: "Што гэта ў цябе ў штанах вырасла?" Аляксей усміхнуўся, хацеў абысціся жартам, але медычка апярэдзіла: "Вядома, што ў яго штанах можа вырасці. Гаротнік, пэўна, з жанчынай месяц не быў, дык мабыць у мроях паганяў коніка галопам". Жанчыны зарагаталі, а Аляксей, прамаўчаўшы, пайшоў далей. Да яго далятталі словы кухаркі: "Трэба запасацца гумовымі жанчынамі". Варакса не вытрымаў

гэтых кпін, пачакаў, пакуль жанчыны ўвайшлі ў вагончык, вярнуўся назад і аддаў грошы Гарніцкаму.

Пра гэты выпадак Віктару Чыбуку расказаў дырэктар лясгаса Фелікс Янушкевіч. Пасля папрасіў:

– Ты вось што, Віктар Андрэевіч, падумай, які падарунак нам зрабіць хлопцам. Некаторым вальшчыкам выпішам прэміі, а вось Бандаровічу, Вадамцэвічу і Вараксу трэба нешта іншае.

Віктар, лёгкі на ідэі, прапанаваў зрабіць кожнаму электрашафу для прыгатавання вяндліны. Дырэктар згадзіўся з прапановай, і Чыбук адразу ўзяўся за распрацоўку. Займацца такімі справамі, дзе патрэбна было падумаць і зрабіць такое, чаго не купіш у краме, Віктар вельмі любіў. У такія гадзіны ён забываў пра ўсё, цалкам аддаваўся ідэі, і толькі тады, калі яна ўвасаблялася ў матэрыяльную рэч, вяртаўся да рэальнасці. Толькі тады ён заклапочваўся праблемамі, якіх назбіралася ў гаспадарцы, заўважаў жонку, успамінаў сына, які жыў у Стоўбцах.

Неўзабаве напярэдадні прыезду лесарубаў дадому дырэктар лясгаса з цікаўнасцю разглядаў гатовыя электрашафы, потым прызнаўся:

– Ганаруся я табой, Віктар. Залатая ў цябе галава, залатыя рукі. У каторы раз ты мяне здзіўляеш сваім вынаходніцтвам. Здаецца, і ўніверсітэтаў не заканчваў, а рэчы, якія выходзяць з тваіх рук, некаторым вучоным не па сілах. Разам з тым... – дырэктар крыху памаўчаў, быццам думаў: гаварыць ці не, – мяне трывожыць лёс тваёй сям'і. Прыгледзься больш уважліва да жонкі...

– Фелікс Бярнардавіч, вы, напэўна, маеце на ўвазе плёткі пра Стасю... – перапыніў яго Чыбук. – Быццам яна з Гарніцкім блытаецца... Не веру я.

– Я, Віктар Андрэевіч, цябе не запэўніваю. Прашу хіба што пры-гле-дзец-ца.

Толькі цяпер да Чыбука дайшоў сэнс дырэктарскіх слоў. У той жа дзень ён прыйшоў з працы раней на цэлую гадзіну. Як заўсёды, управіўся з гаспадаркай, распаліў печ. Стасю чакаць не стаў, павячэраў адзін. Ведаў, што па пятніцах яна з'язджала ў Налібакі да маці. Ён і сам не супраць з'ездзіць да цешчы, але кінуць жывёлу нельга. Нехта адзін павінен заставацца дома. Сустрэчы з маці акрылялі Стасю, ён бачыў, як яна потым цэлы тыдзень хадзіла вясёлая і радасная.

Віктар прыбраў дровы з падпечча, падмёў падлогу. Пасля сабраў раскіданую адзежу, аднёс у шафу і расклаў на паліцы. Калі быў наведзены парадак, уключыў тэлевізар. Даўно не падыходзіў да яго, аддаваў перавагу тэхнічнай літаратуры ды канструяванням. Гэта быў любімы занятак. Да любога старога механізма – тэлевізар гэта, швейная машынка, аўтамабільны вузел ці асобная дэталь – ён дабаўляў свае распрацоўкі і атрымліваў новы агрэгат, які выгадна адрозніваўся ад стандартнай прадукцыі. Вяскоўцы, жыхары навакольных вёсак ведалі таленавітага майстра, часта прасілі адрамантаваць нейкія патрэбныя ў гаспадарцы механізмы.

Астатні вечар, як і наступны дзень, Чыбук правёў у адзіноце. Яна, вядома, адрознівалася ад ранейшай, калі заставаўся на гаспадарцы, тым, што была запоўнена думкамі пра Стасю. Словы дырэктара лясгаса, якога Віктар паважаў за сумленнасць, справядлівасць і жыццёвую мудрасць, заселі недзе глыбока ў душы і час ад часу прымушалі да іх вяртацца.

У нядзелю, пасля таго як у леспрамгасе ўрачыста сустрэлі лесарубаў, Віктар зазбіраўся ў Налібакі. Сеў на ровар і ўжо праз паўгадзіны быў у вёсцы. Састарэлая цешча не чакала дарагога зяця, таму спешна пачала збіраць на стол, расказваць пра свае хваробы. Віктар быў уважлівы да старой, называў мамай, таму зараз ён не спяшаўся пытацца пра Стасю, прысутнасць

якой у хаце не заўважалася. Разлічваў на тое, што загадка павінна раскрыцца сама па сабе. І сапраўды, пасля доўгіх скаргаў на здароўе старая пашкадавала, што неяк атрымліваецца не па-людску, маўляў, прыязджаеце не разам, а па адным. "Стася была ўчора, – прызналася цешча, – а ты нечакана з'явіўся сёння". Слухаць далей старую, падманваць яе ды і сябе таксама Чыбуку не захацелася. Для прыліку паспытаў пра сёе-тое, развітаўся і паехаў дахаты. Словы дырэктара лясгаса ўсплылі зноў. Цяпер гэта папярэджанне сапраўды яго турбавала.

Дамоў Чыбук прыехаў вечарам. Стасі яшчэ не было, і ён зноў упрогся ў гаспадарку: напаіў каня з каровай, паклаў ім сена, укінуў мешанку свінням, не забыў пра сабаку з катом. Сам сеў перакусіць толькі а дзясятай гадзіне вечара. Безапетытна зжаваў бульбіну з салам, выпіў кубак гарбаты і пайшоў у ложак. Прачнуўся апоўначы. Здагадаўся, што прыехала ці прыйшла – раней не задумваўся – Стася. Чутна было, як распранаецца, п'е ваду з вядра. Неўзабаве лягла ў ложак. Ад яе пахла гарэлкай і курывам. Вядома, што заснуць Віктару пасля таго, што пачуў ад цешчы, не ўдалося. Ён і не сіліўся. Ляжаў, думаў, што рабіць, як разумна разабрацца з абставінамі. Не прыйшоўшы ні да якой высновы, падняўся, выйшаў у залу. Уключыў настольную лямпу, прысеў на стул. На другім, суседнім, стуле валялася раскіданае жончына адзенне. Раптам заўважыў у падкладцы сукенкі за разарваным крыху швом нешта бліскучае. Віктар нахіліўся, прыгледзеўся. Гэта была пячатка. Яе адбітак праглядаўся на падкладцы ў некалькіх месцах. Чыбук узяўся за бліскучую ручку, пацягнуў пячатку да сябе, падсунуў яе бліжэй да лямпы. Запэцканы чарнілам у люстраным адбітку тэкст цяжка было прачытаць. Доўга не раздумваючы, паставіў пячаткай на вокладку кніжкі. Прачытаў: "Прудскі сельскі Савет Стаўбцоўскага раёна".

“Вось табе і доказы, – разгублена падумаў Віктар, – не трэба ўслед бегаць за спадніцай, падглядваць, для каго яна задзіраецца. Неабходна ўважлівей прыгледзецца да чалавека, як параіў дырэктар лясгаса, адчуць, чым, якімі марамі ён жыве, чаго хоча дасягнуць у сваім жыцці. Тады і ўбачыш не тое, што хацеў, а тое, што ёсць. Тады не давядзецца цягнуцца да локця, каб укусіць сябе, не давядзецца штодня сябе грызці. Дзякуй табе, Фелікс Бярнардавіч, вылечыў ты маю слепату адным разумным словам “пры-гле-дзец-ца”.

Гэтае слова круцілася ў галаве Чыбука да таго часу, пакуль не спыніў позірк на дзвярах, за якімі адпачывала Стася. Агарошаны сваёй знаходкай, загнаны ў тупік незвычайнай сітуацыяй, ён, ідучы ў спальню, уяўляў, нават бачыў адбітак гэтай пячаткі на жончынай скуры. Прыадчыніўшы дзверы, Віктар спыніўся. Стася спала моцным сном. З заміраннем сэрца Чыбук, укленчыўшы перад ложкам – ніколі такога раней не рабіў – асцярожна прыўзняў коўдру. Такімі ж чорнымі, толькі крыху расцёртымі, адбіткамі была пакрыта яе нага. Задраць вышэй начную кашулю Віктар не адважыўся, хаця быў упэўнены, што след пячаткі застаўся і там, на грэшнай частцы цела. Выйшаў са спальні ашаломлены. Адчуванне было такое, быццам яго аблілі бруднай смярдзючай жыжай. Памыў з мылам рукі, спаласнуў твар і сеў за стол, каб усё дэталёва абдумаць.

– 11 –

Гэты панядзелак для Стасі Чыбук стаў самым цяжкім днём за ўсё мінулае жыццё. Як толькі прачнулася, адразу адчула боль у галаве. У роце перасохла, невыносна хацелася піць. Прыўзнялася ў ложку. Віктара ў спальні не было. “Напэўна, зноў начаваў са сваімі схемамі”, – падумала. Пачала прыпамінаць, што,

здаецца, ён спаў, калі яна прыйшла. Правільна, спаў і нават не пачуў, як яна лягла побач.

Стася трасянула галавой, абаперлася на калені. Спачатку быццам нешта падалося, а калі ўважліва прыгледзелася, выразна ўбачыла на правай назе чарнільную плямку. Стася выпрастала нагу. Так і ёсць: яна была запэцкана невялікімі кружкамі, быццам пячаткамі. Захацелася ўстаць, агледзець сябе ў люстэрку.

Нечакана ў спальню ўвайшоў Віктар. Стася схамянулася, апусціла ногі на падлогу.

– Што, аглядваеш сваю гаспадарку? – запытаў муж.

Стася разгубілася, не ведала, што сказаць, таму змоўчала.

– Ну як там, расказвай, – Віктар склаў рукі на грудзях, прытуліўся плячом да вушака.

– Усё нармальна, – сказала тое, што імгненна прыйшло ў галаву, і дадала: – Была ў маці... праведала старую. Праўда, крыху запазнілася...

– Не ты, Стася, запазнілася. Гэта я позна глянуў на цябе.

– А ты на мяне ніколі і не глядзеў, – ужо больш упэўненым голасам, са штучнай крыўдай адказала жанчына, – з электрасхемамі жыў. Яны табе замянялі жонку.

Віктар усміхнуўся.

– Не адмаўляюся, што работа захапіла мяне, аднак я ніколі не здраджваў табе, быў верны.

– Што ты маеш на ўвазе? – з падтэкстам запыталася Стася.

– А тое і маю на ўвазе, што пацвярджае твая нага. Добра, – Віктар наважыўся выйсці са спальні, – не варта дарэмна час губляць. Пакуй свае рэчы і айда да Гарніцкага ў Налібакі. Калі не паслухаеш мяне, усё раскажу людзям, а яму не аддам сельсавецкай пячаткі.

...Збянтэжанасць блукала па твары Стасі Чыбук, калі тая прыйшла на работу ў лясніцтва. Анця Бандаровіч адразу гэта прыкмеціла, таму,

як толькі Стася, павесіўшы паліто ў шафу, села за рабочы стол, тут жа падышла да яе.

– Што здарылася? – запытала.

Да іх падбегла і Ядвіга Варакса. Як заўсёды, гатовая дапамагчы ў любую хвіліну, яна разгублена глядзела на сябровак.

– Нагулялася я, – прызналася Стася, – не ведаю, што рабіць. Узяць з Віктарам развод змагу, а вось ці буду жыць з Вацлавам, пакуль не ведаю.

– Дык што адбылося? – ужо больш настойліва, са злосцю дапытвалася Анця.

Стася задумалася. Ёй не хацелася гаварыць пра пячатку нават сяброўкам. Вельмі далікатны выпадак, які мог выйсці на ўсенароднае кляцішчанскае, а хутчэй за ўсё, і навакольнае, аж да Мінска, абмеркаванне. Таму, як бы яны ўтрох не былі паяднаны грэшнай повяззю з вучонымбалотазнаўцам, усё ж даверыцца жанчынам Стася не адважылася.

– Нічога незвычайнага не адбылося, – адказала, – пагаварыла з Віктарам, згадзіліся абодва... так жыць далей нельга.

– І што цяпер, – ужо не вытрывала Ядвіга, – што думаеш далей?

– Мне патрэбна як мага хутчэй сустрэцца з Вацлавам.

– Ты ж учора з ім бачылася, – бы папракнула сяброўка.

– Учарашняга, любачка, не вернеш, – з глыбокім падтэкстам адказала Стася. – Каб жа была такая магчымасць... Напэўна, была б мудрэйшая. Вось так, жанкі. Так што, скажыце Падзёлку, што я прыхварэла.

Стася выйшла з лясніцтва, адчуваючы на сабе недвухсэнсавыя погляды сяброўак.

– Не паверыш, Анця, – прызнавалася Ядвіга, – неяк Стася зайздросціла навагодняй ёлцы, што стаяла ў нашым двары, маўляў, расла яна сярод роўных, ніхто не звяртаў ніякай увагі. А як толькі вырвалі, упрыгожылі – усе глядзяць,

не налюбуюцца... Стасі так хацелася змяніць сваё жыццё...

– Цяжка сказаць, Ядзечка, што яе чакае, – паспачувала Анця, – можа, зменіць шыла на мыла, а можа, і шчасце сустрэне. Бог ведае. Мой Вячаслаў лётае за мной як ашалелы. Ніколі не думала, што мужыка можна так прыручыць. Нават не верыцца, Ядзечка. Учора прыбегла да нас Вера Ямелька, што з Лявонам Вадамцэвічам жыве. Ну, ведаеш?

– Чаму ж не ведаю, – Ядзя лацвей уселася за сталом.

– Вячаслаў мой навыдумляў розных гісторый, быццам з ёй, Верай, некалькі разоў спаў. Расказаў гэта, каб укалоць Вадамцэвіча, пасмяяцца з яго, а той успрыняў усё ўсур'ёз, ды і паганяў Верку. Яна яго, вядома, выправадзіла б са свайго дома, аднак пакуль яго зарплату не прап'е, гэтага не зробіць. Таму і прыйшла ўчора прасіць майго, каб прызнаўся Лявону, што паміж імі нічога не было.

– А ты ў гэтым упэўнена? – нечакана запыталася Ядзя.

Анця замоўкла, пільна паглядзела на сяброўку.

– Ты думаеш, што мой Слава мог палезці на гэту небараку?

– Я не думаю, бабы гаварылі...

– Ну... – Анця схапіла паліто, на хаду нацягнула на галаву шапку, выкрыкнула: – Я яму зараз намылю галаву!

Крыху пазней Стася Чыбук пад'ехала да Прудоў. Упэўненым крокам мінула прыёмную сельсавета, у якой нікога не было, рашуча адчыніла дзверы да старшыні.

– О! – узрадаваўся Гарніцкі, зладзеявата глянуўшы ў вокны. – Ты мне якраз і трэба.

– Ты мне таксама, – лагодна, але ў той жа час рашуча адказала Стася. Расшпіліла паліто, кінула на стул.

Гарніцкі не надаў ніякага значэння гэтаму дзеянню, заклапочана запытаўся:

– Слухай, учора згубіў пячатку. Ніякай работы няма. І куды толькі я мог яе ўсунуць?

– А вось куды, – Стася нечакана для Гарніцкага прыгнулася, задрала спадніцу ўверх.

Ашаломлены старшыня аж падаўся назад, прыціснуўся да сценкі так, што з цвіка ледзь не зваліўся на падлогу партрэт кіраўніка дзяржавы.

– Ты што, здурнела! – выкрыкнуў Гарніцкі, ліхаманкава кідаючы позіркі на дзверы і вокны.

– Не, Вацлаў Канстанцінавіч, – Стася выпрасталася, паправіла спадніцу. – Гэта мы здурнелі, абодва.

Падышла да яго, пранікнёна зірнула ў вочы.

– Ты, мабыць, яшчэ не зразумеў, куды мы падзелі тваю паршывую пячатку, – Чыбук падняла нагу і паставіла боцік на старшынёўскае крэсла. – Глядзі сюды! – яна зноў прыўзняла спадніцу.

Толькі цяпер Гарніцкі заўважыў на Стасінай назе адбіткі сельсавецкай пячаткі. Нечакана ён разрагатаўся, ды так, што аж прысеў.

– Смяяцца потым будзеш, Вацлаў, калі знойдзеш пячатку, – Стася села на старшынёўскі стол, раскінула ўшыркі ногі, каб напомніць, пры якіх абставінах згубілася пячатка.

А Гарніцкага ахапіў яшчэ большы смех. Забыўшыся на ўсялякую асцярожнасць, ён корчыўся на падлозе. Смяяўся з-за ўпэўненасці ў тым, што пячатка знайшлася, і яна ў Стасі, таму жанчына зараз так і манежыцца, хоча прымусіць яго ўспомніць учарашні вечар тут, у сельсавеце, на ягоным стале.

Смех Гарніцкага раптам сціх, бо ў Стасі паліліся слёзы. Ён падняўся з падлогі, стаў суцяшаць жанчыну:

– Ну годзе, годзе... не крыўдуй... я ж смяяўся з твайго акцёрскага таленту...

– Дурань ты, – выкрыкнула Стася, выціраючы

слёзы рукой. – Ты яшчэ не скеміў, што пячаткі няма?

– Як няма? – сур’ёзна запытаў Гарніцкі. – Дзе ж яна тады?

– У майго Віктара... – Стася скокнула са стала, падышла да акна.

– Ну і ну... – заклапочана затрос галавой старшыня. – Дрэнь справа.

Стася маўчала. Яна чакала ад Гарніцкага падтрымкі, маўляў, пячатка – гэта такая дробязь, што пра яе нават думаць не трэба. Галоўнае, што мы разам, і нам добра ўдваіх. Аднак да яе слыху даляцелі словы іншага кшталту:

– Трэба зрабіць усё магчымае, каб пячатку вярнуць. Калі гэтага не зробім, мяне вытураць з работы.

“Вось што яго хвалюе, вось пра што клапоціцца, нягоднік, – падумала жанчына. – Яшчэ ўчора, калі ўгаворваў у Налібаках паехаць з ім у сельсавет, быццам яго чакала там неадкладная справа, гаварыў пра тое, што ёй патрэбна вызначыцца: застаецца яна з Віктарам ці пераходзіць да яго жыць, а сёння, калі певень дзеўбануў у адно месца, дык адразу ў кусты. Не, такога не будзе. З дому мяне папрасілі праз тваю ласку, даражэнькі, туды дарога мне забаронена, я ведаю Віктара. А вось цябе, Вацлаў Канстанцінавіч, з першай хвіліны трэба запрагаць, як коніка, і гнаць галопам да той пары, пакуль не ўпарыцца адно месца”.

– Пячатку можна вярнуць толькі пры адной умове, – сур’ёзна сказала Стася. – Так сказаў Віктар. Прычым у катэгарычнай форме: калі мы не пажэнімся, то ён спачатку пакажа людзям маю сукенку ў адбітках, а потым аддасць яе разам з пячаткай у райсавет.

Гарніцкі заціх, задумаўся. Яму патрэбен быў час, каб унікнуць у сказанае Стасяй, вырашыць, чаго ён хоча: халасцяцкага жыцця ці рэзкіх змен і страты былой свабоды.

– 12 –

Лясная задуменная цішыня знікае, калі чалавек падыходзіць да нябачных пушчанскіх балотных берагоў. Тут вольна, лёгкімі павевамі, лашчыць твар вецер, далікатнай прамяністай цеплынёй адорвае сонейка. На першы погляд запусцелая, нікому не патрэбная мясціна, здаецца, нічым не можа завабіць чалавека. Але гэта толькі здаецца, бо ўжо ў першую хвіліну зачароўвае яе цнатлівая некранутасць. Яна здзіўляе загадкавым, багатым на гаючыя сілы раслінным светам. Трэба толькі пранікнуцца, удыхнуць поўнымі грудзьмі дурман балотнага водару, які міражна дрыжыць у паветры. Быццам у абдымках трымае цаліну, пакрытую тоўстым дываном сфагнавых імхоў, сярод якіх сям-там павылузваліся астраўкі-лысіны. На іх гаспадараць алешнікі – асноўныя насельнікі балот. Дрэва-працаўнік, моцнае і высознае, не капрызнае, насенне якога на двух лёгкіх крыльцах разносіцца ветрам па ўсім балоце.

Сям-там бачны прыгнечаныя бярозкі, невысокія з-за недахопу харчу і пастаяннага змагання з вільгаццю.

Сустракаецца і сасна. Пакрытая шызым лішайнікам, яна, як і бяроза, вымушана мірыцца з балотнай вільгаццю, расце вельмі павольна і ніколі не дасягае росту сваіх баравых сясцёр, што красуюцца ў пушчы. Пастаянная барацьба з вільгаццю выпрацоўвае ў дрэве шмат смалы, яно насычана ёю наскрозь, таму і не паддаецца гніенню.

Раптам нешта шумна зачмыхала. Гэта вялізныя чорныя з сінявата-фіялетавым адценнем пяра, з белай паласой на крылах і белым падхвосцем цецерукі збіраюцца на такавішча сярод імшыстых купін. Самцы пырхаюць, мармычуць, скачуць і б'юцца паміж сабой.

Аляксандр Кацярыніч чарпануў прыгаршчамі балотную ваду, прыгледзеўся да яе цёмна-бурай афарбоўкі. Пад сонечным промнем

яна адлівала цёмна-шэры, з сінню колер. На далонях засталіся шызыя плямы, што сведчыла аб наяўнасці жалезнай руды, якая пластамі залягала пад таўшчэзным тарфяным балотным покрывам.

Не верылася, што тут некалі быў сухадол, стаяў шыкоўны лес. Вучоны-балотазнавец Генадзь Дубавец расказваў, калі Кацярыніч адвозіў яго ў Аколава, што той лес у далёкім мінулым выгарэў. Пры якіх абставінах здарыўся пажар, ён не ведаў, але тыя сляды попелу, вуглі і абгарэлыя пні, якія знайшлі вучоныя ў першых слаях торфу, дакладна пра яго гавораць. У вышэйшых слаях захаваліся пячоначныя мхі і сцяблінны зялёнага моху. Пасля пажару мох пачаў засцілаць згарэлае месца тоўстым дыванам. Ён утрымліваў вільгаць, ствараў спрыяльныя ўмовы для ўтварэння балота.

Пасля доўгіх пошукаў цела паштальёна Вікенція Ройкі знайшлі ў трубе, праз якую пад дарогай цячэ Вадзічанька і на агляд якой Кацярыніч дарэмна прасіў дазволу ў начальніка крымінальнага вышуку Баляслава Тура. Сёння затрымалі Мішку Канавала. Узялі яго пасля таго, як Кацярынічу паведамілі калегі з Валожынскага раёна аб месцазнаходжанні падазронага. Праз некалькі хвілін Баляслаў Тур прыедзе сюды, ва ўрочышча Бруднае балота, каб скласці адміністрацыйны пратакол на трох іянчан: Пятра Макоўскага, Фёдара Галынскага і Дзмітрыя Яўсейчыка. Іх нелегальны занятак – скупку ў насельніцтва і свежаванне забітых жывёл у пушчы на ўскрайку балота – участковы дэталёва вывучыў пасля таго, як яны аднойчы зайшлі на хутар да Марыі Шуцька. Трэба было высветліць: яны прыходзілі туды, каб сапраўды аддзячыць Іосіфу Галаўко за падказку дарогі да ўрочышча ці запалохаць яго, каб трымаў язык за зубамі. Кацярыніч зведаў іх маршрут, месца, дзе яны свежавалі жывёлу. І вось сёння

прыйшоў той час, калі ім можна прад'явіць абвінавачанне.

Неўзабаве да яго падышоў начальнік крымінальнага вышуку. Службовую машыну ён пакінуў каля Рудні Налібоцкай, як і дамаўляліся з Кацярынічам, каб не спужаць парушальнікаў, а сам пайшоў напрасткі па лесе.

– Я б яшчэ з задавальненнем пяць-сем кіламетраў прайшоў, – прызнаўся ён. – Даўно не чуў такой цішыні, не дыхаў такім паветрам. Але спачатку дазволь цябе павіншаваць, – Тур моцна пацiснуў руку ўчастковаму, – ты малайчына. Адразу западозрыў Канавала. Мы прыязджаем сёння да яго з абласнымі аператыўнікамі і знаходзім у гаражы той самы аўтамабільны нумар, які запомніла жанчына з Пятрылавіч. Дык вось гэты нумар нідзе не зарэгістраваны.

– Можа, самаробка? – запытаўся Кацярыніч.

– Наўрад ці. Хутка зведаем. Давай лепш бліжэй да нашых баранаў.

– Баранчыкі нашы, – Кацярыніч глянуў на гадзіннік, – ужо хвілін сорак, як праехалі паблізу маёй схованкі. Так што калі мы зараз рушым, то якраз заспеем на месцы злачынства.

Яны накіраваліся ўздоўж балота і ўжо праз некалькі хвілін выйшлі на лясную дарогу.

– Куды гэта дарога вядзе? – пацікавіўся Тур.

– Яна злучае лясныя квадраты, – адказаў Кацярыніч. – Ад яе і знайшлі самы кароткі шлях да балота так званыя прадпрымальнікі. Я аглядаў яе. Сям-там яны падчысцілі для праезду павал, зрэзалі некалькі хваін. Галоўная іх задача была ў тым, каб непрыкметна для вока з'ехаць з гэтай дарогі ў лес. І трэба прызнацца, ім гэта ўдалося. Зараз убачыш. Вунь за той палянкай, – Кацярыніч паказаў рукой управа ад дарогі.

– У мяне такое адчуванне, быццам мы зноў на нешта наткнёмся. Памятаеш, як Падзёлку спужалі ў лесе?

– Чаму ж не памятаю, – адказаў Кацярыніч. – Дарэчы, у яго зараз вялікія праблемы.

– Што здарылася?

– Яго палюбоўніца, з якой ён тады бавіўся, цяжарная. З дому ён сышоў, да гэтай бібліятэкаркі не прыбіўся, дык днюе і начуе ў лясніцтве.

– Вось табе і на, – неяк невыразна выказаўся Тур і прысвіснуў. – Гульнуў мужык на сваю галаву.

– Людзі кажуць, што да нараджэння дзіцяці ён сыдзецца з Рыбанькай.

– Хто гэта?

– Так клічуць кляцішчанцы Арыну Свянтоцкую. Яна так часцяком называе дзяцей, калі тыя прыходзяць у бібліятэку.

Ступілі на прыціснуты коламі машыны чарнічнік і так, па следзе, увайшлі ў малады лес. Паміж сабой перасталі гаварыць, бо галасы маглі пачуць тыя, хто быў там, наперадзе іх, усяго за некалькі соцень метраў. Гэтую адлегласць Тур і Кацярыніч пераадолелі хутка, хаця праз некалькі метраў спыняліся, прыслухоўваліся да лясных гукаў. Калі ж нарэшце дабраліся да таго месца, адкуль была бачна машына, падвязаныя да жэрдак тушы жывёл, поўныя ванначкі ялавічыны, але ніводнага жывога чалавека, то адразу ж абодва скемілі, што дапусцілі памылку. Нельга было ісці ў поўны рост ды яшчэ весці гаворку. Не выпадкова ж зламыснікі так акуратна маскіравалі дарогу праз лес.

Міліцыянеры пільна агледзелі месца. Тры тушы віселі на жэрдках, а чацвёртая, разрэзаная на часткі, ляжала ў пластыкавых ванначках. Вантробы валяліся збоч ад машыны. Яна была зачынена, і абследаваць яе пакуль не было ніякай магчымасці. Адчувалася, і гэта кожны з міліцыянераў усведамляў, што гаспадары недзе тут, непадалёку, цікуюць за імі і спадзяюцца, што госці хутка пакінуць іх месца.

Рабіць гэта ні Тур, ні Кацярыніч не збіраліся. Кацярыніч прысеў каля сасны, зняў фуражку.

Нягледзячы на ранак, у лесе парыла. Раптам на галаву пасыпалася ігліца. Участковы змахнуў яе рукой, глянуў угору. Паміж галінамі сасны, аж на самай вяршаліне, ён заўважыў драўляны памост. Здагадаўся, дзеля чаго і хто гэта зрабіў. Кацярыніч паклікаў да сябе Тура. Незадаволены начальнік крымінальнага вышуку нехаця падышоў да ўчастковага, позіркам пытаючыся, што яму трэба. Той таксама моўчкі паказаў вачамі на вяршаліну сасны. Тур падняў галаву ўгору, рассмяяўся.

– А што, добрая мішэнь, – наўмысна гучна сказаў ён. – Можа, пальнём?

На памосце заварушылася голле, паказалася нечая галава. Пачулася: “Не трэба страляць... я злажу...” – і пасярод памоста адкрыўся люк. У ім паказаліся ногі, потым і ўвесь чалавек. Скокнуўшы на зямлю, малады хударлявы мужчына, гадоў пад трыццаць, з коратка падстрыжанымі вусамі змахнуў з сябе ігліцу, вінавата глянуў на міліцыянераў. Баляслаў Тур, не хаваючы радасці, запытаў:

– Што ты за птушачка?.. Якія ў гняздзе яйкі наседжвала?..

Мужчына маўчаў, апусціўшы ўніз галаву.

– Гэта Пётра Макоўскі, – падказаў Кацярыніч і звярнуўся да яго: – А куды падзеліся Галынскі з Яўсейчыкам?

Макоўскі па-ранейшаму маўчаў. Адчувалася, што ён яшчэ не вырашыў для сябе: прызнавацца, куды схаваліся памочнікі, ці сказаць, што не ведае ніякіх Галынскіх і Яўсейчыкаў, і ўзяць усю віну на сябе. Не разлічваў, што адзін з міліцыянераў (з Кацярынічам ён не быў знаёмы) будзе ведаць не толькі яго, але і хлопцаў. Унутраны страх авалодаў ім, ён не мог стрымаць дрыжыкі.

– Не ведаю... я... нікога... – ледзь выціснуў ён. – Я сам...

– Ага, так мы табе і паверылі, – усміхнуўся Тур і ўжо сур’ёзна дадаў: – Ты нас за дурняў

прымаеш? Можа, пакажаш, як ты адзін спраўляешся з тушай? Мы пааплядзіруем табе...

– Паслухай, Пётра, – схітрыў Кацярыніч, звяртаючыся да Макоўскага, – ты гаспадар машыны, ты скупляў жывёлу, таму табе і адказваць. А хлопцы тут ні пры чым, яны дапамагалі табе. Так што кліч іх сюды.

Макоўскі крыху пастаяў, падумаў. Потым, склаўшы далоні лодачкай, пракрычаў, як крачка. Ніхто не адгукнуўся. Ён зноў набраў поўныя грудзі паветра, закракаў. У лесе паўсюдна панавала цішыня.

– Не вернуцца яны, – прызнаўся Макоўскі. – Баязлівыя...

– А ты смелы? – запытаўся Тур і тут жа дадаў: – Жывёла, пэўна, крадзеная...

– Не, – адказаў Макоўскі. – Купіў ў Дзераўной і Несцеравічах. У мяне распіскі ёсць.

– Пісулькамі ты абзавёўся, – не здаваўся Тур, – а пад іх можна колькі заўгодна крадзеных жывёл асвежаваць.

– Я гэтым не займаюся, – цвёрда адказаў Макоўскі. – Можаце праверыць, я не баюся.

– Баяцца нас не трэба, – уступіў у гаворку Кацярыніч, – мы не звяры, табе нічым не пагражаем. Але ж мы павінны праверыць, хто крадзе жывёлу. У той жа Дзераўной прапала карова. Заява ўладальніка маецца. З калгаснага статка ўкрадзены дзве жывёліны. Можа, і не вы займаецеся крадзяжом, можа, нехта ведае пра ваш нелегальны занятак і, выкарыстоўваючы сітуацыю, каб спіхнуць на вас падазрэнне, выкрадае жывёл у тыя дні, калі вы тут свяжуеце. Разумееш?

Макоўскі яшчэ як разумеў Кацярыніча. Ён і не здагадваўся, што нехта, мабыць, з зайздроснікаў, робіць яму такую падставу. “А можа, міліцыянты гэта ўсё прыдумляюць, – падумаў ён, – спецыяльна правакуюць, каб больш расказаў? Не! Не дачакаецеся. Рабіце, што хочаце, буду маўчаць”.

– 13 –

Паўнаводныя берагі веснавой Усы прымусілі Марыю Шуцька ісці да кладкі-бервяна, якое было ўмацавана ўбітымі ў зямлю калкамі, каб трапіць да невялікай па памерах імшарыны з вельмі багатай раслiннасцю. Летам гэтай кладкай Марыя Іванаўна рэдка калі карысталася: у некаторых месцах на рэчцы ўтварыліся мелкаводныя ўчасткі, праз якія можна было прайсці пехатой. Вясной жа Уса паўнее. Вірлівая, неспакойная плынь бурліць, круціцца вакол карэнішчаў вольхі.

Некалі і яна, Марыя, як гэтая рэчка, маладая, прыгожая, поўная сіл і энергіі, птушкай прыляцела разам з мужам сюды, на пушчанскі хутар, каб ажыццявіць свае жаночыя планы. Нядоўга давялося радавацца шчасліваму жыццю – тут, недалёка ад кладкі-бервяна, дзе зараз стаяла яна, трагічна памёр яе Вячаслаў. Боль, адчай не раз выклікалі слёзы, не раз падштурхоўвалі змяніць месца жыхарства. Але як усё пакінуць, як адрачыся ад таго, да чаго прыкіпела душа, без чаго сэрца не можа біцца? І яна засталася. Насуперак страху і адзіноце. Якая, праўда, была нядоўгай.

Яшчэ ў разгар перабудовы грамадства пачалася раздача зямельных надзелаў для садаводства і агародніцтва. Абмежаваўшы ўласны зямельны надзел, Вячаслаў прывёў тады на хутар знаёмага з Мінска, адрэзаў яму кавалак зямлі. Чула душа, што не трэба было так рабіць, але што ж зробіш, калі ён, не паслухаўшы яе, рашуча даў згоду знаёмаму на будаўніцтва дома. Прайшоў час. Як толькі мужа не стала, сусед пачаў актыўна пашыраць межы свайго ўчастка. Чыноўнік усё ж такі, жыве ў Мінску. Мясцовае начальства хутка заахвоціў. Яны паспрыялі і пасадзейнічалі, каб адрэзаць у яе зямлю па самыя вуглы хаты. “Цярпі, Марыся, – казала сабе не аднойчы, – усё роўна нічога не зробіш”. Яна і цярпела, пакуль не прыбіўся

Галаўко. Рэзкі, іншы раз нястрыманы, Іосіф крыху сцішыў будаўнічы запал суседа, але ж не вядома, ці той спужаўся, ці, наадварот, рыхтуе што-небудзь дрэннае, каб напаскудзіць, адпомсціць за пагрозы. “Як там ні будзе, а дабром гэтае суседства не скончыцца, – не раз прыходзіла да такой высновы Марыя. – Няўжо давядзецца пакінуць гэтае хараство?” – пытала сама ў сябе, акідваючы позіркам абжыты куток сярод лесу.

Марыя цяжка ўздыхнула, пакрочыла далей. Наперадзе бег Рыжык. Ідучы па сцежцы, жанчына знаходзіла патрэбную траву, збірала і ўкладвала яе ў кошык. Гэтая звыклая работа ратавала Марыю ад цяжкіх думак, забяспечвала добрае здароўе. Яе “балотная” аптэка са збораў лекавых раслін была дастатковай, каб знайсці супраць любога захворвання комплекснае лячэнне. Дзясяткі пучкоў высушаных раслін віселі ў яе на гарышчы, каб у любы момант можна было прыгатаваць лекі.

Час ад часу Марыя хадзіла на балота. Яна добра памятала, як маці, Ядвіга Францаўна, расказвала ёй (а той – яе маці), што балоты здольны лячыць. Быццам багун, журавіны, падбел, іншыя балотныя расліны пакутуюць ад недахопу пажыўных рэчываў, таму і выдзяляюць свае ўласныя жыватворныя для самалячэння і напаўнення блізкай прасторы, каб знішчыць вакол тое, што можа ім шкодзіць. І сапраўды, дурманлівы пах багуну Марыя запомніла яшчэ з дзяцінства, калі даводзілася хадзіць на балота збіраць буякі. Гэтыя цёмна-блакітныя з шызым налётам ягады маці часцей называла дурніцамі. Бо побач з імі заўсёды расце багун, пах якога дурманіць галаву.

Менавіта за багуном і прыйшла сёння Марыя на балота. Унучка прыхварэла, кашляе. Усю ноч не давала спакою. Жанчына наламала важкі пучок галінак, крыху воддаль, у нізінцы, там, дзе балотная вада пакрыта зялёным панцырам раскі, зрэзала некалькі сцяблінак аеру.

Марыя не стала больш затрымліваца на балоце, хаця можна было папоўніць хатнюю аптэку валяр'янам, відомцам, жывакостам. Пакуль што ў яе ёсць запас гэтых раслін, а папоўніць яго часу яшчэ хапае.

Яна выйшла з балота і ўжо праз некаторы час была на сваім двары. Яшчэ здалёк заўважыла ўчастковага. Кацярыніч сядзеў з Юзікам на лаўцы перад уваходам ў хату, пра нешта гаманілі. Марыя павіталася з участковым, занесла ў хату зёлкі. Альжбетка спала. Было бачна, што завараны кіпенем корань валяр'яну паўздзейнічаў на яе. Гаспадыня зняла сподачак з кубка, у якім стаяў яшчэ цёплы лекавы настой, крыху прыгубіла і паставіла яго на прыпечак, каб быў цёплы. Сама выйшла на двор.

– Мабыць, вы крыху тут прыхварэлі, Іванаўна? – запытаўся Кацярыніч.

Марыя прысела каля мужчын, занепакоена адказала:

– Унучка нешта з ночы закашляла.

– Дык, можа, да доктара? На машыне... – участковы паказаў рукой на другі бераг Усы. – Мы хутка...

– І я лічу, што трэба паказаць малечу спецыялістам, – згадзіўся Іосіф з Кацярынічам, – мала што...

– Гарачка сышла, – адказала Марыя, – я прынесла багуну і аеру. Павінна вылечыцца.

– От каб мне нейкіх лекаў, – усміхнуўся ўчастковы, – а то некаторых штрафам лечыш, потым волі пазбаўляеш, а яны як былі небаракамі, так і застаюцца. Не хапае сапраўдных лекаў.

– Дурноту не вылечыш лекамі, – заўважыў Іосіф. – Калі чалавек нарадзіўся з крывулінамі ў галаве, то і памрэ з імі.

– Не хочацца ў гэта верыць, Іосіф Пятровіч, – запярэчыў Кацярыніч. – Нядаўна мне ўдалося выцягнуць з п'янай багны і ўладкаваць на працу Альберта Мазаніка. З Кляцішча ён, вы павінны ведаць.

Іосіф згодна кіўнуў галавой, спытаў:
– Ён адзін зараз жыве?

– Так... Дык вось ужо тры месяцы, як перастаў выпіваць. Прыемна глянуць на яго: на чалавека стаў падобны.

– Доўга не пратрымаецца, – запэўніў Іосіф, – гэта часова... Да першай сур'ёзнай праблемы... А там зноўку...

– Мне здаецца, што ён ужо не вернецца да былога, – не здаваўся Кацярыніч, – павінен жа чалавек адрозніваць добрае ад благога.

– Такі чалавек, як Альберт Мазанік, – уцягнулася ў гаворку Марыя, – ацэньвае ўсё па-свойму. Тое, што для нас зло, для яго можа быць дабром. Ён мог рабіць зло з-за помсты. Помста здаецца заўсёды справядлівай. Вось гэта тройца, што прыходзілі да нас, – Марыя глянула на ўчастковага, – зноў паказвае зубы. Іосіф, ты расказаў Іванавічу?

– Ды што там расказваць, – не надаючы сур'ёзнага значэння таму, што на днях на хутары быў Пётр Макоўскі, буркнуў Галаўко. – Ну быў тут Макоўскі. Выведваў, хто мог яго здаць міліцыі.

– Усё ж прыходзіў сюды, – заўважыў Кацярыніч. – У гэтым я і хацеў упэўніцца. Мы яго ў пушчы, каля Бруднага балота, якраз за свежаваннем заспелі. Маўчуном прыкінуўся. Але ж пратакол склалі.

– Відаць, пасля ўсяго гэтага і душыць яго жаба, шукае вінаватых, – заўважыла Марыя.

З хаты паклікала ўнучка, жанчына паднялася з лаўкі:

– Між іншым ён шукае сваёй справядлівасці...

Яна не пачула, пра што далей гаварылі мужчыны, увайшла ў хату. Унучка задуменна пазірала на яе вочкамі-вішанькамі.

– Піць захацела, маё сонейка, – здагадліва сказала жанчына.

Дзяўчынка прыплюснула павекі, аблізнула вусны. Марыя прыпадняла яе галаву з падушкі,

паднесла да вуснаў кубак з настоем. Альжбетка каўтнула некалькі разоў, запыталася:

– Бабуль, а чым гэта пахне?

– Напой лекавы, з балотных раслін...

– Ты на балоце была?

– Так, – кіўнула галавой Марыя. – Крыху ачуняеш, пойдзем з табой.

– А там страшна?

– Зусім не.

– Маці казала, што там водзяцца чэрці.

Марыя ўсміхнулася, прыгарнулася да малечы, пацалавала яе ў лоб:

– Твая мама была няўважлівай ці, можа, недачула, калі я ёй расказвала пра тое, як узніклі балоты.

– А як яны ўзнікаюць?

– Цікаўнае ты маё сонейка, – Марыя дакранулася пальцам да кончыка яе носа, – слухай, як гэта было. – Яна лацвей уселася на ложку. – Некалі, у вельмі далёкія часы, чорт украў у божанькі жменьку зямлі і схаваў яе за шчаку. Праз нейкі час ён адчуў, што зямля пачала расці, распіраць рот. Бедны чорт спужаўся, пачаў выплёўваць украдзеную зямлю. Яго ванітавала, павыварочвала ўсё чэрава. З гэтай папсаванай выплюнутай зямлі і пачалі ўзнікаць балоты.

Альжбетка моўчкі слухала бабулю, пасля, калі тая перастала расказваць, запыталася:

– А чорту балюча было плявацца?

– Вядома! – пацвердзіла Марыя. – Не толькі балюча, але і сорамна, бо ўсе бачылі, што ён выплёўвае ўкрадзенае.

Дзіця сціхла. Было бачна, што дзяўчынку ўразіла пачутае. Марыя падышла да акна, глянула на двор. Кацярыніча не было відаць.

– 14 –

З таго часу, калі Станіслава Чыбук пераехала ў Налібакі да Гарніцкага, яна ніколі не была ў Кляцішчы. Сваё нежаданне ехаць туды, дзе пражыла дваццаць гадоў з Віктарам, апраўдвала

перад цікаўнымі тым, што, маўляў, шмат працы ў калгаснай бухгалтэрыі. На самай справе яна баялася асуджальных вачэй кляцішчанцаў, якія шкадавалі Віктара і былі ўпэўнены, што гэта яна пакінула яго. Асабліва востра Стася адчула гэта асуджэнне, калі перавозіла мэблю да Гарніцкага. Колькі пагардлівых поглядаў праводзілі яе, колькі кпінаў пачула, пакуль не выехала за ваколіцу. У нейкі момант хацелася агрызнуцца, паказаць зубы, каб добра запомнілі Стасю Чыбук, аднак да горла падыходзіў горкі камяк і не дазваляў гэта рабіць. Справа ў тым, што сукенка з адбіткамі пячаткі так і засталася ў Віктара. Якія толькі захады ні прадпрымала Стася, каб яе знайсці, выкрасці, так і не ўдалося яе забраць. Віктар быў няўмольны. Патрабаваў аднаго, каб яна хутчэй з'ехала з дому. Гэта і прабірала Стасю да самых пят, бо людзі лічылі, што яна разбіла сям'ю, пакінула такога выхаванага, таленавітага мужчыну, як Віктар Чыбук.

Нагода з'ездзіць ёй у Кляцішча выдалася, калі Анця Бандаровіч запрасіла да сябе на дзень нараджэння. Стася не задумваючыся згадзілася на сустрэчу і пасля таго, як прывяла ў парадак і падрыхтавала ўсе неабходныя бухгалтарскія дакументы, адпрасілася ў старшыні калгаса сысці з работы пасля абеду. Прымацавала да ровара скрынку з чайным сервізам (падарунак для Анці) і выехала з вёскі. Ласкавы цёплы ветрык прыгладжваў валасы, мякка абвейваў твар і голыя рукі. Стася прадумвала, што гаварыць Анці і Ядвізе пра сваё жыццё з Гарніцкім. Прыхарошыць не хацелася. Яны могуць пазайздросціць, і яе мара не здзейсніцца. Расказаць так, як атрымліваецца ў жыцці, з тымі вузламі, якія патрэбна развязваць, – таксама не з рукі: падумаюць, што прагадала, няшчасная. "Лепш за ўсё абысціся агульнымі словамі, – падумала яна, – навошта даваць кляцішчанцам дадатковую зачэпку, каб зноў асуджалі".

Вядома, што жаданне пахваліцца новым

жыццём перад сяброўкамі ў Стасі было і гэта зразумела, бо яна сама свядома зрабіла крок у нязведанае. Але яе стрымлівала тое сапраўднае, што існавала паміж ёй і Гарніцкім. Вацлаў не змог пакуль уцяміць, што ён жанаты, што трэба, нягледзячы на ўзрост, павялічваць сям'ю. Менавіта думкай аб будучым дзіцяці хацелася Стасі прыструніць халасцяцкі разбэшчаны імпэт Гарніцкага. Ачуняўшы крыху ад незапланаванага раптоўнага павароту жыцця, ён узяўся за старое: зноў пачаў праяўляць цікавасць да жанчын. Стася ведала гэта, стрымлівала свае раўнівыя пачуцці, не давала ім выхаду, думала, што ён робіць гэта спецыяльна. "Хай крыху пацешыцца, – разважала, – хай падахвоціць сваё самалюбства. Нешта ж будзе..."

Тое "нешта", на што спадзявалася Стася, і была мара аб нараджэнні дзіцяці. Жадала яго, чакала, што менавіта яно дасць ёй новае жыццё, дасць радасць і ўцеху. Вацлаў разважаў інакш. Ён гаварыў, што ў сорак гадоў небяспечна раджаць, што, маўляў, усякае здараецца, таму лепш дажываць ціха, нічога не мяняючы.

Катэгарычнае непрыманне Вацлавам жыццёвых планаў Стасі абумоўлівалася яго ранейшым лёгкім, бесклапотным існаваннем. Мужчына звыкся з тым, што можна перакусіць хлебам з салам, можна не апранаць кашулю, бо яе патрэбна мыць штодня, прасаваць, лепш нацягнуць світэр і насіць яго тыднямі, што дамоў можна прыходзіць тады, калі ўздумаецца. Дзіця магло і павінна было перайначыць яго халасцяцкія звычкі, патрэбна было толькі злаўчыцца, схітраваць. Стася спадзявалася, што з дня на дзень ёй удасца гэта зрабіць.

Непрыметна Стасі ўдалося праехаць па Кляцішчы аж да крамы. Перад будынкам, абапёршыся на ровар, стаяў Антось Прыёмка. Радасна павітаўся са Стасяй, прапанаваў купіць мёд. Калі жанчына адмовілася, дастаў з-пад палы пінжака бутэльку гарэлкі:

– А вось палыновую настойку, Станіслава Баляславаўна, вы павінны ўзяць.

– Дзядзька Антось, вы мне спецыяльна гаркаты падліваеце? – з хітрынкай у голасе запыталася Стася.

– Што ты, што ты... – адмахнуўся рукой Прыёмка, – гэта, Стасечка, настой на звычайным палыне, а не на горкім. Ён аказвае антытаксічнае і кроваспыняльнае дзеянне. Выкарыстоўваецца ў якасці заспакойлівага сродку, для лячэння ран і язваў.

– Ну, калі супраць душэўных ран і язваў… – Стася ўсміхнулася, стала даставаць з кішэні грошы, – то тады мне трэба абавязкова набыць. Якраз такіх лекаў мне і не хапае.

– Во, во, я і кажу, – дадаў Прыёмка, – супраць ран і язваў.

Ён азірнуўся вакол, узяў грошы. Заўважыўшы Лявона Вадамцэвіча, які вёз на ровары тэлевізар, рынуўся да таго. “Мабыць, Ямелька зноў прагнала, грошыкі праела і выправадзіла Лявонку?” – “А мне і ў маці добра”, – пачула здалёк Стася.

Яна не стала прыслухоўвацца да мужчынскай размовы, памкнулася сесці на ровар, але пачула голас Галіны Кутас. Прадаўшчыца выйшла з крамы і гукала яе.

– Няма каму і слова сказаць, – паскардзілася Кутас, калі Стася падышла да ганка. – Адны мяне не разумеюць, другіх я не спасцігну. Парадокс, Стасечка. Гэта ж ты зараз будзеш Гарніцкая?

Стася моўчкі слухала, думаючы, што сказаць. Рэдка калі Галіна ўдзяляла ўвагу простым людзям, заўсёды трымалася мясцовага начальства, ганарылася знаёмствам з раённымі чыноўнікамі. А тут раптам і Стася ёй спатрэбілася. “Як жа я не здагадалася, – злавіла сябе на думцы жанчына, – я ж цяпер Гарніцкая. Значыць, патрэбна ёй як жонка старшыні сельскага Савета”.

– А ў чым справа, Галіна Францаўна? – не то жартам, не то сур'ёзна запыталася Стася.

– Нічога, нічога... – Кутас захвалявалася, пачала пераступаць з нагі на нагу. – Гэта я так... каб развеяць чуткі...

– Якія чуткі? – перапытала Стася.

– Не звяртай увагі, Стасечка, на жаночыя размовы... Я вельмі паважаю Вацлава Канстанцінавіча, таму і абрываю гнюсныя размовы, быццам ты неафіцыйна жывеш з Гарніцкім.

– На сёння, Галіна Францаўна, я – Гарніцкая.

– Дык я ж гэта і падкрэсліваю заўсёды, Стасечка. Праходзь у краму, чаго мы стаім на парозе? – Кутас затупала на месцы, быццам курыца, засакатала далей. – Заходзь смялей, зараз мы што-небудзь прыдумаем.

Стася зразумела, што Кутас хацела падлашчыцца і прыблізіць яе, каб мець патуральніка і надзейнага апекуна ў асобе Гарніцкага. Спачатку памкнулася прайсці ў краму, каб перш, чым сустрэцца з Анцяй і Ядвігай, выведаць ад крамшчыцы ўсе плёткі пра сябе, потым яе нешта спыніла.

– Дзякуй, Галінка, за спагаду, – сказала, – дзякуй, што спыняеш пра мяне розныя пагалоскі і брахню, але мне трэба ісці. Час абмежаваны.

– Не буду затрымліваць цябе, Стасечка, – пачала кланяцца, тэатральна прыгінацца Кутас, – заўсёды буду рада бачыць цябе. Можа, што патрэбна з тавару? Дык кажы, усё дастану...

– Дзякуй, пакуль нічога не трэба, – адказала Стася, – паеду я, спяшаюся.

Яна села на ровар, рыпнула педалямі. Адчула на сабе працяглы, зацікаўлены позірк прадаўшчыцы. “Вось як хутка могуць людзі мяняцца, – падумала Стася, – столькі год пражыла ў Кляцішчы і ніколі не была так аблашчана Галінай, як сёння. Такім, напэўна, лягчэй жыць. Не тое, што мой Віктар. Дарэчы, не мой – ужо чужы. Стаяў на сваім: “Сыходзь з дому”, – і хоць

ты кол на галаве чашы. Не захацеў прымірыцца. Гонар узяў. Можа, зараз і кусае локці. Як ён тут, без мяне?”

Стася заехала на двор лясніцтва, прыставіла да веранды ровар. Пакуль корпалася з вяроўкай, якая трымала скрынку з падарункам, яе заўважылі жанчыны. Тут жа прыбеглі Анця і Ядвіга. З абодвух бакоў прыліплі да Стасі, расплакаліся. Слёзы ліліся ў траіх, пакуль Стася не сказала: “Хопіць мяне аплакваць, не на хаўтурах...” Смех праз слёзы ацвярозіў жанчын, яны ўвайшлі ў будынак. У бухгалтэрыі красавалі ўсё тыя ж кветкі, што былі пры Стасі, на вокнах віселі тыя ж фіранкі. Пераставілі толькі мэблю. Не было рабочага стала, за якім працавала Ядвіга. Яна перасела за стол Анці, а тая за яе – галоўнага бухгалтара.

– Адабрала ў нас раённае начальства штатную адзінку, – пашкадавала Бандаровіч, – даводзіцца ўдзвюх працаваць.

– Я, бабы, не вінаватая ў гэтым, – Стася падняла рукі ўгору. – Усюды зараз робяць так, як захочуць, а не так, як трэба. Такі час. Застаецца толькі мірыцца са становішчам...

– Ды пра што мы гаворым, – умяшалася ў гаворку Ядзя, – няўжо іншай тэмы няма? Сядай, Стасечка, расказвай...

– Ты, Ядвіга, распытваеш, як Кутас. Тая зацягнула мяне ў магазін толькі што, да вас не адпускала, – Стася прысела на стул.

– Няўжо Галінка прыгнулася перад табой? – здзівілася Варакса.

– Вядома! Я ж цяпер Станіслава Баляславаўна Гарніцкая.

– Цяпер ты ёй адпомсціш, – завялася Анця.

– За нас трох, – дадала Варакса. – Столькі гадоў задзірала нос, а цяпер у дружкі набіваецца. Во выдра!

– Хопіць пра пустое, – Стася паднялася са стула, падышла да Бандаровіч. – Хачу павіншаваць цябе, Анця...

– Усе віншаванні ў маёй хаце, – адказала Бандаровіч. – Стол ужо накрыты, там Вячаслаў з самай раніцы топчацца, а мы зараз вып’ем па сто грам з ляснічым і пойдзем да мяне.

Яна выбегла з пакоя. Ядзя падышла да Стасі, абняла яе, запыталася:

– Як там, у Налібаках?

– Як і раней, Ядзечка, “налі бакі, налі бакі...”.

Сяброўка заплакала. Стася прыхілілася да яе, запытала:

– Аляксей, мабыць, не сунімаецца? Выпівае?

– Ён не прасыхае, – праз слёзы сказала Ядвіга.

– Рукам хоць не дае волі?

– Не. Жыве як у сне. Шкада, прадае ўсё, што трапляецца пад рукі. Кляцішчанцы, праўда, ведаюць яго, дык не надта купляюць, а вось хто чужы надарыцца, такім збывае за капейку. Не ведаю, што рабіць...

– Участковаму, Кацярынічу, раскажы. Ён дапаможа. Вельмі разумны мужчына.

– Я ўжо думала пра яго, – Ядвіга папраўіла рукой валасы. – Бачу, што талковы, але баюся, што Аляксей мяне няправільна зразумее.

– А ты не пішы афіцыйна заяву, сходзі на прыём да дырэктара лясгаса Фелікса Бярнардавіча. Пагавары з ім, папрасі парады. Янушкевіч не адкажа, ведаю гэта.

У пакой бухгалтэрыі ўскочыла Анця. Хутка пачала складваць дакументы са стала ў шафу, выцягнула і паставіла на стул вялізную сумку.

– Бярыце нажы, – сказала, – рэжце мяса, агуркі, каўбасу. Зараз Падзёлка прыйдзе.

Жанчыны завіхаліся перад сталом, хвалячыся адна перад адной сваімі кансерваванымі нарыхтоўкамі. Калі паставілі на стол бутэльку сухога віна, у бухгалтэрыю ўвайшоў ляснічы. Ветліва павітаўся са Стасяй (нясмела адчуваў сябе пасля канфузу з Арынай Свянтоцкай), павіншаваў Анцю. Каб не пакрыўдзілася Бандаровіч, Падзёлка прыгубіў віно, узяў у

руку хлеб з каўбасой і сышоў, спасылаючыся на неадкладную працу. Стася як ніхто разумела яго, бо сама была ў той жа скуры, што і ён. Ужо каля трох месяцаў ён жыў у Святоцкай. Жонка, дачка прылюдна адракліся ад яго і выгналі з дому. Казіміра прыняла Арына Святоцкая. Яна была цяжарная, на апошнім месяцы.

Жанчыны, крыху падпітыя, уваліліся ў хату Бандаровічаў, калі Вячаслаў запальваў на стале святочныя свечкі. Ён хутка ўсадзіў жанчын за стол, наліў у чаркі каньяку, прапанаваў тост:

– За цябе, мая мілая Анця, – Вячаслаў пацалаваў жонку ў вусны. – Доўгі час я не бачыў цябе, бо ішоў паралельнай дарогай. Калі ж сустрэў, то прыліп на ўсё астатняе жыццё, – Вячаслаў чокнуўся чаркай з жанчынамі, зноў пацалаваў жонку, выпіў.

Ядвіга дзівілася Вячаславам. Зараз ён зусім не падобны на таго, які бегаў за чужымі спадніцамі, не зважаючы на жонку. Разумела і тое, што Анці не проста было так паставіць сябе, каб Вячаслаў глянуў на яе інакш. Ён быццам другі раз нарадзіўся. Вядома і Ядвіга рабіла розныя захады, каб пераканаць Аляксея, што так жыць, як жывуць яны, нельга. Але ўсе яе намаганні былі марныя.

Сардэчныя словы Бандаровіча ўразілі і Стасю. Яна ж добра памятала ранейшага Вячаслава. Сыны-аднагодкі, іх Алік і яе Анатоль, сябравалі. Часта былі разам, у школу хадзілі, гулялі, пакуль не адбылася трагедыя. Алік выпаў на хаду з кузава грузавой машыны. Што ні рабілі дактары, але ўратаваць яму жыццё не ўдалося.

Стасі вельмі хацелася сказаць добрае слова Анці, яе Вячаславу. Яна пажадала сяброўцы яшчэ лепшага жыцця, здароўя і поспехаў. Каб застацца ўтраіх, без Вячаслава, яна папрасіла яго прынесці апельсінаў. На стале і ў доме, вядома, іх не аказалася. Тым не менш Бандаровіч выскачыў з хаты, крыкнуўшы, што ведае, дзе

купіць. Жанчыны рассмяяліся. Стася, гледзячы на жанчын, прызналася: “Мне вельмі радасна, што ў цябе, Анця, так усё добра склалася ў жыцці. Паступова, з дня ў дзень, цаглінка за цаглінкай складваецца і мой падмурак шчасця. Я спадзяюся, што наступіць той дзень, калі і Ядзя ўздыхне, – яна прыхінулася да Вараксы, – калі белыя палосы заменяць чорныя”.

– Во як! – ускрыкнула Анця.

– Прызнаюся, – сказала Стася, – перад сном пачала чытаць мастацкую літаратуру і, паверце, лягчэй і прыгажэй стала жыць.

– А ведаеш, з-за чаго? – запыталася Анця.

– Ну, кажы хутчэй, а то Вячаслаў прыйдзе, – Стася падняла чарку з каньяком.

– Жыць стала лепей пасля таго, як мы – памятаеце? – Анця агледзелася, прыклала палец да вуснаў, ціха прашаптала. – Ну... з вучонымбалотазнаўцам... Ён даў такую мне сілу жыць, такі рост, што мяне прэ ўгору, бы расліну на балоце.

– Жанкі, усё ў нас атрымаецца, – Стася падхапілася, пачала развітвацца.

– 15 –

Летняе балота красавала, расло, жыло таемным жыццём: за год – адзін міліметр угору, пятнаццаць сантыметраў ушыркі. У сярэднім на адзін метр за кожную тысячу гадоў вырастала, а за стагоддзе на пятнаццаць метраў пашыралася. Ціха, нябачна ў балоце шчыравалі мікраарганізмы – найдрабнейшыя, пераважна аднаклеткавыя – крыніца жыцця балота. У прыродзе не існуе рэчыва біялагічнага паходжання, якое б не паддалося распаду ва ўмовах вільгаці і наяўнасці кіслароду. Гэта аксіёма мікрабіялогіі. Мікраарганізмы з’яўляюцца разбуральнай сілай, якая выконвае тытанічную працу па вяртанню звязанага раслінамі вугляроду ў новы стан. Там, дзе ёсць складаныя хімічныя

злучэнні, там, дзе ёсць арганічны распад, там заўсёды ёсць жыццё.

Такім падпарадкаваным прыродзе жыццём і пачало жыць урочышча Бруднае балота, як толькі сышоў снег. Невядома, па якіх прычынах, але трэць дзялянкі, якую рыхтавалі лесарубы для пракладкі дарогі, затапіла. Што здарылася, чаму балота так імгненна падпарадкавала сабе суседнюю тэрыторыю прасекі, ніхто не ведаў. Тыя мітуслівыя камісіі, якія штодзень прыязджалі з розных інстанцый, ніякага заключэння не далі. Было ясна адно: трэба шукаць іншыя варыянты пракладкі дарогі, але не было гарантыі, што і яны могуць ажыццявіцца.

Не хаваў сваёй радасці перад начальствам толькі вучоны-балотазнавец Генадзь Дубавец. Ён гаварыў, што балота трэба ведаць, балота трэба паважаць, слухаць і не пярэчыць яму, бо яно – жывы арганізм. Апошні раз, калі Дубавец прыязджаў на балота разам з галоўным геолагам Пятром Хомічам, ён выказаў здагадку, якую неабходна было праверыць: маўляў, граніцы балота, магчыма, пашырыліся з-за таго, што зямля на падрыхтаванай дзялянцы асела над выбраным радовішчам балотнай руды. Можа, гэта і праўда, бо ніхто не кінуўся шукаць дакументы князя Вітгенштэйна, які здабываў тут жалеза з балотнай руды ў сярэдзіне васемнаццатага і аж да канца дзевятнаццатага стагоддзя. Начальства прыняло адно, як яны лічылі, правільнае рашэнне: хуценька пасадзіць на астатняй частцы дзялянкі саджанцы сасны. Таму амаль усю вясну і нават у пачатку лета Казімір Падзёлка з рабочымі лясніцтва садзілі саджанцы на прасецы. Падзёлка падпарадкоўваўся начальству, а сам пакутаваў, бо работа гэта была кату пад хвост. Такі прысуд выказаў Дубавец. Ён сказаў, што ні саджанцы, ні лясная расліннасць не справяцца з наступленнем балотных першапасяленцаў – лазы, лішайнікаў, імхоў і хвашча. Яны праглынуць высечаную

дзялянку разам з саджанцамі, ператвораць у балота.

Казімір Падзёлка верыў вучонаму, але падпарадкоўваўся начальству. Таму ўжо праз некаторы час незабалочаная частка прасекі зелянела роўнымі шнуркамі чорных баразён з сасновымі сцяблінкамі.

У гэты дзень ляснічы зазбіраўся рана і, на здзіўленне рабочых, пакінуў дзялянку апоўдні. Ён гнаў свой мікрааўтобус паляснай дарозе на вялікай хуткасці, быццам ехаў па асфальце. Жаданне прыехаць у Стоўбцы як мага хутчэй падбухторвала ўсю дарогу. І толькі калі машына скрыгатнула тармазнымі калодкамі каля радзільнага дома, калі Падзёлка прачытаў на лістку са школьнага сшытка, які вісеў на дошцы, прозвішча Арыны, а насупраць слова "хлопчык", як дзіця, стаў падскокваць, кружыцца па прыёмным пакоі. Бабу Вольгу, якая прымала ў акенца прадуктовыя пасылкі, не здзівілі паводзіны мужчыны, у яе жыцці гэта было не ўпершыню. Толькі кіўнула галавой, паклікала Падзёлку да акенца, сказала:

– Калі будзеце перадаваць жонцы прадукты, то паспяшайцеся...

Падзёлка не даслухаў старую, падзякаваў і выскачыў з радзільнага дома. Праз некалькі хвілін у гастраноме ён паклаў у сумку падвяленай каўбасы, садавіну, пачак соку і шакалад.

– Гэта вам, ад душы, – ляснічы працягнуў шакаладку бабе Вользе.

– Я тут пры чым? – здзіўлена запыталася жанчына.

– Вы той першы чалавек, з якім я хачу падзяліцца радасцю: у мяне нарадзіўся сын!

– Гэта іншая справа, – сказала жанчына. Як назавяце?

– Яшчэ не вырашыў, трэба параіцца з Арынай.

Вестка аб нараджэнні сына ў Падзёлкі аблящела Кляцішча адразу, як толькі яе пачулі Анця

і Ядвіга. Жанчыны сталі званіць леснікам, рабочым лясніцтва, каб назбіраць грошай для падарунка малому. Ужо праз чатыры дні ў пакоі бухгалтэрыі стаялі дзіцячая каляска, ванначка для купання, торбы з дзіцячым адзеннем і падгузкамі.

У адзін з дзён Падзёлка зайшоў у бухгалтэрыю.

– Бачу, што вы не толькі працуеце ў лясніцтве, – прызнаўся, – вы яшчэ і пра мяне клапоціцеся.

Жанчыны заўсміхаліся, палагаднелі:

– Мы, Казімір Іосіфавіч, самі маці. Некалі гэты момант перажылі, таму і дапамагаем чым можам...

– Тады вось што папрашу, – ляснічы глыбока ўздыхнуў, задумаўся. Пасля кароткай паўзы, сказаў:

– У мяне няма больш блізкіх і дарагіх людзей, чым вы. Ведаеце, Арыне будзе цяжка на першым часе. Ёй патрэбна добрая дарадчыца. Таму і прашу, каб адна з вас была для майго хлопца хрышчонай маці. Вырашыце, калі я сыду адсюль. І яшчэ, – Падзёлка паднёс палец да вуснаў, – я сам пастараюся паведаміць, але і вы, калі ўдасца, папрасіце Стасю, напэўна, яна ўжо цяпер Гарніцкая, каб таксама была на хрэсьбінах.

Казімір Падзёлка адчуваў сябе бадзёра і радасна. Ён правільна зрабіў, што не забыў пра Стасю Чыбук-Гарніцкую, якая далікатна змаўчала пра непрыемнае здарэнне з ім, нават, як здавалася яму, не расказала жанчынам з бухгалтэрыі (на самай справе ўсё было інакш – чытач ведае), не забыў запрасіць участковага і начальніка крымінальнага вышуку. Яны таксама, як і належыць мужчынам, не пусцілі чуткі пра яго з Арынай забавы ў лесе. Таму, калі госці сабраліся ў Арынінай хаце, Падзёлка, гледзячы на спавітага сына на руках у жонкі, сказаў:

– Няма большай загадкі для чалавека, як

маці-прырода. Гэта ж трэба быць такім майстрам, каб на працягу дзевяці месяцаў стварыць такое дзіва.

Госці засмяяліся, а Генадзь Дубавец, які таксама прысутнічаў сярод гасцей, заўважыў:

– Дзіця, як увогуле ўсё жывое, – божае тварэнне. Але ў яго ёсць маці і бацька...

– Вядома, – падхапіў гаворку Падзёлка, – але ж маці, як мне здаецца, адыгрывае галоўную ролю. Таму вып’ем за нашага Адама і маю каханую жонку Арынку.

Госці падняліся, чокнуліся, выпілі і пачалі частавацца. Кацярыніч сядзеў побач з Баляславам Турам, за ім – Стася з Вацлавам Гарніцкім, пасля Анця з Вячаславам. Ядвіга Варакса сядзела паміж Генадзем Дубаўцом і Антосем Прыёмкам. Стары пчаляр стараўся дагадзіць Ядзі, падліваў ёй сваёй гарэлкі, настоенай на крушынападобнай абляпісе, прыгаворваючы: “Ты, Ядзечка выпі, да канца, бо гэтая вадкасць мае гаючыя ўласцівасці. Яна вельмі патрэбна тым жанчынам, якія, прабач, што скажу прама, абдзелены ласкай”. Кабета дзякавала старому лекару, усміхалася і хілілася бліжэй да вучонага, рука якога лашчыла яе калені, схаваныя пад сталом.

Над тым, каму сказаць другі тост, Падзёлка доўга не думаў. Гледзячы на Дубаца, ён з вялікай павагай і ўдзячнасцю сказаў:

– Дзякую богу, што давялося сустрэцца ў гэтым грэшным жыцці з вельмі паважаным і шаноўным для мяне чалавекам, які сёння прысутнічае на хрэсьбінах сына. Калі б не было гэтай сустрэчы, у мяне, прызнаюся, цягнулася б тое звыклае для людзей, а для мяне нецікавае, абрыдлае жыццё, якое складалася з адных абавязкаў: зрабі тое, прынясі гэта і гэтак далей. Але ў дзень знаёмства, – Падзёлка глянуў на Арыну, потым перавёў погляд на Кацярыніча з Турам, якія падміргвалі адзін аднаму, – я зведаў няўяўнае... – ён змоўк. У чуйнай цішыні вясковай

хаты толькі цікалі ходзікі на сцяне. Я даю слова Генадзю Рыгоравічу.

Дубавец, відаць, не чакаў гэтых слоў, неяк збянтэжана (вядома чаму, бо рука, якая ўзяла чарку, яшчэ не астыла ад гарачых каленяў суседкі) падняўся і пачаў гаварыць:

– Шаноўнае спадарства! Ведаеце, што ў балоце ніколі не рос хлеб. У ім мужыкі, стоячы па калені ў вадзе, адмахваючыся ад сляпнёў і камароў, касілі каляную асаку ды пажарніцу, вывозячы гэтыя травы па "зімніку", – ён прымоўк. У гэтыя хвіліны леснікі züківалі галовамі адзін аднаму, пацвярджаючы слушнасць сказаных вучоным слоў. – Але калі балотны торф, – працягваў ён далей, – рассыпаць па полі, ён дасць багаты ўраджай. Так і жанчына. Часам жыве яна адна ці нават з мужам, і яе не заўважаюць. Нехта не хоча прыгледзецца, а другому часу няма, бо яго вочы глядзяць у другі бок. Тады жанчына марнее, сохне, як трава без дажджу. Ёй не хапае крыху ўвагі, дапамогі і ласкі, – у гэты момант Стася сустрэлася поглядам з Анцяй, потым з Ядвігай. Яны разумелі адна адну. Дубавец працягваў: – Тады яна, жанчына, не толькі дзіця народзіць, яна табе падорыць сваё жыццё. Нам, мужчынам, не ўсвядоміць гэтага, пакуль будзем хадзіць з паднятымі да столі насамі і разважаць, што мы разумнейшыя і мацнейшыя за жанчыну. Трэба помніць, што мужчыну нарадзіла жанчына, а жынчыну стварыў бог. Дык вып'ем за Жанчыну!

Госці зноў паўскоквалі з месцаў, зашумелі, запляскалі ў далоні, потым выпілі. Потым слова бралі хросная маці Анця, потым Стася, Ядвіга, добра падпітыя леснікі і стары пчаляр-халасцяк. Калі ж пачалі разыходзіцца па хатах, ён прычапіўся да Ядвігі і стараўся расказаць пра эліксір маладосці, які ён прыгатаваў на лекавых травах. На што разлічваў стары – здагадваліся многія: нездарма ж дзед штодня выпіваў чарку гарэлкі, настоенай на грыбах вясёлках. Аднак

Варакса схітрыла. Яна падвяла Прыёмку да вучонага, сказала, што Генадзь Рыгоравіч вельмі зацікавіўся настоямі на лекавых раслінах і хоча купіць некалькі бутэлек. Мужчыны пачалі дамаўляцца, дзе і калі ім сустрэцца, а Варакса выбегла з хаты і пайшла ў лясніцтва.

Падзёлка развітваўся з гасцямі, дзякаваў, што прыйшлі, выказалі павагу, а Дубаўца намерыўся правесці да лясніцтва.

– Дзякуй, даражэнькі Казімір Іосіфавіч, – аднекваўся вучоны, – дарогу да лясніцтва я ведаю, не забыў і прыбудову, дзе некалі адпачываў. Так што заставайся з сынам, жонкай, а я паціху прайду, падыхаю пушчанскім паветрам.

Ляснічы не стаў пярэчыць, адвёў ад стала Прыёмку, пачаў нешта гаварыць яму на вуха. Дубавец выйшаў з хаты і подбегам рушыў да лясніцтва. Нейкі малады запал (вядома чаму), нейкая прыцягальная сіла, нейкае пачуццё смеласці (бо адчуваў, што яго жадаюць) несла наперад, пакуль не сутыкнуўся з ёй, Ядвігай Варакса. Няўпэўненасць абодвух – можа, ад няёмкасці, але хутчэй ад выпітай гарэлкі – неяк замінала, блытала рухі. Раптам Дубавец не вытрымаў: ірвануў апошні гузік на яе вопратцы так, што той куляй ударыўся аб шкло акна і паляцеў на падлогу. Ні Дубавец, ні Варакса ўжо не бачылі, як гузік круціўся ваўчком на падлозе.

...Працяглы час яны размаўлялі ў цемнаце. Больш гаварыла Ядвіга. Яна, як на споведзі, вывернула ўсю душу, расказала да дробязей, што турбуе, што не дае радасна і шчасліва жыць.

Дубавец уважліва слухаў жанчыну, адчуваў дрыготкі стук сэрца, мякка прыціскаў яе да сябе, быццам падтрымліваў, даваў спадзеў на дапамогу. Раптам ён ускочыў з ложка, прапанаваў:

– Пойдзем, я правяду цябе дадому.

Ядвіга не варухнулася. Ёй было добра з ім, яна адчувала сябе жанчынай. Але паціху да яе стала даходзіць, што яна ў лясніцтве, што з ёй чужы чалавек, што трэба дайсці дадому, каб

ніхто не заўважыў. Паднялася, хутка апранулася. Калі яны выйшлі на двор лясніцтва, на ручным гадзінніку Дубаўца стрэлкі цыферблата паказвалі за трэцюю гадзіну ночы. Калі падышлі да хаты, Ядвіга спынілася, хацела падзякаваць, але Дубавец лёгка падштурхнуў яе наперад, сказаў:

– Паглядзі, як там муж...

Яна добра ведала, у якім стане зараз яе Аляксей, але ж паслухалася, увайшла ў хату, схілілася над ім, штурхнула ў плячо. Той нешта мармытнуў, дыхнуў на яе гарэлачным перагарам.

– Паслухай мяне, жанчына, – сказаў Дубавец, калі Ядвіга выйшла да яго і расказала яму пра мужа, – зараз цалкам падпарадкоўвайся таму, што я буду рабіць.

Дубавец лёгка падпіхнуў яе наперад, да ганка. У паўцёмным пакоі, перад ложкам, дзе спаў Аляксей, яны спыніліся. Дубавец прыцягнуў да сябе жанчыну, стаў цалаваць яе ў вусны. Ядвіга спачатку аддалася, потым, быццам яе нехта спужаў, адштурхнула яго ад сябе.

– Ты павінна раззлавацца на яго, – ціха сказаў Дубавец, – ты павінна разбудзіць яго. Толькі тады ты пачнеш жыць, – вучоны зноў прытуліў жанчыну да сябе, пачаў цалаваць вусны, твар, рукі. Яны аўтаматычна пачалі распранаць адно аднаго. Ужо у ложку, калі зліліся ў адно цэлае, Дубавец на нейкі момант спыніўся, каб шапнуць Ядвізе, маўляў, разбудзі, хай гляне, што адбываецца з табою.

Варакса, быццам пад гіпнозам, дакранулася рукой да Аляксея. Спачатку лёгка калыхнула яго, потым, калі ён нешта прамямліў, яна затрэсла яго, выкрыкнула: “Паднімайся, гніда! Пракалупай свае п’яныя вочы!”. Свайго голасу яна не чула, да слыху даляцела мармытанне мужа і вялы рух рукі, маўляў, адчапіся. Ядвігу ахапіла шаленства. У той момант, калі ў яе свядомасці быццам нешта сігналіла, што трэба

спыніцца, яна ўся сціснулася, напружылася, потым моцна ўдарыла мужа кулаком. Той ляснуўся аб падлогу.

– 16 –

Адну абойму з патронамі ўчастковы загнаў у пісталет, а што рабіць з другой, задумаўся: забраць з сабою ці пакінуць дома? Пачуў, што нехта загаварыў на двары. Жончын голас распазнаў, а другі – мужчынскі – не.

– Ніна, хто там прыйшоў да нас? – крыкнуў ён жонцы, калі бразнулі дзверы ў сенях.

– Аляксей Варакса. Да цябе...

– Зараз, адну хвілінку, – адказаў Кацярыніч, кладучы ў сейф абойму з патронамі. “Зусім забыў пра Вараксу”, – падумаў ён. Ціхі лесаруб-п’яніца Варакса не быў праблемным чалавекам для ўчастковага. Памятаецца, у размове з дырэктарам лясгаса Феліксам Янушкевічам ён тады так і сказаў: “Не маю права прыцягваць чалавека да адказнасці, калі ён выпівае на працы. Гэта праблема ваша, леспрамгасаўская. Вось каб ён п’яным цягаўся па вёсцы, тады іншая справа”. Але п’яным на людзях Вараксу рэдка калі бачылі. На святах, розных іншых вясёлых мерапрыемствах ён выпіваў, гуляў, як і ўсе, ніколі не выдзяляўся ні вострым словам, ні лаянкай, ні кулаком. Прыстойна сыходзіў дадому і там даваў сабе волю. Два-тры дні, а то і тыдзень, калі не было працы, ён мог піць гарэлку, не выходзячы з дому. З жонкай ён ладзіў, ніколі не падняў на яе руку, таму скаргаў ад яе ўчастковы не чуў. Хадзілі чуткі, што яна вельмі яго шкадуе, бо быццам прычынай ціхіх запояў была яе бяздзетнасць.

Кацярыніч выйшаў на двор, парукаўся з Аляксеем, спытаў:

– Чаму ў хату не заходзіш?

Варакса апусціў вочы, пераступіў з нагі на нагу, пасля адказаў:

– Я ж не ў госці, Іванавіч, прыйшоў. Па

справе... – ён перасмыкнуў плячамі, зрабіў крок назад. Участковы зразумеў, чаму Аляксей трымаецца на дыстанцыі: ад яго пахла алкаголем. – Здурнела мая баба, Іванавіч, – пусціла ў ход кулакі, – нарэшце выказаў ён набалелае і глянуў у вочы ўчастковаму.

– Што значыць, "пусціла ў ход"?..

– Б'ецца! Вось што, – Варакса адхінуў каўнер кашулі, паказаў барвовы крывападцёк на плячы.

– Ну і што гэта? – разглядваючы сіняк, запытаўся Кацярыніч.

– Што? – здзіўлена перапытаў Аляксей участковага. – А тое, што сканаю і ніхто не будзе ведаць, што гэта вар'ятка вінаватая.

Прызнацца, Кацярыніч не паверыў Аляксею, што яго параніла Ядвіга. Сумнеў закраўся адразу, бо ў тых людзей, хто перабірае лішняе, пачынаюцца, як кажа камп'ютарная моладзь, глюкі. Таму ён насцярожана выслухаў Вараксу, але напісаць заяву не прапанаваў.

– Паедзем да вас, разбяромся, – сказаў Кацярыніч і пайшоў да машыны.

– Не! Я не паеду! – выкрыкнуў Аляксей. – Гэта яшчэ больш яе раззлуе. Ты, Іванавіч, так незнарок... быццам па іншай якой справе...

– Добра, – пагадзіўся ўчастковы і задумаўся. – Тады вось што: бачыш павалены штыкетнік у бабы Альдоны? – Кацярыніч паказаў рукой на плот суседкі. – Возьмеш у маім хлеўчыку штыкетнік і як належыць зробіш агароджу. Дамовіліся?

Варакса пагадзіўся. Кацярыніч папрасіў жонку выдаць Аляксею інструменты, абавязкова пакарміць. Сам сеў у машыну, нягледзячы на абмежаваны час, бо патрэбна было ехаць у Дзераўную. Па плану райаддзела міліцыі там намячалася правесці прафілактычны дзень парадку на дарогах. Тым не менш Кацярыніч, імкнучыся рацыянальна скарыстаць час, пад'ехаў да хаты Вараксаў. З ганка, заўважыўшы

ўчастковага, да яго рушыла Ядвіга. Яна выцягнула рукі наперад, быццам чакаючы наручнікі.

– Іванавіч, забярыце мяне ў турму.

Кацярыніч усміхнуўся, паглядзеў запытальна.

– Абрыдла, Іванавіч, так далей жыць. Я ўшчэнт разбіла самагонны апарат, выліла на гной усю гарэлку.

– Ухваляю! – засмяяўся Кацярыніч. – Мяне вельмі радуе, што ў вас узнік такі парыў!

– Каб у мяне не тлела надзея, што жыццё не толькі можна, але і патрэбна змяніць, бо нельга ад гора паміраць, трэба жыць, то, напэўна, мы б абодва з Аляксеем даўно сканалі. А сёння... сёння я зразумела, што трэба ставіць кропку. Сёння я жыву.

Участковы прайшоў з Ядвігай па двары, заглянуў у хату. Той парадак, акуратнасць, які прысутнічалі ў хаце Вараксаў, не дазвалялі яму запытацца пра сіняк на плячы Аляксея. "Хутчэй за ўсё, недзе сп'яна зваліўся, выцяўся, вось табе і сіняк" – думаў ён. Аднак, сыходзячы з двара, зачыніўшы за сабой брамку, ён не вытрываў:

– Сёння ноччу, у сне, Аляксей ні з кім не ваяваў?

– Ваяваў, ды яшчэ як!.. Я не магла справіцца, пакуль не зваліўся на падлогу, параніўся, – Ядвіга паправіла на галаве хустку. – Іванавіч, скажыце яму адно: калі хоча жыць, то хай ідзе дадому, а канькаць, каб я яго далей цешыла, ды запіваць "гора" больш у гэтым доме не будзе.

У тым, што ў Вараксаў наладзіцца жыццё, Кацярыніч не сумняваўся. Ён не раз сустракаў, такіх людзей, як Ядвіга Варакса. Яны быццам перараджаліся, прычым раптоўна, як кажуць, у адно імгненне. На іх уздзейнічала нейкая магутная сіла, якая прымушала крытычна глянуць на мінулае, давала моцны зарад на будучае. Што адбылося з Ядвігай, Кацярыніч не ведаў, але яе гарачыя, упэўненыя словы падштурхнулі

падумаць, што і як зрабіць, каб дапамагчы яе Аляксею.

Так разважаў участковы, пакуль не пад'ехаў да Дзераўной. Каля службовага будынка перасовачна-механізаванай калоны яго чакаў Аляксандр Кільчэўскі – участковы са Стоўбцаў. Кацярыніч сеў у салон УАЗіка, на якім прыехаў яго калега, павітаўся. Кільчэўскі паглядзеў на гадзіннік.

– Не глядзі, цёзка, на гадзіннік, – заўважыў Кацярыніч, – я трымаюся жыццёвага плана, таму крыху і спазніўся.

– А мне трэба прыехаць у райаддзел і паказаць нашу работу.

– Паказаць работу мы зможам, нават не выязджаючы на дарогу. Зараз паедзем да мяне, прапалім лазню, адпачнём як належыць і напішам, якія машыны мы спынялі, нумары іх я ведаю, якія парушэнні, недахопы выявілі, ліквідавалі, словам, будзе той рапарт, які патрэбны начальству.

– Я гэта ведаю, Аляксандр. Але ж сумленне...

– Не, не. Я цябе не прымушаю, прапаную...

Кільчэўскі ўсміхнуўся, крутнуў ключ запальвання. Пасля трыццаціхвіліннай работы на дарозе паблізу вёскі яны зафіскавалі шэраг парушэнняў. У асноўным пад руку міліцыянераў трапляліся вадзіцелі, якія спецыяльна не ехалі ў Стоўбцы ці Брэст па новай трасе Мінск – Брэст, а аддавалі перавагу другаснай, праз Івянец – Дзераўную. На ёй, асабліва ноччу, рэдка калі можна было сустрэць патруль дзяржаўтаінспекцыі, яна не так была загружана, як асноўная траса. Таму яны і перавышалі дазволеную хуткасць.

Раптам на вялікай хуткасці на міліцыянераў выскачыў грузавік. Кацярыніч выкінуў жэзл, памкнуўся перайсці дарогу, чакаючы, што машына спыніцца. Аднак, вадзіцель, збавіўшы хуткасць, як толькі праехаў міліцыянераў, зноў моцна рвануў наперад. На дарозе засталося

вялізнае воблака шызага дыму. Участковыя ўскочылі ў машыну, паддалі "козліку" газу, але ўжо праз хвіліну зразумелі, што дагнаць МАЗ ім не ўдасца. Кацярыніч заўважыў з заду "Жыгуль". Прыгледзеўся, здаецца, колер і нумар старшынёвай машыны. Яны спынілі машыну, у двух словах сказалі Гарніцкаму, што гоняцца, магчыма, за злачынцам. Старшыня сельсавета зразумеў іх з паўслова, праўда, сказаў, што зусім мала бензіну. Міліцыянеры, аднак, адказвацца ад машыны не захацелі. Прыкладна на пятай хвіліне пад горкай, дзе месціцца дзіцячая база адпачыку, яны дагналі МАЗ. Абагнаць на крутым пад'ёме МАЗ Кацярынічу не ўдалося: вадзіцель вяліказгрузнай машыны заўважыў іх, заняў сярэдзіну дарогі і выціскаў з машыны ўсё магчымае. Можна было страляць па колах, але яны не гублялі надзею спыніць МАЗ. І толькі на шырокай дарозе перад Хатавой Кацярынічу ўдалося вывернуць машыну ўправа і абагнаць МАЗ. Той нібы сцішыў ход, аднак адразу ж рэзка звярнуў на лясную дарогу. "Страляй, – крыкнуў Кацярыніч Кільчэўскаму". Той прыцэліўся, выстраліў – раз, другі, трэці. Машына знікла за дрэвамі. Кацярыніч крутнуў руль улева, але ж рухавік заглох. Машына пракацілася яшчэ некалькі метраў і спынілася. Злосць разбірала абодвух: трэба было страляць, калі МАЗ успаўзаў на горку. Кацярыніч глядзеў на Кільчэўскага, той такім жа поглядам зыркаў на яго: раз'ядала крыўда, што не справіліся з сітуацыяй.

– Вось што, – прапанаваў Кацярыніч, – гэта дарога вядзе на Пруды. Але вадзіцель у любы час можа звярнуць з яе на любую лясную дарогу. Таму ты бяжы па лесу, паміж дарогай і рэчкай Усай, яна справа ад цябе. Я ж пабягу злева ад дарогі, праз Крэчаты каля Шуры. Вяртаемся зноў сюды.

Міліцыянеры разбегліся па абодва бакі дарогі. Гук велікагрузнай машыны быў чуваць у лесе, і Кацярыніч раз за разам спыняўся,

прыслухоўваўся і зноў бег наперад. Ён спадзяваўся на тое, што, калі машына крадзеная ці вадзіцель перавозіць крадзены тавар, а значыць, ён не мясцовы, тым больш што і дзяржаўны нумар машыны не супадаў з рэгістрацыйнымі нумарамі Стаўбцоўскага раёна, то ён пабаіцца выскокваць на дарогу ў пушчу, бо далёка па ёй не праедзеш.

Раптам характэрны гук рухавіка МАЗа сціх. У лесе панавала абсалютная пушчанская цішыня. Вяршаліны сосен блікавалі сонечным золатам, крыху, ледзь заўважна пагойдваліся. А тут унізе, на тоўстым, варсістым дыване, не хапала паветра, здавалася, што млосная спякота забрала да кроплі ўвесь кісларод. Гэта адчуванне ўзмацняла неабходнасць стрымліваць дыханне, каб пачуць гук матора. Нечакана для сябе Кацярыніч учуў гук другой машыны з заду. Ён зразумеў, што нехта ехаў па дарозе на Пруды. Ён выскачыў на прагаліну, заўважыў "Жыгулі". Машына пад'ехала бліжэй і, на здзіўленне Кацярыніча, з яе выйшаў начальнік крымінальнага вышуку.

– Упусцілі? – запытаўся ён у Кацярыніча.

– Мабыць, – пагадзіўся ўчастковы. – А ты адкуль даведаўся пра пагоню?

– Старшыня сельсавета патэлефанаваў у райаддзел, а я ў гэты час быў у Літве.

– Зразумела...

– Паехалі назад, – Тур сеў за руль, развярнуўся. Яны пад'ехалі да пакінутай машыны, сталі чакаць Кільчэўскага. Прыкра было на душы ў Кацярыніча. Мучыла думка, што не страляў па колах, калі ехаў за МАЗам на горку. Але што ж зробіш...

– Вунь ён, – Тур паказваў рукой на чалавека, які выйшаў з лесу.

– Хто ён? – перапытаў Кацярыніч.

– Кільчэўскі, вядома...

– Не, Кільчэўскі ў форме, а гэта... – у

Кацярыніча варухнулася надзея. – Трэба яго затрымаць.

Метраў праз сто яны сышліся. Мужчына, апрануты ў клятчастую кашулю, трымаючы ў руцэ торбачку, боязна, як падалося Кацярынічу, паглядваў на іх.

– Не хвалюйцеся, кажыце, хто вы і што робіце ў лесе, – падказаў яму Кацярыніч.

– Я... па грыбы...

– Якія грыбы ў такую спякоту? – абарваў Тур. – Паказвай, дзе МАЗ пакінуў. – Ён штурхнуў яго ў плячо, павёў да “Жыгулёў”. Незнаёмец падпарадкаваўся, сеў у машыну. Моўчкі ехалі па лясной дарозе на Пруды да таго месца, дзе Тур падабраў Кацярыніча. Пасля незнаёмы, ледзь стрымліваючы дрыжыкі, якія ахапілі ўсё яго цела, спытаў:

– Ці ўлічыцца мне пакаянне?

– Вядома, – адказаў Баляслаў Тур.

Метраў праз трыста, на прасецы, як і прагназаваў Кацярыніч, стаяў МАЗ. У яго кабіне ляжаў чалавек з разбітай галавой. Тур намацаў пульс:

– Яшчэ жывы... Паехалі ў бальніцу!

Баляслаў Тур вывернуў МАЗ, выехаў на дарогу. За ім на “Жыгулях” ехалі Кацярыніч з незнаёмым.

– І што вам патрэбна было ад яго? – запытаў у затрыманага ўчастковы, маючы на ўвазе параненага чалавека.

– Машына...

– Дык гэта ён вадзіцель – МАЗа?

Затрыманы згодна заківаў галавой.

– А машыну куды намерваўся збыць?

– На продаж літоўцам... у Маладзечна дамовіўся...

Пры выездзе на асфальтавую дарогу каля Хатавы Кацярыніч заўважыў Кільчэўскага. Ён стаяў перад “Жыгулямі” Гарніцкага.

– Я зараз прыеду за табой, – крыкнуў Кільчэўскаму і завярнуў за МАЗам.

Пацярпелага вадзіцеля прынялі дактары Дзераўнянскай бальніцы. Тур застаўся з затрыманым, які пачаў расказваць яму пра дэталі захопу МАЗа, а Кацярыніч паехаў за Кільчэўскім.

Калі міліцыянеры сабраліся ў Дзераўной каля службовага памяшкання перасовачна-механізаванай калоны, Баляслаў Тур, гледзячы на Кацярыніча і Кільчэўскага, не хаваў сваёй радасці:

– Малайцы, хлопцы, – казаў ён паціскаючы ім рукі. – Сёння ж напішу рапарт начальніку, каб вас адзначылі. А зараз, – Тур паглядзеў на Кільчэўскага, – ты са мной у Стоўбцы, а ты, – ён глядзеў на Кацярыніча радаснымі вачамі, – у сваё Кляцішча.

Яны развіталіся. Перад ад’ездам да Кацярыніча падышоў Кільчэўскі, запытаўся:

– Дзе абяцаная лазня?

– Сёння не ўдалося нам папарыцца ў лазні. Пара адчувалася падчас пагоні.

Кацярыніч заліў з каністры бензін у бак машыны Гарніцкага, адагнаў яе ў двор ПМК. Сеў за руль сваіх “Жыгулёў” і выехаў на кляцішчанскую дарогу. Апрача іншых спраў, яму трэба было сустрэцца з Аляксеем Вараксай, якога пакінуў рамантаваць плот бабулі Альдоне.

– 17 –

Звечара, калі сусед-мінчанін распачаў п’янку з сябрукамі на беразе Усы, а Юзік чамусьці не прыехаў са сваёй Заменкі, у Марыі варухнулася нядобрае прадчуванне. Гэтае пачуццё – то лёгкае, ледзь адчувальнае, то настойлівае, раздражняльнае, як прадраканне нейкай няўдачы, няшчасця – было знаёма жанчыне з таго дня, калі яе, дваццацігадовую нявесту, вёз з пасагам на ваенным ЗІЛе да сябе на хутар яе выбраннік – ляснік Вячаслаў Шуцька. Тады, па маладосці, яна не дужа звяртала ўвагу на гэтыя поклічы сэрца, тлумачыла прычыну трывогі таямнічым, аднастайна-працяжным

гулам зялёных вяршалін пушчанскіх сосен. Праўда, потым, дзень за днём, год за годам, калі жыццё паступова памнажала не толькі радасць і шчасце маладой сям'і, але і няўдачы, Марыя пачала прыслухоўвацца да пачашчаных удараў сэрца. Яно не само па сабе пачынала так біцца, а па няўлоўнаму сігналу з нябачных сусветных крыніц.

Марыя доўга хадзіла па беразе Усы, сям-там падсвечваючы сабе пад ногі ліхтарыкам, прыслухоўвалася ў надзеі пачуць знаёмы грукат калёс, запрэжаных канём, на якім Юзік прыязджаў да яе, але апрача звонкага вірлівага сцёку вады вакол чорных карэнняў тоўстага алешніку, нічога чуваць не было. Нават сціх гоман падпітых гасцей суседа. "Можа, у хату пайшлі", – падумала яна і пайшла спаць.

Яна прачнулася раптоўна з вострым болем у патыліцы. Ціск, як яна адчула, калі знайшла на руцэ пачашчаны пульс, быў высокі. Перасільваючы боль, яна паднялася, высвеціла ліхтарыкам цыферблат гадзінніка: бралася на ранне. Накінуўшы на сябе ватоўку, яна захутала галаву шарсцянай хусткай, выйшла на двор. У прыцемках, на ўсходзе, паверх сосен, якія гудзелі ад ветру, віднеўся акраек шызага неба. Яна адчыніла веснічкі, выйшла з двара. Адразу накіравалася да моста-ляжнёўкі. Тут некалі быў мосцік. Яго Вячаслаў з леснікамі рабіў. Але той ужо даўно згніў. Новы мост зрабіў Юзік. Адзін, без усялякай дапамогі, прыцягнуў з лесу на кані бярвёны, замацаваў іх. Паверх шчыльна ўклаў хваёвыя хлысты, уздоўж прыбіў дзве шырокія дошкі. Атрымаўся выдатны мост. Вясной ён, праўда, можа апынуцца пад вадой, але ж гэта не страшна, вада не знясе яго. Галоўнае, што сёння можна яго выкарыстоўваць і не шукаць аб'езду за кіламетр ад хутара, дзе асобныя участкі Усы чамусьці значна памяльчэлі.

Чорныя воблакі, здавалася, навыперадкі з ёй несліся збоку, бы паказвалі дарогу. Але Марыя,

не ўключаючы ліхтарык, ішла з упэўненасцю, што сустрэне Юзіка. “Можа, з каровай што здарылася, – супакойвала яна сама сябе, – а можа, Пятровіч запіў звечара...” Калі ж пачула наперадзе пырханне каня, яго Лысіка, у нейкі момант нават усміхнулася, але ж сэрца падказвала іншае. Конь стаяў перад мосцікам увесь мокры, запенены. Пужліва зыркаў на Марыю, падымаючы галаву ўгору. Марыя адразу не разабралася, у чым прычына, бо на калёсах не было відаць Юзіка. І толькі калі святло ліхтарыка высвеціла пад пярэдняй воссю чорную ватоўку, а потым – акрываўленыя рукі і галаву, жанчына сцялася ад страху. Ён скаваў яе ўсю. Занямелымі нагамі яна ступіла крок наперад, потым пайшла назад. Спынілася, бо конь, нібы адчуваючы, што яго пакінуць аднаго, пачаў торгацца, круціць галавой. Марыя падышла да яго, анямелымі рукамі тузанула супонь хамута, сцягнула з дугі сырамятную пятлю, вывела каня з аглобляў, павяла яго праз мосцік на двор. Конь задаволена фыркнуў, абдаў жанчыну густой пенай, ткнуў яе пысай у плячо. Марыя тузанула за аброць. Думкі ліхаманкава, адна перад адной, бы ў спаборніцтве, круціліся ў галаве. Жанчына не магла вызначыцца, што ёй трэба зрабіць у першую чаргу. І толькі калі ступіла на двор, зразумела, што перш-наперш трэба пазваніць участковаму. Яна паставіла каня ў хлеў, кінула яму пад ногі абярэмак сена. У хаце села перад тэлефонным апаратам…

Услед за Аляксандрам Кацярынічам на хутар прыехаў Баляслаў Тур, следчы і эксперт-крыміналіст. Доўгі час яны хадзілі вакол калёс, пад якімі, паміж аглобляй і перадком, завязла мёртвае цела Іосіфа, чакалі прадстаўніка пракуратуры. З першай хвіліны Марыі падказвала сэрца, што смерць Юзіка гвалтоўная, хоць Баляслаў Тур і паўтараў, што няшчасны выпадак можа здарыцца з кожным.

– Пра які няшчасны выпадак ён гаворыць?

– пыталася Марыя ў Кацярыніча, калі Тур адышоў да лесу, прыглядаючыся да слядоў. – Няўжо не разумее, што гэта справа нячыстых рук тых траіх, што прыходзілі на хутар, шукалі Юзіка.

Кацярыніч маўчаў. Рабіць вывады ён ніколі не спяшаўся, бо ведаў, колькі таемнага хаваецца ў кожным выпадку. Ён уважліва слухаў жанчыну, у большасці згаджаўся з ёй, ківаючы галавой, распытваў:

– Што апошнім часам яго хвалявала?

– Клапаціўся пра карову, – Марыя нацягнула шарсцяныя рукавіцы, бо працінаў халодны вецер, – казаў, што нешта неспакойна сябе паводзіць.

– Я пытаюся пра іншую трывогу, – перапыніў Кацярыніч, – можа, ён што казаў пра каго чужога, пагрозы ці канфлікты з кім...

– Не, Іванавіч, вы ж ведаеце, з яго калом слова не выб'еш. Сваё асабістае хаваў і ганарыўся ім, маўляў, ён ведае шмат чаго, быццам многія ў яго на кручку, але ж я адчувала, што ён такім чынам даказваў сваю годнасць, аўтарытэт зарабляў. На самай справе гэта было ў яго наноснае...

– А з канём, са сваім канём... Як ён з ім упраўляўся?

– Што значыць "упраўляўся"? – перапытала Марыя.

– Ну, як ён адносіўся да жывёлы?

– І вы туды, – Марыя кіўнула галавой на Тура, які ішоў ад лесу назад, – і вы думаеце, што гэта конь яго так пакалашмаціў?

– Я не кажу пра тое, як апынуўся пад калёсамі Пятровіч, гэта трэба высветліць: сам ён туды трапіў ці яго сілком сунулі пад аглоблі. Экспертыза высветліць, разумееце? Мне цікава, як Іосіф, увогуле адносіўся да жывёлы?

– Як і ўсе мужчыны: поклічам, бізуном... Праўда, калі злаваўся на каня, то станавіўся раз'юшаны: мог тузануць за аброць так, што

жывёліна ўзнімалася на дыбкі, пыхкала, іншы раз, не шкадуючы пугі, мог хвастануць...

Марыя змоўкла, задумалася. Здалёк пачуўся гул машыны. Пад'ехаў работнік пракуратуры. Марыя кіўнула яму галавой, пайшла да сябе на двор.

Недарэчная смерць Юзіка яшчэ больш упэўніла Марыю ў тым, што трэба мяняць месца жыхарства. Сусед-мінчанін, які прыязджаў на выхадныя з сябрукамі, хадзіў гаспадаром па яе двары, правакаваў на канфлікт. Марыя цярпела, не дала яму ніводнай зачэпкі для сваркі, яна разглядала яго подлыя ўчынкі з вышыні жаноцкай мудрасці. У адзін з дзён яна прыйшла ў сельскі Савет, прапанавала выкупіць жытло. Вольных грошай ні ў дзяржаўнага органа, ні ў мясцовым калгасе не было, таму ў куплі гаспадаркі Марыі адказалі. Праўда, ужо на другі дзень да яе прыехалі іншыя людзі: адной з мінскіх арганізацый спатрэбілася месца для базы-адпачынку сваіх работнікаў. Пушчанскі лясны ўзгорак, аплецены рэчкамі Усай і Шурай, вельмі спадабаўся камерсантам.

У апошні дзень, перад тым як сесці на машыну і адвезці апошнія неабходныя рэчы ў Налібакі, дзе Марыя выкупіла леснікову хату, яна выйшла да вусця двух рэчак. Пастаяла каля вірлівай вады, памалілася, папрасіла прабачэння. Можа, калі і пакрыўдзіла іх, незнарок. Марыя стала на калені, падзякавала абодвум рэчкам, лесу, пушчы за той час, які ёй давялося пражыць з імі разам, за іх разуменне, спачуванне і дапамогу.

– 18 –

У той год, калі пякельную летнюю спёку, аж да сарака градусаў, не астудзілі і вераснёўскія дні, добра сябе адчуваць, дыхаць свежым паветрам можна было толькі ў лесе.

Раніцай, пры першых промнях сонца, якое наўскос залаціла верхавіны сосен, ускрай

балота па яго пярэстых купінах блукаў Антось Прыёмка. Спелыя, сакавітыя, чырвона-кіслыя журавіны ён звычайна збіраў позняй восенню ці зімой, а другім разам нават вясной; з-пад снегу выцягваў тонкія доўгія сцяблінкі з дробнымі лісцямі, вылузваў цёмна-бурштынавыя ягады і клаў іх прыгаршнямі ў вядро.

Сёлетнія вераснёўскія клопаты на балоце ў Прыёмкі былі іншымі. Сярод ружовых ад ягад купін ён шукаў лекавыя расліны: вечназялёныя верасовыя кусты ядавітага балотнага мірта, так званай касандры, мёдадайны чальчак, ці, як называюць яго у народзе плакун-трава, або слёзнік. Вязкія настоі з яго, асабліва са сцябла і карэнняў, выкарыстоўваліся як вельмі актыўны супрацьзапаленчы сродак.

Стары прыглядваўся і да рэдкіх, з Чырвонай кнігі раслін. Штодзённа ён марыў знайсці лілею Царскія Кучары: лекавую расліну з буйнымі, брудна-ружовымі, паніклымі да зямлі кветкамі, на якіх блішчалі кропельныя сонечныя плямкі. Ён вельмі хацеў яе пабачыць, бо назва кветкі не выходзіла з галавы, калі б ён толькі не з’яўляўся ў лесе. Занесеную ў Чырвоную кнігу чарамшу, так званую мядзведжую цыбулю, вельмі каштоўную шматгадовую лекавую расліну, ён ірваў столькі, колькі яму было патрэбна. Зараснікі чарамшы распасціраліся на лясных берагах Усы паміж чорна-зялёных вольхаў.

Клопаты па збору лекавых раслін у Прыёмкі распачаліся пасля таго, як спачатку па Кляцішчы, потым па суседніх вёсках распаўзлася пагалоска, што Прыёмкавы журавінныя настоі дапамаглі Аляксею Вараксу вылечыцца ад алкагалізму. Кляцішчы папоўніліся чуткамі, што быццам дзякуючы спецыяльным настоям Анця Бандаровіч не толькі стала такой прывабнай, але і зацяжарыла, як яе былая сяброўка па працы Стася Чыбук-Гарніцкая. Расказвалі і пра Ядвігу Варакса. Пасля таго як стары пачаставаў яе сваім напоем жанчына занялася

вышыванкамі. За кароткі тэрмін яна аздобіла вышыўкай купленыя ў краме ручнікі, прасціны, і прадала іх значна даражэй. Заказы на вышыванкі пасыпаліся адразу, як толькі яна збыла першыя рэчы. Цяпер у доме Вараксаў электрычнае святло гарыць далёка за поўнач: шчыруюць Ядвіська з Аляксеем, праўда, у мужа не так спрытна атрымліваецца. Сям'я таксама чакала папаўнення.

Задумлівы Прыёмка блукаў па не менш задумлівым восеньскім балоце, пакуль не заўважыў даўгалістых расянак – насякомаедных раслін, якія цягнуліся ўверх, як бы вызваляліся ад наступу ўсюдыіснага моху. Стары Антось падоўгу назіраў за гэтай найцікавейшай экзатычнай балотнай раслінай. Яе ліставыя валасіны-шчупальцы з чырвонымі залозістымі галоўкамі і ліпучымі кроплямі шпарка схоплівалі, абязводжвалі і пераатраўлялі камароў і розную заедзь. Прыёмка спецыяльна кранаў лісце галінкамі сасны, сцябламі журавін, але раслінадрапежнік не рэагавала на дотык. Падмануць яе старому так ніколі і не ўдалося.

Ён нарэзаў ядлоўцу, чабору, закінуў палатняную торбу за плечы і рушыў дадому. Падыходзячы да сваёй хаты з агарода, заўважыў каля веснічак дзвюх жанчын. Калі ж прыгледзеўся, пазнаў Галіну Кутас і фельчарку – Ванду Матусевіч. Стары схаваўся за вугал хлява, прыгледзеўся ўважлівей. "Калі з жанчынамі і ўчастковы, значыць, прыйшла камісія, – падумаў ён, – нехта атруціўся настоямі. А гэта бяда, турма на старасці гадоў".

Хвілін з пяць ён яшчэ стаяў за вуглом, але так Кацярыніча і не заўважыў: дзве кабеты сядзелі пад яго плотам на лаўцы і, як было бачна, не думалі нікуды сыходзіць. Значыць, іншая справа прывяла жанчын да яго. Прыёмка рушыў па двары.

– Дзядзька Антось, – пачуў ён голас прадаўшчыцы Галіны Кутас, – мы тут зачакаліся вас.

– А што здарылася? – Прыёмка працяглым позіркам агледзеў з ног да галавы кожную з жанчын. Спакуслівы погляд старога лавеласа быў заўважаны маладухамі. Кутас паківала галавой, сказала:

– Антось Юльянавіч, не верыцца, што вам пад семдзясят, бо такія загадкавыя погляды...

– І не паверыцца, пакуль не адчуецца... – зарагатаў стары.

– Няўжо? – не ўступала задзірыстая Кутасіха.

– Спрачацца ці біцца зараз нязручна, стары ўсё тым жа сквапным вокам акінуў Галіну, потым Ванду, сказаў: – Трэба не ўдзвюх прыходзіць.

Смех ахапіў траіх. Настойлівая Кутасіха сцішылася, хітра прымружыўшы вочы, працягнула гаворку:

– А што, Антось Юльянавіч, з дзвюма не справішся?

– Мне не прывыкаць, – адказаў стары і абхапіў жанчын рукамі. Прыціснуў іх да грудзей так, што ў Кутасіхі нешта трэснула на спіне.

– Паверыла! – крычала Галінка. – Адпусці мяне, Юльянавіч, бо станік расшпіліўся.

Дзед-мацак вызваліў з абдымкаў жанчын, задаволена смяяўся. Радасныя былі і жанчыны. Калі у Ванды яшчэ была сям'я, дзеці, і гэтая жанчына не адчувала недахопу мужчынскай ласкі, муж яе быў добры, працавіты чалавек, то Галіне Кутас прыемна было пабыць у мужчынскіх абдымках. Яна адчула тую прыцягальную сілу, той раптоўна казытлівы пошчак сэрца, калі аказалася блізка з мужчынам. Гады ішлі, сёння яны пабеглі трушком, заўтра – галопам. І калі ўвесь гэты самотна пройдзены шлях яна выбірала мужчыну, аддавалася толькі дзеля таго, каб ад яго нешта атрымаць – грошы, паездку на мора, вопратку і гэтак далей – то сёння, калі ёй за трыццаць і арганізм пачаў даваць збоі, яна нечакана для сябе сур'ёзна задумалася пра будучае. Да таго ж апошнім часам да яе пачаў заляцацца Альберт Мазанік. Сваё

зэкаўскае мінулае ён выкінуў у сметнік, і сёння быццам яго падмянілі. Праўда, казалі, што не без настояў Прыёмкі ён ажыў, стаў першым кавалерам на вёсцы. Прыбраў сваю хату – лепшай у Кляцішчы стала, сам ходзіць з поўнымі кішэнямі грошай, бо піларама, якую ён арганізаваў, штодзень прыносіць яму вялікі прыбытак. Кутас ужо была гатова да таго, каб стаць жонкай Мазаніка, бо ён ужо прапанаваў, але ж праблемы са здароўем адмянілі жаданні, прывялі ў двор да Прыёмкі.

– Антось Юльянавіч, – Галіна пасур'ёзнела, – можа, ёсць у вас настой святаянніку? Кажуць, што ён вылечвае страўнік. Мне патрэбна пазбавіцца ад дрэннага паху з рота.

– Такі настой ёсць, – прызнаўся стары. – Сапраўды, святаяннік выкарыстоўваецца як танізуючы сродак, бо ў расліне ёсць дубільныя рэчывы. Яго можна ўжываць як гарбату, пасля яды, а для паласкання рота, каб пазбавіцца ад дрэннага паху, спіртавая настойка – найлепшы сродак.

Прыёмка сказаў гэтыя завучаныя на памяць словы так, што ў фельчаркі, якая да гэтага часу не верыла ў дзедавы настоі, пачало знікаць сумненне ў Антосевай кампетэнтнасці. Яна хоць і закончыла медыцынскае вучылішча, але не ведала лекавых траў, якія давалі гаючую сілу арганізму.

Стары Антось далікатна не нагадаў яшчэ пра адну лекавую ўласцівасць святаянніка – яго настоямі лечаць жаночыя хваробы. Ён адчуў, што менавіта гэтая патрэба і прывяла Кутасіху да яго. Ён зноў прагна яе агледзеў, усміхнуўся.

– Дзядзька Антось, – прытворна сумелася Галіна, – я зараз паружавею ад вашых поглядаў.

– Гэта мне і трэба, – зарагатаў Прыёмка.

– Яшчэ не вечар, – адказала Кутас, бы паабяцала, што дзедавы мары не дарэмныя, – спачатку прадайце мне настой і выслухайце Ванду.

Стары пасур'ёзнеў. Ванду ён ведаў як

жанчыну з годнасцю, таму адразу ж запытаўся, якіх лекаў не хапае ў яе фельчарскім наборы.

– Рэўматызм з'ядае бацьку, – адказала Матусевіч, – чым толькі не ратавалі. Крыху ачуняе, а як толькі за працу, бо непаседа, зноў баляць суставы.

– Вядомая хвароба, – зазначыў Прыёмка. – Я вам дам настой на зборы звычайнага ядлоўцу і чабору паўзучага. Яго трэба разбавіць настоем са свежых кветак конскага каштана, і рэўматызм не будзе дакучаць. Дзе ваш бацька жыве?

– У Несцеравічах, – Матусевіч паспешліва глянула на гадзіннік, – запыталася, – можа, і супраць перхаці што-небудзь ёсць?

– Чаму ж не, – адказаў стары, – выпадаюць валасы, з'явілася перхаць – значыць, патрэбен падбел звычайны.

– Здзіўляюся вашым ведам пра лекавыя травы.

– Няма чаго здзіўляцца, – адказаў Прыёмка. – Жыццё заставіць чалавека вывучыць не толькі лекавыя расліны. Я зараз прынясу настоі, бо мне таксама часу не хапае. Патрэбна сустрэцца з Віктарам Чыбуком. Ён прывёз жонку з Мінска.

– Ён ажаніўся? – перапытала Кутас.

– А вы што, не чулі?

– Не...

– Быццам і не ў Кляцішчы жывяце. Віктар малайчына. Купіў дарагую машыну, прывёз з Мінска прыгажуню ды, скажу па сакрэту, заказаў у мяне хлебна-палыновай (стары збрахаў жанчынам наконт заказу гарэлкі: ёю ён разлічыўся з Віктарам Чыбуком за рамонт тэлевізара, а ўсё астатняе – была шчырая праўда).

Жанчыны не паскупіліся на грошы, выклалі старому па дзесяць тысяч за кожны лекавы настой, пачалі жвава абмяркоўваць навіну пра жаніцьбу Віктара Чыбука.

– 19 –

Ужо даўно не было так людна ў Кляцішчы, як

у той лістападаўскі дзень. Да школы, у будынку якой павінен быў адбыцца сход па пытанню аб закрыцці навучальнай установы, прыйшоў адзін дарослы ад хаты. Кожны з іх ведаў і разумеў, якія праблемы чакаюць кляцішчанцаў пасля рашэння раённай адукацыйнай камісіі аб закрыцці школы ў вёсцы. Пакутавалі асабліва тыя сем'і, у якіх дзеці тут вучыліся. Прыдзецца дабірацца ім за 15 кіламетраў у суседнюю школу.

Жанкі стаялі каля школьнага парога, шкадавалі дзяцей, падгаворвалі адна адну, каб не маўчалі пры раённых начальніках, а выказвалі ўсё тое, што накіпела на сэрцы.

– Ім не баліць, – горача выказвала сваю думку Лянгіна Вільнявец суседцы – Юзэфе Луцкевіч, – гэта ў нас душа будзе неспакойная. Я не ўяўляю, як мая Мальвінка, ды і твая Бронька, хоць і старэйшая, будзе спраўляцца.

– Цяжка будзе ім, – падтакнула Юзэфа, – ды і нам прыбавіцца клопатаў.

Мужчыны стаялі воддаль, пускалі цыгарэтны дым у марознае паветра, гадалі, якую машыну трэба будзе пераабсталяваць, каб вазіць дзяцей у Налібакі.

– У нашым леспрамгасе такой тэхнікі няма, – пачаў Вячаслаў Бандаровіч, – калі толькі лясніцтва абавяжуць... на іхнім мікрааўтобусе...

– Не атрымаецца, – засумняваўся ляснік Станіслаў Чарняўскі. – Спазняцца будуць на работу леснікі і рабочыя.

– З раёна хай даюць аўтобус, – смела выказаў думку Аляксей Варакса. – Яны рашаюць закрыць школу, ім і думаць пра аўтобус.

– Праўда твая, – Вараксу падтрымаў Бандаровіч. – Вунь каму не трэба хвалявацца, як быць з дзецьмі, – Вячаслаў паказаў рукой на Лявона Вадамцэвіча, які цягнуў на дзіцячых санках тэлевізар да Веры. Атрымаў пад мільён рублёў у апошнім месяцы, Ямелька тут і спакавала яго. – Бандаровіч змоўк, пасля гучна крыкнуў: – Лявон! Ходзь сюды, да людзей...

Вадамцэвіч спыніўся, сцягнуў са сцежкі санкі з тэлевізарам, падышоў да мужчын.

– Я мужыкам кажу, што табе лепей за ўсіх, – сказаў Бандаровіч, калі Вадамцэвіч вітаўся з усімі, хто стаяў каля школы. – Не трэба хваляваціца, што закрываюць школу, што дзецям цяжка будзе дабірацца да Налібакаў. Пажыў у маці месяц, цяпер да Веркі. Яна нюхаўкай чуе твае грошы, усё зробіць, усё аддасць, каб іх выцыганіць у цябе.

– Фёдараўна ведае, каму даць, а каго выправадзіць, – моцна, каб пачулі жанкі, сказаў Лявон.

Усе, хто пачуў Вадамцэвіча, падарвалі жываты са смеху. Гісторыя пра тое, як Бандаровіч некалі чысціў Веры Ямельцы комін, была знаёма кожнаму даросламу кляцішчанцу. Адны верылі, што яна сапраўдная, другія сумняваліся. Вадамцэвіч сам не вельмі верыў, хаця і лазіў на дах, і распытваў Веру, калі і хто чысціў комін. Вера, вядома, магла і пакрывіць душой, магла зманіць яму, каб не пакрыўдзіўся ды не сышоў да маці. Але ж Вадамцэвіч больш трымаўся таго варыянта, што Бандаровіч спецыяльна выдумляў наконт іх з Ямелькай адносін, каб пасмяяцца з яго. Таму, калі натоўп аціх, Лявон, каб падняць на смех Бандаровіча, расказаў гісторыю іншага кшталту.

– Я учора злавіў нейкую хвалю па радыёпрыёмніку. Цікавае пачуў. Аказваецца, што ў Англіі ў час абследавання пяці тысяч замужніх жанчын выявілася, што адзіннаццаць працэнтаў іх дзяцей не належаць законным бацькам. Справа ў тым, што ў тыя хвіліны, калі жанчына здраджвае мужу, у яе вельмі... зараз успомню... – Вадамцэвіч пачухаў патыліцу. – Ага: узбуджаецца ген сексуальнай здрады. Ён, гэты ген, прыжываецца ў арганізме жанчыны нават у бяспечныя для цяжарнасці дні. Дык вось ён, гэты ген, настолькі моцны, што атакуе гены мужа і перамагае іх. Таму, Вячаслаў,

– Вадамцэвіч развярнуўся да Бандаровіча, – ты ніколі не задумваўся, чаму гэта твая Анця раптам такой сасонкай зграбнай стала, чаму яна зацяжарыла? Можа, які чужы ген пастараўся?

– Вядома чый, – пачуўся голас з натоўпу жанчын. – Вучонага.

– Дубаўца, – падказала другая жанчына. – Як жа яго завуць?.. Ген... ген…

– Генадзь Рыгоравіч, – успомніла трэцяя маладуха.

– Ай, яй, яй, – здзівілася чацвёртая жанчына, – дык атрымліваецца, што Анця зацяжарыла ад Дубаўца...

– Бабы, бабы, – гучна крычала жанчына, якая выказала здагадку ўслых, – думайце шырэй. Немаўлят чакаюць Стася Чыбук-Гарніцкая і Ядвіга Варакса.

Натоўп жанчын гудзеў, як раістая сям'я пчол. Навыперадкі адна перад адной яны прыпаміналі кожны крок вучонага, якога некалі праводзілі з акон хат працяглымі поглядамі, разам меркавалі магчымыя стасункі паміж вучоным і жанчынамі.

Так нараджаліся чуткі, якія балюча кранулі душу Вячаслава Бандаровіча. Ён успомніў той вечар, той дзень, калі вёз вучонага на балота ў пушчу. Зараз зразумеў, што памыляўся наконт сваёй таўстаскурай, як ён думаў, Анці, маўляў, яна не магла адчуць у інтымнай справе нейкую асалоду. Так разважаў Вячаслаў пра жонку, калі сам меў палюбоўніц, бачыў і адчуваў іх прывабнасць, якая невядомай сілай цягнула яго ў вір любошчаў. Тады ён адносіўся да яе так: прытрымліваўся парадку, каб яна і людзі не абгаворвалі, хітраваў, абы сабе было добра. Але ж зараз ён прыкусіў язык, глядзеў на мужыкоў, якія рагаталі з яго, успомніў прыказку: “У ціхім балоце чэрці вядуцца”.

Зусім інакш адчуваў сябе ў натоўпе кляцішчанцаў Аляксей Варакса. Ён шчыра смяяўся, паказваў усім свае пракураныя зубы, з асалодай

пацягваў цыгарэту і пускаў дым у паветра доўгім шызым шнурком. Ён добра ведаў, што прамежак п'янага жыцця застаўся ў мінулым, што дачасныя спыненні цяжарнасці ў яго Ядвіські былі з-за таго, што ён ніколі не любіў яе цвярозым, таму неданошаны і не здольны выжыць плод гінуў. Другая справа цяпер, калі ён зразумеў, што так жыць далей немагчыма. Прасвятленне сышло на яго, калі жонка выгнала з дому, калі ўчастковы дапамог усвядоміць, заўважыць тое, на што не звяртаў увагі ў п'яным ачмурэнні.

Да школы пад'ехаў мікрааўтобус лясніцтва. З яго выйшлі дырэктар школы Лявонцій Міхайлавіч Гарэлік, незнаёмыя мужчына з жанчынай, Падзёлка з жонкай, дырэктар леспрамхоза Фелікс Янушкевіч і ўчастковы – Аляксандр Кацярыніч. Яны павіталіся з людзьмі, прайшлі ў школу. Паціху пачалі заходзіць і кляцішчанцы.

Калі ўсе ў зале ўселіся, крыху суцішыліся, дырэктар школы звярнуўся да вяскоўцаў:

– Настаў такі час, дарагія мае вяскоўцы, – сказаў ён, – што школу... – дырэктар крыху памаўчаў, бо перажываў, – патрэбна закрываць. Разумею ваш боль, бо у самога, ведаеце, душа неспакойная, разумею праблемы, якія турбуюць і вас. Давайце разумна абмяркуем іх. Больш падрабязна пра гэта раскажа начальнік раённай адукацыі Галіна Восіпаўна Міцкевіч.

З-за стала паднялася сярэдняга росту жанчына, з пшанічнымі валасамі, апранутая ў чырвоную сукенку з белым карункавым каўнерыкам.

– Мне таксама цяжка было прыехаць да вас ў Кляцішча, – прызналася яна.

Гаварыла яна правільна і складна. Ніхто з прысутных не мог вымавіць і слова, бо ўсё, пра што яна казала, было праўдай. Жанкі і мужчыны, якіх мала, а то і зусім не цікавілі дэмаграфічныя праблемы, разумелі гэта па-свойму. Гэтая дэмаграфія ім бачна была па роднай вёсцы, але яшчэ ў савецкі час у школе вучылася па сто дваццаць – сто пяцьдзясят вучняў, а потым іх

станавілася ўсё менш і менш, і ў пачатку дзве тысячы чацвёртага года ў школе застаўся трыццаць адзін вучань.

– Вы мудрыя людзі, – разважала далей Міцкевіч, – разумееце, што школа, у якой настаўнікаў больш, чым вучняў, не можа функцыянаваць. Гэта не па-гаспадарску. Так склалася, што не толькі ў Кляцішчы, але і па ўсёй Беларусі пайшло скарачэнне народзінаў.

– У нас павялічваецца, – пачуўся з галёркі голас Лявона Вадамцэвіча.

Зала страсянулася ад смеху. Не зразумелі гэтай кпіны над Вячаславам Бандаровічам і Аляксеем Вараксай толькі тыя, хто сядзеў за сталом у прэзідыуме. Яны перапытвалі адзін аднаго, не маглі ўцяміць, што такога смешнага сказаў мужчына.

– Гэта добра, – згадзілася Міцкевіч, калі зноў усталявалася цішыня, – гэта вельмі добра, што ў Кляцішчы знайшліся такія сем’і, якія хочуць мець дзяцей, але пайсці сёння на такі адказны крок, як нарадзіць дзіця, асабліва жанчыне сярэдніх гадоў, гэта геройства. І яшчэ. Калі вы гаворыце пра двух цяжарных жанчын, то я дадам, што ёсць і трэцяя. Яна чакае другога дзіця і...

Бандаровіч не даў ёй закончыць, перабіў, выкрыкнуў:

– Лявон Вадамцэвіч яшчэ не ведае пра мае стаpанні. Яго Верка таксама зацяжарыла ў гэтым месяцы.

Залу зноў выбухнуў смехам. Каб супакоіць сяльчан, дырэктару школы давялося некалькі разоў стукаць алоўкам па графіне з вадой. Нарэшце ўсталяваўся адносны спакой.

– Дык вось, – зноў загаварыла Міцкевіч, – каб не было ніякіх здагадак пра трэцюю жанчыну-гераіню, скажу проста: яна сярод вас. Гэта Арына Свянтоцкая.

Пачуўшы пра сваю другую жонку, якая не ўзяла яго прозвішча, Падзёлка, седзячы за

сталом прэзідыума, апусціў галаву, пачаў разглядаць свае рукі, сашчэпленыя разам у кулак. Яму было няёмка за яе ганарлівы ўчынак.

– Арыне Свянтоцкай удвая цяжэй, – працягвала Міцкевіч, – бо разам са школай закрываецца і бібліятэка. Трэба шукаць іншую работу. Але яна свядомая жанчына, правільна разумее рашэнне кіраўніцтва раёна.

– Вядома! – выкрыкнула Лянгіна Вільнявец. – Ёй што? Падзёлка ўсё вырашыць. А як мне, скажыце, адной, бо муж тыднямі працуе ў леспрамгасе, быць з дзіцём? Што зрабіць, каб мая душа была ў спакоі, не хвалявалася, як дойдзе ці даедзе мая дачушка? Будзе што ёй паесці ў Налібоцкай школе ці галодная застанецца? Я вас пытаю, спадарыня начальніца, – Вільнявец паказала рукой на Міцкевіч.

– Я зразумела вашы прэтэнзіі. За іх вырашэнне, можна сказаць, не трэба хвалявацца, бо з машынай нам першыя дні дапаможа спадар Падзёлка, а потым раён выдзеліць дзецям аўтобус. А што тычыцца харчавання, то яно наладжана ў Налібоцкай школе, праблем не будзе.

Пытанняў да начальніка адукацыйнага аддзела раёна больш не было. Людзі здаецца, паверылі гэтай сур’ёзнай на выгляд, мілавіднай жанчыне. Дырэктар школы запрасіла да трыбуны начальніка аддзела культуры Анатоля Васільевіча Крэкава. Высокі, хударлявы мужчына сваю гаворку распачаў з таго, што ён, ураджэнец Зэльвы, настолькі палюбіў наднёманскі край – радзіму жонкі, што лічыць яго таксама сваёй радзімай. Таму ён робіць усё магчымае, каб стаўбцоўскае Панямонне захапляла не толькі беларуса, але і замежнага турыста.

– У наш край людзі едуць адусюль, каб далучыцца да спадчыны сына гэтай зямлі – Якуба Коласа. Таму мы, нягледзячы на фінансавы голад, пачалі будаваць у акінчыцка-мікалаеўскім наваколлі лесапаркавы комплекс з наданнем яму статусу нацыянальнага парку.

Створана мастацка-мемарыяльная кампазіцыя драўляных скульптур, якая носіць, як нам здаецца, даволі ёмістую назву “Шлях Коласа”. Людзі з усяго свету прыязджаюць дзеля таго, каб сваімі вачамі пабачыць гэты прыгожы куток, прайсці сцежкамі жыцця паэта, захапіцца творчасцю нашага песняра, слыннага сына Стаўбцоўшчыны.

Кожнае мястэчка нашага краю нечым адметнае. Той жа Свержань. Акрамя таго, што гэтая мясцовасць мае слаўную гістарычную мінуўшчыну, яна яшчэ багатая на літаратурныя стасункі. У розныя гады яе наведвалі і пакінулі памяць у сваіх творах рускі пісьменнік Дзяніс Фанвізін, этнограф і краязнавец Павел Шпілеўскі, беларускія і польскія пісьменнікі Уладзіслаў Сыракомля, Адам Плуг, Вінцэсь Каратынскі, паэт Янка Лучына...

– А наша Кляцішча адметнае тым, што закрываюцца школа і бібліятэка, – пачуўся жаночы голас з залы. Гэта была Юзэфа Луцкевіч

Крэкаў змоўк, так і не пералічыўшы яшчэ з дзясятак паэтаў, пісьменнікаў і мастакоў, якія ўслаўлялі мястэчка Свержань. У зале пачала нарастаць незадаволенасць. Юзэфа выкарыстала гэты момант і працягвала:

– Вам добра ў Стоўбцах. Руку працягні – і апынешся ў Акінчыцах, Новым Свержані, дзе можна атрымліваць асалоду ад гістарычных мясцін. Скажыце, а чым мы, кляцішчанцы, можам пацешыцца, калі ў нас закрываецца школа, бібліятэка, калі стаіць разбураны клуб? Мая пятнаццацігадовая Бронька не ведае, куды сябе падзець, калі падрыхтуе ўрокі і дапаможа мне па гаспадарцы. Апрача прагляду тэлевізійных праграм, шчыра скажам, далекаватых ад нашай спадчыны, культуры, дзяўчыне няма чым займацца.

Крэкаў напружана думаў, як правільна адказаць жанчыне, каб не толькі яна, але і ўсе астатнія адчулі, што не толькі ён вінаваты ў

адсутнасці ў Кляцішчы клуба. Будынак разбілі і загадзілі самі вяскоўцы. Праўда, гэта было зроблена пасля таго, як скасавалі пасаду загадчыка клуба. Зноў віна лягла на яго.

Выйсці з гэтай складанай сітуацыі яму дапамог дырэктар леспрамгаса. Ён прапанаваў адрамантаваць будынак клуба за кошт свайго прадпрыемства. Зрабіць гэта можна будзе пры ўмове, што раён верне ў Кляцішчы штатную адзінку загадчыка клуба.

– Зразумейце мяне правільна, – раскрыў сваю прапанову Фелікс Бярнардавіч, – рамонт мы зробім, але калі не прызначым чалавека, адказнага за дзейнасць клуба, нічога добрага не атрымаецца.

Крэкаў абдумваў прапанову, яго паўнамоцтвы як чыноўніка раённага маштабу былі абмежаваныя. Таму ён скіраваў праблему з клубам на ўчастковага, маўляў, хай спачатку знойдзе тых, хто прывёў будынак у такі неахайны выгляд.

Бралася на вечар, і кляцішчанцы пачалі разыходзіцца. Скасаванне работы школы і бібліятэкі было, можна сказаць, вырашана, а справы надзённыя – управіцца з гаспадаркай – яшчэ не.

# Частка II
# СЭНС ЖЫЦЦЯ

– 1 –

*Белай* мукой было зацярушана ўсё: поле, млын, гаспадар, памочнікі і ён – маленькі хлопчык Саша. Пабудова вышынёй з трохпавярховы дом – млын-вятрак у выглядзе свечкі, пасярэдзіне якога павольна круціўся чатырохлопасцевы вінт, – дрыжала ад работы жорнаў, якія пераціралі, расціскалі зерне, тонкі раўчук мукі сыпаўся ў бункер.

Сашка, стоячы ўнізе, глядзеў на дзеда, Васіля Іванавіча Кацярыніча, які зверху, крыху прымружыўшы вочы, рэгуляваў вяроўкай падачу

зерня. Памочнікі ўвіхаліся наверсе. Яны цягалі на плячах мяшкі з зернем, высыпалі іх у шырокую конусападобную бодню.

Недалёка ад млына Сашку чакалі сябрукі – Мішка і Толік. Сашка мог іх прывесці сюды, унутр млына, толькі з дазволу дзеда. Ісці да яго ў час работы млына не дазвалялася, таму Сашка выйшаў з памяшкання, крыху абтрос кашулю, штаны, накіраваўся да сябрукоў.

Яны будуць сядзець збоч, глядзець на вятрак, крылы якога выпісваюць у паветры шызаваты круг, чакаць, пакуль вецер не зменіцца. Тады дзед абавязкова папросіць у іх дапамогі, каб развярнуць млын адпаведна напрамку ветру. Хлапечая дапамога будзе аддзячана кароткатэрміновым, з належнай страхоўкай, гойданнем на лопасцях-крылах.

…Закончылася вучоба ў школе. Александр Кацярыніч, як і мноства хлапчукоў, марыў пра мора. Убачыў яго ў Калінінградзе. Там уладкаваўся на вагонарамонтны завод. Майстэрствам токара авалодаў хутка і нават пераўзышоў свайго настаўніка Героя Сацыялістычнай Працы Уладзіміра Дзюкава. Потым была служба на Далёкім Усходзе, якая прынесла Кацярынічу званне кандыдата ў майстры спорту па вольнай барацьбе. Шматлікія спаборніцтвы далі яму магчымасць пабачыць мноства савецкіх гарадоў, сустрэцца і пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Адзін з іх, сябра па службе, і прапанаваў яму з’ехаць у Латвію. Там, у тэхнікуме механізацыі і электрыфікацыі, працуючы загадчыкам вучэбнай гаспадаркі і трэнерам секцыі па вольнай барацьбе, ён сустрэў сваю палавіну – Ніну Мікалаеўну Малец.

Служба ў міліцыі яшчэ там, у Латвіі, пачалася пасля нараджэння першай дачкі Яны. Праз некалькі год сям’я папоўнілася – нарадзілася Ліля. Аляксандра Кацярыніча цанілі на службе, ведалі як сумленнага і працавітага чалавека. Ён таксама прывык да педантычнага латвійскага

парадку. І толькі часы перабудовы прымусілі яго задумацца над сваім далейшым жыццём, будучыняй сваіх дзяцей. На Беларусі яму прапаноўвалі высокія пасады ў міліцэйскім ведамстве. Аднак сціплы Кацярыніч выбраў абавязкі ўчастковага ў Налібоцкай пушчы. Выбраў з-за таго, што з маленства душой прыкіпеў да роднай зямлі, яе прыроды.

У час службы яму даводзілася сустракацца і знаёміцца з людзьмі, у большасці далёкімі ад вытанчанасці і адукаванасці, часцей слізкімі прайдзісветамі, вырашаць іх лёсы. А гэтая справа не вельмі простая, як іншым здаецца. Калі ты бачыш чалавека, хай сабе і таго, які ўчыніў злачынства, дакранаешся да яго жыцця, паволі пачынаеш перажываць і шкадаваць яго. Колькі такіх чужых лёсаў давялося Кацярынічу перажыць, прапусціць праз сябе, каб прыняць адзінае справядлівае рашэнне. Гэтыя чалавечыя лёсы, бы ў жорнах, са скрыгатам, у якім адчуваецца плач і радасць, круцяцца, здрабняюцца, шліфуюцца жыццём, ператвараюцца ў дробныя пылінкі і разносяцца гуллівым вятрыскам па белым свеце.

# Частка III
# ЖЫЦЦЁ Ў МІЖРАДКОЎІ

## – 1 –

*Белае* было ўсюды: ён сядзеў у *белай* кашулі за сталом, пакрытым тканым *адбеленым* абрусам, на якім ляжалі некалькі *бялюткіх* лістоў паперы; глядзеў у акно з цёплага садовага доміка на прыціхлае, бы ў сне, *беласнежнае*, пад тоўстым лёдавым панцырам балота, якое аберагалі, нібы ваяры, згалелыя на марозе алешыны; бачыў, як успуджаны зайчык-*бяляк*, выскачыўшы з лесу, азірнуўся навокал і паскакаў па сінявата-*белай*, аж іскрылася, снежнай прасторы на другі край лесу. Дубавец заўважыў *белую* курапатку, спалоханую зайцам. Яна ўзляцела

з балотнай купіны і прысела на *белую* шапку снегу на разлапістай хваёвай галінцы. Ад гэтага *бела*-светлага ўзора пацяплела на душы, стала хораша і прыемна ўсведамляць, што ўсё гэта – твая *Беларусь*!

Нягледзячы на ўзрост (а што, дарэчы, узрост, галоўнае – дух, энэргія, жаданне, воля, веды, імкненне і спасціжэнне), ён лёгка падняўся з-за стала, падышоў бліжэй да акна. Убачыў некалькі атожылкаў бярозы, што трапілі пад капеж і замерзлі. Чысты лёд закаваў белыя галінкі, зялёную лістоту ў празрыстую абалонку, захаваў іх натуральны колер.

Так, праз лёд, ён, калі быў яшчэ хлапчуком, разглядаў нутро балота. Яму цікава было назіраць у замерзлай тоўшчы зялёныя расліны, мох, сцяблы чароту і трыснягу, мяцёлкі якіх дрыжалі на паверхні. Свет раслін захапіў яго цалкам на ўсё астатняе жыццё.

Дубавец задумаўся над апошнім словам у кнізе, прысвечанай балотам. Як падагуліць тыя праблемы, якія выкладзены ім на двухстах дваццаці пяці старонках тэксту?

Па сутнасці, дзеля таго, каб жыць, калі разглядаць гэта паняцце элементарна, патрэбны тры ўмовы: есці, піць і дыхаць. Гэта значыць, патрэбна цвёрдая, вадкая і газападобная сферы. Без ежы чалавек пражыве шэсцьдзясят пяць – семдзясят дзён, без вады – сем-восем, а без паветра – пяць хвілін. Харчовыя запасы самі па сабе, без намаганняў чалавека, не з’яўляюцца, вада хоць і цячэ, здаецца, сама па сабе, аднак дзеля таго, каб рацыянальна яе выкарыстоўваць, патрэбны канкрэтныя дзеянні не толькі асобнага чалавека, патрэбна зладжаная работа многіх службаў раёнаў, абласцей і нават краін. Ну, а што тычыцца атмасферы, то яна, як ні дзіўна гэта ўсведамляць, з’яўляецца грамадскай уласнасцю. Пакуль што чалавек не прыдумаў інжынерную канструкцыю, падобную на купал, у якой можна было б захоўваць паветра

і дзякуючы якой усведамляць, што жыццё надзейна абаронена. Вольны ветрык гуляе сам па сабе, не прызнаючы дзяржаўных граніц, ён хутка рухаецца па зямным шары, і павелічэнне вуглякіслага газу адзначаецца ва ўсім свеце – і ў бязмежных акіянскіх прасторах, і на ціхамірных Гавайскіх астравах, і ў Антарктыдзе. Таму не выпадкова ўрады дзясяткаў краін з’ядналіся вакол Кіётскага пратакола, распланавалі работы па яго рэалізацыі, разгледзелі пытанні па захаванню балот, улічваючы каштоўную іх уласцівасць – здольнасць абагачаць атмасферу кіслародам і звязваць, выбіраць з яе вуглякіслы газ. Праблема толькі ў тым, дзе правесці дэмаркацыйную лінію паміж “усё асушыць” і “ўсё захаваць”. Каб вырашыць гэтую праблему, трэба ўстанавіць цану на паветра. Яе пакуль няма, бо кожнаму здаецца, што атмасфера невычарпальная. Аднак ці не ўсе ведаюць, што праз нейкі дзясятак кіламетраў шляху ўверх наша сэрца перастала б біцца, бо не хапіла б кіслароду, каб дыхаць, а значыць – жыць.

Зноў жа, каб жыць, патрэбна вырашыць глабальныя праблемы экалогіі, разглядаючы іх у звязку з трыма іпостасямі прыроды: прырода ўчарашняя, цнатлівая, запаведная, здаровая, прырода сённяшняя, якая актыўна выкарыстоўваецца ў сферы матэрыяльнай вытворчасці, і прырода будучая, якая будзе пакарацца ў час асваення недраў зямлі, акіянаў, космасу.

У першай балота служыць завяршальным этапам развіцця возера, лесу, лугу. У другой балота адыгрывае ролю крыніцы сыравіны для паліўнай і хімічнай прамысловасці, яно ж ператворана меліяратарамі ў сельскагаспадарчыя сенажаці, а ў трэцяй, калі зазірнуць у будучае, балота як дзейсная адзінка таксама захоўвае шмат прывабных рыс. Ва ўсялякім выпадку, калі мы распавядаем пра будучае, то больш ведаем пра тое, што знікне, чым пра тое, што з’явіцца. Таму балота на працягу аднаго

пакалення ніяк не можа знікнуць. А калі так, то карысць ад натуральных балот па выкіду ў атмасферу кіслароду, па іх ролі ў якасці заказнікаў, па нетрадыцыйнаму біятэхнічнаму выкарыстанню застанецца будучым пакаленням, нашым нашчадкам.

Надышоў час, калі можна было паставіць кропку. Дубавец абмакнуў пяро ў чарніла і меўся гэта зрабіць. “Не! – падумаў ён, – я не бог, каб ставіць кропку. Кропка – гэта канец таму, што зрабіў, што пабачыў, што ўсвядоміў. Я не маю права пісаць эпілог, пасляслоўе ці эпітафію. Я жывы чалавек. Ведаю, што людзі стагоддзямі жылі да мяне, што летазлічэнне будзе працягвацца і тады, калі мяне не будзе. Таму сёння я – паміж мінулым і будучым, так сказаць, у міжрадкоўі. У такім малюпасенькім, можа меншым, чым мікроб, што не дае мне ўсвядоміць, быў я ўвогуле калі-небудзь на гэтым ці іншым свеце і ці буду крочыць па зямлі ў будучым. Сусвет, як і балота, жыве па сваіх правілах. Чалавек павінен разумна імі кіравацца, дасканала разумець і прыстасоўвацца. Толькі тады наступіць ідылія ва ўзаемаадносінах для Яе Вялікасці Прыроды і Яе дзіцяці – Чалавека.

*Снежань 2007*

# СЛУЖЫЦЬ ЗЛУ АГІДНА

У купэйным вагоне пасажырскага поезда Гродна – Унеча за столікам, адзін супраць другога, сядзелі двое мужчын: настаўнік вясковай школы Яўген Мартыненка і журналіст маладзёжнай газеты Зміцер Ланеўскі. Яны былі аднагодкамі, разам некалі вучыліся ва ўніверсітэце, праўда на розных факультэтах, жылі ў адным інтэрнаце. Пасябравалі і, нягледзячы на тое, што па размеркаванні Яўген з'ехаў на працу ў вёску, а Зміцер застаўся ў горадзе, стасункі паміж сабою падтрымлівалі.

Ехалі яны да Яўгена ў Касцюковіцкі раён з той нагоды, што Мартыненку па выніках конкурсу прызналі лепшым настаўнікам у рэспубліцы, а Ланеўскі як журналіст асвятляў у газеце гэтае ведамаснае мерапрыемства.

На століку стаяла пляшка гарэлкі “Бярозавая”, ляжалі колцы вяленай каўбасы, хлеб “Нарачанскі” і свежыя, бачна, толькі што з градкі, агуркі. У адчыненае акно разам з начной прахалодай урываўся рытмічны стук колаў.

Яўген Мартыненка, хударлявы, чарнабровы, з акуратна падстрыжанымі вусамі, педантычна рэзаў каўбасу на тонкія да празрыстасці скрылі і з роспаччу гаварыў:

– Няма нічога натуральнага ў горадзе: каўбаса без мяса, дзяўчаты – без дзявоцкасці…

– Як гэта разумець? – іранічна ўсміхнуўшыся, запытаў Ланеўскі, такі ж худаваты з выгляду, але жылісты.

– Правільна трэба разумець, – адказаў Мартыненка, – дамашнюю каўбасу, пальцам пханую, я ламаю. Кавалачкі мяса цалюткія, крохкія, нібы толькі ўкладзеныя.

– Зразумела, – заўважыў Ланеўскі і зноў зацікаўлена запытаў: – А што наконт дзяўчат?

– Тое ж самае параўнанне, – працягваў распавядаць з тым жа адчаем Мартыненка, – у вясковай дзяўчыны на твары сціпласць, а ў гарадской – ганарыстасць, какецтва і

грубаватасць. Я невялікі знаўца дзяўчат, бо сябрую толькі з адной, мне любай, – ты ведаеш яе, у хуткім часе стане маёй жонкай… Але ж учора, калі ў міністэрстве ўручалі дыплом лепшага настаўніка, пабачыўся з той, гарадской, можа ты прыпомніш, якая кружыла галаву на першым курсе. Яна сядзела за сталом прэзідыума каля намесніка міністра. Дык вось, пасля ўрачыстасцей нас запрасілі ў залу, дзе быў накрыты шыкоўны стол. Глядзеў я на былую каханку, і мне брыдка станавілася ад таго ілганства і прыніжэння, якое яна дэманстравала перад сваім начальнікам. Гэта не была акторская ігра, якую яна хацела паказаць мне, гэта былі яе свядомыя паводзіны дзеля ажыццяўлення сваёй мэты – цёплага месца ў міністэрстве. Дзеля гэтага яна гатова цярпець усялякія крыўды, лісліва ўсміхацца, свядома прыніжаць сваю годнасць. Уяўляеш? Чуў бы ты, з якім імпэтам, задаволенасцю яна сказала мне ўчора, што ў хуткім часе намеснік міністра пойдзе на заслужаны адпачынак і яго крэсла будзе аддадзена ёй, начальніку ўпраўлення. Гэта было сказана наўмысна, каб я пашкадаваў, што некалі пагрэбаваў і перастаў да яе заляцацца, што я прасцяк, які не бачыць сябе наперадзе, а таўчэцца, як камар, на адным месцы. Ёй і неўздагад было, што мне больш радасці прыносіць праца, а не пасада, якая пастаянна патрабуе маральных нейкіх высілкаў, прыстасавання… Як гэта агідна! Але ж, аказваецца, ёсць людзі, якім гэткая агіда прыносіць задавальненне, яны атрымліваюць, уяві сабе, асалоду.

Настаўнік змоўк. Яго позірк блукаў па століку, застаўленаму прадуктамі, быццам шукаючы, чаго яшчэ не хапае для запозненай вячэры. Ланеўскі, памаўчаўшы, вярнуўся да закранутай тэмы.

– А можа, усё зусім не так, як ты лічыш, – сказаў ён. – Асабіста я знаёмы з чыноўнікам, які,

як ты кажаш, пакорліва, бы сабака, глядзіць начальніку ў вочы, выконвае ўсе даручэнні хутка і дасканала, але робіць гэта толькі дзеля таго, каб кіраўнік, так бы мовіць, наталіў прагу самалюбавання. Сам жа пад гэтую гульню вырашае ўсялякія асабістыя праблемы. Трэба сказаць, што яму гэта ўдаецца. Ён не мае патрэбы ў грашах, траціць іх як захочацца, жыве, як кажуць, на поўніцу. З другога боку, каб ён быў законапаслухмяным, як мы, напрыклад, правільныя, дык тады, натуральна, у жыцці абыходзіўся б мінімальнымі патрэбамі. Таму, напэўна, і існуе выбар для чалавека: хочаш жыць годна – разлічвай толькі на сябе, ну, а калі апетыт павялічыцца, калі прага да поўнай задаволенасці ў жыцці пачне расці хутчэй, чым рэальныя магчымасці, – рыхтуйся да прыніжэння, знішчэння сябе як асобы.

– Зразумела, – пагадзіўся Мартыненка, – толькі як тады паладзіць з сумленнем? Яно ж як чарвяк будзе падточваць душу і сэрца ўсё астатняе жыццё. Адсюль, ад крывадушнасці, і хваробы чалавечыя.

– Нядобрасумленны чалавек упэўнены ў іншым: маўляў, жыццё чалавеку даецца аднойчы, таму ўзяць ад яго патрэбна спаўна, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці, у тым ліку і гандлюючы сумленнем. Перад смерцю ён папросіць божаньку адпусціць грахі і спакойна пакіне грэшную зямлю.

Мартыненка нічога не адказаў сябру. Ён зірнуў на змрочную шэрань, што вісела за акном на халодным вераснёўскім небакраі, прыслухаўся да рытмічнага грукатання колаў цягніка на стыках рэек. На пераездах, дзе сталёвыя шляхі перакрыжоўваліся, зладжанае “тах-тах, тах-тах…” збівалася, саступаючы новым, енкавым гукам.

Яўген кінуў позірк на Зміцера, які напаўняў чаркі гарэлкай, запытаў:

– Ты лічыш, што такому чалавеку даруюцца грахі?

Ланеўскі ўсміхнуўся, адказаў:

– Усяляк можа быць. Але давай лепш вернемся на грэшную зямлю, парадуемся, што ўрэшце мы зноў разам, што заўтра раніцай сыдзем з цягніка, апынемся ў тых мясцінах, дзе ты нарадзіўся, працуеш… Навошта, сябра, так сур'ёзна паглыбляцца ў складанасці жыцця чалавечага?

– Дзеля ісціны. Толькі яна дае чалавеку магчымасць развівацца, быць стваральнікам на зямлі.

…За акном пачало віднець. Зіхатлівае святло паступова выганяла начную шэрань з купэ вагона, асвятляла расчырванелыя твары мужчын, якія працягвалі разважаць над праблемай сумленнасці ў грэшным чалавечым жыцці.

## СПРАВАЗДАЧА

Пульхная папка для справаздачы, што ляжала на рабочым стале капітана міліцыі Мікалая Кірбая, была для яго ненавіснай. Не давала спакою думка, што ўсё ж давядзецца шукаць іншую працу. Як добра было яму з палкоўнікам Харвацкім, які, можна сказаць, як сына апекаваў яго, клапаціўся, не абцяжарваў рознымі службовымі заданнямі. Кірбай у сваіх абавязках ведаў і добра засвоіў адно: своечасова падагнаць да пад'езда машыну, а ў шафу загрузіць чарговы запас каньяку, закускі, мінеральнай вады, кавы, чаго іншага...

З прыходам новага начальніка – падпалкоўніка міліцыі Міхаіла Іванавіча Дрэгаўца, прысадзістага, з вялізнымі лупатымі вачыма, усё змянілася да горшага. Наведвальнікаў сустракала і частавала цяпер сакратар, Алена Міхайлаўна Канашук, а ён, Мікалай Кірбай, памочнік начальніка, мусіў пісаць службовыя справаздачы, тэксты выступленняў перад асабістым складам і грамадзянамі, віншаванні чыноўнікам і калегам па службе са святамі. І

хаця ў камп'ютарнай базе мелася сотня розных тэкстаў, якія, калі крыху змяніць ці пераставіць словы, сталі б выдатнымі справаздачай альбо віншаваннем, Дрэгаўцу яны ніяк не клаліся на душу. Яму падавай нешта незвычайнае. "А што не так?" – адважыўся неяк спытаць Кірбай у начальніка. "Не ведаю, – адказаў той, – думай!"

Вось і задумаўся Кірбай, падпёршы галаву рукой, ці зноў мяняць тэкст справаздачы, ці пайсці прасіцца на працу ў іншую службу. Раптам зазваніў тэлефон. Мікалай спахапіўся, выцягнуўся ў струнку, выгукнуў у тэлефонную трубку: "Добрага здароўя, таварыш падпалкоўнік, слухаю вас!.." – "Гэта я вас слухаю, капітан. Справаздача падрыхтавана?" Памочнік без прамаруджання адказаў: "Працую, Міхаіл Іванавіч, над тэкстам з сямі гадзін раніцы. Праз пяць хвілін будзе гатова".

Кірбай паспешліва ўключыў кампьютар, знайшоў патрэбны файл. Пераставіўшы абзацы тэксту месцамі, ён вывеў яго на паперу і пайшоў на прыём да начальніка.

– Сёння ўжо лепш, – адрываючыся ад тэксту, пахваліў памочніка Дрэгавец. – Адчуваецца, што папрацаваў над словам. Але ўсё роўна чагосьці не хапае.

"Трасцы табе не хапае", – падумаў Кірбай.

– Тут няма тых слоў, – працягваў Дрэгавец, – якія б стралялі, якія б, як кажуць, "насмерць забівалі" высокае начальства. Толькі ў такім выпадку, капітан, мы зможам паказаць сваю працу, сябе, якая нам цана. Вам зразумела? – амаль выкрыкнуў начальнік.

– Так! – пагадзіўся памочнік, хаця думкі былі зусім пра іншае і ўжо выспела канчатковае рашэнне.

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІН

У машынатрактарнай майстэрні калгаснага двара незвычайна ціха. Змоўк такарны станок, патухла вуголле на кавадле. Слесар Васіль

Маркуленка паставіў на невялічкі стол, накрыты газетай, гарэлку і закусь, якую падрыхтавала жонка. Усміхнуўся, успамінаючы жончыны словы. Гэта ж дадумалася так сказаць, быццам каваль, Макар Сверкуноў, дурыць і аблапошвае яго, Васіля. Ён жа не сляпы, усё навідавоку. Не першы дзень ведае Макара. Праўда, бывае, калі той хітруе, але ж не супраць яго, а супраць механіка, другім разам, праўда, і галоўнага інжынера абвядзе вакол пальца. Ім гэта на карысць.

Жалезныя дзверы майстэрні ляснулі, і з парога пачуўся голас Макара Сверкунова.

– Васіль, мы нешта сёння з табою забавіліся, сярпок над вёскай ужо павіс. Хутка і поўнач.

– А нам няма куды спяшацца, – адказаў Маркуленка, углядаючыся ў цемру, – у мяне свята – дзень народзін, таму пакуль па келіху не вып’ем, дахаты няма чаго ісці.

– Прабач, Васілька, не ведаў, што ў цябе такі дзень. Падрыхтаваўся б...

– Нічога... Мы па-сяброўску...

– Можа, яно і так, – пакруціў галавой Макар, – але не зусім па-сяброўску. Зараз, адну хвілінку.

Макар выцягнуў з кішэні статысячную купюру і працягнуў яе Васілю.

– Вось мой табе падарунак.

Васіль не хацеў браць, адхіліў руку Макара, але ж пасля таго, як Сверкуноў запіхнуў грошы яму ў кішэню, супакоіўся, няўклюдна абняў сябра, датыкнуўся сваім шчаціннем да яго гладка паголенага твару.

– Сядай, Макарка, – увіхаўся перад столікам Васіль, – частуйся. Тут вось мая Кацярынка паклала вяндліны кавалачак, каўбасу пальцам пханую, заўваж!.. Агурочкі марынаваныя, можа, захочацца і часначку… Калі ласка...

...Пляшка гарэлкі была спустошан якраз да поўначы. Ужо трэба было ісці дахаты, але на століку яшчэ заставалася закуска. Успомнілі, што трактарыст Генадзь Лапушкоў заўсёды трымаў пры сабе гарэлку, як ён казаў, на

ўсялякі выпадак. Агледзелі кабіну трактара і на табе: пад сядзеннем у скрыначцы знайшлі "Вясковую".

Зноў слова за слова, чарка за чаркай, пакуль Васіль не падняўся, каб падзякаваць сябру за шчырыя ўзаемаадносіны.

– Мне... Макар... пашчасціла... працаваць разам з табой, – павольна, са слязьмі ў голасе пачаў гаварыць ён. – Не ведаю... што было б, калі б замест цябе быў нехта другі... Такі дарагі падарунак мне... Але ж... Скажы, калі твой дзень народзін?

Макар доўга глядзеў п'янымі вачыма на гадзіннік, пасля чаго адказаў:

– Я нарадзіўся трыццаць хвілін таму.

– Як так? – не зразумеў Васіль.

– Вельмі проста. Твой дзень нараджэння быў учора, а мой – сёння.

– Атрымоўваецца...

– ...Што ты старэйшы за мяне на адзін дзень.

Васіль захваляваўся. Ён нервова сціскаў у руцэ чарку гарэлкі, думаючы пра тое, якім чынам павіншаваць сябра. Ліхаманкава паляпаў сябе па кішэнях, выцягнуў скручаную статысячную купюру і працягнуў яе сябру.

– Віншую цябе, Макар. Прабач... Не ведаў, што сёння такі дзень... Не падрыхтаваўся...

– Нічога, Васілька, – Сверкуноў устаў з-за стала, палез у абдымкі да Маркуленкі, – я ж таксама не ведаў, што ў цябе ўчора быў такі дзень. Так што мы квіты. Давай вып'ем за нас, за наша сяброўства.

Маркуленка кульнуў гарэлку, прысеў. Макар частаваўся каўбаскай, наразаў вяндліну, хрумстаў часнаком і нешта гаварыў яму. Але Васіль не чуў гаворкі, ён раздумваў пра іншае: як гэта несправядліва атрымалася, што ён застаўся без падарунка.

# КАНДЫДАЦКІ МІНІМУМ

Аўдыторыі і калідоры акадэміі міліцыі яшчэ ўчора поўніліся галасамі курсантаў і выкладчыкаў, а сёння пустуюць. Вучоба скончылася, і курсанты раз’ехаліся па хатах, а выкладчыкі пайшлі ў адпачынак. На кафедрах засталіся некалькі прафесараў, якія рыхтуюцца да прыёму ўступных экзаменаў, ды адміністратары.

Здавалася б, зусім нядаўна, аднак прайшоў год, як яна, Вольга Петракова, таксама здавала экзамены, была курсанткай. Пры размеркаванні ёй удалося застацца ў навучальнай установе. Удалося – сказаць мала. Дзякуючы яе ўменню правільна запытаць і цярпліва выслухаць адказ яна добра, а па некаторых прадметах нават выдатна адвучылася ў акадэміі, будучы старастам курса.

Сёння яна, лейтэнант міліцыі, інспектар сакрэтнай часці, паставіла перад сабой іншую мэту – падняцца на навуковую ступеньку. Яе абавязкі прадугледжваюць стасункі і работу з людзьмі, нядрэнна было б заняцца вывучэннем псіхалогіі чалавека.

Вольга папраўляе прычоску, шырока расхінае каўнер кофтачкі, падцягвае вышэй міні-спадніцу і выходзіць на калідор. Кідае позірк уздоўж сцен – шукае вачыма партрэт кандыдата псіхалагічных навук Іллі Генадзьевіча Старасціна. Гэты пяцідзесяцігадовы лавелас кожны раз – калі па службовай патрэбе, а часцей і без яе – спыняў яе і падоўгу распавядаў пра псіхалогію, якую лічыў асновай любой справы. Вучоны бессаромна ўтаропліваў вочы ў яе пышныя грудзі, часам па-бацькоўску падтрымліваючы рукой дзявочы стан, і заўсёды прапаноўваў прайсці на кафедру, каб абмеркаваць цікавую для яе тэму. Сказаць, што Вользе было непрыемна ісці разам са Старасціным, дык не – наадварот, іншым разам яна рабіла гэта дэманстратыўна, каб сяброўкі зайздросцілі такой увазе педагога да яе.

Аднойчы перад іспытам па яго прадмеце, калі стаяла ля акна і разважала аб жыцці, яна нават дазволіла яму прыціснуцца да сябе быццам незнарок. Скрозь лёгкую тканіну сукенкі яна адчула яго гарачае мужчынскае цела. У ім блукаў такі запал, што, калі б не званок, ён паглынуў бы і яе.

Гэта дзіўнае пачуццё не пакідала яе і ў час здачы экзамену. Старасцін ціха расказваў ёй пра псіхалогію ўзаемаадносін паміж людзьмі, часам дакранаючыся да яе рук, чым выклікаў яшчэ большыя дрыжыкі ва ўсім целе. Яна памятае, як ён пасадзіў яе за асобны стол, нібы для дадатковай падрыхтоўкі, а сам хутка праэкзаменаваў астатніх курсантаў. Далей усё адбылося як у тумане…

Калі за акном згусціўся змрок, Старасцін пайшоў дадому, а яна – у інтэрнат. Толькі стоячы пад цёплым душам, усвядоміла, што адбылося. У нейкую хвіліну ёй падалося, што зрабіла вялікае глупства, але, падумаўшы, зразумела, што яе ўчынак можна класіфікаваць як правільна мэтанакіраваны. “Чым аддавацца нейкаму смаркачу, – разважала яна, – дык лепей мецць справу з чалавекам дасведчаным”. У рэшце рэшт, цяпер яна можа моцна трымаць яго не толькі за калашыну.

Так яно і было. Вырашылі сустракацца толькі ў месцах, недасягальных для цікаўных людскіх вачэй. У Вольгі з’явіўся сотавы тэлефон, новыя сукенкі, парфума і, нарэшце, размеркаванне на працу ў акадэмію. Старасцін выконваў усе яе жаданні. Адмовіць ёй ён не мог. Не толькі таму, што баяўся разгадкі іх узаемаадносін, – ён па-сапраўднаму яе кахаў.

Вольга ўвайшла ў кабінет ціха, без папярэджання, бо была ўпэўнена, што, акрамя Старасціна, на кафедры нікога больш няма. Ён зрабіў крок насустрач ёй.

– Я прыйшла па справе, – сказала яна,

адводзячы яго рукі. – Мне трэба здаць кандыдацкі мінімум.

– Добра, – адказаў Старасцін і павярнуўся да кніжнай шафы. – Вось твая будучая праца.

Ён узяў з паліцы папку для папер, напісаў на вокладцы яе прозвішча і тэму навуковага даследавання.

– Трымай, – працягнуў Петраковай папку, – кандыдацкі мінімум ты, можна сказаць, абараніла. Наперадзе праца над дысертацыяй. Калі ты не супраць, дык мы зараз і пачнём яе абмяркоўваць, – ён пстрыкнуў у дзвярах ключом і зняў пінжак.

## МУГІЛЁЎКА

На вясковым двары пушчанскага пчаляра Міхася Міхайлавіча Мікуліча бязлітасна гаспадарыць жнівеньская спёка. Ад гарачыні ў трыццаць сем градусаў, якая ўжо трымаецца больш за тыдзень, паблякла ўся трава, засмагла без вады, скурчылася ў трубачкі лістота на маладых яблыньках, кустах агрэсту і парэчках. Невыносная спякота прагнала з двара нават курэй: яны збеглі пад паветку, сядзяць у цяньку на жэрдках, натапырыўшы пер’е, дрэмлюць, лыпаючы белымі павекамі.

Радуюцца гарачаму надвор’ю толькі пчолы. Ад штохвілінных пасадак і ўзлётаў на прылётных дошках вуллёў няма свабоднага месца. Нават пчолы-вартаўнікі – і тыя пасоўваюцца, даючы дарогу працаўніцам для хуткай выгрузкі нектару і пылку.

Праз захінуты дзяружкай дзвярны праём у хаце чуецца гамонка. Паступова яна перарастае ў спрэчку – лаянку – сварку. Высвятленне ўзаемаадносін паміж жонкай і мужам не даходзіць да бойкі. Усхваляваны гаспадар вывальваецца на двор, намацаўшы, бярэ з драўляных начовак спелую сакавітую грушу, бо надта ж смажыцца ў роце, і, не адводзячы вачэй ад дзвярэй, бо кабета

засталася ў хаце, кідае ёй самае абразлівае на шляхетнай Стаўбцоўшчыне слова: “Мугілёўка!”

Праклёнаў з хаты ў адказ не чуваць. Гаспадар дажаваў грушу, глытнуў… І раптам адчуў, як у роце пачаў расці язык. Ён паварушыў сківіцамі, разгладзіў рукой шчокі. Аднак гэта не спыніла невытлумачальны працэс. Шукаючы вачыма ратунак, ён спыніў позірк на начоўках з грушамі. Там балявалі дзясяткі руда-жоўтых вос...

Тым часам тоўсты язык бы качалка пачаў вылазіць з рота. Дапамагчы магла толькі жонка. Таму, забыўшыся на сварку, ён скокнуў у хату. У тую ж хвіліну са страшэнным лямантам на двор выскачыла яго Таццяна. Яна некалькі разоў, гледзячы на мужа, хрысцілася, прасіла прабачэння ў Бога. Калі ж убачыла начоўкі з восамі, супакоілася. Яна зразумела, што гэта не яе ціхія праклёны (“каб табе языкываліўся”) перакрывілі твар мужа.

## КІРАВАЦЬ – НЕ СЛОВА КАЗАЦЬ

На прылеглай да раённага аддзела ўнутраных спраў тэрыторыі старанна працуюць работнікі міліцыі. Усе да адзінага чалавека, за выключэннем толькі тых, хто на службе, падмятаюць унутраны двор, дарогу, абразаюць кусты і падфарбоўваюць бардзюры. Да начальніка Мікалая Іванчанкі, сівавалосага мужчыны з коратка падстрыжанымі вусамі, падыходзіць яго намеснік Іван Караткоў. Ён схіляе галаву, шэпча на вуха:

– Можам не паспець, Мікалай Іванавіч...

– Сам бачу, – злосна адказвае той. – Што прапануеш?..

– Калі прывезці з ваеннага аэрапорта агрэгат, які гарачым паветрам здзьмувае з пасадачнай паласы пыл і снег, дык мы ачысцім гэту асфальтавую дробку за пяць хвілін. Я папрашу кіраўніцтва...

Начальнік абапёрся на мятлу, задумаўся: “Ці варта так прагінацца перад міністрам, які

ацэньвае работу калектыву не па службовых выніках, а па парадку на двары і ў будынку? Можа, хопіць гуляць у гэтую паказуху, звольніцца і хоць трохі пажыць як чалавек, парадавацца ўнукам. Хай маладыя падладжваюцца пад новыя патрабаванні, няхай вучацца пускаць у паветра мыльныя бурбалкі. Мне гэта не патрэбна”.

Ён глянуў на свайго намесніка, які чакаў яго згоды і прагнуў вызначыцца перад кіраўніком ведамства, кіўнуў яму:

– Я згодны, Іван Сцяпанавіч, – сказаў ён. – Займайцеся, а я знайду сабе працу ў службовым кабінеце.

Іванчанка прыставіў да бярозы сваю прыладу працы, павольна пайшоў да будынка райаддзела. Прысеўшы за стол, ён размашыста напісаў на чыстым аркушы “рапарт” аб звальненні са службы ў міліцыі. Праз некалькі хвілін зарэгістраваў дакумент у аддзеле лістоў і заяў грамадзян, папрасіў загадчыцу пакуль трымаць у сакрэце яго ўчынак і адразу ж адправіць дакумент у кадравы апарат упраўлення ўнутраных спраў вобласці.

…Гледзячы ў акно, за якім грукатаў агрэгат, змагаючыся за парадак у двары, Іванчанка адчуў заспакаенне. Вядома, не ад працы, якая кіпела за межамі будынка, а ад прынятага рашэння. Усяго некалькі слоў у рапарце, а якую цяжкую, дваццаціпяцігадовую службовую ношу яны скінулі з плячэй, як узрадавалі душу!

...У двары райаддзела на новым шэра-мышыным асфальтавым пакрыцці, разагрэтым на пасляабедзенным сонцы, работнікі міліцыі былі пастроены ў дзве шарэнгі. Пачулася каманда “Зважай!”. Намеснік начальніка Іван Караткоў, адбіваючы кожны крок, далажыў міністру аб гатоўнасці асабістага складу да страявога агляду. Блакітнавокі, з сівізной генерал-словаблуд акінуў суровым позіркам шэрагі, сказаў:

– Я меў гонар быць прызначаным і на працягу

трох гадоў кіраваць войскамі МУС. Цяпер, калі мне даводзіцца знаёміцца з нізавымі падраздзяленнямі міліцыі, прыемна ўсведамляць, што з пункту гледжання выканальніцкай армейскай псіхалогіі і тэхналогіі Іван Сцяпанавіч Караткоў улавіў сутнасць камфортнасці карпаратыўных адносін. Гэта галоўнае ў службе. Бо ў стратэгічным плане далейшай перспектывы нашай працы найпершую ўвагу трэба будзе ўдзяляць сацыяльнаму аспекту ў кіраўніцкай дзейнасці праваахоўных органаў, таму што прафесіяналізм патрабуе абавязковасць разумення кіраўніком яго сутнасці, веданне тэарэтычных асноў эфектыўнага кіравання і практычных дасягненняў навукі разам з канструктыўным вопытам і творчай задумай.

Я бачу па тым парадку, які пануе на тэрыторыі аддзела, што Іван Сцяпанавіч Караткоў добра засвоіў гэты прынцып. Прызначаю яго начальнікам раённага аддзела ўнутраных спраў.

Па шарэнгах работнікаў міліцыі хваляй пракаціўся здзіўлены шэпт, а Мікалай Іванчанка, які застаўся ў службовым кабінеце, перажагнаўся і ўздыхнуў: глыбока ў душы ён быў рады, што прадбачанне яму не змяніла, – ён своечасова паставіў кропку ў сваёй сумленнай службе.

## ПЧАЛА І ВЕРАБЕЙКА

Малады таўсматы верабейка пырхнуў з падстрэшка хаты і тут жа нырцом сігануў у куст глогу. Прытаіўся, азірнуўся. Унізе, якраз пад ім, шчабяталі двое братоў-вераб'ёў. Верабейка натапырыў пер'е, стрымгалоў зноў нырнуў уніз. Ён з ходу атакаваў птушак, прагнаў іх з дрэва, а сам уладкаваўся на іх месцы. Ізноў насупіўся, прыўзняў галаву. На вяршаліне дрэва заўважыў чародку сінічак-сястрычак. Верабей пырхнуў угару, прысеў ўзбоч ад усіх. Палахліва азіраючыся, набліжаўся да чарады і стараўся ўсім сваім маўкліва-напышлівым выглядам паказаць сваю значнасць. Але сінічкі скакалі па галінках і не

пакідалі дрэва. Раззлаваны верабей накінуўся на адну з іх ды так торкнуў яе, што нават у дзюбе засталіся пёры. Птушкі кінуліся ў розныя бакі, а пакрыўджаная сінічка зляцела ўніз, у агарод, каб перавесці дух ад страху ды засяродзіцца.

Наравістаму ж вераб'ю гэта не спадабалася. Ён задумаў паказаць сінічцы, хто тут гаспадар, каб ведала, што прылятаць на дрэва нельга, бо гэта яго, вераб'ёва, дрэва. Ён тут лідар. Верабей саскочыў з галінкі і стралой кінуўся на птушачку. Яму хацелася ў поўнай меры адчуць асалоду ад свайго панавання ў найбліжэйшым асяроддзі. Але схапіць знянацку сінічку не ўдалося. Птушачка ўспырхнула, толькі яе і бачылі. Незадаволены верабей пакруціў галавой, пашкадаваў, што не наталіў прагу перамогі, зноў сеў на дрэва.

Тым часам ранішні сад асвяціла бляклажоўтае сонейка. Навокал загучалі птушыныя галасы, зазвінела камарэча, прачнуліся мухі і авадні. Верабейка радасна скакаў з галіны на галіну і папіскваў ад найвышэйшага задавальнення. Раптам ён заўважыў пчалу. Яна і раней тут кружылася, прысядала на лісты, поркала сваім хабатком зеляніну, быццам на ёй быў нектар. Верабейка добра ведаў, што дрэва адцвіло і ніякіх пажыўных рэчываў для пчол на ім няма. Зумканне гэтай істоты пачало раздражняць птушку. На здзіўленне, верабейка не адчуваў да яе варожасці, наадварот, захацеў бліжэй пазнаёміцца, скокнуў і апынуўся перад хабаткам пчалы.

– Ты што тут згубіла? – злосна і настойліва запытаў.

– Волю, браток, незалежнасць шукаю, – адказала пчала. – З нараджэння ахоўвала ляток, потым, пасталеўшы, пачала збіраць корм, а калі набралася вопыту, стала разведчыцай. Лётаю вось, шукаю корм, а хацелася б проста пасядзець у доміку ды паласавацца мядком. Ніякай дэмакратыі, даражэнькі, у пчаліным грамадстве

няма. Жыццё сям'і так арганізавана, што ведай толькі адно – падначальвайся распарадку ды ферамоннай залежнасці ад маткі. Такая адзінота… Таму і кружуся я вось штодня над тваім дрэвам, загаварыць не асмельваюся, чакаю, пакуль ты сам не звернеш на мяне ўвагу.

Расчулілі пчаліныя словы верабейку. Спадабалася яму гэта хоць і някідкая з выгляду, але непакорная па духу асобіна. Захацелася падзяліцца вопытам, адчуць сябе некаму патрэбным – гэта ж найвялікшая асалода.

– Вось што я табе, суседка, скажу. Запомні адно найпершае ў жывой прыродзе правіла. Воля і незалежнасць могуць быць дасягнуты толькі пры поўнай тваёй уладзе. Ты павінна стаць лідарам у пчалінай сям'і.

– А як жа матка-карміцелька?

– Зрабі так, каб яна, напрыклад… знікла!

– Як гэта?

– Проста, але… ў той жа час і складана, – неяк блытана адказаў верабейка. Ён змоўк, потым рашуча зноў пачаў гаварыць. – Але абавязкова гэта зрабі! Толькі так ты сама станеш маткай. У тваіх руках тады будзе ўсё, а значыць – поўная воля і поўная незалежнасць. Вунь, зірні, колькі стагоддзяў разумнае чалавечае грамадства імкнецца да дэмакратыі, але ж і па сёння яно не абыходзіцца без лідара. Там, дзе яго няма, адбываецца інтэнсіўны працэс фізіялагічнай, інтэлектуальнай і маральнай дэградацыі. Так што не прыдумвай нічога іншага. Проста любым чынам, нягледзячы на складанасці, бяры ў свае рукі кіраўніцтва. Свет сам па сабе жорсткі, і выжывае ў ім не мямля, не ныцік і размазня, а той, хто дакладна ведае, што яму трэба зрабіць, каб атрымаць поўную і неабмежаваную свабоду дзеянняў.

Верабейка змоўк, бо нечакана чорнае каршунова крыло накрыла яго зверху. Ён адчуў глухі боль і вусцішнасць некіруемага ўзлёту...

Не вярнулася ў вулей і пчала. Раптоўны

гвалт моцнай істоты – птушкі з вострымі кіпцюрамі – настрашыў яе настолькі, што ёй не хапіла сіл даляцець да доміка, у якім нарадзілася…

## АРГАНІЗАТАР

Малады ды, як кажуць у народзе, ранні, капітан міліцыі Максім Гаўлючук сядзеў за сталом у сваім рабочым кабінеце і глядзеў у акно. Ішоў мокры снег, на пляцы стаялі работнікі дарожна-патрульнай і патрульна-паставой службаў, дзяжурныя, оперупаўнаважаныя, участковыя, інспектары па справах непаўналетніх. Праз некалькі хвілін двор абязлюдзеў, на ім застаўся толькі старшына, які адкідваў рыдлёўкай снег ад сцен будынка.

– Вось што значыць разумна арганізаваць працу, – задаволена падумаў пра сябе Гаўлючук. – Галоўнае – паказаць чалавеку, калі, дзе і як ён павінен рабіць тое, што запланавана.

Капітан міліцыі паклаў перад сабой чысты аркуш паперы, напісаў: “План падрыхтоўкі і правядзення рабочай сустрэчы з замежнай дэлегацыяй”. Пачаў разважаць: “Сустракаць групу ў аэрапорце павінен, напэўна, адзін з намеснікаў, а перад будынкам аддзела выйдзе прывітаць кіраўнік. Хлеб-соль – гэта жанчыны з сакратарыята, азнаямленне з крыміналістычнай лабараторыяй, стралковым цірам і рабочымі кабінетамі – таксама начальнік, з намеснікамі. Рабочая сустрэча пройдзе за сталом у пакоі адпачынку, гэта таксама яго, кіраўніка, клопат, а вось абед у рэстаране і паездку па славутых гісторыка-культурных мясцінах трэба мне браць у свае рукі. Давяраць такую работу можна толькі сабе. Тут патрэбны такт, павага, веданне гістарычнай спадчыны. Замежнікі гэта паважаюць, цэняць. Так, што яшчэ? Ага, ледзь не забыў. Падчас знаходжання дэлегацыі ў Беларусі трэба сфатаграфаваць гасцей, запісаць на відэастужку. Гэта зробяць крыміналісты. Уручыць гатовыя фотаальбомы і відэакасеты пажадана пры

развітанні ў аэрапорце. Гэта будзе эфектна. Начальнік аддзела ацэніць гэтую прапанову. Што яшчэ? Яшчэ трэба купіць сувеніры. Гэтай справай зоймецца гаспадарчая служба. Ну, мабыць, і ўсё...”

Гаўлючук глянуў у акно, падпёршы галаву рукой, падумаў: “Добра было б, каб праз годдва, калі падыдзе тэрмін атрымаць маёрскія зорачкі, заняць пасаду намесніка начальніка па агульных пытаннях. Распараджацца можна ўсім і ўсімі, а адказнасці – ніякай”...

Ён летуценна ўздыхнуў і панёс план сустрэчы дэлегацыі на зацвярджэнне начальніку.

## РАЗУМНАЯ ПАЛІТЫКА

Дырэктар гімназіі Тамара Іванаўна Ганчар, ахутаўшы плечы пуховым шалем, любавалася новай столлю актавай залы, якая напярэдадні была абшыта еўравагонкай.

– Бялюткая, чысцюткая, аж зіхаціць, – выказвала яна сваё захапленне новаму завучу Веры Максімаўне Плахотка. – Стрымаў свае слова Карацелькін, малайчына. Дарэчы, у яго ж сёння дзень нараджэння, трэба не забыць. Цяпер справа за бацькам Васечкіна. Ён паабяцаў давесці да ладу сцены, а маці Гены Хвосцікава, яна дырэктар нейкага адкрытага акцыянернага таварыства, – пакласці паркет.

– Тады можна будзе запрашаць у школу нават і міністра адукацыі, – выказалася завуч.

Дырэктарка пераняла позірк са столі на жанчыну. Падумала, што нарэшце бог паслаў напарніцу, якая будзе яе разумець і стане добрым памочнікам.

– Пра што я настаўнікам і тлумачу штодня, – усхвалявана пачала гаварыць Ганчар, – мы павінны праводзіць разумную палітыку з бацькамі вучняў. Хоча ён, гэты Карацелькін, каб яго сын вучыўся ў нашай гімназіі, хай вучыцца. Нічога, што яны жывуць у другім раёне, нічога, што ў хлопчыка слабыя веды... Школу

закончыць, а там... Увогуле, нам пра яго будучыню хваляваацца няма чаго, яна забяспечана яму бацькам.

– Так, так, – згодна заківала галавой завуч, – я, Тамара Іванаўна...

– Дык вось, – перапыніла дырэктарка, – вы, Вера Максімаўна, у калектыве чалавек новы. Настаўнікі будуць прыглядацца да вас, шукаць падыходы. Гэта натуральна. Галоўнае для нас зараз – праводзіць адзіную палітыку. Выслухвайце, спачувайце ім, але ніколі адразу не згаджайцеся з іх прапановамі, бо потым у вас не будзе выбару. Прыходзьце да мяне ў любы час. Параімся і вырашым, што ды як… Нашы настаўнікі, – працягвала яна, – у большасці яшчэ жывуць у савецкім часе, яны не могуць пераадолець свае комплексы, па-ранейшаму прытрымліваюцца стэрэатыпаў. Таму вам трэба будзе асцярожна нагадваць ім пра такіх дзяцей, як Міця Карацелькін, Толя Васечкін, Гена Хвосцікаў, бацькі якіх дапамагаюць школе матэрыяльна. Хай падхвальваюць іх, добрыя адзнакі выстаўляюць, каб дзеці адчувалі, што іх падтрымліваюць і… бацькі будуць пра гэта ведаць... Праўда, некаторыя настаўнікі маюць іншую думку. Яны лічаць, што такім вучням нельга патураць, наадварот, трэба караць іх дрэннымі адзнакамі, патрабаваць, каб лепш вучыліся. Яны не разумеюць, што заганяюць дзяцей у кут. З такімі настаўнікамі трымайце дыстанцыю, пры першай магчымасці нагадвайце ім пра іх уласныя прабелы і грахі і карыстайцеся паўнамоцтвамі завуча спаўна.

Педагогі агледзелі спартыўную залу, музей гімназіі, класы хіміі, фізікі, пасля чаго выйшлі на калідор. Насустрач ім выбег хлопчык. Дырэктарка спыніла яго, злосна спытала:

– Ты чаму бегаеш у час заняткаў?

Хлопчык вінавата апусціў галаву, ціха сказаў:

– Я... у прыбіральні быў...

– Я не пытаю, дзе ты быў, я пытаюся, чаму ты бегаеш па калідоры, калі ў класах ідуць урокі?

– Спяшаюся, – дрыготкім голасам адказаў хлопчык.

– Вось каб не спяшаўся і ўмеў правільна размяркоўваць свой час, я паклічу бацькоў у гімназію, пагавару з імі наконт тваіх паводзін. Як тваё прозвішча?

– Ганчарэнка. Не трэба зваць бацькоў, я больш так рабіць не буду, – расплакаўся вучань.

– Трэба не трэба, мне вырашаць, а табе... – дырэктарка не дагаварыла, бо з прыбіральні, моцна пляснуўшы дзвярыма, выбег другі хлопчык. Жанчына гнеўна пазірала на яго, чакала, пакуль той дабяжыць да іх. Калі той наблізіўся, імгненна узрадавалася: – Карацелькін, Міцечка, – лісліва зашчабятала яна, прысеўшы на кукішкі каля хлопчыка, – я ж яшчэ не павіншавала твайго бацьку з днём нараджэння, часу зусім няма, занятая.

– Няма праблем, Тамара Іванаўна, – хлопчык дастаў з кішэні мабільны тэлефон, націснуў адпаведную кнопку. – Гаварыце.

Дырэктарка доўга рассыпалася ў віншаваннях і найлепшых пажаданнях, Коля Ганчарэнка побач шморгаў носам ды выціраў рукавом слёзы, а завуч Вера Максімаўна не ведала, куды падзець вочы ад сораму…

## СКАРГА ГРАМАДЗЯНІНА

Міністр унутраных спраў чытаў скаргу грамадзяніна Хвосцікава на незаконныя дзеянні інспектара дарожна-патрульнай службы сяржанта Белабародава і незадаволена круціў галавой. Не стрымаўшы эмоцыі, мацюкнуўся і раз’юшана цісканўў клавішу селектарнай сувязі. Намесніка не аказалася ў кабінеце, што яшчэ больш раззлавала міністра. Ён размашыста начыркаў на аркушы: “Разабрацца і далажыць!”

Мінуў дзень. Пад рэзалюцыяй кіраўніка яго намеснік вывеў: “Выканаць. Тэрмінова!”

Азнаёміўшыся са скаргай і патрабаваннямі вышэйстаячых кіраўнікоў, начальнік упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама загадаў: “Пакараць вінаватага! Далажыць неадкладна!”

Разбіраючы чарговую пошту, начальнік райаддзела маёр міліцыі Загараднюк убачыў спярэшчаную рэзалюцыямі скаргу на свайго падначаленага. Ён уважліва яе прачытаў, адклаў у бок. Пасля пяціхвілінкі, на якой кіраўнік удакладняў задачы для службы падраздзяленняў, Загараднюк запрасіў Белабародава ў рабочы кабінет.

– Тут на цябе скарга, – сказаў ён і зірнуў на стос дакументаў, калі сяржант пераступіў парог. – Ведаю тваю справядлівасць у працы, добрыя ўзаемаадносіны ў сям’і і з бацькамі, таму ўпэўнены, што ты не перагнуў палку ў згаданым выпадку. Разбірацца няма каму, таму адказ напішаш сам.

– Зараз? – Белабародаў стаў выцягваць з планшэткі аркуш паперы.

– Не, – спыніў яго начальнік. – Спачатку служба, а гэта пасля рабочай змены. Зразумела?

– Так, – адказаў сяржант, – не ўпершыню.

## СМЕРЦЬ П’ЯНІЦЫ

У адзін з азызлых лютаўскіх дзён Пятро Каўшук, саракапяцігадовы мужчына, жыхар вёскі Зацемкі, сядзеў у хаце каля акна і гараваў. Споўнілася паўгода, як памерла яго маці. Так было добра жыць пры ёй: заўсёды сустрэне, накорміць, адпачыць пакладзе, незалежна ад таго, падпіўшы ты ці цвярозы. А цяпер застаўся адзін, як воўк у логаве. Каўшук кідае позірк на голыя, абшарпаныя сцены пакоя, на самаробны драўляны ложак, дзе ляжалі рызманы ды зашмальцаваная ватоўка. Ён ужо даўно тут не бачыць шафы, камоды, швейнай машынкі

і табурэтак, не можа ўспомніць, куды падзеўся посуд, што стаяў каля печы на шафцы, куды зніклі чыгуны і патэльні. У галаве часам узнікаюць вобразы нейкіх людзей, якія то ўваходзяць у хату, то выходзяць, нешта гавораць яму, паднімаюць чаркі, спачуваюць...

Каўшук пашкрабаў рэдзенькую бараду, аблізаў засмяглыя, з сінечаю, патрэсканыя вусны. Адчуў, як нутро просіць піць. Хаця б вады якой. Падышоў да лавы, пашукаў каля вядра кубак і не знайшоў яго. "Некуды ж, халера, падзеўся",– здзівіўся ён і прысеў, сілячыся выпіць нагбом. З вядра выпаў лядзяк, балюча ўдарыўшы яму па носе і падрапаўшы губу, і разбіўся аб падлогу. Каўшук выцер рукавом жывы ручаёк крыві, адкінуў галаву, цяжка ўздыхнуў. Прыціснуў да носа кавалачак лёду, потым датыкнуўся да вуснаў, пасля праглынуў яго.

Раптам праз акно ён убачыў, як каля Мэтлікаў, недалёка ад яго хаты, спынілася легкавушка. "Зяць Мэтлікаў, Мішка, мусіць, прыехаў, – здагадаўся ён, спрабуючы пазнаць тых, хто вылазіў з машыны. – Жонка, дзеці... Што ж гэта вымусіла іх прыляцець?.. зімой?" Каўшук выйшаў у сенцы, адчыніў дзверы і зажмурыўся: снежны пыл віхурыўся, казытаў яму нос, засыпаў вочы. Ён прыклаў руку да лба, паглядзеў праз плот на суседскі двор, убачыў нечую постаць каля хлява.

– Гэй, сусед! Дзядзька Максім, – крыкнуў, – падыдзі сюды.

Да яго падышла суседка. Яна кінула каля штыкетніка шуфель, паправіла хустку, якая выбілася з-пад каўняра ватоўкі, пачала сароміць Пятра:

– Што, дапіўся, Пятро, не адрозніваеш мужчыну ад кабеты?

– А, гэта ты, цётка Марфа. Прабач, не пазнаў.

– Бо вочы заліў гарэлкаю.

– Няма гарэлкі, цётка, няма... А так

хочацца. Можа, рублік пазычыце? Я аддам... Вы ж ведаеце...

– Што яны мне, гэтыя рублікі, з неба валяцца?– узлавалася суседка.

Каўшук пераступіў з нагі на нагу, сказаў:

– Не крыўдуй, цётка. Я ж хачу памянуць маці.

– Ты ўжо даволі дапамінаўся... Вунь у адной кашулі застаўся... Усё прапіў, што нажыла нябожчыца...

– Хопіць, цётка Марфа, я ўжо чуў гэта. Скажы лепей, чаго гэта зяць Мэтлікаў прыехаў з сям'ёй?

– Во дажыўся, п'яніца... Не чуў нават, што Мэтлічыху пахавалі.

– Як?.. Калі?

– Ат, што з табой гаварыць, – сказала суседка і адышла ад штыкетніка. – Пустэча ты, а не чалавек, – крыкнула яна ўжо здалёк.

Каўшук не пакрыўдзіўся на суседку, наадварот, адчуў у яе словах клопат пра сябе, бачна ж, што цётка Марфа жадае яму дабра, таму і злуецца. Ён абышоў усе чатыры куты хаты разоў з пяць, шукаючы таго, чаго не губляў, спадзяваўся на ўдачу: а можа, не заўважыў, раптам нехта забыў хоць кропельку. Але пад ногі трапляліся газеты, анучы, пустыя бутэлькі. Кожную з іх ён аглядаў, раздумваў, як бы прадаць. Не знайшоўшы выйсця, ён скурчыўся у куце, заенчыў, адчуўшы востры боль у жываце. Падцягнуў ногі аж да падбародка, сцяў зубы. Калі адпусціла, схапіў некалькі пустых бутэлек, параспіхваў іх па кішэнях, заціснуў пад пахамі і паплёўся да Мэтлікавых. Каля машыны ён павітаўся з Мішкавай жонкай, паспачуваў ёй з прычыны смерці маці, успомніў сваю:

– Гэта ж такія жанчыны былі, – з жалем казаў ён, стоячы перад Галінай Мэтлікавай, – нароўні з мужчынамі і араць, і касіць... А сябравалі як!.. Штовечар хадзілі адна да другой, – Каўшук расплакаўся.

Галіна таксама пусціла слязу.

– Зайдзі, Пятро, у хату, – сказала яна, выціраючы вочы ражком хусткі і першая пакрочыла па сцежцы.

– А я вось уздумаў здаць у краму бутэлькі, з людзьмі пагаварыць, хлеб які купіць, – шчыра хлусіў ён, ідучы ўслед за Галінай, ціха радаваўся хуткай магчымасці перакуліць чарку, мо і другую, а там... там будзе бачна.

Галіна дастала з шафы пляшку, наліла ў чарку гарэлкі і паставіла на стол.

– Выпі, Пятро, хай нашым матулям будзе зямля пухам.

– Дык я адзін? А Мішка дзе?

– Ён выпіў, заснуў. Мне давядзецца зараз за руль садзіцца, так што выпівай, ды я пайшла дзяцей збіраць у дарогу, – яна паставіла бутэльку гарэлкі ў шафу, зачыніла дзверцы.

Каўшук хацеў пагаварыць, успомніць маленства, школу, калі разам раслі, гадаваліся, але Галіна, спасылаючыся на недахоп часу, не падтрымала гаворку і адчыніла дзверы. Каўшук пераступіў парог, некалькі разоў падзякаваў жанчыне і паплёўся дадому. Толькі каля плота ўспомніў, што не аддаў пустыя бутэлькі Галіне, можа, яшчэ адну чарку напоўніла б. Крыху пастаяўшы, ён не асмеліўся ісці зноў да Мэтлікаў, патэпаў у хату. “Занясу пазней, – падумаў, – мо яшчэ не з’едуць.”

Ён зноў змераў крокамі хату, заглянуў у печ. Хацеў распаліць агонь, ды пад рукой не апынулася паленца. Ён выйшаў у сенцы, прыгледзеўся да сцяны, паспрабаваў рукой адарваць дошку. Шалёўка крахтанула, але не паддалася. Тады Каўшук стукнуў нагой. Дошкі адна за другой пазляталі са сцяны.

Калі ў печы зашугала полымя, Каўшуку стала весялей. Чырвона-жоўтыя языкі агню абхоплівалі сухія сасновыя дошкі, хату напаўняла цяпло. Ён сеў на лаву каля загнета, выпрастаў плечы, пачаў размаўляць з агнём – жывы ж!

Колькі часу ён так праседзеў, невядома, але ўспомніў, што трэба ж занесці бутэлькі Галіне Мэтлікавай. Падхапіўся, зноў параспіхваў іх па кішэнях, за пазуху, набраў у рукі.

Па двары ўздоўж плота, выцягваючы валёнкі з сумётаў, Каўшук так-сяк выбраўся на вуліцу, ступіў на дарогу. Выпрасаваная коламі машын і палазамі саней, яна блішчала пад яркай поўняй. Каўшук сцішыў ход, прымружыў вочы, прыглядаючыся да Мэтлікавай хаты, і, калі яму здалося, што легкавушкі няма на падворку, пайшоў шпарчэй. Упэўніўся: Мэтлікавы з'ехалі.

Падышоў да дзвярэй, тузануў замок. Дзіва! Замок зачынены, а засаўка не сашчэплена з металічнай дужкай. "Напэўна прыхваткам зашчоўкнулі замок", – падумаў ён, разважаючы, што рабіць: зайсці ў хату ды калі і не забраць тую бутэльку гарэлкі, з якой частавала яго Галіна, дык хоць глынуць з яе трохі, а потым пазваць цётку Марфу, паказаць, што хата не зачынена. Так лепей, вырашыў ён і ступіў цераз парог. У сенцах спатыкнуўся аб нейкі мяшок, пераступіў яго, трымаючыся за сцяну, упоцемку намацаў клямку.

Перш чым адкрыць шафу ды зрабіць жаданы глыток, ён пачаў выстаўляць на падлогу бутэлькі, што прынёс з сабою. Калі выцягваў з-за пазухі апошнюю, пачуў, як у другой палове хаты нехта быццам бы ўздыхнуў. Каўшук заціх, насцярожыўся, пачуў, як забілася сэрца. Хацеў падняцца, ды раптам дзверы адчыніліся і на парозе ў святле поўні з'явілася здань, якая бы маятнік хісталася з боку ў бок. Страх сцяў цела жалезнымі абцугамі. Адчуў, як млеюць ногі і ён быццам правальваецца некуды... Здалося, што ўпаў у склеп, грымнуўся. На паліцах розныя стравы, віно ў бочках каля сцен. Толькі людзей чамусьці няма, адны пацукі сігаюць паміж талерак, трушчаць нешта і запіваюць віном. Каўшук паспрабаваў падняцца, каб выпіць хоць кроплю,

ды бочка неяк сама нахілілася, а віно пацякло яму ў рот...

Ён адплюшчыў вочы, убачыў над сабой Галіну Мэтлікаву з вядром у руках, яе дзетак, цётку Марфу. Крыху прыўзняўся, заўважыў Мішку, зяця Мэтлікаў, які мяшком ляжаў каля яго ног. "І чаго ён тут ляжыць? – падумаў Каўшук. – Што гэтым людзям увогуле трэба ад мяне? Я так хачу спаць..."

Ён склаў рукі на грудзях і... памёр.

## "ХОЧАШ БЫЦЬ ПАДПАЛКОЎНІКАМ?"

Сакратару аддзела кадраў міністэрства ўнутраных спраў Надзеі Міхайлаўне Герасюк, жанчыне пенсійнага ўзросту, далі памочніцу Верачку – сірату, выпускніцу сярэдняй школы. У будучым Верачка мусіла заняць яе месца. Дзяўчынка імкнулася ўсё пераняць ад сваёй настаўніцы, пыталася і перапытвала, што ды як рабіць. Словам, добрая, годная замена. Адно перашкаджала Верачцы: як толькі ў сакратарыят уваходзіў малады афіцэр ды сустракаўся з ёй позіркам, яна вельмі гублялася, шчочкі яе чырванелі і ручкі дрыжалі.

Заўважыла гэтую слабіну Надзея Міхайлаўна, пасадзіла дзяўчыну перад сабой:

Гляджу я на цябе і сябе бачу. Такога ўзросту, як і ты, я была ў вайну, у партызанскім атрадзе. Тады надта ж саромелася мужчынскіх поглядаў. У мяне з рук усё вывальвалася. Мужчыны гэта заўважалі, некаторыя гатовы былі перада мной на задніх лапках хадзіць, каб дакрануцца, пацалаваць, ну а потым... напэўна, ведаеш, што ім патрэбна.

Верачка згодна кіўнула галавой і цяжка ўздыхнула.

– Дык вось, – расказвала далей Надзея Міхайлаўна, – аднойчы выклікаў мяне да сябе камандзір атрада і кажа: "Бачу, што ты

добрасумленная дзяўчына. Родных у цябе няма, таму хачу даць табе бацькоўскі наказ: не паддавайся пачуццям. Думай, праяўляй характар. Ён у цябе, бачу, ёсць!”

Мне вельмі запалі камандзіравы словы ў душу. Я неўзабаве адчула сябе смелай і адчайнай. Баявы ордэн за смеласць атрымала. А хутка сустрэла і сваю палову – старшыну партызанскага атрада Івана Грэкава. Трыццаць пяць гадоў разам, душа ў душу жывём.

Па заканчэнні вайны прыйшла я працаваць у гарадскі аддзел міліцыі. Начальнікам тады быў палкоўнік Аляксей Громаў – высокі, шыракаплечы, волатаўскай сілы мужчына. Баявы камандзір, з фронту прыйшоў. Я ведала пра яго прыхільнасць да жанчын, таму з першага дня работы часта ўспамінала словы свайго камандзіра. Аднойчы Громаў выклікаў да сябе і распачаў распавядаць байкі. Я павярхоўна слухала яго, усміхалася, ды думала пра сваё. Ну, а калі начальнік запытаў мяне, ці хачу я быць падпалкоўнікам (я зразумела як “пад палкоўнікам”), тут я праявіла характар, сказала, што мне і старшыны дастаткова. Кіраўнік не зразумеў, чаму я так адрэагавала, пасур’ёзнеў, а потым, калі ўсвядоміў гульню слоў у сваім пытанні, зарагатаў. Аказалася, ён прачытаў пра мяне нататкі ў ваеннай газеце і захацеў прапанаваць пайсці вучыцца, тады набіралі на курсы кіруючых работнікаў.

…Верачка выслухала, употай уздыхнула нейкім сваім думкам. І ўсміхнулася – таксама нечаму свайму.

## ТУПІКОВАЯ СІТУАЦЫЯ

Іван Піліпавіч Лічылкін, бухгалтар будаўнічай арганізацыі, сабраў дакументы на прыватызацыю зямлі ў садовай суполцы і прыйшоў у райвыканкам. Каля зямельнага аддзела таўкліся людзі ў чарзе. Лічылкін стаў крайнім. Запытаў у жанчыны:

– Ці ўправімся мы са справамі да абедзеннага перапынку?

Жанчына з жалем паглядзела на яго, спытала:

– А вы што, першы раз тут?

– Пэўна ж, – адказаў Лічылкін, – вось сабраў неабходныя дакументы...

– Некалі я таксама разлічвала, што хутка адолею гэтую справу… Мела патрэбныя паперы… Але вось ужо сёмы раз сюды завітала. Людзі шэпчуцца ў чарзе, што інспектару трэба даць … ведаеце, што…

– Няўжо?!

Суседка па чарзе не адказала, бо з кабінета паважна выйшаў інспектар зямельнага аддзела. Мужчына ў чорным скамечаным пінжачку з выцвілым чырвона-бурым гальштукам пытаўся ў кожнага наведвальніка пра сутнасць справы, з якою той прыйшоў у райвыканкам, ветліва прасіў некаторых пачакаць, другіх прынесці дадатковыя дакументы, іншых адпраўляў у кабінет начальніка аддзела. Карацей кажучы, інспектар распіхваў наведвальнікаў, каб не мазолілі нікому вочы.

Каля жанчыны, што стаяла перад Лічылкіным, інспектар затрымаўся. Ён прыдзірліва прагледзеў дакументы, шукаючы прычыну, каб адмовіць ёй у прыёме.

– У вас, бачу, праблема. Подпіс старшыні суполкі нейкі ненатуральны. Можа, падроблены?

– Ён сапраўдны, – запэўніла яго жанчына.

– Патрэбна праверыць… Гэта зойме пэўны час…

Кабета нічога не адказала. Яна моўчкі пасунулася да дзвярэй рабочага кабінета чыноўніка, спынілася каля ўваходу. Тым часам інспектар, скасавурыўшыся на жанчыну, узяў дакументы Лічылкіна, запытаўся:

– У вас якія праблемы?

– Здаецца, іх няма, – адказаў Лічылкін і

ўсміхнуўся. – Падрыхтаваў патрэбныя дакументы для прыватызацыі.

Чыноўнік крутнуў галавой, таксама ўсміхнуўся, сказаў:

– Вам толькі здаецца, што ў вас сабраны ўсе дакументы. На самай справе гэта толькі пачатак збору папер. У вас, бачу, няма выпіскі з пратакола сходу, на якім прынялі вас у члены садовай суполкі.

– Навошта яна, гэтая выпіска, калі ёсць даведка, што я з'яўляюся членам суполкі? – запярэчыў Лічылкін.

– Трэба пацвердзіць гэты дакумент, – запэўніў яго чыноўнік, – так патрабуе закон.

Лічылкін сумеўся, патэпаў да выхаду.

У час чарговага, восьмага, паходу ў райвыканкам, Іван Піліпавіч, нашпігаваны аўдыёвідэапрыборамі, якія начаплялі яму аператыўныя работнікі міліцыі, зайшоў у кабінет чыноўніка, шчыльна зачыніў за сабой дзверы і, павітаўшыся, працягнуў інспектару папку.

– Нарэшце ўсе дакументы сабраны, – сказаў з палёгкай.

Той прагартаў паперы, заўважыў канверт, з якога выглядвалі амерыканскія "зялёныя", узрушана сказаў:

– Зараз бачу, што дакументы ў належным парадку.

Праз тыдзень, калі Лічылкін зайшоў у райвыканкам, каб даведацца пра рашэнне, – не сумняваўся, што яно будзе станоўчым, – яго сустрэў ужо іншы інспектар. Чыноўнік здагадаўся, хто ў яго на прыёме, – быў папярэджаны, таму здзекліва ўсміхнуўся, пагартаў паперы ў папцы, сказаў:

– У нас ёсць падазрэнне, што ў час сходу, на якім прымалі вас у члены садовай суполкі, не было кворуму.

– І што цяпер рабіць? – разгублена запытаўся Лічылкін.

– Разуме-е-це… – чыноўнік няспешна ўстаў

з-за стала, – я не хачу садзіцца ў турму з-за вашых памылак. Патрэбна трымацца закону, таму будзем вызываць садаводаў, пытацца, хто з іх быў на сходзе, ці галасавалі яны за тое, каб прыняць вас у члены суполкі…

Лічылкін не даслухаў прэтэнзіі чыноўніка. Моўчкі выйшаў з кабінета. Ён проста фізічна адчуў сэнс слоў "тупіковая сітуацыя", а сябе – яе заложнікам.

## ТЭМА ДЛЯ АБМЕРКАВАННЯ

Падпалкоўнік унутранай службы Васіль Фёдаравіч Цянькоў, саракапяцігадовы афіцэр, ішоў пешкі на службу ўздоўж чыгуначнага палатна. Пачуўшы ўдалечыні працяглы гудок, Цянькоў не стаў пераходзіць шырокае павуцінне рэек, узышоў на насып і стаў чакаць, пакуль пройдзе таварны цягнік. Электравоз набліжаўся павольна, цягнучы за сабой гарачае паветра і прыглушаны грукат колаў.

У прамежках паміж вагонамі па той бок каляіны Васіль Фёдаравіч заўважыў таварыша па службе – Перапёлкіна. Уладзімір Ігнатавіч стаяў на памосце пешаходнага пераходу чыгуначнага палатна і нервова пазіраў на гадзіннік. Як толькі мільгануў апошні вагон цягніка, ён спешна накіраваўся наперад.

Васіль Фёдаравіч уважліва назіраў за калегам і, калі той параўняўся з ім, прыклаў руку да казырка. Перапёлкін спыніўся, зірнуў на Цянькова і нечакана сказаў, як бы працягваючы тэму, што вельмі карцела:

– Я не перастаю дзівіцца з цябе, Васіль Фёдаравіч. Ты ніколі і нікуды не спяшаешся, заўсёды паголены, мундзір адпрасаваны, боты да бляску начышчаны – прыклад для пераймання – і ўсё тут! І калі ты толькі паспяваеш гэта рабіць? Не разумею...

– І яшчэ ... – Перапёлкін не даў магчымасці Цянькову адказаць, глянуўшы ўслед таварнаму цягніку, – я не разумею самага галоўнага.

Яно, шчыра прызнацца, мучыць мяне даўно, але я ніяк не мог запытаць цябе. Чаму ты пры сустрэчы са мной першым мяне вітаеш? Мы аднаго ўзросту, у нас адно званне, адпаведныя пасады на службе, але ты заўсёды першым бярэш пад казырок.

Цянькоў усміхнуўся, моўчкі развёў рукамі. Хацеў пачаць з таго, што чалавеку ўласціва быць уважлівым да людзей, але, заўважыўшы нервовыя погляды калегі на гадзіннік, інтэлігентна змаўчаў.

Перапёлкін не вытрымаў маўклівай паўзы Цянькова і вырашыў закончыць размову:

– Я спяшаюся, Васіль Фёдаравіч. Надарыцца час, і мы абмяркуем гэтую тэму.

Цянькоў прыўзняў бровы, моцна пацісну́ў млявую руку калегі і працяглы час глядзеў яму ўслед...

## З ПАЧУЦЦЁМ УЛАСНАЙ ГОДНАСЦІ

Калектыў рэдакцыі газеты “На варце рэвалюцыі” адзначаў у рэстаране “Юбілейны” свой юбілей – шасцідзесяцігоддзе з дня выхаду ў свет першага нумара. Рэдактар Міхаіл Гожы, невысокага росту, мажны ў плячах мужчынакрэмень, казаў тост:

– Шмат давялося папрацаваць нам, нашым папярэднікам, каб зрабіць газету такой папулярнай, што на яе падпіску накладзены ліміт. Людзі шукаюць сувязей з чыноўнікамі самага высокага рангу, каб аформіць падпіску, перадаюць газету з рук у рукі, ксеракапіруюць асобныя артыкулы. Гэта, несумненна, заслуга ўсіх разам – ад карэктара да рэдактара, ад пазаштатнага аўтара да высокапастаўленых работнікаў ведамстваў і ўстаноў. Прапаную падняць бакалы і выпіць за далейшы росквіт і папулярнасць выдання!

Журналісты, госці ўсталі з-за стала, дружна,

хто змог да каго дацягнуцца, чокнуліся, выпілі. Мужчыны ўвіхаліся ля жанчын-суседак, частавалі іх і частаваліся самі, пераглядаліся, быццам пытаючыся адзін у аднаго, калі ж шампанскае зменяць на гарэлку. Хутка афіцыянткі паставілі бутэлькі “Сталічная”, з-за стала зноў падняўся Міхаіл Гожы. Пачаў гаварыць:

– Мне, як кіраўніку, сёння суджана быць тамадою на ўрачыстасці, таму перад тым, як скажа слова першы рэдактар газеты, вельмі паважаны Кірыл Ігнатавіч Малейка, я зноў жа хачу засяродзіць вашу ўвагу на тым, што паспрыяла нашаму калектыву выйсці на перадавыя рубяжы ў рэспубліцы. Гэта, вядома, у першую чаргу тая пазіцыя, якую заняло кіраўніцтва рэдакцыі і яе творчыя работнікі, – бескампрамісны і прынцыповы падыход да паказу праўдзівага жыцця нашага грамадства. Каб мы пайшлі па іншым шляху, шляху хлусні і падлізлівасці, як некаторыя калектывы рэдакцый газет, не будзем іх называць, каб не рабіць рэкламу, мы сёння не змаглі б вось так свабодна, з чыстай душой і крыштальным сумленнем сабрацца тут і святкаваць юбілей.

Рэдактар вытрымаў паўзу, глянуў на першага кіраўніка рэдакцыі газеты і сказаў:

– Слова мае шаноўны, вельмі паважаны Кірыл Ігнатавіч. Першы галоўны рэдактар, які менавіта і заклаў у падмурак газеты прынцыпы справядлівасці, чысціні і святла.

Жвавы васьмідзесяцігадовы ветэран газеты борзда падняўся з-за стала і, трымаючы ў руцэ напоўнены бакал, сказаў:

– Прыемна, што справа, распачатая намі шэсцьдзясят гадоў таму, працягваецца, прыемна, што не забываеце пра тых, хто працаваў раней у калектыве рэдакцыі, але ж… – ён раптам змоўк, чакаючы увагі, але яна была накіравана ў іншы бок. У залу ўвайшоў міністр інфармацыі са сваёй світай. Гожы стрымгалоў рынуўся насустрач яму і, адбіваючы зямныя паклоны, зацерусіў збоку.

Некалькі чалавек, хто меў гонар сядзець разам з галоўным рэдактарам, падняліся і з талеркамі пацІху папляліся ў канец стала. Не пакінуў сваё месца толькі выступовец. Ветэран гэтак жа, як і раней, стаяў з паднятым бакалам, чакаючы, пакуль усядуцца высокія госці. Ён заўважыў, як Гожы, ідучы паўз стала, некалькі разоў махнуў яму рукой, маўляў, сядай, потым скажаш сваё слова, але ж ён не кінуўся выконваць загад, як рабіў гэта амаль усё свядомае жыццё. Менавіта ў гэтую хвіліну адчуў уласную годнасць, жаданне хоць раз у жыцці зрабіць так, як падказвае сэрца і развaжае розум.

– Сядайце, таварыш, – пачуў ён каля сябе, – у нагах праўды няма.

Малейка зірнуў на чырвонашчокага з вялізным падбародкам чыноўніка, і яму стала агідна. Ён паставіў бакал з віном на стол і па-старэчаму няспешна, але годна накіраваўся да выхаду.

– Таварыш! Вы куды? Таварыш...

## КУДЫ ГЛЯДЗІЦЬ МІЛІЦЫЯ?

На мокрай драўлянай лаўцы аўтобуснага прыпынку ляжыць мужчына ў выпацканай граззю вопратцы. Непадалёк ад яго стаяць дзве жанчыны сярэдніх гадоў з торбамі.

Да прыпынку падыходзіць міліцыянер. Мацае пульс на руцэ п’янага, спрабуе пасадзіць яго. Той супраціўляецца, брудна лаецца. Худзенькі сяржант не спраўляецца з рослым мужчынам, кладзе яго зноў на лаўку, азіраецца, спадзеючыся на дапамогу.

– І навошта яго чапаць? – чуе міліцыянер абураны голас жанчыны. – Праспіцца чалавек, і ўсё будзе нармальна. Прывыклі хапаць людзей...

Вартавы парадку моўчкі адыходзіць у бок, па рацыі спрабуе вызваць дзяжурную частку райаддзела міліцыі. У апараце патрэсквае, гудзе суцэльнае рэха неразборлівых выразаў. Сяржант злуецца, зноў збіраецца ціскануць чорную кнопку апарата, але чуе побач крык

жанчыны. Аглядаецца. Бачыць, як мужчына, якога ён толькі што спрабаваў падняць на лаўцы, абдымае адну з жанчын, намагаецца пацалаваць. Кабета ўпіраецца рукамі яму ў грудзі, лямантуе. Міліцыянт свядома не спяшаецца на дапамогу.

Жанчына нарэшце вырываецца з рук п'янага. Быццам апараная кіпенем, яна адскоквае ад яго, ліхаманкава разгладжвае рукамі паліто, грэбліва стрэсваючы з яго парушынкі, і крычыць у бок сяржанта: "Куды толькі глядзіць гэтая міліцыя?!"

Жаночая рэпліка цешыць міліцыянера.

## ЯМАЧНЫ РАМОНТ

У рэспубліканскім дарожна-будаўнічым ведамстве праходзіць нарада кіраўнікоў упраўленняў. Чыноўнікі абмяркоўваюць штоквартальную праблему ліквідацыі ямін на дарогах. Гаворка падышла да той мяжы, калі патрэбны не словы, а канкрэтныя парады.

– Я прапаную не рабіць на гэтым участку дарогі новае асфальтавае пакрыццё, – першым выказаў сваё меркаванне Іван Цярпілаў, – усё роўна да канца года машыны разаб'юць яго ўшчэнт. Хай застаецца ў такім стане да вясны.

– Падтрымліваю Івана Васільевіча, – падняў дзве рукі ўгору Рыгор Скнараў, – грошы сэканомім для прэміі, ды і вадзіцелі будуць цішэй ездзіць.

– Разумна, – кіўнуў галавой кіраўнік ведамства і скупа падсумаваў: – Хоць свае і чужыя жыцці зберагуць – пешаходам спакайней стане. Статыстыка дарожных здарэнняў нагадвае ўжо вынікі лакальных ваенных дзеянняў.

– На гэтым участку дарогі лепей зрабіць ямачны рамонт. Заліць вышчарбленыя калдобіны хутчэй, чым зрабіць новую дарогу, але нельга ж яе і пакінуць у такім непрыдатным стане, – выказаўся Лявон Прамежкавы. – Такі-сякі рамонт

будзе доказам таго, што мы не сядзелі склаўшы рукі, не чакалі вясны, а канкрэтна нешта рабілі.

Прапановы Цярпілава і Прамежкавага падтрымалі яшчэ некалькі кіраўнікоў, і здавалася, што шэф ведамства падсумуе меркаванні падначаленых і выкажа сваё, але ён скіраваў погляд на маладога начальніка ўпраўлення Васіля Сталёвага. На нарадзе ён прысутнічаў упершыню, бо на пасаду быў прызначаны днём раней.

Тэхналогію будаўніцтва дарог як савецкага, так і пасляперабудоўчага перыяду Сталёвы ведаў як свае пяць пальцаў. Яму было што прапанаваць, бо некалькі разоў быў у калег на Нямеччыне. Але выказаць свой пункт гледжання на праблему не адважваўся. Яго праграму маглі не ўспрыняць сталыя работнікі, якія адкрыта выказваліся супраць будаўніцтва якасных дарог. Ямачны рамонт прыносіў ім больш прыбытак.

Васіль схіліў галаву над сшыткам, нешта пісаў, каб паказаць сваю маўклівую згоду з прапановамі большасці і адседзецца, але шэф усё ж падняў яго, адрэкамендаваў:

– Знаёмцеся, калегі, новы начальнік упраўлення будаўніцтва дарог міжнароднага значэння Васіль Сталёвы. Работу сваю ведае выдатна, адпрацаваў у гэтай галіне амаль дваццаць гадоў. Шмат хто з прысутных сустракаўся з ім на Гарадзеншчыне, бачыў і ведае стан дарог гэтага рэгіёну. Калі ласка, Васіль Мацвеевіч.

Васіль пераступіў з нагі на нагу, выпрастаў плечы, павольна абвёў позіркам прысутных. Рашэнне сказаць тое, што ён думае пра выбоіны на дарогах і ўвогуле пра сістэму будаўніцтва дарог, даўно саспела. Не мог ён цярпець больш такіх падыходаў да працы, таму і згадзіўся на пасаду ў ведамстве, якая давала магчымасць рэалізаваць яго прапановы па будаўніцтве дарог на ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

Але выказаць уласную думку, не згадзіцца з прапановамі дарожных прафесіяналаў, якімі

прысутныя сябе лічылі, – значыць адкрыта і смела перакрэсліць іх работу і ўвесь назапашаны ведамасны аўтарытэт. Гэта азначала, што разлічваць на паразуменне яму не давядзецца, што кожны ўласны крок, каб не спатыкнуцца, трэба будзе кантраляваць. Гэта зрабіць вельмі цяжка, але ж… “Што будзе, тое і будзе, – падумаў ён, – з працы не выганяць. А то з задавальненнем вярнуся ў свой заходні куточак, тым больш што ў Мінск прыехаў не па сваім жаданні.”

– Я супраць прапановы спадара Цярпілава, – знешне спакойна, але з ледзь улоўнымі дрыготкімі ноткамі ў голасе сказаў ён, – я таксама не хачу згаджацца і з тым, што прапануе спадар Прамежкавы.

Вядома, што ў гэтыя хвіліны рабочы пакой кіраўніка ведамства апанавала, як кажуць, мёртвая цішыня. З’едлівыя, калючыя позіркі калег па працы праціналі Васіля наскрозь. Яны былі настолькі непрыязныя, што ўвагналі яго ў пот. Лоб узмакрэў, адчуваліся дрыжыкі ў руках. Сталёвы паступова пераадолеў хвілінную нерашучасць, зноў пачаў гаварыць:

– Будаваць няякасныя дарогі – значыць свядома планаваць будучыя ямачныя рамонты. Рамантаваць жа патрэбна не выбоіны, а цалкам участкі дарог. Гэта значыць замяніць старое пакрыццё на новае. Увогуле, прынцып “адзін раз і на доўгі час” – вельмі падыходзіць да нашай прафесійнай дзейнасці. Дзякуючы яму дзясяткі гадоў не спатрэбіцца рамонт: толькі глянцуй асфальтавае палатно аўтамабільнымі коламі ды прыхарошвай прыдарожную інфраструктуру.

Васіль прысеў. Адчуў, як сэрца паступова зменшыла свой рытм. У поўнай цішыні пачуўся голас шэфа:

– Я не выпадкова запрасіў Васіля Мацвеевіча на работу ў ведамства. У яго характары і ў падыходзе да любой справы ёсць тыя рысы, якія патрэбны кіраўніку, які дбае пра людзей і любіць сваю справу. Вельмі спадзяюся, што ён

зробіць тое, чаго не ўдалося здзейсніць у жыцці мне. Упэўнены: мне, заўтрашняму пенсіянеру, давядзецца ездзіць па роўнай і гладкай бы шкло асфальтавай дарозе.

Прысутныя наўрад ці былі задаволены вынікамі нарады. Не ўсе з іх збіраліся на пенсію…

## ЦЯЖКАЯ СЛУЖБА

Пётр Васільевіч Галаўнёў, адстаўны генерал, былы міністр унутраных спраў, святкаваў свой дзень нараджэння. Прыехала родная сястра з вёскі, сын з сям'ёй. Жонка завіхалася на кухні з раніцы, каб сустрэць родных хатняй ежай. Нарэшце падрыхтоўка была скончана: на стале з'явіліся засмажаны гусак, кавалкі запечанага карпа, блінны пірог з грыбамі і беласнежны тварожны торт. Толькі сям'я села за стол, як у дзверы пазванілі.

– Пётр Васільевіч, – пачаў чытаць з парога віншавальную паштоўку пасыльны падпалкоўнік міліцыі, – дазвольце мне ад імя калектыву міністэрства і асабіста ад міністра павіншаваць вас з днём нараджэння. Жадаем вам...

Дагаварыць яму Галаўнёў не даў. Ён паціснуў падпалкоўніку руку, узяў паштоўку, запрасіў яго за святочны стол. Выпілі адну чарку каньяку, потым другую, перад трэцяй госць папрасіў дараваць яму і развітацца.

– Вельмі добра і ўтульна ў вас, Пётр Васільевіч, але мне, на жаль, трэба ісці. Служба – самі разумееце...

– Цяжкая служба?..

– А то, Пётр Васільевіч. Сёння мне патрэбна паспець павіншаваць сенатара Івана Макаравіча Гарулёва, начальніка ўпраўлення Савета Бяспекі Генадзя Аляксеевіча Макрацова, члена Урада Васіля Анатольевіча Карватэнку і яшчэ з дзясятак дробных чыноўнікаў. Уявіце сабе, колькі трэба мець сіл, каб добра зрабіць гэтую работу – не толькі фізічных, але і

эмацыянальных. Незвычайная гэта праца, я б сказаў. Да кожнага з іх патрэбен падыход, такт, трэба ўмець правільна сказаць, правільна ўсміхнуцца, бо перада мной не простыя людзі... Словам, што вам распавядаць. Вы самі добра гэта ведаеце.

Падпалкоўнік выпіў трэцюю чарку, развітаўся.

Галаўнёў выцягнуў з тумбачкі віншавальныя паштоўкі мінулых гадоў, параўнаў тэкст – ён паўтараўся слова ў слова.

– Цяжкая служба ў пасыльнага, – уздыхнуўшы, сказаў сам сабе Пётр Васільевіч і пайшоў за святочны стол.

## АБАЗВАЎ САБАКАМ

Гэта гісторыя адбылася ў канцы дваццатага стагоддзя. Нетрафарэтны рэдактар папулярнай сярод мінчан газеты "Добры вечар" Анатоль Зэкаў праглядаў нумар перад выхадам у свет, як раптоўна зазваніў тэлефон. На другім канцы праваду ён пачуў густы бас паэта Алеся Пісьмянкова:

– Сядзіш?

– Сяджу, – адказаў яму Зэкаў. – А ты?

– Таксама сяджу з адным вельмі сімпатычным чалавекам – ты, зрэшты, яго ведаеш: наш выдатны пісьменнік Рупавец. Узялі па сто грам, мяркуем, што рабіць далей.

– Дык прыязджайце! – прапанаваў Зэкаў.

Праз некаторы час, пасля выпітай сумесна пляшкі гарэлкі, Пісьмянкоў з Зэкавым вырашылі правесці дадому старэйшага па ўзросце Рупаўца. Перад пад'ездам дома Алесь папрасіў Анатоля, каб той правёў паважанага пісьменніка да самай кватэры, бо яму, Пісьмянкову, учора даводзілася гэта рабіць і жонка пісьменніка спагнала злосць на ім. Зэкаў пагадзіўся. Пакуль ішлі пешкі на патрэбны паверх, Рупавец блытана хваліў яго як рэдактара, і газету, якая востра і дакладна адлюстроўвала жыццё мінчан. Але

ж як толькі ў расчыненых дзвярах з'явіліся постаці жонкі і дачкі, Рупавец змяніўся ў твары, раптам раззлавана крыкнуў:

– Ты куды мяне прывёў, сабака?!

Зэкаў не разгубіўся, перапытаў у кабет, ці туды трапіў. Тыя пацвердзілі моўчкі.

Назаўтра раніцай Рупавец тэлефанаваў Пісьмянкову і ўдакладняў, ці праўда, што быццам ён учора, як сказалі жонка з дачкой, без прычыны аблаяў чалавека, які прывёў яго дадому, гэта Анатоля, значыць.

– Ды не лаялі вы яго, – супакоіў Алесь. – Я, праўда, не чуў, бо ўнізе стаяў, але Толік расказваў, што вы яго толькі абазвалі сабакам.

– А-я-яй, – залямантаваў Рупавец, – які ж сорам! Як жа цяпер глядзець чалавеку ў вочы?

– Ды не хвалюйцеся вы так, – запэўніў яго Пісьмянкоў, – Толік свой чалавек, усё разумее.

Тым не менш Рупавец на другі дзень папрасіў прабачэння ў Зэкава. Дарэчы, і пры кожнай новай сустрэчы з ім ён заўсёды вінаваціўся. Толік адмахваўся, казаў, што забыў пра недарэчнасць, але на самой справе ў памяці, як толькі яны сустракаліся, нязменна паўставалі трагікамічныя чэхаўскія персанажы з апавядання "Смерць чыноўніка".

Дзякуй богу, фінал сітуацыі з нашымі героямі быў іншы: яны пры кожнай сустрэчы распівалі пляшку гарэлкі, многа гаманілі і раз'язджаліся па хатах – праўда, кожны паасобку.

## ВУЧОНЫ САКРАТАР

Вучоны сакратар навучальнай установы міліцыі Іван Макаравіч Табурэткін, самазадаволены, пыхлівы стары, слухаў на чарговым пасяджэнні савета кіраўнікоў факультэтаў шматслоўную гаворку начальніка акадэміі. З вышыні пражытых гадоў, звання даследчыка, матэрыяльнага становішча і аўтарытэту, заробленага сярод педагогаў і курсантаў, ён як пенсіянер мог дазволіць сабе неардынарныя паводзіны.

Аднойчы ў час нарады, калі начальнік акадэміі, як звычайна, пачаў вучыць наменікаў, як і што трэба рабіць, бо ўсё, што ні робіцца без яго ўдзелу, не правільна, Табурэткін заўважыў, што прысутныя старанна запісваюць кожнае слова кіраўніка. Вучоны сакратар вырашыў унесці свае карэктывы ў размову і таксама трапіць у канспекты.

– Я маю зносіны не толькі са сваімі намеснікамі, – гаварыў начальнік, – але і з выкладчыкамі, супрацоўнікамі міліцыі і курсантамі. Таму досыць крытычна стаўлюся да вынікаў сваёй службовай дзейнасці ў ролі кіраўніка акадэміі. Лічу, што тыя змены, якія адбыліся ў час майго кіраўніцтва, пакуль яшчэ не закранулі галоўнага. Патрэбен якасны ўздым нашай працы. Так, Іван Макаравіч? – ён звярнуўся да Табурэткіна.

– Du schwebst in den Wolken*, – нечакана панямецку адказаў вучоны сакратар.

Начальнік акадэміі палічыў, што Табурэткін пажартаваў, таму працягваў павучальную размову:

– Мне ўяўляецца, што такім якасным вынікам павінна стаць арганізацыя службовай дзейнасці па ўсіх напрамках, якія паўплываюць на падрыхтоўку выпускнікоў акадэміі. З гэтым пагодзіцеся вы ўсе, у тым ліку, я думаю, і вы, Іван Макаравіч, – начальнік зноў паглядзеў на Табурэткіна.

– Viel Geschrei und wenig Wolle**.

Кіраўнік навучальнай установы пачуў у зале ледзь улоўны смех, тым не менш працягваў гаворку:

– Мяркую, што вашы погляды адносна прапанаванай адукацыйнай праграмы супадаюць з маімі.

Wer arbeitet nicht, soll auch nicht essen. An die Arbeit!***

– Вось і Іван Макаравіч кажа: арбайтэн. Значыць, падтрымлівае маё меркаванне, – заначыў прамоўца. – Калі будзеце працаваць, як

я кажу, мы хутка дасягнём якаснага выніку ў адукацыі курсантаў.

* Ты лунаеш у аблоках.

** Шуму шмат, а толку мала.

*** Хто не працуе, той не есць. За працу!

## КАМУ ПАТРЭБНА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ?

Пяцікласнік Ваня Герасіменка прыйшоў са школы вельмі пануры. Яго суседзі па доме Мішка Канавалаў і Толік Ліхманкоў – хлопцы да вучобы няздатныя, а толькі ахвотнікі бавіць час у двары – амаль усю дарогу тузалі яго, падштурхоўвалі, усяляк стараліся ўцягнуць у бойку. Але Ваня цярпеў, стрымліваў свае эмоцыі. Ён увайшоў у кватэру, скінуў чаравікі, пакінуў на падлозе заплечнік з кніжкамі, зачыніў за сабою дзверы пакоя.

Яго бацька, Яўген Анатольевіч, акцёр дзіцячага тэатра лялек, мімаходзь заўважыў сынаву турботу, але не кінуўся распытваць, што ды як. “Надыдзе час, сам раскажа”, – падумаў ён. Дзіцячую псіхалогію, лічыў, ён ведаў добра. Нездарма яго пасля заканчэння ўніверсітэта культуры накіравалі на работу ў сталічны тэатр. Ён усміхнуўся і вярнуўся да прачытвання сцэнарыя новай пастаноўкі.

Праз нейкі час хлопчык сапраўды падышоў да яго, запытаўся:

– Татка, чаму ты не баксёр?

“Так... – пачаў разважаць Яўген Анатольевіч, – мала таго, што жонка піліць штодзень, каб змяніў працу ды зарабляў больш грошай, ужо і дзіця ўшчувае.”

– А што здарылася, сынку? – спытаў ён клапатліва.

– Вось так заўсёды, – цяжка ўздыхнуў Ваня, – замест адказу на пытанне, задаюць сваё. А яшчэ вучыш мяне, каб я справядліва паводзіў

сябе ў розных сітуацыях, якія б ні здараліся ў маім жыцці. Так?

– Вядома, – адказаў Яўген Анатольевіч.

– Тады скажы, каму і навошта яна патрэбна, гэтая справядлівасць?

– Як каму? – перапытаў бацька і тут жа ўпэўнена адказаў: – Яна патрэбна чалавеку для таго, каб падтрымліваць унутраны духоўны стан на ўзроўні сумлення. Устанаўленне справядлівасці прыносіць задавальненне чалавеку... Разумееш?

– Не разумею, – шчыра прызнаўся Ваня. – Мяне ўвесь час зневажаюць Мішка Канавалаў і Толік Ліхманкоў. Я цярплю, нават выгляду не паказваю, што мне непрыемны іх несправядлівыя кухталі, і, здаецца, разумею, што справядлівасць на маім баку, але чамусьці задавальненне атрымліваюць Мішка і Толік.

## ЮБІЛЕЙНЫЯ СВЯТЫ

Вясна 1998 года. У рабочым пакоі міністра ўнутраных спраў тоўпяцца тэлерадыёжурналісты, за сталом прыціхлі чыноўнікі. З хвіліны на хвіліну пачнецца ўрачыстае мерапрыемства з нагоды васьмідзесяцігоддзя беларускай міліцыі.

У пакой уваходзіць міністр, генерал Удалец з гасцямі – намеснікамі міністраў унутраных спраў Украіны, Расіі і Федэратыўнай Рэспублікі Германія. Першым віншуе расіянін. Ён набліжаецца да Удальца, доўга трасе яму руку і кажа:

– На правах старэйшага брата, – расіянін кідае позірк на свайго калегу з Украіны і працягвае гаворку, – дазвольце мне пажадаць асабістаму складу міністэрства поспехаў у працы, здароўя і шчасця. Але ж, Валянцін Паўлавіч, ехаў я з Масквы і ўвесь час раздумваў: як гэта так атрымалася, што беларускай міліцыі ўжо восемдзясят гадоў, а расійскай споўніцца столькі ж толькі праз восем месяцаў?

Міністр заўсміхаўся, пачуўся смяшок і ў зале. Госць з Расіі не стаў чакаць апраўданняў генерала, скінуў палатно з падарунка, сказаў:

– Гэта карціна “Широка страна моя родная”, выкананая майстрам пэндзля Станіславам Лагуціным. Яна будзе натхняць вас на выкананне службовых абавязкаў у любую цяжкую часіну.

Крок да стала, за якім стаяў генерал Удалец, зрабіў украінец. Ён павярнуўся да залы, сказаў:

– Хацеў распачаць гаворку з прыемнага, з віншавання, але ж не магу ўтрымацца ад каментарыя з нагоды слоў калегі з Расіі. Не ведаю, хто ім надаў ганаровае званне “старэйшага брата”, бо ў адносінах да Украіны яно ніяк не стасуецца. Менавіта з Кіеўскай Русі выйшла Расія і – Беларусь. Так што, калі хочаце старшынстваваць, то толькі мо над беларусамі, калі яны дазволяць, – украінец кінуў позірк на расіяніна, усміхнуўся. – Што ж датычыцца сённяшняга юбілею, – ён глядзеў на Удальца, – дык я, Валянцін Паўлавіч, таксама як і наш расійскі калега, не магу зразумець у кантэксце раней сказанага ім: чаму міліцэйскаму ведамству Беларусі споўнілася восемдзясят, а нашаму, ва Украіне, усяго толькі сем гадоў? Між тым, дарагі калега, – украінец пацiснуў руку Удальцу, – мы жадаем вам усяго найлепшага і спадзяёмся, што з нашым падарункам, – ён падняў булаву над галавой, – яно хутка настане.

У зале пачуліся апладысменты, на тварах чыноўнікаў з’явіліся ўсмешкі. Да стала, за якім па-ранейшаму стаяў Удалец, падышоў калега з Нямеччыны, за ім спяшаўся перакладчык.

– Я таксама не зразумеў, чаму сілавому ведамству Беларусі споўнілася восемдзясят гадоў, – сказаў нямецкі паліцэйскі. – Ведаю, што праваахоўныя органы ўзнікаюць разам з дзяржавай. На вашых землях існавала Рэч Паспалітая, Вялікае Княства Літоўскае, нарэшце, Полацкае княства... Напэўна, адтуль трэба адлічваць існаванне і дзейнасць органаў правапарадку. Але я не хачу ўдавацца ў рыторыку. Карацей: нямецкія калегі перадаюць вам прывітанне, зычаць

здароўя і поспехаў у працы. А гэта, – паліцэйскі падняў руку з ключамі ад аўтамабіля, – наш падарунак вам.

## НОВЫ НАЧАЛЬНІК

Кіраўнік аддзела стандартызацыі і кантролю Пятро Гаўрылкін увайшоў у прыёмную начальніка ўпраўлення, як заўсёды, з салодкай усмешкай на твары. Свідруючы вачыма сакратарку, ён паклаў перад ёй шакаладку, ціха запытаў:

– Які ён, новы шэф? Нічогі?

Жанчына моўчкі развяла рукамі.

– Дык што, я першы на прыём?

Сакратарка заківала галавой, шапнула: “Ідзіце з богам!”

Пётр Пятровіч перахрысціўся, пераступіў парог. За доўгім дубовым сталом сядзеў ужо не Іван Іваныч, сябрук і сусед па лецішчы, а незнаёмы прысланы са сталіцы чыноўнік. З насупленым, вельмі занятым выглядам ён гартаў дакументы, нешта занатоўваў у вучнёўскі сшытак.

Гаўрылкін павітаўся, крактануў, прыцягваючы да сябе ўвагу, але начальнік, заняты сваім, толькі глянуў на яго ды зноў схіліў галаву над сталом.

– Іван Паўлавіч, – Гаўрылкін прыціхла, няўпэўнена зноў звярнуўся да начальніка, – трэба тэрмінова падпісаць… Паперы...

Начальнік дапісаў радок, паставіў кропку. Потым няспешна зняў акуляры і, выразна падкрэсліваючы кожнае слова, сказаў:

– Паперы, кажаце? Іх падпісваюць у прыбіральні.

Гаўрылкін зніякавеў: не зразумела было, жартуе так начальнік ці гаворыць сур’ёзна. Ён прамармытаў сабе нешта пад нос накшкалт прабачэння ды і выйшаў з кабінета.

Праз некалькі хвілін пяцёра кіраўнікоў аддзелаў разам перачытвалі падрыхтаваныя да подпісу дакументы Гаўрылкіна, шукаючы

ў іх недарэчнасці і памылкі. У гэтай акцыі не ўдзельнічаў толькі Пётр Гаўрылкін. Ён сядзеў пануры, штораз вяртаючыся да сэнсу сказанага начальнікам упраўлення.

– Я ж па дзелу да яго, – скардзіўся ён калегам, – не па асабістай справе... Тэрмін сыходзіць, потым жа спытаюць, чаму зацягнуў, не ў час падрыхтаваў паперы... “У прыбіральні падпісваць”... Эстэт які, а! Мо гэта новая манера ўзаемаадносін высокага начальства з падначаленымі? А? Скажыце мне?

Ніхто з прысутных не асмеліўся нешта тлумачыць Гаўрылкіну, спачуваць, бо кожнаму не сягоння-заўтра давядзецца ісці да начальніка вырашаць неадкладныя дзяжурныя праблемы.

– А можа, у яго, Пятровіч, асабістая да цябе непрыхільнасць? – парушыў цішыню Хведар Клычка. – Ты знаёмы з ім?

– Абласных чыноўнікаў ведаю як аблупленых, – пачаў разважаць Гаўрылкін, – а вось са сталічнымі знаёміцца не даводзілася.

– Дрэнна, што вы не памятаеце Івана Паўлавіча Корнева, – Клычка не зводзіў вачэй з Гаўрылкіна, – гэта адзін са спецыялістаў міністэрства, якога раней уключалі амаль ва ўсе камісіі па праверцы. Вельмі граматны чалавек. Прынцыпова ставіцца да кожнага слова, каб яно адпавядала канкрэтнаму сэнсу. Дарэчы, быў ён аднойчы і ў нас. Памятаю, як ён тады ператрос усю работу аддзела.

Чыноўнікі спужана глядзелі на Клычку, перабіраючы ў памяці сустрэчы са сталічнымі чыноўнікамі.

– Не памятаю, хоць забіце мяне, – прызнаўся Гаўрылкін. – Калі гэта было?

– Некалькі гадоў таму, вясной. Памятаеш, ты тады вазіў намесніка міністра на паляванне, ва ўрочышча Лісіныя норы...

– Так...

– Дык ён у той час, наш цяперашні начальнік, быў у бібліятэцы. Рыхтаваў даведку па

праверцы. Дарэчы, Пятровіч, успомні, хто з твайго аддзела тады працаваў з ім?

– Пазамінулай вясной... Здаецца, Васіль Апанасенка... Ды што тут думаць – ён. З камісіямі, журналістамі, ды і ўвогуле з усімі, каму патрэбна была нейкая інфармацыя, працаваў ён.

– Тады няма чаго бедаваць, – заключыў Клычка. – Хай Апанасенка і нясе да начальніка дакументы на подпіс. А ты вазьмі і захварэй на нейкі час.

– Можа, і праўда, – пагадзіўся Гаўрылкін. Яго падтрымалі калегі, спадзеючыся, што пасля візіту Апанасенкі да начальніка ўсё павінна праясніцца.

Праз пэўны час кіраўнікі аддзелаў разам з Гаўрылкіным упіхнулі Апанасенку ў кабінет начальніка, а самі, прычыніўшы дзверы, прыслухаліся да размовы.

– Дазвольце, – пачуўся голас Апанасенкі, – я да вас па справе.

– Слухаю, – адказаў начальнік.

– Мы падрыхтавалі даведачныя матэрыялы ў міністэрства, адказы на лісты, што паступілі з рэдакцый газет, ад грамадзян. Вы азнаёміцеся з імі?

– Дзякуй, – адказаў начальнік, – справу патлумачылі талкова, як належыць. А то “падпісаць паперы, падпісаць паперы”... Паперы падпісваюць у прыбіральні, а дакументы – у начальніка. Я правільна кажу, Васіль Ігнатавіч?

– Так, – пагадзіўся той.

Як толькі Апанасенка выйшаў з кабінета, чыноўнікі абступілі яго. Яны моўчкі цiснулі яму руку, штурхалі ў плечы, радуючыся, што справа зроблена.

Раптам па селектарнай сувязі ў сакратаркі пачуўся голас начальніка:

– Ірына Аляксееўна, падрыхтуйце загад аб прызначэнні Васіля Ігнатавіча Апанасенкі

намеснікам начальніка ўпраўлення і прынясіце мне асабістыя справы кіраўнікоў аддзелаў.

У прыёмнай усталявалася мёртвая цішыня.

## ГАТОВЫ АКТЫВІЗАВАЦЬ СВАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

На вучоным савеце ў Акадэміі міліцыі заслухоўваюць ад'юнктаў. Начальнік навучальнай установы, нізкарослы палкоўнік міліцыі, усім сваім выглядам паказвае незадаволенасць падрыхтоўкай ад'юнктаў да абароны дысертацый. Ён хмурыць бровы, моршчыць лоб, закочвае вочы. "Спачатку прапясочу сына генерала – гультая і няўмеку, – разважае ён, але, крыху падумаўшы, мяняе намер. – Не, патрэбна сагнаць злосць на вяскоўцах, а потым, колькі гневу застанецца, аддам генеральскаму прышчыку..."

Ён уважліва паглядзеў на апушчаныя галовы дактароў і кандыдатаў навук – членаў вучонага савета, перавёў позірк на твары ад'юнктаў.

– Паважаныя таварышы, – звярнуўся ён да прысутных, – сёння на пасяджэнне вучонага савета выносіцца важнае пытанне, якое патрабуе неадкладнага вырашэння. Справа ў тым, што, як вы ведаеце, слухачы ад'юнктуры за тры гады вучобы не могуць падрыхтаваць і абараніць дысертацыі, каб стаць кандыдатамі навук і працаваць выкладчыкамі. Мне б хацелася разабрацца, у чым прычына, што перашкаджае ад'юнктам творча распрацоўваць выбраныя тэмы, чаму, у рэшце рэшт, на працягу трох гадоў мы працуем дзеля баласту? Шчыра прызнацца, такая безадказнасць ад'юнктаў мяне як начальніка не задавальняе. Вось вы, старшы лейтэнант міліцыі... – начальнік свідруе вачыма найбліжэйшага да сябе ад'юнкта, – як гэта вас?..

– Андрэй Круглякоў... – худзенькі сярэдняга росту старшы лейтэнант ускочыў, выцягнуў рукі па швах.

– Што перашкаджае вам, Андрэй Круглякоў, працаваць над дысертацыяй?

– Т- т-т-таварыш палкоўнік, – заікаючыся, ледзь выціснуў з сябе Круглякоў, – я рэгулярна сустракаюся з навуковым кіраўніком, удакладняю розныя пытанні, вырашаем іх. Засталося надрукаваць два навуковыя артыкулы, якія неабходныя для абароны дысертацыі…

Знайшліся падобныя прычыны і ў іншых прэтэндэнтаў на навуковае званне. Урэшце начальнік падняў сына генерала.

– У вас таксама ёсць аб'ектыўныя прычыны затрымкі абароны дысертацыі?

– Вядома, таварыш палкоўнік.

– Таксама справа за навуковымі артыкуламі?

Ад'юнкт не паспеў адказаць, як ускочыў з месца яго навуковы кіраўнік.

– Яны ўжо практычна гатовыя.

– Добра, – палагаднеў начальнік і, зноў звяртаючыся да сына генерала, сказаў, – патрэбна паспяшацца...

– Я гатовы актывізаваць сваю дзейнасць.

Палкоўнік заспяшаўся хутчэй скончыць нараду.

– Ну што ж, – звярнуўся ён да прысутных, – заслухалі мы ўсіх ад'юнктаў. Разлічваю, што вучоны савет пагадзіцца са мной, каб даць ім адтэрміноўку для падрыхтоўкі дысертацый.

Навукоўцы моўчкі паківалі галовамі.

*Сакавік 2012*

# Гульня з маўклівай праўдай

МІНІ – П’ЕСА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ



## Асобы

Павел Мікалаевіч Прызонтаў, начальнік вязніцы, палкоўнік.

Іван Іванавіч Банкрутаў, начальнік аператыўнага аддзела спецслужбы, маёр.

Андрэй Должнікаў, оперупаўнаважаны спецслужбы, старшы лейтэнант.

Арцём Фліт, наглядчык, прапаршчык.

Мікалай Праўдалюбаў, магістрант школы палітычных даследаванняў.

Канвойны.

Жабрак – Арцём Фліт пасля службы ў вязніцы.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

*Дзеянне адбываецца ў падземным памяшканні часовага ўтрымання вязняў, пераабсталяваным пад гульню у англійскі сквош. Двое мужчын разыгрываюць апошні гейм.*

Банкрутаў (*перад апошняй падачай мяча кідае шматзначны позірк на Должнікава*). Здаецца, мне зноў выпадае перамога?

Должнікаў (*ставіць шырока ногі, прыгінаецца, ад хвалявання круціць у руках ракетку, рыхтуецца адбіць мяч ад сцяны*). Між іншым, Іван Іванавіч, бацька вучыў мяне не пасаваць перад цяжкасцямі.

*Банкрутаў б’е ракеткай па мячы. Должнікаў на ляту адбівае яго да франтальнай сцяны і ён кранае лінію аўта.*

Банкрутаў. Гейм закончаны, дзевяць ачкоў. (*Кідае ракетку на падлогу, кліча наглядчыка*). Фліт!.. Нясі ваду…

Фліт (*з перакінутымі цераз плячо ручнікамі ўносіць табурэт з тазікам і гарлачыкам, ставіць яго насупраць шырокага закрытага кратамі акна пад столлю, за якім бесперапынна мільгаюць людскія ногі*). Калі ласка, Іван Іванавіч…

Б а н к р у т а ў (*здымае на хаду мокрую кашулю, кідае яе на падлогу, прыгаршчамі лье халодную ваду на твар, цела, выціраецца*). Ведаеш, Андрэй, каб быць прафесіяналам у сквошы, дарэчы, я лічу, што англійская назва нам не вельмі падыходзіць… (*Задумваецца*). Мне здаецца, што яе лепей замяніць… можа, на “гульня з маўклівай сцяной”? Гэтак было б дакладней. Дык вось, паўтаруся, каб быць прафесіяналам у сквошы, табе не хапае шліфоўкі. Гэта самая далікатная і карпатлівая праца. Яна патрабуе філасофскай удумлівасці, матэматычнага разліку.

*Банкрутаў кладзе руку на плячо Должнікава, які выціраецца ручніком, падводзіць яго бліжэй да акна. Наглядчык выносіць з памяшкання табурэт з гарлачыкам і ручнікамі.*

Б а н к р у т а ў. Зірні сюды, бачыш: перад табой – сцяна. На першы погляд нічога асаблівага. Але ты прыгледзься, а яшчэ лепш прыслухайся… Яна жывая! Маўклівая сцяна адказвае на тваю гульню. Калі не ведаць, з якога матэрыялу яна зроблена, калі не адчуць кожны сантыметр яе паверхні і яе стан у час гульні, яна гатова ў любую хвіліну навязаць гульцу свае правілы. Калі без гэтых ведаў біць аб сцяну мячом, заўважыш, што ён будзе адскокваць туды, куды яму захочацца. А калі ты дасканала ведаеш яе стан і апынешся ў адпаведнай кропцы корта, прыцэлішся, адчуеш адпаведны кірунак удару, ударыш – твой мячык абавязкова трапіць куды табе трэба. Гэта і ёсць рэцэпт выйгрышу. Хто дасканала ім валодае, той вымушае саперніка памыляцца ці трапляць у аўт.

Д о л ж н і к а ў. Зразумеў. Каб перамагчы праціўніка, патрэбна дасканала ведаць асяроддзе, у якім ён жыве, дадатныя бакі і хібы яго характару. Яшчэ, можа, манеру паводзін у незвычайных абставінах…

Б а н к р у т а ў. Абсалютна правільна.

Сутнасць справы ты ўцяміў. Але паўстае другая праблема: як выявіць праціўніка, калі ён ціха жыве, непрыкметны ў шэрай маўклівасці і ніякімі ўчынкамі сябе не выдае? Чым яго прывабіць, каб ён табе даверыўся, а ты незаўважна падыгрываў яму, кантраляваў яго намеры і накіроўваў іх у патрэбнае табе рэчышча? Задача найважнейшая… Інакш, як ты разумееш, ён не аднойчы будзе джаліць цябе моцна і нечакана.

Д о л ж н і к а ў (*удумліва*). У большасці выпадкаў, Іван Іванавіч, чалавек маўчыць, не спяшаецца выказваць набалелае, бо ведае, якім чынам можа яно паўплываць на яго далейшае жыццё. Таму, напэўна, яго можна наблізіць да сябе толькі падманным спачуваннем, прывабнай ідэяй ці канкрэтнай дапамогай…

Б а н к р у т а ў. Разумна развражаеш. Але спачуваць, падказваць ідэю і дапамагаць магчыма толькі пры ўмове, калі чалавек гаворыць табе праўду. Якім чынам яе можна пачуць ад чалавека, з якім ты незнаёмы?

Д о л ж н і к а ў. Праўда па сваёй прыродзе маўклівая катэгорыя. Кожны з нас нешта бачыць, нешта адчувае і толькі потым робіць выснову – выказвае сваю праўду. Мне падаецца, што шчырая праўда існуе толькі паміж маці і нованароджаным дзіцём. А паміж дарослымі яна балансуе на ўзроўні даверлівых узаемаадносін. Таму пачуць яе ад чужога чалавека можна толькі, калі ён сам прызнаецца, – гэта значыць пад прымусам, ад фізічнай болі ці адчування страха перад будучым.

Б а н к р у т а ў (*выходзіць на сярэдзіну памяшкання*). Фліт, дзе ты лётаеш?

*Уваходзіць Фліт.*

Прынясі сюды службовыя прычындалы. Разумееш, (*паварочваецца да Должнікава*) біць чалавека, катаваць, каб ён казаў праўду, вельмі небяспечна. Гэты метад устарэў. Хітрасцю патрэбна браць тое, чаго жадаеш. Я праўду кажу, Арцём?

Ф л і т (*чапляе прылады для катавання на крук пад столлю*). Зараз, Іван Іванавіч, падчаплю рамяні і пераканаюся, кажаце вы праўду ці маніце (*Жартаўліва падміргвае Должнікаву, прымяраючы свае рукі да петляў.*)

Б а н к р у т а ў (*імгненна зашморгвае петлі і падвешвае Фліта са скручанымі за спінай рукамі*). Ты адважыўся пагуляць са мной?

Ф л і т (*крычыць*). Ой, вой вой… балюча!

Б а н к р у т а ў (*не звяртае ўвагі на крык Фліта*). Заўваж, Андрэй, чалавечая самаўпэўненасць развіваецца тады, калі ён прызвычайваецца да абставін і губляе страх.

Ф л і т. Іван Іванавіч, хопіць жартаў. Адпусціце рэмень…

Б а н к р у т а ў (*зноў не звяртае ўвагі на просьбу Фліта*). Вось наглядны прыклад таго, што бывае, калі чалавеку з шэрай людской масы, накшталт той, што соўгаецца за акном, даць слабінку і не кантраляваць яго – ён табе адразу садзіцца на галаву і паскудзіць.

Д о л ж н і к а ў. Можа, адпусціце рэмень? Яму ж балюча…

Б а н к р у т а ў. Я не закончыў яшчэ. (*Паварочваецца да Фліта.*) Прызнавайся, паскудзь, ты сапраўды хацеў мяне падвесіць ды высветліць, хітрую я ці кажу праўду?

Ф л і т. Я пажартаваў…

Б а н к р у т а ў (*цягне рэмень вышэй*). Кажы праўду, свіное стварэнне.

Ф л і т (*енчыць*). А-а-а…

Б а н к р у т а ў (*зацягвае рэмень вышэй*). Ну?

Ф л і т (*не вытрымлівае болю, крычыць*). Прызнаюся… Вінаваты…

Б а н к р у т а ў (*выпускае з рук рэмень, наглядчык ляскаецца тварам аб каменную падлогу*). Памятай, Андрэй, адно правіла: любая гульня заўсёды павінна быць псіхалагічнай, што тычыцца адносін з сапернікам, хуткай па часе і жорсткай па дзеянні. (*Выспяткам б’е па жываце Фліта, які ляжыць на падлозе, і*

*зноў звяртаецца да Должнікава*). Нешта накшталт бокса, каб не азвярэць самому і захаваць з канкурэнтам карпаратыўныя адносіны. (*Паварочваецца да Фліта, які па-ранейшаму ляжыць на падлозе і енчыць*). Арцём, ты што разрумзаўся, як маладуха перад вяселлем?! Радавацца трэба, што жыццё працягваецца. Падымайся, хлопец… Ты на службе…

Ф л і т (*падымаецца з падлогі, выцірае рукавом твар*). Дзякую, Іван Іванавіч (*Выходзіць з памяшкання*).

Д о л ж н і к а ў (*пасля кароткай паўзы*). Я не аднойчы прысутнічаў пры гэткіх жахах, але ўпершыню так ясна і так выразна адчуў уздзеянне слоў “Кажы праўду!”. Падаецца, што гэты пасыл можа прынесці нам добрыя дэвідэнды.

Б а н к р у т а ў. І ў чым яго сутнасць?

Д о л ж н і к а ў. У прастаце. У чалавека ёсць набалелая праблема. Ён распавядае аб ёй сваякам, суседзям, іншым разам нават незнаёмым людзям. Але ад гэтых расповедаў яна не заўсёды вырашаецца. Чалавеку патрэбна даць у рукі лейцы і падказаць кірунак, гэтакі своеасаблівы штуршок-спадзеў, які можа паставіць кропку ў яго безвыніковых блуканнях. Напрыклад, прапанаваць аплачаную паштоўку, у якой ён мог бы выказаць сваю крыўду, і запэўніць яго, што пры накіраванні яе на адрас адпаведнай уладнай структуры чалавек спраўдзіць свае надзеі.

Б а н к р у т а ў. Такім чынам мы будзем валодаць інфармацыяй аб кожным незадаволеным, можам мець на іх кампрамат і, вядома, папярэджваць іх дзеянні рознымі прэвентыўнымі мерамі. Ідэя геніяльная… Ты малайчына!

Д о л ж н і к а ў. Гэты праект мы павінны разрэкламаваць, маўляў, ён накіраваны ў першую чаргу на вырашэнне праблем простых людзей, мала дасведчаных у юрыспрудэнцыі.

Б а н к р у т а ў. Зразумела. Але для рэалізацыі гэтага праекта нам патрэбна аўтарытэтная асоба, лідар, якому людзі верылі б.

Д о л ж н і к а ў. Мне здаецца, праблем з лідарамі не будзе. Самалюбівых людзей, асабліва ў творчых арганізацыях, процьма. Кожны з іх марыць пра прызнанне, славу, грошы. Дарэчы, апошнія і нам вельмі патрэбны.

Б а н к р у т а ў. Грошы маеш на ўвазе? Не хвалюйся. Знойдуцца!

Д о л ж н і к а ў. Тады выдатна.

**Карціна другая**

*У службовы кабінет начальніка вязніцы ўваходзіць Фліт.*

П р ы з о н т а ў (*ставіць на стол кубак з гарбатай*). Арцём? Праходзь… Пакаштуй натуральнай духмянай гарбаткі. З Цэйлона. Ці даводзілася табе там быць?

Ф л і т (*усміхаецца*). Вы жартуеце, Павел Мікалаевіч…

П р ы з о н т а ў. Вядома. Але як не пажартаваць з чалавекам, у якога апошні працоўны дзень, які заўтра... Заўтра зранку ты можаш сесці на самалёт і праз некалькі гадзін апынуцца ў той жа Шры-Ланцы.

Ф л і т. Сапраўды, магчымасць такая ёсць. Аднак наўрад ці можна яе выкарыстаць.

П р ы з о н т а ў. Пасля дваццаці гадоў працы ў вязніцы адпачынак патрэбен менавіта экзатычны, каб імгненна пазбавіцца ад зневажальнай будзённасці.

Ф л і т. Сапраўды, дваццаць гадоў свядомага зняволення становяцца мінулым…

…Прастор, прастор і воля там,
Але не нам яны, не нам!
Запёрты мы, прыдаўлены,
І краты нам прыстаўлены.
Высок, высок паркан-сцяна.
Нам песня волі не чутна.
Не нам вясна, не нам прастор –
Нам мур сыры, нам цесны двор.
Гады ў няволі адцвітуць...
Не плач, душа, вясну забудзь!

П р ы з о н т а ў (*здзіўлена*). Не магу паверыць… Чые гэта вершы?..

Ф л і т. Якуб Колас, “Песня няволі”. Дарэчы, гэты верш ён напісаў тут, у нашай вязніцы, калі адбываў пакаранне за ўдзел у арганізацыі нелегальнага настаўніцкага з’езду.

П р ы з о н т а ў (*здзіўлена*). Не разумею, Арцём. Заўсёды лічыў цябе чалавекам… як бы мовіць…

Ф л і т (*перапыняючы*). Недалёкім… цёмным.

П р ы з о н т а ў. Ну… не зусім гэтак, але, прабач, дзікаватым… Сёння ты мяне здзівіў і, шчыра прызнацца, узрадаваў.

Ф л і т. Вы ўспрымалі мяне як наглядчыка...

П р ы з о н т а ў. Прабач, але гэта так. Сам ведаеш, служба наша такая – амаль увесь час са зняволенымі…

Ф л і т. І жыццё як у зняволеных. Нават горш…

П р ы з о н т а ў. Горш?.. Што ты маеш на ўвазе?

Ф л і т. Тое, што зняволеныя адбываюць пакаранне за здзейсненыя злачынствы, а мы свядома знаходзімся за калючым дротам і тут здзяйсняем злачынствы.

П р ы з о н т а ў (*разгублена*). Здзяйсняем злачынствы!.. Растлумач падрабязней… Што маеш на ўвазе?

Ф л і т. Усё будзённае, Павел Мікалаевіч. Заўчора вы мне выдалі службовы пісталет, а я вось за гэтай сцяной пазбавіў чалавека жыцця.

П р ы з о н т а ў (*пужліва аглядае сцены кабінета, прыглушана гаворыць*). Цішэй, Арцём…

Ф л і т. Павел Мікалаевіч, не пужайцеся сказанага слова. Баяцца патрэбна Бога. Ён нам суддзя. Усім.

П р ы з о н т а ў. Заўчора ты выконваў прысуд.

Ф л і т. Вядома, але… Хто даў нам права пазбаўляць чалавека жыцця?

П р ы з о н т а ў. Закон.

Ф л і т. Законы пішуць людзі, а жыццё

чалавеку дае Бог. Ён, Павел Мікалаевіч, адзіны, хто можа адняць ці, дакладней, адазваць да сябе ў сусвет грэшную чалавечую душу. Мы не маем права вяршыць суд. Інакш мы злачынцы, падобныя да тых, каму выносяцца смяротныя прысуды.

П р ы з о н т а ў (*расчаравана*). Я згодны з кожным тваім словам, Арцём. Праўду кажаш. Даўно не гучала яна ў гэтых мураваных сценах. Наўкол падман, хітрасць, ліслівасць... Надакучыла гэта гульня, надакучыла абыякава за ёй наглядаць, жывёльна ўхмыляцца. Яшчэ сяк-так адчуваеш сябе, калі бачыш гэта ў асяродку забойцаў і хабарнікаў. Гэта натуральна. А вось калі падобнае пасялілася і вольна сябе адчувае ў кабінетах чыноўніцтва, тады гэта бяда, братка. Для ўсіх. Брыдка на душы, Арцём, так брыдка, ажно прэ вонкі бруд і погань. Адно стрымлівае – страх. Уеўся ён у душу, як іржа ў жалеза. Штодзень з'ядае сваю кроплю, крывасос. Балюча, але трываеш. Часам асмелішся на кухні, крыху выкалупаеш яго, але адрэзаць ды выкінуць на сметнік адвагі не хапае. Жыць ва ўмовах падману і не заўважаць яго – гэта сапраўды злачынна. (*Крыху памаўчаў*). Сыду, напэўна, і я са службы. Неадкладна. Цэлы месяц прыглядаўся і вывучаў кандыдатаў на пасаду наглядчыка, але замену табе знайсці не проста. Працаваць многія гатовы, але каб выконваць смяротныя прысуды...

Ф л і т. Ахвотнікаў асвоіць прафесію з абавязкамі пазбаўляць чалавека жыцця знайсці цяжка. Але ёсць, Павел Мікалаевіч, выйсце. Паспрабуйце ініцыяваць аб'яўленне смяротнага пакарання па-за законам.

П р ы з о н т а ў. Ты лічыш, што гэта паўплывае на колькасць дзёрзкіх злачынстваў? Іх стане менш ці, можа, грамадства зусім пазбавіцца іх?

Ф л і т. Вядома, не. Справа не ў злачынствах як з'яве, яны існавалі і будуць існаваць, пакуль

жыве грэшны чалавек. Галоўнае – у няўхільнасці пакарання за правапарушэнне і ў механізме яго выканання. Вязню, які ўсведамляе сутнасць здзейсненага злачынства, які шкадуе, што ўчыніў неабдуманы ўчынак, лягчэй прыняць смяротнае пакаранне, чым пажыццёвае.

П р ы з о н т а ў. Можа, і так… Калі-небудзь такая норма будзе прынята. А ўстанове патрэбен работнік заўтра.

Ф л і т. Тады абазначце праблему Банкрутаву.

П р ы з о н т а ў (*нервова аглядаецца, прыцішана гаворыць*). Ён жа кадравы афіцэр спецслужбы…

Ф л і т. Ведаю. Але толькі там могуць знайсці легальнага забойцу.

П р ы з о н т а ў. Няўжо?! Гэта значыць, што і ты… Як гэта правільна сказаць?..

Ф л і т. Так, Павел Мікалаевіч, я таксама адтуль. Але я кат па прымусу.

П р ы з о н т а ў (*ускоквае з-за стала, хапаецца рукамі за галаву*). А божачкі!.. Колькі гадоў працуем разам!..

Ф л і т. Так, так, Павел Мікалаевіч. Мне шкада. Што тычыцца асабіста вашых учынкаў, дык я ў сваіх справаздачах сям-там не ўпамінаў іх, не канкрэтызаваў. У большасці выпадкаў абыходзіўся агульнымі словамі, карацей, не злоўжываў эпітэтамі, бо вельмі паважаю вас за душэўную дабрыню, спагадлівасць. Але гэта не азначае, што я свядома апусціў некаторыя факты, што мелі месца ў вязніцы, што нехта іншы не заўважаў і не дакладваў пра іх. Таму блізка да сэрца гэтую інфармацыю не прымайце. Усе мы тут пад пільным ненажэрным вокам і вострым усёчуйным слыхам.

П р ы з о н т а ў (*разгублена*). Я здагадваўся… заўважаў, хто з падначаленых любіць костачкі перамываць, а хто і навесці паклёп… Яны бачны па характары, паводзінах… Але пра цябе… нават падумаць не мог.

Ф л і т. Бо я гэта рабіў не па сваёй ахвоце,

а пад страхам, таму і кантраляваў кожны свой крок. Аднак сёння, бачыце, я пераадолеў яго, вам прызнаўся. Паслухайце далей. Здарылася гэта ў юнацкія гады… Я, малады перспектыўны работнік лясной гаспадаркі, займаўся пасадкай дрэў на лядах. Час ад часу леснікі бралі мяне на паляванне. Страляў я выдатна. Нікому так не ўдавалася. Кулямі і драбінамі дзіравіў капелюшы работнікаў лясніцтва і трушчыў на шчэпкі драўляныя круглякі-талеркі, што падкідвалі ўгору.

На паляванне прыязджалі незнаёмыя мне людзі, але кожны з іх прасіў ляснічага, каб менавіта мяне ўзяць з сабой. Я ахвотна згаджаўся і, вядома, апраўдваў сваю прысутнасць – без дзічыны госці не заставаліся.

Аднойчы ў лясніцтва прыехалі двое мужчын. Знешне яны былі мне знаёмы, бо разам з імі быў аднойчы на паляванні, а вось трэцяга я заўважыў толькі ў машыне за зацемненымі вокнамі. Пакуль ехалі на ляды, запомніліся яго хваравіты выгляд, скуласты худы твар з жоўтымі мяшкамі пад вачамі ды не па сезону адзенне – жабрацкая хэбэшка цёмна-зялёнага колеру. Перад пачаткам загону звера мы сталі па нумарах, чакаючы дзіка. Неўзабаве пачуўся гук паляўнічага рога, пайшоў загон. Прайшло літаральна некалькі хвілін, і я заўважыў наперадзе, у маладым ельніку, гайданне ніжніх галінак і галаву дзіка. Я імгненна прыцэліўся і выстраліў. Пабегчы і паглядзець звера – а я быў упэўнены, што заваліў менавіта яго, – без каманды мне не дазвалялася. Калі пачуў чарговы гук паляўнічага ражка, які адмяняў паляванне, ускочыў з месца і праз лічаныя хвіліны апынуўся ля яліны, якую доўгі час свідраваў вачамі. Я жахнуўся, калі пад дрэвам замест кабанчыка заўважыў дзядзьку – таго хваравітага незнаёмца.

П р ы з о н т а ў. Ай, божа-божа…

Ф л і т. Так-так, Павел Мікалаевіч… А потым былі слёзы роспачы. Зубамі, рукамі, аж

паўздзіраў паўзногці, я рваў і раскідваў зямлю па баках. Страх скаваў мой розум, сэрца і цела так, што не пачуў, як падышлі двое другіх паляўнічых, як ішоў да машыны, што стаяла на ўзгорку перад лесам. Праз некаторы час крыху супакоіўся, бо калегі-паляўнічыя паклапаціліся і прапанавалі шклянку гарэлкі. Думкі пра тое, што трэба ехаць у міліцыю ды прызнавацца, не пакідалі мяне ні на хвіліну. Але праз нейкі час, калі перакуліў яшчэ некалькі шклянак, яны высадзілі мяне непадалёку ад лясніцтва і папярэдзілі, каб да часу нікому не расказваў пра тое, што здарылася ў лесе. Маўляў, патрэбна адвезці раненага ў бальніцу, можа, застанецца жывы. Ляснічаму я сказаў, што паляванне не ўдалося, таму крыху выпілі і госці не развітваючыся з'ехалі дамоў, а сам прылёг на канапу і заснуў. Прачнуўся раніцай на другі дзень ад нейкага шоргату, размоў. У леснічоўку ўваходзілі леснікі, якія прыехалі на нараду з ляснічым. Зноў пачалі вярэдзіць сэрца думкі пра паездку ў раён, у міліцыю, каб прызнацца і вырашыць сваю праблему, але з-за тэрміновай работы – загружалі лесам некалькі машын – зрабіць гэта не ўдалося. Каля дома мяне чакалі тыя двое мужчын, з якімі паляваў апошні раз. Яны запрасілі ў машыну, і мы праехалі за аколіцу. Сказалі мне, што ўратаваць іх знаёмага не ўдалося. Памёр па дарозе, таму, каб не лягло на іх гэта забойства і не сапсавала кар'еры, яны пахавалі яго на ўзлеску. Шукаць яго наўрад ці хто калі будзе, бо ён адзіночка. Але ж, каб перасцерагчыся і не хваляваца пра асабісты лёс, яны прапанавалі напісаць заяву на службу ў вязніцу. Маўляў, адной крывёю абмыты, таму адну горкую чашу і будзем разам піць. Я пагадзіўся, не распытваючы, што ды як…

П р ы з о н т а ў. І хто яны?.. Тыя двое?.. Ну, што былі з табой на паляванні?

Ф л і т. Адзін з'ехаў некуды ў Расію… па службе. А другі… Другі – Банкрутаў.

П р ы з о н т а ў (*ускоквае з крэсла*). Божачкі!.. (*Хрысціцца, гледзячы на партрэт Дзяржынскага*). Што ж гэта робіцца на белым свеце?

Ф л і т. Павел Мікалаевіч, даслухайце… я не сказаў галоўнае. А яно якраз у тым, што я дваццаць гадоў шукаў праўду: забіў я таго грэшнага ці не? Нарэшце, калі мне давялося сустрэцца з ім і калі той пацвердзіў, што там, у лесе, ён пад прымусам з'імітаваў сваё раненне, я зразумеў, што Бог усё ж не з падманшчыкамі, не з тымі, хто карыстаецца ўладнымі паўнамоцтвамі, хто мае грошы ці спадзяецца на моц уласных кулакоў, Бог – у праўдзе.

П р ы з о н т а ў. Можа, гэта і так, але чаму тады Бог доўгі час маўчаў?

Ф л і т. Магчыма, чакаў, пакуль мае грахі пакараюцца грахамі Банкрутава.

П р ы з о н т а ў. Не зразумеў.

Ф л і т. Я зрабіў вялікую жыццёвую памылку, Павел Мікалаевіч. З-за роспачы ад злачынства, якое ўчыніў, пад страхам турэмнага зняволення я пакорліва пагадзіўся на паскудную работку віжа. Спачатку яна была пададзена Банкрутавым як звычайная – паведамляць пра намеры падсудных, якія плануюць здзейсніць злачынства, а потым ён прымусіў мяне занатоўваць і перадаваць яму ўвогуле ўсё, што бачыў і чуў у вязніцы. Я разумеў, што грашу перад Богам, бо выказваю сваё індывідуальнае бачанне таго ці іншага людскога ўчынку, а я ж магу памыляцца, але знайсці выйсце, каб спыніцца і збочыць з дарогі, якую ён навязаў мне, не ўдавалася. Праз вышэйшае міліцэйскае кіраўніцтва Банкрутаву ўдалося рэкамендаваць мяне на легальную працу забойцы смяротнікаў. Я вымушана стаў катам. Зноў жа замест таго, каб пераадолець страх, я маўкліва нырнуў на дно, у цемру і холад адзіноты. Мая неабачлівасць скавала мяне і адасобіла ад усяго свету. Апрача службы ў вязніцы ды адпачынку ў кватэры, у

мяне больш не было іншых заняткаў, не было блізкіх людзей, з якімі б падзяліўся сваімі трывогамі. Я задыхаўся ад грэшнага жыцця, душа ганіла мае ўчынкі. Напэўна, мне самому лепш было б прыняць смерць, чым прыносіць яе іншым.

Прызонтаў (*пасля кароткай паўзы*). Калі і зграшыў ты перад Богам, дык не свядома, а па прымусу. У цябе не было злой задумы, жадання і прагі пазбаўляць жыцця асуджаных на смерць. Пісталет для забойства ты атрымліваў не па маім жаданні, а з дазволу ўлады. Я прыпамінаю той першы дзень, калі ты пагадзіўся займацца гэтай невысакароднай справай. Я тады ніяк не мог уцяміць, на што ты разлічваў, якую меў мэту, калі даваў згоду быць забойцам. Зараз я цябе разумею. Мне здаецца, што твой грахоўны ўчынак, як ты яго пазначыў, не выклікае Божае асуджэнне. Ты ачысціў яго шчырым пакаяннем, ты застаўся верным праўдзе.

Фліт. Дзякую вам, Павел Мікалаевіч. Такая ваша ацэнка таго, што здарылася, для мяне вельмі важная. Значыць, я не адзін на гэтым свеце. Страх за быццам бы ўчыненае некалі злачынства мяне пакінуў учора, сёння ж я адчуў, як маю душу працяў Божы страх. Магчыма, заўтра я ўсё ж накіруюся ў Шры-Ланку… А можа – у манастыр? Гэтая дарога для мяне больш прыцягальная... (*Бярэ са стала фуражку і спакваля ідзе ў глыбіню сцэны*).

### Карціна трэцяя

*У пакоі следчых допытаў сядзіць прывязаны да стула чалавек з мяшком на галаве. Ён сутаргава варочаецца – наколькі дазваляе яму вяроўка, роспачна енчыць. Каля яго ходзіць канвойны, паглядаючы на дзверы кабінета. У пакоі з'яўляюцца Прызонтаў і Должнікаў.*

Прызонтаў (*трывожна*). Што тут здарылася?

Канвойны (*перапалохана*). Я першы дзень

на службе… Згодна з раскладам працоўнага дня прывёў падследнага… А тут!.. (*Паказвае на прывязанага да стула чалавека*).

П р ы з о н т а ў (*загадвае канвойнаму*). Здымі мяшок з яго галавы.

*Канвойны здымае мяшок. Прызонтаў і Должнікаў пазнаюць звязанага чалавека. Гэта начальнік аператыўнага аддзела спецслужбы Іван Банкрутаў.*

П р ы з о н т а ў (*зноў загадвае канвойнаму*). Выцягні з рота затычку.

*Канвойны выцягвае.*

Б а н к р у т а ў (*раз'юшаны*). Тваю м… Развяжыце мяне… Хутчэй!..

П р ы з о н т а ў. Хвіліначку… Гэта надзвычайнае здарэнне. Яго патрэбна зарэгістраваць належным чынам.

Д о л ж н і к а ў. Можа, самі разбяромся?

Б а н к р у т а ў. Павел Мікалаевіч, вы здурнелі? Выклікаць міліцыю і зафіксаваць здарэнне ў вязніцы, работнікі якой вам падначалены? Прызнаць, што не справіліся з абавязкамі?

П р ы з о н т а ў. Не, не здурнеў. Адпаведна закону, а таксама кіруючыся ведамаснымі інструкцыямі, я павінен выканаць гэту працэдуру.

Б а н к р у т а ў. Гэта так, але… На практыцы мы… мы можам часам кіравацца неафіцыйнымі міжведамаснымі дамоўленасцямі.

Д о л ж н і к а ў (*упэўнена*). Так, так, Павел Мікалаевіч.

П р ы з о н т а ў. У такім выпадку патрэбна паведаміць пра здарэнне вышэйшаму начальству. Няхай яно прымае рашэнне.

Б а н к р у т а ў. І такой неабходнасці няма. Навошта столькі сведак гэтаму… проста прыкраму інцыдэнту?

П р ы з о н т а ў. Проста? Я не ўпэўнены. А раптам гэта правакацыя.

Б а н к р у т а ў (*здзіўлена*). Чыя?..

П р ы з о н т а ў. Чыя заўгодна. Разыграць драму хочацца многім. Хто ведае?.. А калі гэта

не так, дык растлумач. Кажы праўду! Што здарылася? Якім чынам ты апынуўся ў такім стане ў кабінеце следчага?

Б а н к р у т а ў. Ну, мы… Развяжыце спачатку вяроўкі…

Д о л ж н і к а ў. Давайце развяжам яму рукі. Відаць, балюча…

П р ы з о н т а ў. Нельга. Наперад хай гаворыць праўду.

Б а н к р у т а ў. Праўду хочаце? А ці не стане вам ад яе дрэнна?

П р ы з о н т а ў. Не! Праўда заўсёды лепш, хай сабе і горкая.

Б а н к р у т а ў. Вунь як яно!.. Тады слухайце, палкоўнік. Мяне звязаў… Мяне звязаў… Не!.. Усё ж будзе лепш, калі з кабінета выйдуць Должнікаў і канвойны.

П р ы з о н т а ў. Нельга. Яны сведкі.

Б а н к р у т а ў. Што яны могуць засведчыць?

П р ы з о н т а ў. Канвойны будзе сведчыць аб тым, што знайшоў цябе прывязаным да стула ў следчым кабінеце вязніцы, а Должнікаў – што шукаў цябе і знайшоў тут.

Б а н к р у т а ў (*звяртаецца да Должнікава*). Дзе ты мяне шукаў?

Д о л ж н і к а ў. Паўсюдна. Вы не начавалі дома, не прыйшлі на службу, нарэшце, не адказвалі на тэлефонныя званкі. Гэта не жарты. І я вымушаны быў прыйсці сюды, у вязніцу. Вы ўчора тут арганізоўвалі аператыўныя мерапрыемствы.

Б а н к р у т а ў. Можа, і вышуковую арыенціроўку ў міліцыю даслаў на мяне?

Д о л ж н і к а ў. Пакуль не. Але тэкст падрыхтаваў.

Б а н к р у т а ў (*кідае шалёны позірк на Должнікава*). Малаток! Табе не аператыўнай работай займацца, а забіваць цвікі ў дошкі... (*Глядзіць на Прызонтава*). Павел Мікалаевіч, развяжыце вяроўку…

П р ы з о н т а ў (*няўмольна*). Толькі пасля таго, як пачую праўду.

Б а н к р у т а ў (*раззлавана*). Якую праўду? Маю? У кожнага яна свая!

П р ы з о н т а ў. Не! Свая можа быць цалкам хлуслівая, крыху прыхаваная, нарэшце, проста брудная. Кажы праўду святую, адзіную… Яна цвярозіць хлуслівага чалавека гаркотай сваіх непрыстойных учынкаў.

Б а н к р у т а ў. Даражэнькі вы мой, Павел Мікалаевіч! Няўжо не ведаеце, што казаць жыццёвую праўду чалавеку не заўсёды з рукі. Лепей памаўчаць.

П р ы з о н т а ў. Тваё права. У такім выпадку здарэнне будзем рэгістраваць афіцыйна. Няхай разбіраюцца следчыя органы.

Д о л ж н і к а ў. Іван Іванавіч, прызнайцеся. Гэта найлепшы варыянт для ўсіх нас.

Б а н к р у т а ў (*вылупіўшы вочы на калегу, дзіка крычыць*). І ты, шчанюк, туды ж?! Унюхаў кроў? Выпіць захацелася…

*Должнікаў, утаропіўшыся ў падлогу, пераступае з нагі на нагу. Прызонтаў паварочваецца і ідзе да выхаду. Следам за ім – Должнікаў з канвойным. Банкрутаў крычыць, імкнецца вызваліць ад вяровак рукі. Нарэшце ён супакойваецца, паспявае паклікаць.*

Пачакайце… Нельга ж так!..

*Прызонтаў, Должнікаў і канвойны спыняюцца, паварочваюцца да Банкрутава.*

Давайце дамовімся. Я раскажу, што тут адбылося ўчора ўвечары, а вы паабяцайце, што пра здарэнне больш ніхто не даведаецца.

П р ы з о н т а ў. Гэта немагчыма, бо ты раскажаш не аднаму – траім – і цяжка будзе прасачыць за захаваннем гэтай тайны кожным з нас.

Б а н к р у т а ў (*гучна, роспачна*). Так!.. Так!.. Прызнаюся... Да стула мяне прыкаваў Арцём Фліт. Завіце яго сюды.

П р ы з о н т а ў. Але Арцём Фліт звольніўся з працы, у яго не запытаешся.

Б а н к р у т а ў (*раз'юшаны*). Яго няма?! Як гэта можа быць?

П р ы з о н т а ў. Вельмі проста. Учора быў апошні дзень яго службы.

Б а н к р у т а ў (*узрушаны*). Сабака, сабака, сабака… Знайду, з-пад зямлі выцягну… (*Утаропіўшыся ў Прызонтава, загадвае*). Развяжыце мяне…

П р ы з о н т а ў. Не маю права. Гэта па-першае. А па-другое, тут увогуле невядома – зрабіў гэта Фліт ці хто іншы. Не бачу прычыны, якая вымусіла б Фліта да такіх жорсткіх, здзеклівых дзеянняў.

Б а н к р у т а ў. А вы даведайцеся ў свайго падначаленага пра прычыну… Хай ён раскажа.

П р ы з о н т а ў. Высвятляць у былога падначаленага пра стасункі паміж вамі, калі яны былі на самай справе, пагадзіцеся, не надта разумна. А вось у вас, Іван Іванавіч, запытацца дарэчы: якім чынам вы, начальнік аператыўнага аддзела спецслужбы – зусім іншага ведамства, апынуліся прывязаным да стула ў следчым кабінеце вязніцы?

Б а н к р у т а ў. Я ўжо адказаў. Фліт мяне прывязаў.

П р ы з о н т а ў. Калі ён вінаваты, дык будзе адказваць перад судом. А для вас, паўтараю, надышоў час, калі патрэбна паспяшацца сказаць праўду. Што паслужыла прычынай таго, што наглядчык вязніцы Арцём Фліт – калі гэта сапраўды быў ён – так жорстка абышоўся з вамі?

Б а н к р у т а ў (*крычыць*). Вы кат! Мне балюча не толькі фізічна, але і ад вашых размоў. У вас няма сэрца. Не скажу больш ніводнага слова…

*Прызонтаў рашуча выходзіць са следчага кабінета. На выхадзе яго даганяюць Должнікаў і канвойны.*

Д о л ж н і к а ў. Сапраўды, Павел Мікалаевіч, вы вельмі неяк… сурова з ім. Мне падаецца, што рабіць паспешлівых крокаў не трэба. Да любой

справы трэба падыходзіць разважліва. Вы гэта добра ведаеце, разумееце і іншае: якімі наступствамі ўсім нам адгукнецца гэтае здарэнне, калі яго афіцыйна зарэгістраваць.

П р ы з о н т а ў. Ведаю, што тычыцца асабіста мяне. Я напішу рапарт на звальненне і стану пенсіянерам.

Д о л ж н і к а ў. Гэта так. Але я прашу вас шырэй глянуць на выпадак, які адбыўся ў вязніцы.

П р ы з о н т а ў. Навошта выказваць здагадкі, калі можна пачуць праўду ад Банкрутава? Хай не хавае яе, прызнаецца. Тады і мы можам прымаць правільныя рашэнні.

Д о л ж н і к а ў. Яму нязручна прызнацца, бо спадзяецца і нават упэўнены, што вы не адважыцеся вызваць міліцыю ў вязніцу, паколькі не ведаеце дасканала праблемы, звязанай са здарэннем у падначаленай вам установе.

П р ы з о н т а ў. Пагаджуся, што гэта так. Але, нягледзячы на некаторыя аспекты здарэння, якіх, магчыма, я і не ведаю, мне падаецца, што ўсё ж лепей вызваць міліцыю, чым схаваць інфармацыю ў сценах вязніцы.

Д о л ж н і к а ў. Гэта будзе не зусім правільна. Вы не ведаеце ўсю праўду і таму рызыкуеце, вам прыйдзецца несці, магчыма, нават і крымінальную адказнасць.

П р ы з о н т а ў (*здзіўлена*). Нават так? Гэту акалічнасць нельга не ўлічваць, тым больш што я бачу, вы зацікаўлены яе выказаць. Мяркую, яна таксама тычыцца і вашай асобы. Магчыма, засвяцілі перспектывы кар'ернага росту?

Д о л ж н і к а ў. Вы абсалютна дакладна выказалі здагадку, таму мне хацелася б знайсці з вамі паразуменне, Павел Мікалаевіч. Загадайце канвойнаму, каб ён прынёс сюды торбу з памяшкання для гульні ў сквош. Яна прыхавана за ацяпляльнай батарэяй.

П р ы з о н т а ў (*кідае позірк на канвойнага*). Якая яшчэ можа быць торба? Хто яе прынёс?

Для чаго? (*Канвойны разгублена паціскае плячамі*). Пайшлі, паглядзім…

### Карціна чацвёртая

*Падвальнае памяшканне, дзе адбывалася гульня ў сквош. Уваходзяць Прызонтаў, Должнікаў, канвойны.*

П р ы з о н т а ў (*канвойнаму*). Выцягвай торбу са схованкі.

*Канвойны дастае з-за батарэі торбу і ставіць яе на стол.*

П р ы з о н т а ў (*уважліва аглядае торбу*). Т-а-а-к… (*Кідае позірк на Должнікава*). Кажы, што да чаго.

Д о л ж н і к а ў (*раскрывае торбу і выцягвае прыстасаванні для гульні ў сквош – ракеткі, мячыкі*). У торбе прылады, якімі следчыя часта выбіваюць прызнанні ў зняволеных.

*Прызонтаў здзіўлена глядзіць на Должнікава, не разумеючы, куды той вядзе размову.*

Д о л ж н і к а ў (*падкідвае ўгару мячык, ловіць яго*). У сквош гуляюць каўчукавым мячыкам. Але перад гульнёй мяч неабходна “разагрэць”, каб ён набыў пругкасць і эластычнасць. Дзеля гэтага каля пярэдняй сценкі ставяць зняволенага, а следчы ці іншы чалавек б’е ракеткай па мячы моцна і прыцэльна. Адзін за адным па целе “мішэні” наносяцца бязлітасныя ўдары. Зняволены не вытрымлівае гэткага здзеку, прызнаецца ў быццам бы здзейсненых злачынствах і падпісвае пратакол абвінаваўчай справы. “Гульня з маўклівай праўдай” – так называецца размінка.

П р ы з о н т а ў (*задумліва глядзіць некаторы час на Должнікава, потым пытаецца*). Дзеля чаго вы мне расказваеце гэта? Каб праінфармаваць пра тое, што робіцца ў падначаленай мне ўстанове, ці хочаце мяне запалохаць?

*Должнікаў пераступае з нагі на нагу, маўчыць.*

Але ж у ахвяру патрэбна трапіць мячом. Гэта не заўсёды ўдаецца нават майстру-прафесіяналу, які набіў руку на гэтым рамястве. Вось каб тут былі сапраўды прылады для катавання вязняў – крэсла для допытаў, у якім драбілі косці на руках і нагах, ашыйнікі з шыпамі, сякеры, бізун, нагалоўнік са шрубай, якую ўкручвалі ў чэрап, чаравік з вострым шыпом пад пятку ці іншае, тады б я пагадзіўся з вамі. Але нічога падобнага ў торбе я не заўважаю. Таму мне падаецца, што вы шмат чаго панапрыдумлялі.

Д о л ж н і к а ў (*выцягвае з торбы цэлафанавы пакет з мячыкам*). А вось гэты мяшэчак вы не адносіце да сродкаў катавання зняволеных?

П р ы з о н т а ў. Чаму ж не? Сучасная бандыцкая жорсткасць якраз і праяўляецца ў прымяненні звычайнага цэлафанавага пакета. Але ён павінен быць значна большага памеру. (*У памяшканні ўсталёўваецца цішыня*). Якія яшчэ вы пакажаце прылады для выбівання прызнанняў у зняволеных?

Д о л ж н і к а ў (*чэша патыліцу*). Кажу праўду. Толькі вельмі прашу, каб мая інфармацыя не выйшла за межы ўстановы. У торбе ляжалі рамяні, іх Банкрутаў называў службовымі прычындаламі. А вось тут… (*падыходзіць да крайняй бэлькі столі*) знаходзіўся крук. На яго і падвешвалі ахвяру.

П р ы з о н т а ў (*пільна ўглядаецца ў пабеленую столь*). Няма тут крука, столь чыстая, няма і рамянёў у торбе. Вы зноў дурыце мне галаву? Хопіць! Вызываю міліцыю (*ідзе да выхаду з памяшкання*).

Д о л ж н і к а ў. Спыніцеся! Я не падманваю. Тут Банкрутаў падвешваў рамянямі Арцёма Фліта.

П р ы з о н т а ў (*здзіўлена*). Няўжо?

Д о л ж н і к а ў. Гэта так.

П р ы з о н т а ў. Кажы, што тут адбылося на самай справе!

Д о л ж н і к а ў. Наглядчык пажартаваў з

Банкрутавым, а той не зразумеў жарту і раззлаваўся. Надта ж узбунтавалася самалюбства… Падвесіў Фліта на крук і трымаў да таго часу, пакуль той не прызнаўся ў тым, чаго не рабіў.

П р ы з о н т а ў (*пільна прыглядаецца да Должнікава*). Зразумела… Гэта ўжо бліжэй да праўды. Пішы тлумачальную запіску і гайда да Банкрутава.

**Карціна пятая**

*У памяшканне следчых допытаў, дзе застаўся Банкрутаў, уваходзяць Прызонтаў, Должнікаў і канвойны.*

П р ы з о н т а ў (*нейкую хвіліну моўчкі глядзіць на Банкрутава, потым гаворыць*). Ну што, Іван Іванавіч, прызнавайцеся пры сведках, навошта падвешвалі наглядчыка на крук у столі? Што вам патрэбна было ад яго?

Б а н к р у т а ў (*пагардліва ўсміхаючыся, глядзіць на Прызонтава, потым на Должнікава, гаворыць здзекліва*). Ты ўжо раскалоўся. Не ведаў я, што ты гэткі пусты арэх. Памыліўся…

Д о л ж н і к а ў (*нізка апусціў галаву, глядзіць на падлогу*). Я рабіў усё неабходнае, каб годна выйсці з сітуацыі.

Б а н к р у т а ў. Бачна, што выйшаў. Найлепшым чынам для сябе.

П р ы з о н т а ў. Мне падаецца, што спрэчкі паміж вамі зараз не да месца. Патрэбна прымаць рашэнне – вызываем нарад міліцыі ці вырашаем праблему самі.

Б а н к р у т а ў. Вызываем міліцыю. Я заяўлю ім, што мяне, дзяржаўнага служачага, на працягу сутак незаконна ўтрымлівалі ў вязніцы і прымушалі прызнацца ў дзеяннях, якіх я не здзяйсняў.

П р ы з о н т а ў. Гэта будзе свядомая правакацыя. Мы зафіксуем яе належным чынам. (*Шукае вачамі падтрымку ў Должнікава і канвойнага. Тыя моўчкі пагаджаюцца*).

Б а н к р у т а ў (*злосна*). Развяжыце мяне. Я пажартаваў.

П р ы з о н т а ў. А з наглядчыкам таксама жартаваў ці ўсё ж здзекваўся з яго?

Б а н к р у т а ў. Я чысты перад Богам.

П р ы з о н т а ў. Нарадзіцца святым ад грэшнага немагчыма. А ўсе мы грэшныя.

Б а н к р у т а ў. Можа, і гэтак. Але ж… Я шукаў праўды і дабіваўся яе ад Фліта.

П р ы з о н т а ў. Яна заведама мелася быць крывадушнай.

Б а н к р у т а ў. А чым яна адрозніваецца ад вашай праўды? Вы больш за гадзіну трымаеце мяне ў вяроўках і дамагаецеся прызнання, патрэбнага вам.

П р ы з о н т а ў. Мая праўда іншая, бо я раблю ўсё магчымае, каб быць верным ёй. Я свядома не іду супраць Божай волі, таму і сумленне падказвае мне, што я злачынства не ўчыняю. А ў цябе, Іван Іванавіч, гэткай упэўненасці няма. Недзе далёка-далёка, у закутках тваёй душы, час ад часу ўспыхвае думка, што з Арцёмам Флітам абышоўся не па-людску. Таму і сказаць, што чыніў справядлівы суд над ім і шукаў праўду, нельга.

Б а н к р у т а ў. Не ісці ж мне з-за гэтага ў манастыр?

П р ы з о н т а ў. Справа тут асабістая, выбірай. Але што тычыцца шчырага пакаяння, дык яно неабходна. Страх Божы павінен быць у душы чалавека. Ён перасцерагае ад граху.

Б а н к р у т а ў. Грахом менш, грахом больш – якая розніца?

П р ы з о н т а ў. Вялікая, бо няма пакаяння.

Б а н к р у т а ў (*крычыць*). Хопіць! Хопіць! Хопіць!.. Раскайваюся…

*Канвойны падыходзіць да Банкрутава, каб развязаць вяроўкі на яго руках, але Прызонтаў яго перапыняе.*

П р ы з о н т а ў. Спачатку афармім неабходныя дакументы…

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## Карціна шостая

*Дзеянне адбываецца ў двары школы палітычных даследаванняў. Двое мужчын у чорных акулярах, апранутыя ў строгія гарнітуры, сядзяць на лаўцы пад разлапістай вярбой. На пляцоўцы перад будынкам тоўпяцца слухачы ўстановы, іх сваякі, сябры і знаёмыя. Непадалёку ад уваходу сядзіць жабрак.*

П р а ў д а р у б а ў (*узнёсла*). Насамрэч, не верыцца, што я слухач школы палітычных даследаванняў. Вытрымаць конкурс было цяжка. І калі б не ваша дапамога, Андрэй, дык я, мусіць, застаўся б на абочыне.

Д о л ж н і к а ў (*з самалюбівай усмешкай на твары, прыцішана*). Магчыма, і так. Спадзявацца на чэсныя, аб'ектыўныя вынікі экзаменаў не даводзіцца, таму і прыйшлося крыху адрэгуляваць працэс заліку, так бы мовіць, падстрахаваць цябе.

П р а ў д а р у б а ў (*здзіўлена, зацікаўлена*). Каб уплывова ўздзейнічаць на ўнутраныя рашэнні недзяржаўнай ўстановы, яе распарадак… патрэбны ўладныя паўнамоцтвы ці грошы…

Д о л ж н і к а ў. Усё ёсць, браток, але ў цяньку. Спецыфіка…

П р а ў д а р у б а ў. Разумею.

Д о л ж н і к а ў. Хутка і ты будзеш мець магчымасць карыстацца гэтымі прывылеямі. Толькі вучыся і не бі лынды. Ты перспектыўны палітык-журналіст, у цябе цікавая і вельмі прывабная будучыня. Яна, можна сказаць, ужо ў кішэні.

П р а ў д а р у б а ў. Дзякую. Буду старацца.

Д о л ж н і к а ў. Толькі стараннасць. Яна дасць табе тое, да чаго ты імкнешся – славу, дабрабыт. Усё, што захочаш, будзе ў тваіх руках. А рабіць будзеш толькі адно – рэзаць праўду-матку проста ў вочы кожнаму, хто трапляецца на

дарозе. Біць ёю людзей, выклікаць іх небяспечную рэакцыю і аналізаваць, каб спазнаць людскія ўчынкі і сувязь паміж імі. Тваё прозвішча абавязвае гаварыць праўду.

П р а ў д а р у б а ў. Карацей кажучы, мне прапануецца роля касы і малатка.

Д о л ж н і к а ў (*задумліва*). Без гэтых прылад журналіст бяззубы. Ты, здаецца мне, не хочаш быць такім.

П р а ў д а р у б а ў. Не хачу. Але…

Д о л ж н і к а ў. Што яшчэ?

П р а ў д а р у б а ў. Гэта небяспечна.

Д о л ж н і к а ў. Не зусім так. Дзяржава гарантуе бяспеку. Вунь колькі стагоддзяў мінула, а яшчэ ніводнага не пакрыўдзіла. Праўда, былі ў гісторыі былой імперыі ліхія гады, калі механізм сапсаваўся і стаў непадпарадкавальным. Але ўрокі засвоены, прааналізаваны. Калі мы будзем іх памятаць, сістэма будзе функцыянаваць безахвярна.

З іншага пункту гледжання, мы нічога антыканстытуцыйнага не робім, каб нечага баяцца. Вось, напрыклад, ажыццявілі праект, які даў магчымасць людзям выказаць сваё абурэнне фактамі карупцыі сярод чыноўнікаў. Людзі з апаскаю, нягледзячы на арышты і суды, усё ж выказвалі праўду. Цяпер наша задача не толькі ў тым, каб запэўніць іх у правільнасці гэтых учынкаў, але і мабілізаваць на актыўныя дзеянні да змянення сітуацыі. Больш за тое, патрэбна сканцэнтравацца на новай большасці, якія баяцца, але вельмі хочуць перамен. Іх таксама патрэбна ўцягнуць у палітыку, каб ведаць і своечасова прымаць прэвентыўныя меры.

П р а ў д а р у б а ў. Мне нешта боязна. Зло заўсёды вяртаецца да таго, хто яго рассявае. Не па-хрысціянску гэта.

Д о л ж н і к а ў. Затое па-гаспадарску. Ведаеш выраз: калі на сцяне вісіць стрэльба, яна абавязкова некалі стрэліць. Дык вось, каб бяда не

здарылася, патрэбна штохвілінна кантраляваць гаспадара ці лепш ліквідаваць яго стрэльбу.

П р а ў д а р у б а ў. А калі пабудаваць механізм правільных адносін з людзьмі, ставіцца да іх добразычліва і служыць прыкладам… Што тады?.. Тады, мне здаецца, і стрэльба не спатрэбіцца чалавеку.

Д о л ж н і к а ў. Для гэтага патрэбен час. А ён – у будучым. Сёння, заўваж, значная частка грамадзян жыве па фізіялагічных законах. Іх жаданні ў асноўным падпарадкаваны адной мэце – напоўніць страўнік і аддацца пажадлівым уцехам, каб задаволіць сваё цела. Нязгоду, варожасць і агрэсію ад іх можна чакаць толькі ў час крызісу з матэрыяльнымі рэсурсамі.

Іншая справа астатнія, тыя, хто ўтаймоўваюць свае цялесныя жаданні з дапамогай моцнага духу. Яны ставяць перад сабой больш высакародныя мэты. Іх жаданне – змяніць правілы, па якіх жыве грамадства, да вышэйшага, як яны лічаць, узроўню за кошт новых і перспектыўных ідэй.

Розніца ў амбіцыях абедзвюх катэгорый людзей вельмі вялікая. Першым можна заткнуць рот каўбасой і чаркай ды яшчэ тупнуць нагой, калі нешта не так, а другіх цукеркай не прывабіш і голымі рукамі не возьмеш.

П р а ў д а р у б а ў. Прымус, мне здаецца, залішні. Чалавеку патрэбна воля, каб ён раскрыўся, каб яго ідэі эвалюцыйна ўдасканальваліся. Дабро і зло – аснова прагрэсу чалавецтва.

Д о л ж н і к а ў (*шкадуючы*). Заўважаю, Мікалай, што ты яшчэ не зразумеў асноўнай задачы, якую патрэбна вырашыць у будучым. А яна якраз не ў пабудове дома, народзінах сына ці пасадцы дрэва, пра што ты марыш, а ў надзейным трыманні галоўнага напрамку, па якім рушыць краіна.

П р а ў д а р у б а ў (*усміхаецца*). Памыляецеся, Андрэй, у сваіх меркаваннях. Я толькі што скарыстаў ваш наказ рэзаць праўду-матку ў вочы

кожнаму, хто трапляецца на дарозе, біць ёю людзей, выклікаць іх небяспечную рэакцыю і аналізаваць, каб спазнаць людскія ўчынкі і сувязь паміж імі.

Д о л ж н і к а ў (*узрушана*). Дык не са мной жа гэтак эксперыментаваць! Я ж магу і... Хаця (*развважаючы*) нічога не буду рабіць. Навучаны...

П р а ў д а р у б а ў (*апраўдваецца*). Прабачце, Андрэй, за дзёрзкасць... Падумаў, што...

*Размову перапыняе тэлефонны званок. Должнікаў дастае з кішэні мабільнік, адыходзіць крыху ад лаўкі, на якой застаўся сядзець Праўдарубаў. Тут жа вяртаецца назад.*

Д о л ж н і к а ў (*радасны*). Мне датэрмінова прысвоілі званне капітана.

П р а ў д а р у б а ў (*падымаецца, цісне Должнікаву руку*). Шчыра віншую... і зноў жа прашу прабачэння...

Д о л ж н і к а ў. Залішні напамін. Я ўжо забыў недарэчнасць. Мне патрэбна ехаць у ведамства. Ты сам тут уладкуешся...

П р а ў д а р у б а ў (*развітваецца і праводзіць Должнікава да выхаду з двара школы*). Вядома. Не хвалюйцеся, Андрэй. Усяго добрага! (*Вяртаецца да лаўкі і заўважае жабрака – дзядулю з сівой доўгай барадой, які ўслых чытае Біблію. Спыняецца каля яго. Выцягвае з гаманца грошы і кладзе іх у торбу старому*). Спажывайце на здароўе, дзядуля!

Ж а б р а к (*хрысціцца, дзякуе*). Хай Бог вас сцеражэ.

П р а ў д а р у б а ў. Дзядуля, жабраваць трэба каля храма ці яшчэ лепей перад банкам.

Ж а б р а к. Згодзен з вамі, добры чалавек. Храм падорыць міласэрнасць, банк – міліцэйскі пастарунак, а вось палітычная ўстанова зменіць не толькі мой лад жыцця, але і іншых.

П р а ў д а р у б а ў. Праўду кажаце, дзядуля. Палітыка – галава ўсіх жаданняў. Вы незвычайны чалавек. Напэўна, не ўпершыню тут просіце міласціну?

Ж а б р а к. Даводзілася некалькі разоў.

П р а ў д а р у б а ў. І бачылі не аднойчы мужчыну, якога я толькі што праводзіў?

Ж а б р а к. Вядома.

П р а ў д а р у б а ў (*зноў выцягвае з гаманца грошы і кладзе іх у торбу старому*). У мяне да вас незвычайная просьба (*азіраецца і прапануе жабраку пакунак*). Тут гузік, які патрэбна прымацаваць да вашай торбы. А вось невялічкую скрыначку лепей схаваць ад людскога вока, напрыклад зашыць у патаемную кішэню ўнутры торбы.

Ж а б р а к. І што далей?

П р а ў д а р у б а ў. Рабіць нічога іншага, акрамя таго, што робіце зараз, не патрэбна. Паранейшаму прасіце міласціну ў людзей, а я буду час ад часу наведвацца да вас, абменьваць гэту скрынку і шчыра дзякаваць вам рублём.

Ж а б р а к (*задумаўся*). Здагадваюся, добры чалавек, якую работку вы мне прапануеце, пагадзіцца не магу. У мяне не хапае духу.

П р а ў д а р у б а ў. Яна абсалютна не складаная.

Ж а б р а к. Сапраўды, фізічных намаганняў, каб яе выканаць, амаль ніякіх не патрэбна, а вось духоўных – не кожны здолее знайсці… Адказнасць найвялікшая.

П р а ў д а р у б а ў. Глупства, дзядуля, кажаш…

Ж а б р а к. Не скажы, добры чалавек… Гэта найвялікшы грэх. Я ў сваім жыцці зрабіў іх нямала.

П р а ў д а р у б а ў (*усміхаецца*). І як жа ты, цікава, змываеш грахі?

Ж а б р а к. Малюся штодня, прашу ў Бога літасці…

П р а ў д а р у б а ў. Гэтага мала, як мне падаецца.

Ж а б р а к. Надоечы прадаў кватэру, рэчы, якія былі ў мяне. Грошы ахвяраваў манастыру.

П р а ў д а р у б а ў (*здзіўлена*). Нават так!

Ж а б р а к. Іншы раз працую ў дзіцячым доме – прыбіраю тэрыторыю, рамантую мэблю, цацкі. Раблю ўсё добрае на радасць чалавеку.

П р а ў д а р у б а ў. Я таксама, дзядуля, прапаную табе выконваць работу, патрэбную людзям, каб яны спакойна жылі, працавалі, не хваляваліся за лёс сваіх дзяцей, унукаў...

Ж а б р а к. Не зусім так. Ёсць некаторыя недарэчнасці…

П р а ў д а р у б а ў (*здзіўлена*). Якія?..

Ж а б р а к. Справа ў тым, што работа рабоце не роўная. Адна на карысць людзям, іншая – ім на шкоду. Першая – ад Бога, другая – ад сатаны.

П р а ў д а р у б а ў (*здзеклівa*). І як ты, дзядуля, іх адрозніваеш?

Ж а б р а к. Нутром адчуваю… Карысная для чалавека работа бачна з усіх бакоў, ты ведаеш усе дэталі – як, кім і дзе яна выконваецца. Яна праўдзівая, як люстэрка. А шкадлівая, наадварот, заўсёды ў цяньку, прыхавана ад людскога вока.

П р а ў д а р у б а ў. Гэта не праўда. Іншы раз нельга раскрываць метад нейкай работы, каб наўмысна не скарыстаўся ёю злачынец.

Ж а б р а к. Злачынца, малады чалавек, заўсёды хвалюе не метад, з дапамогай якога яго зловяць і адправяць у турму, – яго хвалюе ў першую чаргу жаданне здзейсніць тое, што задумаў. А ўжо на другім плане ў яго схаваць сляды злачынства. Дык вось, калі бачна спалучэнне маральнай задумы чалавека і аб’ектыўнай ісціны ўчынка – гэта і ёсць праўда. Усё астатняе – псеўдапраўда. Распазнаць яе бывае надта цяжка. Патрэбна адукацыя, спецыяльныя тэарэтычныя і практычныя напрацоўкі, немалаважна мець і жыццёвы вопыт. Калі ж гэтага няма ў чалавека па розных прычынах, тады ён становіцца ахвярай псеўдапраўды.

П р а ў д а р у б а ў (*здзіўлена*). Дзядуля, хто вы на самай справе, чым займаецеся?..

Ж а б р а к. Грэшнік я, грэшнік…

П р а ў д а р у б а ў. Грэшнік у душы ці па жыцці?

Ж а б р а к (*хрысціцца*). Жудасна прызнавацца… Я – забойца…

П р а ў д а р у б а ў (*хапаецца за галаву*). Забойца?!

Ж а б р а к. Так. Гэта ісціна. Некалі я радаваўся сустрэчы з кожнай раслінкай, з кожным лісточкам на дрэве, я быў рады птушыным спевам і дзіцячаму смеху, я цешыўся чалавечым словам… Я любіў сябе і тых, хто побач. Але аднойчы пачуццё страху забіла ўва мне любоў. Я стаў забойцам, бо грамадству, а калі быць больш дакладным, палітыкам патрэбен страх, каб разбураць і маніпуляваць людзьмі.

П р а ў д а р у б а ў. Мне страшна!.. Страшна!.. (*Збягае са сцэны*).

Ж а б р а к (*звяртаецца да гледачоў*). Так! Некалі я быў забойцам. Не па сваёй волі, вядома, – з-за падману, прымусу. Страх з'ядаў маю адчужаную, пазбаўленую ўсялякай сілы душу штодня. Ён быў са мной і ўдзень і ўночы. Увесь гэты час я пакутаваў. Былі хвіліны, калі я вельмі ясна разумеў, што маё жыццё пазбаўлена ўсялякага сэнсу. Я не бачыў і не ведаў выйсця з тупіковага становішча…

Але ж праўда, тая адзіная, шчырая, усё ж жыве ў кожным чалавеку. Яна можа доўга ніяк не паказвацца, сцяўшыся ў глухім кутку грэшнай душы. Але аднойчы яна абуджаецца і вымагае ад чалавека ўчынку. Па Божай ласцы мне ўдалося зрабіць такі крок, пачаць служыць людзям, якія апынуліся ў аналагічным становішчы, дапамагчы ім шукаць і распазнаваць праўду пачуццём і розумам.

Спадзяюся, што мне гэта ўдасца. Трэба спяшацца.

*Травень 2011*

Змест



**Віктар Патапенка** нарадзіўся 19. 9. 1955 года ў вёсцы Калодзезкая Касцюковіцкага раёна (пахавана падчас радыяцыйнай забруджанасці). З 1974 па 1976 год служыў у войску. У 1982 годзе скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у рэдакцыях газет "Чырвоная змена", "Трудовой путь", "На страже Октября".

З 1986 па 2003 год служыў у органах унутраных спраў, апошнія тры гады з іх – у Камітэце па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. У 2003 – 2004 гады намеснік галоўнага рэдактара штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Аўтар публіцыстычнага зборніка "Арганізавана супраць арганізаванай", зборніка апавяданняў "Я – оперупаўнаважаны...", беларускага дэтэктыва "Сустрэчная паласа", зборніка ўспамінаў, эсэ, апавяданняў пра паэта Алеся Пісьмянкова "Шлях бярозамі значаны".